# Białoruskie Towarzystwo Historyczne





**Skład:** Adam Pawłowski
**Korekta:** Witalis Łuba
**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Historyczne
**Adres redakcji:** 15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, tel. 85 744 61 11
**E-mail:** ebma@interia.pl
**Strona internetowa:** http://bzh.kamunikat.org
**Nakład:** 500 egz.

Zrealizowano:
- dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji,
- przy pomocy finansowej Prezydenta Miasta Białegostoku






*Na okładce* (I strona): Iwan Łuckiewicz,
(IV strona): Lipawa: most nad kanałem handlowym oraz Plac Różany – centrum Starego Miasta.

# Spis treści

## artykuły

## artykuły recenzyjne

# Contents

## academic papers

**Наталля Сліж**
(Гродна)

## Першыя цэхі ў Гародні і іх рамеснікі ў XVI-XVII стагоддзях

Прасачыць развіццё рамесніцкай структуры горада Вялікага Княства Літоўскага ў перыяд Сярэднявечча і Новага часу дастаткова складана па прычыне адсутнасці вялікай часткі крыніц. У Еўропе рамяство набыло арганізаваную форму дзякуючы цэхам. Свой росквіт яны перажылі ў Сярэднявеччы[1]. У Новы час феадальная сістэма паступова адыходзіць і пачынаюцца капіталістычныя адносіны. Эканоміка ВКЛ развівалася са спазненнем. Таму цэхі ў большасці гарадоў арганізоўваюцца ў XVI-XVII стагоддзях[2]. Гародня не была тут выключэннем. Вільня стала прыкладам для стварэння цэхавай структуры. Эканамічнае развіццё гарадоў і ў прыватнасці рамяства вывучалася ў гістарыяграфіі, але гісторыя рамяства ў Гародні прадстаўлена нешматлікімі даследаваннямі[3]. Гэта сведчыць пра актуальнасць вывучэння дадзенага накірунку.

У артыкуле аналізуецца развіццё рамяства ў дацэхавы перыяд, статут першага цэха 1570 года, статуты мулярскага і гарбарскага цэхаў. Дадаткова прыведзена інфармацыя пра рамеснікаў гэтых цэхаў.

Асноўнымі крыніцамі сталі кнігі гарадзенскага магістрата, замкавага суда, Метрыка ВКЛ. Архівы згаданых гарадзенскіх цэхаў не захаваліся. У іх звычайна захоўваліся статуты, спіс рамеснікаў, фінансавыя дакументы цэха і іншае. Падобныя дакументы даюць магчымасць уявіць колькасць рамеснікаў у розныя гады, іх паходжанне, унутраную структуру цэха. Самі статуты гарадзенскіх цэхаў захаваліся толькі дзякуючы іх актыкацыі ў Метрыку ВКЛ. Пра цэхмайстраў

[1] O. G. Oexle, *Społeczeństwo średniowiecza. Mentalność — grupy społeczne — formy życia*, Toruń 2000, s. 75-122.

[2] Ф. В. Клименко, *Западно-русские цехи*, Киев 1914.

[3] J. Jodkowski, *Cechy grodzieńskie w wiekach dawnych*, Grodno 1926, s. 27-32; Ю. Гардзееў, *Магдэбургская Гародня*, Вроцлаў 2008, с. 279-320; С. П. Стрэнкоўскі, *Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV — XVIII ст.)*, ч. 1, Мінск 2013, с. 423, 446; В. Галубовіч, *Канфірмацыйныя прывілеі гарадзенскім шаўцам Жыгімонта (1605) і Уладзіслава Вазаў (1633)*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні*, пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Гродна 2013, с. 125-132; А. Цітоў, *Гарадзенскія злотнікі ў XVI — пачатку XX ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні*, пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Гродна 2013, с. 108-124.

і некаторых рамеснікаў інфармацыя ў асноўным утрымліваецца ў судовых кнігах.

*Рамяство ў горадзе ў дацэхавы перыяд.* Дзякуючы замкавай кнізе за 1539-1541 гг. можна называць прафесіі, якія існавалі ў той час. Пры чым варта адзначыць пра падзел: адна катэгорыя рамеснікаў абслугоўвала замак і староства, а другая — горад. У судовых выпадках гэта выразна адзначаецца. Пра першых згадваецца як пра гаспадарскіх рамеснікаў. Гарадзенскае староства, як уласнасць вялікага князя, уяўляла сабой складаную гаспадарчую сістэму, якая патрабавала розных спецыялістаў для абслугоўвання замка і патрэб гаспадара. Таму сярод прафесій згадваюцца муляры[4], саладоўнікі[5], рыбаловы[6], страхары[7], мастаўнічыя[8], пушкары[9], садоўнікі[10], конюхі[11], мукавозы[12], кавалі[13], калеснікі[14], свечнікі[15], цагельнікі (плітнікі)[16], дзяхцяры[17], машталеры[18], псарнікі[19], бондары[20]. Іх абавязкі і павіннасці не апісаны ў крыніцах, бо ў асноўным рамеснікі фігуруюць у судовых справах.

У замкавай кнізе прадстаўнікі гарадскога рамесніцтва сустракаюцца, як правіла, у канфліктных сітуацыях. Згадваюцца наступныя прафесіі: кравец, пастрыгач, карчмар, піватар, мёдасыт, залатар, чабатар, рыбалоў, страхар, цырульнік, скрыннік, бондар, катляр, млынар.

Рамеснікі часта фігуравалі ў скаргах. Так, кравец Еска абвінавачваўся ў збіцці на вуліцы татарына Якуба Байшровіча (1540). Пастрыгач Кірэй Мікуліч падаў скаргу на сарочніка Пляшывага — Максіма Двараніновіча з-за невяртання пазыкі (2 капы літоўскіх грошаў, 1540). Павел Залатар абвінавачваў гарадзенскага пратапопа Іова Давідовіча

4 *Акты Виленской Археографической комисии*, т. 17: *Акты Гродненского земского суда*, Вильна 1890, с. 18, 26, 59, 92, 125, 130, 159, 179, 191, 224, 249, 251, 322, 378.
5 Там жа, с. 8, 366.
6 Там жа, с. 11, 106, 114, 298.
7 Там жа, с. 23, 101, 195, 219, 224.
8 Там жа, с. 29.
9 Там жа, с. 40, 78, 120, 144, 158, 195.
10 Там жа, с. 44.
11 Там жа, с. 49, 176, 199, 208, 268, 330, 390.
12 Там жа, с. 88.
13 Там жа, с. 159.
14 Там жа, с. 175.
15 Там жа, с. 188.
16 Там жа, с. 212.
17 Там жа, с. 337.
18 Там жа, с. 339.
19 Там жа, с. 342.
20 Там жа, с. 250, 347.

за нанясенне шкодаў яго двару (1539, 1540). Выклікаў у суд ксёндз касцёла св. Мікалая залатара Андрэя Станіслававіча (1540). Апошні прачакаў яго цэлы дзень у судзе, але той не з'явіўся. Чабатар Трахім Васілевіч судзіўся за шкоды з Цімошам Махнінам, той абавязаўся адпрацаваць (1539). Сам Васілевіч быў вінен мастоўскаму святару Паўлу капу грошаў (1540). На судзе чабатар выплаціў палову, а палову павінен быў аддаць праз два тыдні. Еска, рыбалоў, абвінавачваў Яна Унучку ў збіцці на дарозе (1540). Гарадзенскі страхар Максім Івановіч падаў скаргу на гаспадарскага страхара Паўла Шклебіча за абразу: на Рынку назваў яго злодзеем і сказаў, каб яго „зъ лицомъ вожено" (1540). Павел адмаўляўся ад абвінавачвання, але Максім прадставіў сведак і гатоў быў ставіць шапку. Скрыннік Пётр Міхновіч абвінавачваў гаспадарскага бондара Грыковіча ў пашкоджанні скуры вала, якая згінула з яго воза. Скуру Міхновіч пабачыў у бондара і пазнаў. Грыковіч стаў з ёй уцякаць, закінуў на плот. Скрыннік пралез праз яго і забраў скуру, а бондар падбег да яго і стаў забіраць. У выніку скуру парвалі. Суд прысудзіў бондару выплаціць 12 грошаў за шкоды (1541)[21].

Нягледзячы на адсутнасць цэха ў горадзе ў той перыяд можна было навучыцца рамяству. Мікіта Ваўчковіч вучыўся катлярскай справе ў кацельніка Лукаша. Аб гэтым ёсць згадка ў судовай справе 1539 г., калі яго жонка Агапка патрабавала вярнуць пазыку ў гаспадарскага страхара Радзівона Бушміча[22].

У валочнай памеры 1560-1561 гг. у якасці прозвішчаў фігуруюць прафесіі. У некаторых выпадках род заняткаў напісаны асобна. Яны дазваляюць казаць, што былі наступныя прафесіі сярод мяшчан: пастрыгач, кравец, кушнер, каваль, пілоўнік, рэзнік, мяснік, дойлід, сольнік, мельнік, страхар, хлебнік, чабатар, саладоўнік, садоўнік, рыбак, муляр[23]. Сама валочная памера няпоўная, не згадвае ўсе прафесіі, але дазваляе казаць, што ў горадзе працавалі рамеснікі розных накірункаў. Гэта стварыла ўмовы для арганізацыі цэха.

*Стварэнне першага цэха.* Першы цэх быў арганізаваны толькі ў 1570 г. Гэта быў адзін цэх для ўсіх прафесій, з агульным статутам. Стварэнне цэхаў было абумоўлена наступнымі фактарамі. У горадзе існавала неабходнасць упарадкаваць дзейнасць рамеснікаў. Статуты вызначалі месца, ролю і абавязкі асобы ў залежнасці ад кваліфікацыі,

[21] Там жа, с. 21, 40, 156, 193, 224, 248, 222, 288, 298, 347, 387.
[22] Там жа, с. 23.
[23] *Писцовая книга Гродненской экономии*, ч. 2, Вильна 1882, с. 27-29, 32, 34, 43, 51, 53, 54, 58, 64.

кантралявалі якасць працы, рэгулявалі адносіны ўнутры суполкі, уводзілі манаполію на вырабы ці паслугі. Але стварэнне аднаго цэха для ўсіх рамёстваў сведчыць пра недастатковую колькасць рамеснікаў у кожнай прафесіі для арганізацыі асобнага цэха.

Статут на лацінскай мове для зацвярджэння ў бурмістраўска-радзецкі суд падалі цэхмайстры Міхаіл Багдановіч, Ярмола Шыдлоўскі, Цыпрыян і Сіміён Лемановічы, Станіслаў Скебел, Мікалай Лаўрыновіч, Грыгорый Варыковіч, Мацей Цэгелка, Станіслаў Далгініч у 1570 г. Зацверджаны ён быў Стэфанам Баторыем 2 красавіка 1579 года[24]. Гэты дакумент быў пацверджаны Уладзіславам Вазам 31 мая 1633 г. у Гародні[25].

Згодна з хрысціянскімі традыцыямі ўсе цэхавыя браты былі абавязаны прысутнічаць разам з сем'ямі ў каталіцкім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі на набажэнствах і святах пад спагнаннем у 1 грош. Акрамя таго, павінны былі ставіць свечкі на святы і імшы, прысутнічаць на пахаваннях цэхавага брата ці прадстаўнікоў яго сям'і. За парушэнне пагражала пакаранне ў 1 грош. Падобныя абавязкі мелі браты ў цэхах іншых гарадоў[26].

Усе рамеснікі ў цэху падзяляліся па спецыяльнасцях, кожную ўзначальваў майстар, а кіраўніцтва складалася з цэхмайстраў. За парушэнне гэтага парадку было спагнанне ў 20 грошаў. Адзін майстар быў для кушнераў, ткачоў, краўцоў. У цэх прымалі са згоды рады, даваўся ўнёсак 10 злотых, выстаўляўся куфель братам, а старшыя спраўджвалі паходжанне. Пры парушэнні давалі спагнанне камень лою. Пад пагрозай штрафу ў 1 грош на сход цэха браты павінны былі прыходзіць прыстойна, з павагай, без абразаў, у дом старшага майстра. Сход адбываўся пад кіраўніцтвам старшых. Пры перашкодах у вырашэнні спраў пакаранне выносілі цэхмайстры. Забаронена было прыходзіць на пасяджэнні са зброяй і нецвярозым. Выпадкі збіцця, нанясення ран разглядаліся па магдэбургскім праве ураднікамі магістрата. Цэхавы прывілей і пячатка павінны былі захоўвацца ў старшага майстра ў скрыні. У адной асобы павінна была захоўвацца скрыня, а ў другой — ключ. Практыка выбару двух цэхмайстраў захавалася ў горадзе і далей. Рамеснікі павінны былі мець маёмасць у горадзе. Забаранялася працаваць на святы (Вялікдзень і Святога Духа) і падчас гара-

[24] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), КМФ-18, спр. 62, арк. 75-79 адв.

[25] НГАБ, КМФ-18, спр. 106, арк. 357-358.

[26] Ф. В. Клименко, *Западно-русские цехи*, с. 22-25, 31.

дзенскіх кірмашоў, займацца таемна рамяством у горадзе, прыгарадзе і дамах набілітэту. Каралі таксама за няякасную працу. За нанясенне шкоды вучні ці таварышы павінны заплаціць спагнанне 1 камень воску. Аплата працы павінна быць за тыдзень для таварыша 2 грошы, для вучня — 1. Майстры мелі права браць моладзь на навучанне рамяству. Вучань уносіў у скрыню 2 грошы. Майстар усталёўваў перыяд навучання. Па яго сканчэнні вучань плаціў ¼ каменю воску, а пасля станавіўся таварышам.

Усе майстры і браты былі абвязаны падпарадкоўвацца старшым цэхмайстрам. За супраціў і неабдуманыя дзеянні цэхмайстры і браты мелі права выдаваць парушальніка на суд магістрата, дзе прад'яўлялася абвінавачванне. За бунтарства пагражала спагнанне 1 камень воску.

Першы прывілей рэгуляваў агульныя пытанні па рэлігіі, унутраных адносінах, рамесніцкіх вырабах. Ён не акцэнтаваў увагу на спецыфіцы кожнай прафесіі. Цэх выконваў судовыя функцыі па дробных парушэннях. Сур'ёзныя правапарушэнні перадаваліся на разгляд магістрата. Яўная перавага надавалася вернікам каталіцкага касцёла. Праваслаўная царква не згадвалася. Па сутнасці атрымліваецца, што ўсе рамеснікі, незалежна ад веравызнання павінны былі наведваць і падтрымліваць каталіцкі касцёл. Галоўным гарадскім і рамесніцкім храмам была Фара Вітаўта ці касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Менавіта ён згадваецца ў прывілеі. Першы статут 1570 г. меў важнае значэнне для рамеснікаў многіх спецыяльнасцей. На яго спасылаліся ў судовых справах, яго перазацвярджалі ў прывілеях, бралі за прыклад для стварэння цэхаў.

*Муляры*. Пра гарадзенскіх муляраў вядома яшчэ са скаргі да вялікага князя Аляксандра. Яны працавалі ў Вільні, дзе ім выдавалі харчаванне: ад цівуна — бочка жыта на тыдзень, ад ключніка — бочка піва на тыдзень, а на дзень — насатка кіслага піва, свірэнный даваў рыбу, мяса і соль. Пасля ён перастаў ім выдаваць ежу. У сувязі з гэтым князь загадаў даваць мулярам прадукты, піва і мёд, каб яны працу рабілі добра і больш яго не турбавалі (1494)[27]. Гарадзенскія муляры, страхары і мялоўнікі атрымалі дазвол ад Жыгімонта Старога на трыманне вольнай карчмы ў Гародні без выплаты капшчыны. Службы яны павінны выконваць надалей тыя, што і раней (1516)[28].

[27] НГАБ, КМФ-18, спр. 18, арк. 136-136 адв.; *Акты Литовской Метрики*, собраны Ф. И. Леонтовичем, т. 1, вып. 1: (*1413-1498*), Варшава 1896, с. 58.

[28] *Lietuvos Metrika*, kn. 9 (*1511-1518*): Užrašymų knyga 9, parengė K. Pietkiewicz,

Мулярскі цэх быў арганізаваны ў 1593 г. Рамеснікі гэтай прафесіі адасобіліся ад асноўнага цэха. Сярод ініцыятараў былі старшыя майстры італьянец і муляр Антоні дэ Грыпе, італьянец і муляр Дамінік Дэкан, вапнік Дэмахзон, страхар Балтрамей Дзясятнік, Павел Ганчар, муляр Аляксандр дэ Грыпе, цесля Мікалай Багінскі. Яны прадставілі дакумент для зацвярджэння Жыгімонту Вазе [гл. дадатак 1][29]. Пасля будаўніцтва Старога замка італьянцы засталіся ў горадзе і прычыніліся да заснавання цэха. Антоні дэ Грыпе далучыў свайго сына Аляксандра да прафесіі.

Статут шмат увагі надзяліў арганізацыі цэха, а таксама спецыфіцы мулярскага рамяства. Для навучання патрабаваліся ўнёсак 8 грошаў і пасведчанне аб добрым паходжанні. Адукацыя працягвалася тры гады ў аднаго майстра. Пры ўцёках да другога майстра вучань вяртаўся да першага. Перайсці можна было толькі пры неадпаведным стаўленні майстра да вучня і з дазволу старшых цэха. Пасля сканчэння навучання вучань станавіўся таварышам і павінен быў год адпрацаваць у майстра за заробак, атрымаць пасведчанне і год вандраваць. А калі таварыш не хацеў выпраўляцца ў вандроўку, то быў абавязаны даць 4 злотых у скрынку. Майстар меў права трымаць толькі трох вучняў.

Для прышлых таварышаў, якія жадалі стаць майстрамі, усталёўваліся наступныя правілы. Яны былі абавязаны прадставіць лісты аб паходжанні і аб навучанні, даць унёсак 2 злоты і прыняць месцкае права. А пасля трэба было даказаць валоданне рамяством: намаляваць на паперы крыжовы склеп памерам 24 на 14 локцяў, сказаць колькі трэба вапны і цэглы на склеп і муры вышынёй 10 локцяў і шырынёй локаць. Пасля паспяховага экзамену новы майстар спраўляў вячэру ці замест яе даваў 3 злотых. Калі ў яго планавалася яшчэ вяселле, то дазвалялася ўсё справіць разам. Забаранялася займацца рамяством без уступлення ў цэх. Такая дзейнасць падлягала пакаранню. Майстрам з Кракава, Любліна і Познані не трэба было здаваць іспыт, а толькі прадставіць пасведчанне з цэха і даць унёсак 4 злотых.

Для сваякоў майстра парадак быў іншы. Таварыш, які ажаніўся з удавой ці дачкой майстра, даваў 1 злоты ўнёску. Сыны майстра вызваляліся ад унёску, але павінны былі зрабіць вячэру ці даць замест яе 1,5 злотага. Бяздзетная ўдава пасля смерці мужа магла два гады мець пажытак з таварышаў і давучваць іх, пакуль не пойдзе замуж.

Vilnius 2003, p. 183; М. Любавский, *Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута*, Москва 1892, с. 333.

[29] НГАБ, КМФ-18, спр. 77, арк. 423-426.

Непрыстойныя паводзіны ўдавы не з’яўляліся прычынай пазбаўлення яе матэрыяльных выгод, толькі старшыя маглі праінфармаваць урад. Калі б удава не мела таварыша і не магла сябе забяспечыць, то ёй маглі даць ад іншага майстра.

На сход усе рамеснікі павінны былі збірацца на вызначаную гадзіну ў майстра. Калі б майстар паклікаў людзей, а сам не прыйшоў, то караўся 4 врубамі воску. За адсутнасць на сходзе без прычыны старшыя майстры давалі 1 вруб воску, а малодшыя рамеснікі — палову. Майстар, які трымаў ключы ад скрынкі, не мог з’ехаць з горада нікому не пакінуўшы іх пад пакараннем 4 фунты воску. За адмову прыняць ключы спаганялася 2 фунты воску. На пасяджэнні рамеснікі павінны былі паводзіць сябе прыстойна, прыходзіць цвярозымі пад пакараннем 1 вруб воску. Да ліку забароненых адносілася ўжыванне непрыстойных слоў і замах рукой (палова каменя воску), прыход на пасяджэнне цэха са зброяй (4 врубы воску), зыход без дазволу (2 врубы воску). Несур’ёзныя злачынствы разглядаліся ў цэху, а сур’ёзныя перадаваліся ў магістрат. Але спачатку справа павінна быць прадстаўлена перад майстрамі пад пакараннем 2 врубы воску.

Калі ў аднаго майстра не было таварышаў, то іншыя былі абавязаны падзяліцца пад пакараннем 5 врубаў воску. Пры захворванні майстра іншыя пільнавалі яго таварышаў. Забаронена было пераманьваць таварышаў.

Рамеснікі былі абавязаны хадзіць у касцёл, купляць свечкі (пакаранне фунт воску), прысутнічаць на пахаванні братоў і іх сваякоў (пакаранне 2 врубы воску). Пры пажары рамеснікі павінны былі ратоўваць горад, а радцы за гэта выстаўлялі са скарбу 2 бочкі піва.

Аднак як вынікае з вількера для цэха муляраў, цесляў, ганчароў і бондараў прывілей 1593 г. быў згублены. Гэта прымусіла скласці новы статут. Прыняты ён быў на сумесным пасяджэнні рады і лавы 28 красавіка 1645 г. Зацвердзіў дакумент манарх Ян III у 1679 г. Яму прадставілі дакумент цэхмайстры Міхаіл Календа, Мікалай Калінкевіч, Стэфан Густановіч, Раман Семяновіч. Аднак Аўгусту II на зацвярджэнне ад цэха былі пададзены прывілеі 1579, 1620 і 1633 гг.[30] Як сцвярджаецца ў дакуменце для гарадзенскіх рамеснікаў, як і для полацкіх, прыкладам стаў віленскі статут. Але калі параўнаць статут

[30] J. Jodkowski, *Cechy grodzieńskie w wiekach dawnych*, s. 27-32; А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст. на лацінскай і польскай мовах у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея*, „Герольд Litherland”, 2002, № 3-4 (7-8), с. 114-119.

для віленскіх муляраў і цесляроў 1595 г.[31] са статутам гарадзенскіх рамеснікаў 1645 г., то відавочна, што артыкулы не былі спісаны адзін да аднаго, а былі ўлічаны мясцовыя асаблівасці. У большасці артыкулаў статут 1645 г. нагадваў статут 1593 г.

Статут складаўся з 19 артыкулаў, якія рэгулявалі ўнутраны распарадак у цэху. Усе браты павінны падпарадкоўвацца прывілеям. Абавязаны прысутнічаць з сем'ямі на набажэнствах пры цэхавым алтары (пад пакараннем 1 грош). Пры ім заўсёды павінны быць запалены свечкі. Прывілей для цэха павінен захоўвацца ў аднаго майстра ў скрынцы, а ключы ад яе — у трох (пад пакараннем 1 камень воску). Два старшых майстры абіраліся на год для кіравання цэхам, а пасля рабілі справаздачу. Таварыш з іншага горада абавязаны быў паўгода адпрацаваць у майстра, паказаць пасведчанне аб нараджэнні і навучанні рамяству, выканаць прысягу на мяшчанства ў ратушы, намаляваць будынак 24 на 16 локцяў і расказаць колькі матэрыялу трэба на будаванне. Толькі пасля гэтага таварыш станавіўся майстрам, спраўляў вячэру для братоў, а калі супадала з вяселлем, то ўсё адбывалася разам. Вызваляліся ад гэтага майстры з Вільні, Кракава, Любліна, Познані. Пры неабходнасці браты павінны ратаваць ратушу і горад падчас пажару. Таварыш, які ажаніўся з дачкой майстра ці ўдавой, даваў толькі палову ад сумы ўнёску, а сын майстра не даваў унёсак, толькі выстаўляў братам бочку піва.

Вучань, які жадаў вучыцца рамяству, прадстаўляў паручальных, якія гарантавалі яго добрую службу. Пасля трох год вучоба заканчвалася. Вучань даваў 2,5 злотага, атрымліваў пасведчанне ад майстроў і выпраўляўся ў вандроўку на год. Пры адмове вандраваць даваў тры злотых. Таварыш не мог без дазволу пакінуць майстра. Кожны майстар мог трымаць толькі трох вучняў. На сход браты павінны былі прыходзіць цвярозымі, без зброі, прыстойна паводзіць, без абразаў. Пры перашкодзе аднаго майстра выконваць працу другому выплачвалі камень воску. Кожныя тры месяцы даваўся ўнёсак 6 грошаў. Працаваць майстры маглі толькі ў горадзе.

Усе браты абавязкова прысутнічалі на пахаванні братоў ці сёстраў пад пакараннем 2 фунты воску. Удовы маглі трымаць таварышаў і вучняў для свайго выжывання пакуль замуж не пойдуць. Грошы з цэхавай скрынкі павінны выдаткоўвацца на алтар, удоў і сірот.

[31] *Akty cechów wileńskich 1495-1759*, zebrał i przygotował do druku H. Łowmiański przy współudziale M. Łowmiańskiej i S. Kościałkowskiego, Poznań 2006, s. 109-166, 223-224.

Цэх выдаваў пасведчанне аб кваліфікацыі майстра. Аб гэтым сведчыць ліст цэхмайстраў Яна Саваневіча, Мікалая Тарасевіча, Грыгорыя Раманоўскага, Крыштафа Кішкевіча, які быў выдадзены майстру-муляру Тамашу Персіцкаму ў 1696 г. У ім адзначалася пра яго добрую рэпутацыю як рамесніка і асобы[32]. Пра падобныя лісты згадваецца ў статутах. Яны выдаваліся пасля сканчэння навучання і экзамену. Лісты былі таксама неабходны для прадстаўлення ў цэхі ў іншых гарадах. Хоць такія дакументы выдаваліся часта, але на сённяшні дзень з'яўляюцца рэдкасцю. Рамеснікі маглі змяніць месца жыхарства. Базыль Вайцяховіч, муляр з Гародні, прыняў віленскае мяшчанства ў 1671 годзе[33].

На сённяшні дзень не выяўлена спісаў гарадзенскіх муляраў. Але некаторыя асобы фігуравалі ў судовых кнігах. Найбольш інфармацыі захавалася пра дзейнасць італьянца Антонія дэ Грыпу[34], які быў запрошаны Стэфанам Баторыем для будаўніцтва замка і Фарнага касцёла. У 1580 г. пра яго ў скарбовых кнігах адзначана, што за аднаўленне зруйнаваных будынкаў яму выплацілі 10 злотых[35]. Можна казаць, што прыкладна з гэтага года ўжо вяліся будаўнічыя працы ў горадзе. За сваю працу Антоній атрымаў прывілеі ад Стэфана Баторыя на вольны продаж гарэлкі, мёду, піва без выплаты чопавага (1582), на будынак для цагельні недалёка ад Каложскай царквы, на рацэ Нёман (1584)[36]. Дадаткова былі дадзены Стэфанам Баторыем 4 пустыя валокі ў сяле Шчачынова ў Гарадзенскім старостве, сад у горадзе насупраць

[32] А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст. на лацінскай і польскай мовах у фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея*, с. 118.

[33] E. Łopaciński, *Materiały do dziejów rzemiosła artystycznego w Wielkim Księstwie Litewskim XV–XIX w.*, Warszawa 1946, s. 36.

[34] J. Paszenda, *Kościół pojezuicki (farny) w Grodnie*, [у:] *Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce Baroku*, red. J. Kowalczyk, Warszawa 1995, s. 191-193; Е. Д. Квитницкая, *Приходской костел в Гродно*, [у:] *Сборник научных трудов № 4: Проблемы истории архитектуры народов СССР*, Москва 1977, с. 33; А. Шаланда, *Род антонія дэ Кгрыпа, муляра замка гарадзенскага, у канцы XVI — першай палове XVII ст.*, [у:] *Castrum, urbis et bellum: Зборнік навуковых прац*, Баранавічы 2002, с. 406; Ю. Гардзееў, *Магдэбургская Гародня*, с. 81.

[35] „Antoni de Greto muratori Grodnam propter reparationem aedificiorum, quae riunam magnam patiuntur, misso dati f. 10". *Źródła dziejowe*, t. IX: *Księgi podskarbińskie z czasów Stefana Batorego*, wydał A. Pawiński, cz. 2, Warszawa 1881, s. 19.

[36] *Метрыка Вялікага княства Літоўскага*, кніга 70 (*1582-1585*), Мінск 2008, с. 230-231, 236.

[37] НГАБ. КМФ-18, спр. 73, арк. 219 адв.-220. З-за каралеўскага саду была судовая справа паміж Антоніем і Каложскім манастыром. А. Шаланда, *Род антонія дэ Кгрыпа*, с. 402-412; Ю. Гардзееў, *Магдэбургская Гародня*, с. 404-408.

замка за будаванне замка і выраб цэглы і вапны для касцёла (1586)[37]. Антонія вызвалілі ад выплаты за абмалот соладу і збожжа на гаспадарскіх млынах (1588)[38]. Жыгімонт Ваза за заслугі перад Баторыем, паважаючы сталы ўзрост майстра, пацвердзіў штогадовае наданне ад Баторыя 200 злотых, 30 бочак жыта, 30 бочак аўса, а таксама далі месца для капання вапны для замка і касцёла, 4 валокі, якія раней трымаў нябожчык муляр Юзаф (1593)[39].

25 жніўня 1604 г. пасля смерці дэ Грыпы яго жонка Барбара Зарубянка атрымала ад Жыгімонта Вазы дакумент з правам на пажыццёвае карыстанне 4 валокамі ў сяле Шчачынова і двума агародамі ў Гародні[40]. Год раней, 1603 г., быў выдадзены ліст сыну Аляксандру дэ Грыпу і яго жонцы Ядвізе Міхорэўшчанцы на 4 валокі ў сяле Шчачынова пасля смерці бацькі[41]. Аляксандр не пакінуў спадчыннікаў, бо па кадуковаму праву дом каля замка, які застаўся пасля муляра Антонія дэ Грыпе, перайшоў Андрэю Урублеўскаму, адзвернаму ЯКМ, у 1635 г. На доме была пазыка гарадзенскаму жыду Ізраэлю Яхімовічу — 100 коп літоўскіх грошаў, якую адзверны выплаціў. Правы на дом былі пацверджаны ў 1639 г.[42] Аднак Урублеўскі прэтэндаваў і на іншую маёмасць муляра. Ён судзіўся з Каложскім манастыром з-за сада ў 1637, 1638, 1644 гадах[43]. У Антонія яшчэ была дачка Рэгіна. Яна выйшла замуж за лентвойта Астафея Кудаеўскага. Разам яны аддалі ў заставу фальварак Счэрпейкі (Сцярпейкі) у Гарадзенскім павеце Канстантыю Турчыновічу і Ганне Лапянцы за 300 коп літоўскіх грошаў. Маёмасць перайшла іх зяцю Станіславу Табенскаму. Ён і вярнуў грошы (1617)[44].

У лісце куплі-продажу 1631 г. муляр Ян Пятровіч згадваецца як нябожчык, які меў дом на вул. Віленскай[45]. У дакуменце за 1642 г. фігураваў муляр Андрэй Вайцяховіч як уласнік дома на вул. Рылаўскай за Нёманам на Зарэччы[46]. Крыніцы згадваюць муляра Дугу (1600), цэхмайстроў Фёдара Хацкевіча (1659) і Пятра Хацкевіча (1666)[47].

[38] Даніна была ўведзена С. Беляўскім для гарадзенскіх мяшчан і жыдоў. НГАБ, КМФ-18, спр. 73, арк. 388 адв.-389.

[39] НГАБ, КМФ-18, спр. 77, арк. 431, 433.

[40] Lietuvos valstybės istorijos archyve, f. 1292, ap. 1, b. 116, l. 14v.

[41] НГАБ, КМФ-18, спр. 86, арк. 376 адв., 377-377 адв.

[42] НГАБ, КМФ-18, спр. 113, арк. 432 адв.

[43] *Археографический сборник документов относящихся к истории Северо-западной Руси*, т. 9, Вильна 1870, с. 439; А. Шаланда, *Род антонія дэ Кгрыпа*, с. 407-408.

[44] НГАБ, ф. 1755, воп. 1, спр. 25, арк. 211-211 адв.

[45] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 99 адв.-100.

[46] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 231-232 адв.

[47] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 16 адв., 37, 123.

Муляры былі адзначаны ў розных судовых дакументах. Скаргі падалі муляр Мікалай Мароз на Лявона Зыскевіча за збіццё (1662), муляр Адам Славікоўскі на Ядвігу Старынску і яе сыноў Барталамея і Казіміра Старынскіх за абразу, напад на дом і пашкоджанне вокнаў (1668). Былі выпадкі абвінавачванняў муляраў. Станіслаў Габрыэль Гаўрына і яго жонка Зузанна Рознаўна ініцыявалі справу супраць муляра Гануса Конрата, які незвяртаючы ўвагі на ўзрост скаржніка, у кляштары св. Францыска ў Гародні абразіў яго і жонку, ударыў так, што губа распухла (1667). Слуга і даглядчык камяніцы на вул. Маставая ў Гародні, якая належала Андрэю Катовічу, пісару ВКЛ, Вінцэнт Ян Гезыч падаў скаргу ад імя гаспадара на Пятра Мікалаевіча за напад на дом разам з братам, пісарам і мулярам Казімірам і грамадой (1670). Муляр Фёдар Уклейка згадваўся як сведка ў справе Дзямяновай, абвінавачанай за чарадзейства (1676)[48]. Муляр Пётр Острынец згадваецца ў справе сына Мікалая ў сувязі з яго нападам з памочнікамі на Міхаіла Пішчынскага і Казіміра Вайцяховіча, слуг пана Казіміра Ілліча, таварыша панцырнай харугвы стольніка ВКЛ (1689)[49].

Цэхмайстар муляраў Войцех Скаўронскі меў пляц на вул. Азёрскай. Разам з жонкай Канстанцыяй Грызоўчанкай ён прадаў маёмасць Станіславу Адоўскаму (1691). Ён жа згадваецца ў наступнай справе. Гарадзенскія шляхцічы Казімір Зялінскі і жонка Ева Мацкевічоўна патрабавалі праз суд права на валоданне паловы пляца ад цэхмайстра муляраў Станіслава Садоўскага. Ён атрымаў задатак, але да канца справу не захацеў даводзіць. Пляцам яшчэ валодалі сын Францішак і сваякі Войцех Скаўронскі з жонкай Канстанцыяй, якая была сваячкай Садоўскага. Суд прысудзіў частку С. Садоўскага Зялінскаму (1691). У хуткім часе была пададзена скарга Скаўронскім на Зялінскага аб гвалтоўным рабаванні часткі пляца, якая належала яму і Францішку Садоўскаму[50].

Рамеснікі канфліктавалі за пераманьванне вучняў. Пётр Вегнер, шавецкі майстар, і яго жонка Крысціна Сценкевічаўна падалі пратэстацыю на муляра Якуба Магістра і на яго жонку Кацярыну за абразу, збіццё, пагрозы. Да дакумента далучылі рэляцыю лаўнікаў. Было праведзена следства Пятром Сулеўскім. Па Саксонскаму люстру патрабавалі заплаціць за збіццё 30 злотых, за цырульніка — 30.

48 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 22 адв., 178, 219, 220-220 адв., 413-414; Н. Сліж, *Злачынствы і злачынцы ў Гародні ў XVII ст.*, „Arche. Гарадзенскі міленіум”, 2014, № 11, с. 167.

49 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 22 адв.

50 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 82 адв.-85 адв., 100 адв., 114-114 адв.

Ад муляра ў якасці ўмацаванага выступіў Януш Конча, які сцвярджаў, што рэакцыя Якуба была звязана з пераманьваннем Вегнерам вучня слесарскага рамяства. Гэта дзейнасць не адпавядала шавецкаму занятку. Вучань на той час знаходзіўся ў Вегнера і рабіў слесарскія працы. Акрамя таго, Якуб быў збіты на Рынку, аб чым была рэляцыя лаўнікаў (1692)[51]. Прысуду па дадзенай справе не выяўлена. Але заўважым, што пераманьванне вучня было забаронена статутамі цэхаў.

Так як да муляраў яшчэ належалі цесляры, ганчары і бондары, то таксама згадаем выяўленых у дакументах рамеснікаў. Францішак Белькоўскі быў цэхмайстрам цесляроў, а Еліяш Стэфановіч — бондараў (1659)[52].

Радзецкі пісар Тамаш Адамовіч падаў скаргу на бондара Лаўрына Івановіча за напад на дом (1665)[53]. Згадваецца Мікалай Даўшэня, цэхмайстар бондараў (1666)[54]. Ганчар Сямён Стэфановіч і жонка Марына Талочкаўна мелі пусты пляц на вул. Чэснахрысцінскай. Яны прадалі яго за 120 злотых (1674)[55]. Жыдоўка, жонка Якуба, была збіта таварышам ганчара Якуба Медушэўскага (1671)[56]. Стэфан Хустановіч, цэхмайстар ганчароў, абвінавачваў Юрыя Зоркевіча ў збіцці жонкі Зафеі каменем. А Тамаш Карніцкі, гарадзенскі земянін, падаў скаргу супраць С. Хустановіча. Ён ехаў на Галоўны Трыбунал у Вільню, стаў на адпачынак у яго доме, пакінуў каня і каляску з рэчамі і дакументамі. Калі адышоў ад дома, то ўсё скралі (1691)[57].

У Гародні было пабудавана шмат храмаў. Але не ў кожным выпадку мы маем інфармацыю пра рамеснікаў, якія былі задзейнічаны ў будаўніцтве і ўнутранай аздобе. Так захаваліся звесткі пра майстроў, якія працавалі ў брыгіцкім касцёле. У 1642 г. Аляксандра Весялоўская заключыла кантракт з Гансам Вагнерам, цесляром з Вільні. Павінен быў збудаваць вежы на касцёле вышынёй 20 локцяў. За працу прызначалася 180 злотых. У гэтым жа годзе была скончана падлога Антоніем Масенрам з Вільні, мулярам ЯКМ. Гарадзенскі мешчанін і сталяр Георг Зэхль у перыяд 1646-1649 гг. зрабіў для касцёла вялікі алтар, бочныя алтары св. Ганны і св. Брыгіты, вялікія дубовыя падвоеныя дзверы, бакавыя дзверы, дзверы ў кляштар, дубовыя лаўкі з балясамі

[51] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 129-130.
[52] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 16 адв.-17.
[53] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 83, 277 адв.-278.
[54] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 123-123 адв.
[55] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 275 адв.-276 адв.
[56] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 258.
[57] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 103, 104 адв.

ў прэзбітэрыум як у капліцы св. Казіміра ў Вільні, дзве спавядальні (для манашак і агульная), дубовыя лаўкі для вернікаў, два чорныя з пазалотай хары, амбон з дрэва грушы з фігуркамі. Увесь кантракт каштаваў 4200 злотых. Уся праца праводзілася па малюнках. У 1647 г. у Гародні быў пажар, які нанёс вялікія страты Зэхлю, таму яму выдалі 600 злотых. Ён быў жанаты з Малгарытай. У 1647 г. Якуб з Тыкоціна павінен быў памаляваць, адпаліраваць і пазалаціць алтар за 150 злотых, піва, сыр, масла і 2 бочкі жыта гарадзенскай меры. У гэтым жа годзе цясляр Мельхер Шміт зрабіў у касцельным скляпенні вязанку з бэлек, за што атрымаў 100 злотых, 15 сыроў і кварту піва. А харам у гэты час займаўся майстар Андрэй. Гарадзенскі разьбяр Ганс Хілбрант выканаў краты для хору па малюнку ксені (1647). За працу атрымаў 800 злотых, фаску масла, 30 сыроў, бочку піва, 30 локцяў палатна. У 1649 г. быў заключаны кантракт з гданьскімі разьбярамі Конрадам Вальтэрам і Петэрам Хапнерам на выкананне надгробка сужэнцаў Весялоўскіх і іх дачкі Грызельды на суму 5000 злотых[58].

Як вынікае з прыведзенай інфармацыі ў будаўнічых працах удзельнічалі мясцовыя і замежныя майстры. Гэта азначала, што іх кваліфікацыя была вышэйшай за кваліфікацыю мясцовых або такіх майстроў не было ў горадзе. Прышлыя рамеснікі адыгралі важную ролю ў развіцці прафесіі. Мулярскі цэх меў важнае значэнне для горада. Будаўнічыя працы вяліся ўвесь час. Таму спецыялісты ў гэтай галіне былі запатрабаваны

*Гарбары.* Гарбары склалі статут у 1593 г., у той жа год як і муляры. Ён быў прыняты на пасяджэнні бурмістраўска-радзецкага суда і актыкаваны ў Метрыку ВКЛ 24 жніўня 1594 г. У магістрат дакумент падалі старшыя цэхмайстры Георгій Хведаровіч, Пётр Шчэпановіч, Грыгоры Стапковіч, Аніско Хавалейковіч, Клемент Клімушковіч, Ігнацій Аўскевіч, Міхаіл Ідарэвіч[59].

Статут гарбароў шмат у чым быў сугучны са статутам 1570 г. Паводле дакумента ўсе браты былі абавязаны кожную пятніцу прысутнічаць на каталіцкіх набажэнствах, а не праваслаўных, а таксама да-

[58] Інфармацыя пра рамеснікаў прыводзіцца аўтарам на падставе кантрактаў, якія захоўваліся ў архіве брыгітак. W. Tołłoczko, *Brygidki grodzieńskie (Studyum historyczno-kulturalne)*, „Dwutygodnik Dyecezjalny Wileński", 1914, nr 18-19, s. 281-283; M. Kałamajska-Saeed, *Kościół brygidek w Grodnie*, [y:] *Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w.*, Lublin 2000, s. 350-351; тая ж, *Kościół p.w. Zwiatowania Najświętszej Marii Panny i dawny klasztor brygidek,* [y:] *Kościoły i klasztory Grodna*, t. 1, oprac. M. Kałamajska-Saeed, D. Piramidowicz, Kraków 2012, s. 93-94.

[59] НГАБ, КМФ-18, спр. 77, арк. 511-514 адв.

ваць ахвяру на алтар. Выкананне пільнавалі старшыя цэхмайстры, пакаранне пагражала фунт воску. Усе былі абавязаны даваць мёд на парафіяльны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама воск, а на праваслаўны храм — воск на свечкі, пад пакараннем 1 грош літоўскі. Акрамя таго, усе павінны былі прысутнічаць на пахаваннях, святкаваць Вялікдзень, Святога Духа, Нараджэнне Панны Марыі, Раство. Два старшыя майстры свечкі ў каталіцкім ці праваслаўным храме павінны ставіць у нядзелю і святы, а пры занядбанні абавязку плацяць 1 грош.

Сходы павінны адбывацца ў дамах цэхмайстраў, дзе ўсе абавязаны прысутнічаць. Канфлікты ў цэху вырашаліся праз трэціх асоб, а пры неабходнасці маглі разглядацца ўраднікамі магістрата, за што выплачвалася 2 грошы літоўскія. Бунтаўнікі караліся спачатку штрафам у 2 грошы, пры паўторным парушэнні плацілі войту і радцам 60 грошаў, кантрыбуцыі 60 грошаў, а на трэці раз — войту і радцам 25 грошаў літоўскіх і кантрыбуцыі 75 грошаў. На два гады выбіраліся старшыя майстры, якія падпарадкоўваліся гарадской юрысдыкцыі. Забаранялася п’яным прыходзіць на сходы пад пакараннем талент воску (26 кг), а таксама ўсчынаць сваркі паміж братамі на сходах, крымінальныя выпадкі. Усё гэта разглядалася старшымі цэхмайстрамі, якія вызначалі пакаранне, а экстра выпадкі разглядаў войт. Асобна адзначалася, што браты цэха і цэхмайстры падпарадкоўваліся магістрату, а не гродскаму суду, а браты — цэхмайстрам.

Старшыя праводзілі навучанне рамяству. Малодшыя рамеснікі павінны былі правучыцца пяць год, пасля таго толькі займацца рамяством. Пасля вучань прадстаўляў працу перад усімі братамі, даваў у якасці падзякі 10 грошаў літоўскіх, а таксама 10 грошаў у скарб. На працягу года ён адпрацоўваў у майстра. Затым, калі праца была здавальняючай, завяршаў вучобу, перад магістратам прымаў мяшчанства, за допуск да рамяства плаціў 6 літоўскіх грошаў, а таксама майстру 2 грошы.

Ніхто не меў права самастойна займацца рамяством у прыгарадзе пад пакараннем 6 грошаў. Любы прышлы павінен быў паказаць сваё паходжанне, а таксама валоданне рамяством. Новы рамеснік прадстаўляўся перад ураднікамі магістрата спачатку перад войтам, пасля радцамі, у прысутнасці майстроў выконваў прысягу. На ўпамінкі прызначалася радцам 20 грошаў літоўскіх, выплаты з зямлі 30 грошаў літоўскіх, у скрынку 10 польскіх злотых, таксама рабілася вячэра для ўсіх братоў. Той хто атрымліваў майстра таксама перад магістратам прысягу рабіў, даваў там 10 грошаў літоўскіх, у скарб 30 грошаў літоўскіх, рабіў вячэру для ўсіх.

Асноўным месцам пражывання гарбароў быў Падол, бо для вытворчасці трэба была вада. Гэта яскрава прадстаўлена на гравюры Адэльгаўзера-Цюндта 1566-1567 гг. Пераапрацаваныя скуры вазілі на продаж у Прусію[60].

Аб пражыванні на Падоле гарбароў сведчыць лісты продажу. Якуб Харцэмовіч, гарбар, і яго жонка Барбара Іванаўна прадалі за 5 коп літоўскіх грошаў палову айчыстага пустога пляца на Падоле гарбару Даніле Паўловічу і яго жонцы Альжбеце Паўловічаўне (1664). У продажы Макара Шчэрбачэні, падданага брыгітак з Кахановічаў, і яго пляменніка Яскі Шчэрбачэні адзначалася, што іх пляц на Падоле межаваў з аднаго боку з пляцам гарбара Данілы Алдосеняці (1668)[61].

Тастамент гарбарскага цэхмайстра Адама Мігоўца згадвае месца пахавання — царкву Чэснага Крыжа, якая знаходзілася на Падоле (1642). Акрамя таго ён вызначыў занятак дзяцей. Калі малодшага Радзюка аддаў у краўцы, то старэйшаму Івану перадавалася рамяство бацькі, але ў выпадку, калі ён сам захоча ім займацца. У якасці спадчыны дзеці атрымалі яшчэ 50 скур[62]. Некаторыя цэхмайстры згадваюцца ў дакументах: Якуб Адамовіч (1659), Міхаіл Лаўрыновіч (1665), Валенты Янкевіч (1666)[63].

Гарбары фігуравалі ў канфліктах. Лаўнік Лявон Ласкевіч абвінавачваў Данілу Паўловіча, цэхмайстра гарбарскага цэха, у перашкодзе следства ў доме Якуба (1670). А ў сваю чаргу Д. Паўловіч падаў скаргу на гарбара Якуба Даніловіча і яго жонку, што ён яго абразіў, збіў, рваў за бараду (1671). Гарбарка, удава па Якубу Арцёмы, сцвярджала, што яе муж памёр з-за праклёнаў суседа Данілы Паўловіча, гарбара. Былі прыведзены яго выказванні: „ia spiekę tobie iaie ze nie moze(s)z będziesz ziesc”, „iz będziesz się wieszał ku gorze nogoma y rękema”, „w Woronianke nie doczekasz się cieszyc z tego placu” (1672)[64]. Ян Каўбасіняк падаў скаргу супраць гарбарскага цэхмайстра Максіма Галубка і яго памочнікаў з абвінавачваннем у збіцці. Суд прысудзіў папрасіць прабачэнне публічна і заплаціць 5 злотых (1690). Каспер Секуненя, цэхмайстар

[60] Н. Сліж, *Арганізацыя гандлю ў Горадні ў XVI — першай палове XVII стагоддзя*, [у:] *Гісторыя гандлю ў Беларусі (ад старажытнага часу да канца XX ст.): праблемы вывучэння і перспектывы даследавання. Матэрыялы I Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 14-16 лістапада 2013 г.)*, Мінск 2014, с. 130-149.

[61] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 87 адв.-88, 168 адв.-169 адв.

[62] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 218-218 адв.

[63] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 16 адв.-17, 111 адв., 123-123 адв.

[64] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 212 адв, 272, 304; Н. Сліж, *Злачынства і злачынцы ў Гародні ў XVII ст.*, с. 161.

гарбароў, падаў скаргу на Яна Шостакевіча шавецкага цэхмайстра, за публічную абразу (1692)[65].

Пражыванне на Падоле і наяўнасць там царквы паўплывала на веравызнанне гарбарскага цэха. Спачатку ён прытрымліваўся праваслаўя, а пасля ўніяцтва. Але не адзін цэх не пільнаваў так свой храм, як гарбарскі. Гэта бачна ў наступных справах. Гарбарскія цэхмайстры Кондраш Мацеевіч, Панас Андрэевіч, Грышка Дарамеевіч падалі скаргу супраць старога цэхмайстра Сымона Юркевіча па прычыне забрання ім царкоўных рэчаў. Перад маскоўскай акупацыяй Гародні рэчы былі закопаны, а ён пасля перахаваў у іншым месцы. Акрамя таго згінулі каралеўскія прывілеі кравецкага цэха, сярэбраная кадзільніца (важыла 16 грыўнаў), пазалочаны сярэбраны келіх (важыў 4 грыўны), харугва з зялёнай кітайкі, сярэбраная зорка і патэна да келіха, цынкавы цабэрак, сярэбраная лыжка да келіха, латунны кацялок. На той час Юркевіч быў ужо ў вязніцы, адкуль і быў дастаўлены на суд. Ён прасіў у якасці адваката лаўніка Матыяша Масніцкага, а таксама аб даследаванні справы, бо акрамя яго цэхмайстар Панас Содзін быў вінаваты ў страце рэчаў і прывілеяў. Праз некалькі дзён адбылося наступнае пасяджэнне. Пералічаныя рэчы знайшлі ў Юркевіча. Ён быў аддадзены на катаванне. Юркевіч адмаўляўся ад крадзяжу і прасіў выклікаць П. Содзіна. Старшых цэха Валентыя Янкевіча і Фёдара Янчыча абавязалі выканаць прысягу, што Юркевіч узяў рэчы. П. Содзіна не маглі знайсці, загадалі расшукаць і адправіць на катаванне. Юркевіч заставаўся пад вартай цэха (1661). Ён знік з вязніцы, а ў 1666 г. быў злоўлены. Справу працягнулі. Юркевіч казаў, што адбіўшы слабы замок са скрынкі, узяў толькі грошы, а сярэбраныя рэчы не браў. Пасля першай акупацыі ён знайшоў пустую скрыню на сваім двары, у якой было закапана царкоўнае серабро. Не ведаў, хто забраў рэчы. А другую скрыню, якую знайшлі браты цэха, перакапаў. Пасля допыту быў на катаванні. Распытвалі лаўнікі Лявон Ласкевіч і Сымон Шаматула Сапінскі. Калі запыталі для чаго перакапаў, то адказаў, што баяўся братоў цэха. Ніхто не ведаў, што перакапаў, а таксама ніхто не намаўляў. Содзін цікавіўся месцам схавання, што прымусіла перахаваць рэчы. Юркевіч прызнаўся толькі ў крадзяжу грошай. Істцы не захацелі далей весці справу, даравалі грошы і прасілі выгнаць з горада і з цэха. Суд прызнаў патрабаванні істцоў слушнымі[66].

[65] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 55, 133 адв.

[66] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 49 адв.-51, 127 адв.-128; P. Borowik, *Funkcjonowanie samorządu miejskiego w Grodnie podczas „potopu moskiewskiego” (1655–1661) oraz kilka uwag o zniszczeniu miasta przez Moskali*, [у:] *Гарадзенскі*

У гэтым канфлікце выразна бачна роля цэха ў пакаранні злачынцы, а таксама выкананне палажэнняў статута. Менавіта дзякуючы пазіцыі братоў было выяўлена злачынства і пакараны Юркевіч. Таксама важны момант, што падобныя паводзіны былі непрымальныя для рамеснікаў і яны не хацелі мець у сваім асяроддзі злачынцу.

Другая справа датычылася канфлікту з мітрапалітам Цыпрыянам Жахоўскім. Пасля вайны 1654-1667 гг. царква Чэснага Крыжа была зруйнавана. Рамеснікі збіраліся яе адбудаваць. Акрамя таго, побач знаходзіліся могілкі брацтва. Аднак Жахоўскі вырашыў падарыць гэтыя тэрыторыі кармелітам, аб чым ён праінфармаваў правінцыяла кармелітаў, прыёра Юзафа Тышкевіча і гарадзенскага пратапопа (1675). Гэта выклікала пратэст гарбароў. Грыгорый Дарамеровіч, старшы радца Якуб Адамовіч публічна прызналі, што Захарый і яго бацька лаўнік Лявон Ласкевічы падалі скаргу да апостальскага нунцыя з Варшавы адносна фундацыі карmeліцкага касцёла ў горадзе на месцы грэчаскай царквы (1675). Але ў выніку тэрыторыя былой уніяцкай царквы перайшла кармелітам[67].

Гарбарскі цэх быў арганізаваны прыкладна так жа як і іншыя цэхі ў горадзе. Выяўлены толькі адзін яго статут, які захаваў сваё дзеянне на доўгі перыяд. Архіў цэха быў знішчаны падчас вайны 1654-1667 гг., таму інфармацыя пра яго рамеснікаў аднаўлялася па іншых крыніцах.

*Высновы*. Статуты гарадзенскіх цэхаў, як правіла, спачатку актыкоўваліся ў бурмістраўска-радзецкім судзе, а пасля ў Метрыку ВКЛ. Гэта практыка была ў іншых гарадах[68]. У некаторых выпадках майстры маглі са сваім статутам адразу звярнуцца да гаспадара. Актыкацыя ў магістрат і канцылярыю ВКЛ надавала законнасць дакументу. На такі дакумент пасля спасылаліся ў судовых справах ці скаргах.

Па сваім змесце статуты гарадзенскіх цэхаў былі падобныя на статуты іншых гарадоў ВКЛ[69]. Яны рэгулявалі ўнутраны парадак, выз-

*палімпсест XII—XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гародня, 7 лістапада 2008 г.)*, пад рэд. А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Гародня — Беласток 2008, с. 39; Н. Сліж, *Злачынства і злачынцы ў Гародні ў XVII ст*., с. 154-155.

[67] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 398; ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 286-286 адв.; P. Borowik, *Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku. Stanowy podział nieruchomości*, Supraśl 2005, s. 182; Г. Паўлоўская, *„Ktorzybe lepiey skur wyprawać patrzyli” — міжканфесійны канфлікт у межах адной царквы?*, „Герольд Litherland”, 2011, № 18, с. 94-100.

[68] Ф. В. Клименко, *Западно-русские цехи*, с. 36.

[69] Там жа, с. 40, 46-50, 55-61; З. Ю. Копысский, *Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.*, Минск 1975,

началі структуру цэха. Важную ролю адыгрываў сход. На ім абіраліся цэхмайстры на год, вырашаліся штодзённыя пытанні, разбіраліся дробныя парушэнні, надавалі новы статус вучням і таварышам. Цэхмайстры трымалі скрынку, пільнавалі парадак у цэху, збіралі падаткі, захоўвалі дакументы. Некаторыя асаблівасці ў статутах мелі прафесійны характар. Першы статут 1570 г. быў для ўсіх рамёстваў, таму ў ім апісваліся патрабаванні да працы рамесніка. Але ў статуце для муляроў вызначаліся крытэрыі для іспыту. У 1593 г. ужо было актуальна для гарбароў і муляраў арганізаваць асобны цэх. Гэта азначала, што ў дадзенай прафесіі з'явілася дастатковая колькасць рамеснікаў.

У дакументах прадстаўлена розніца паміж цэхмайстрамі, майстрамі, таварышамі і вучнямі, а таксама якім чынам можна змяніць свой статус у цэху (правучыцца пэўны перыяд, паказаць працу, заплаціць унёсак, пачаставаць братоў). Сямейнасць мела значэнне пры перадачы рамяства ад бацькі да сына, пры шлюбе і ўдаўстве. Увогуле рамяство і кіраванне ў цэху было справай мужчынскай. Жанчыны не сустракаюцца ў якасці заснавальніц. Статуты агаворваюць толькі статус удавы, а таксама згадваюць пра дачок майстра. Але самастойнасці яны не мелі як і ў іншых гарадах[70]. Таксама ў абавязак рамеснікаў уводзілася наведваць службы ў храмах, даваць грошы на свечкі, прысутнічаць на пахаваннях братоў.

Аднак без архіваў цэхаў нельга дэталёва прааналізаваць як статуты працавалі на практыцы. Асобныя дакументы сведчаць пра наяўнасць рамеснікаў згаданых прафесій, канфліктах у цэхах і іншае. Але звесткі носяць фрагментарны характар і не даюць прасачыць усе тэндэнцыі праз два стагоддзі.

## Дадатак 1. Статут мулярскага цэха 1593 года

Дакумент захоўваецца ў складзе Метрыкі ВКЛ, напісаны на старабеларускай мове. НГАБ, КМФ-18, спр. 77.

[423]

Привиле*й* ремеснико*м* старши*м* в месте Городенско*м* мешкаючимъ Жигимонт Трети*й* м(и)л(о)*с*тью коро*л* польски*й*, велики*й* кнѦ*з*

с. 144-155; ён жа, *Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.*, Минск 1966, с. 93-119; С. П. Стрэнкоўскі, *Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV – XVIII ст.),* ч. 1, с. 414-454.

70 Ф. В. Клименко, *Западно-русские цехи*, с. 112-113.

литовский, русский, прусский, жомо*й*тъский, мазовецкий, инфлѦнтъски*й*, а шведски*й*, кго*т*ский*,* вандал*с*и*й*, дедичны*й* коро*ль*

Чинимъ ѨвНО симъ нашимъ листомъ привильемъ всимъ вобецъ и кожномү зособна кому бы то ведати нележало нинешнимъ и на потомъ бүдүчого векү людемъ. Ѡказывали передъ нами г(о)*с*(по)д(а)ремъ мещане и подъданые н(а)ши места Городеньского мистрове ста*р*шие ремесла своего Антони*й* Дикребъ, Доминикъ Деканъ в томъ влохи мүлѦры, такү съ Дэмахзонъ вапникъ, Ба*л*тромe*й* ДесѨтникъ стриха*р,* Паве*л* Гонча*р*, Алекса*н*де*р* Дикре*б* каменъникъ, Микола*й* Бакгински*й* теслѦ. И покладали певные а*р*тыкулы ниже*й* Ѡписаные томү ремеслү альбо брацътву до үжываньѦ звычаю и порадъкү ихъ на ка*р*те выкшталътованые. И били намъ г(о)*с*(по)д(а)рү чоломъ абы есмо на тые а*р*тыкүлы до үжываньѨ ихъ позволили, и вольность таковүю цеховүю надали и стве*р*дили. А такъ мы г(о)*с*(по)д(а)ръ бачечи быть чоломъбитье и*х* слушное в томъ месте н(а)шомъ Городеньскомъ це*х* тыхъ ремесниковъ выше*й* помененыхъ үстановлѦемъ и местү Городеньскомү нададемъ. Ѩкож то и симъ привильемъ н(а)шимъ во всихъ а*р*тыкулахъ по достатку ту*т* ниже*й* Ѡписаныхъ стве*р*жаемъ на вси потомные ч(а)сы. Напе*р*ве*й* хто бы се ко*л*векъ того ремесла которое жъ кольвекъ штүки наүчыть и вытвичы*т* хотелъ, тотъ маетъ пе*р*ве*й* үказати листъ Ѡ*т* үроженьѨ своего үчтивего. Потомъ встүпного до посполитое скринъки цехове*й* гроше*й* Ѡсмъ маеть дати. Ѡ то*ж* ремесла чере*з* три годы спо*л*на үчытисе маеть рүкомъство на то павши по собе

[423 адв.]

ижъ чере*з* тые три годы помененые вүченью ремесла мети досыть үчинити. А естли бы Ѡтъ своего мистра не перетрвавши чере*з* три годы Ѡ*т* наүки своее үтеклъ и ү дрүгого мистра хоте*л* бы се үчыть и бы*л* бы та*м*, тогды его тотъ мистръ будетъ повиненъ Ѡтослати до пе*р*шего мистра, у которого се бы*л* почалъ үчыть. Што если бы поведалъ тотъ үчень ижъ ме*л* Ѩкое бе*з*праве Ѡ*т* Ѡнего мистра, тогды үзнавши то ста*р*шие мистрове того цехү бүдүть его повинъни дати до инъшого мистра жебы се доүчылъ тогожъ ремесла. А кгды се выүчыть и досыть үчыни*т* во всемъ үченю за то товариша маеть үжыванъ и маеть были в цехү припүщоны и тоежъ ремесло робить маеть ү тогожъ мистра ү которого се выүчы*л* и за слүшною заплатою чере*з* целы*й* рокъ маеть и бүдеть повиненъ надслүговати. А кгды үжо рокъ тотъ вы*й*деть братьѦ цеховые або цэ*х* үвесь бүдүть ему повинъни да*т* листъ Ѡ*т* выүченьѦ которы*й* Ѡде*р*жавши таковы*й* листъ длѦ выполерована Ѡбычаевъ межы лю*д*ми меть ити до инъшыхъ местъ а*л*бо ве*н*дровати на бо*л*шъ чере*з* год Ѡдинъ и бүдеть повиненъ.

Пачаў соймік наваградскі падсудак Уладзіслаў Юзаф Вольскі. Дырэктарам яго быў абраны мсціслаўскі войскі Станіслаў Міхал Маляўскі. Спачатку была заслухана справаздача паслоў на сойм, не складзеная імі ў мінулым годзе, паколькі рэляцыйны соймік быў сарваны. Паслы, між іншым, заявілі, што на сойме не было згоды на скліканне Скарбовага Трыбунала і самі яны на гэта не пагаджаліся, наогул — разглядалі яго скліканне і дзейнасць як замах на шляхецкую вольнасць (цікава пры гэтым, што адзін з паслоў, Станіслаў Корсак, яшчэ ў кастрычніку мінулага года лічыў Скарбовы Трыбунал „вельмі патрэбным"). Дэпутатамі большасцю галасоў былі абраны павятовыя мечнік Казімір Уладзіслаў Кандратовіч і стражнік Ян Война-Ясянецкі, хаця супраць іх былі пратэстацыі.

Назаўтра, 9 лютага, у Наваградку прайшоў фіскальны (гаспадарчы) соймік, пасяджэннямі якога кіраваў той самы дырэктар, Маляўскі. На ім была прынята пастанова, асноўнае месца ў якой адводзілася Скарбоваму Трыбуналу. Наваградская шляхта заявіла, што яго не прызнае́, і забараніла выкананне ягоных рашэнняў на тэрыторыі павета. А каб Сапегі не апанавалі таксама Галоўны Трыбунал, было вырашана ісці на яго адкрыццё ў Вільню паспалітым рушэннем. „Махінацыі" Сапегаў разглядаліся як перавышэнне паўнамоцтваў і парушэнне каэквацыі. Караль Станіслаў Радзівіл, адсутны на сойміку, быў абраны павятовым палкоўнікам, супраць чаго спачатку выступаў падсудак Вольскі, але і той, відаць, потым зняў свае пярэчанні. Палкоўніку даручалася склікаць шляхту для выступлення на Трыбунал. Станіславу Незабітоўскаму, прызначанаму ў 1699 г. харужым *pro tunc*, былі працягнуты гэтыя паўнамоцтвы (супраць чаго выступіў толькі мсціслаўскі стольнік Геранім Жаба, але і ён назаўтра пагадзіўся). Таксама былі абраны восем павятовых ротмістраў[29], скарбовыя суддзі (16 чалавек) і зборшчыкі падаткаў.

10 лютага адбылося падпісанне пастановы (агульнай для абодвух соймікаў) і крэдэнсаў дэпутатам. Іх падрыхтоўкай займаліся асобы

ф. 1734, воп. 1, спр. 4, арк. 30). Адміністратары чопавага і шэлежнага выступаюць таксама як камісары (або адначасова і так, і так) — М. К. Коцел судзіўся з імі наконт нявыплаты ў поўным аб'ёме заробку яго драгунскай харугве: LVIA, SA, b. 387, l. 1772-1773v; там жа, b. 391, l. 1599-1600v (дэкрэты Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад 25 жніўня 1700 г. і 16 сакавіка 1701 г.; абодва разы справа адкладалася).

[29] Наваградскі падчашы Казімір Маляўскі, мсціслаўскі стольнік Геранім Жаба, наваградскі чашнік Станіслаў Корсак, браслаўскі падчашы Андрэй Мірскі, вендэнскі харужы Леў Троска, лідскі падчашы Станіслаў Межаеўскі, наваградскі падсудкавіч Юзаф Вольскі і Станіслаў Вайніловіч (ротмістр татарскі).

(„дэпутаты”), прызначаныя ў першы дзень пасяджэнняў. Па подпісах пад пастановай вядомыя імёны 51 удзельніка соймікаў.

Абодва абраныя ў Наваградку дэпутаты і дырэктар былі цесна звязаны з Радзівіламі (Маляўскі — адміністаратар Нясвіжскага княства, Кандратовіч — Клецкага, а пра залежнасць дэпутатаў ад канцлера Радзівіла згадваў у лісце да апошняга Станіслаў Корсак, дзядзька Яна Войны-Ясянецкага). Каб паведаміць пра абранне палкоўнікам, а таксама пазнаёміць з прынятымі рашэннямі, з сойміка да канцлера выехалі паслы, наваградскі скарбнік Геранім Гарабурда і Міхал Воўк-Ланеўскі. Па выніках сойміка Маляўскі разлічваў, што Караль Станіслаў Радзівіл ацэніць яго старанні і пытаўся, ці можа выстаўляць сваю кандыдатуру на нейкі з земскіх урадаў (у павеце працягвалася эпапея з выбарамі на гэтыя пасады: пасля сарваных у 1698 г. элекцыйных соймікаў цяпер была зроблена чарговая спроба — па словах дырэктара, на сойміку планавалася, што выбары павінны адбыцца 24 траўня, аднак пра іх правядзенне ў гэты час нічога невядома)[30].

Пасяджэннямі ваўкавыскага грамнічнага сойміка 8 лютага кіраваў павятовы маршалак Тэафіль Алендскі. Прысутнічалі таксама мясцовыя гродскі суддзя Казімір Лявон Хлусовіч, гродскі пісар Дыянізій Алендскі і іншыя — усяго па подпісах вядомыя 38 удзельнікаў, без

[30] *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 39; S. Niezabitowski, *Dzienniki 1695-1700*, oprac. A. Sajkowski, Poznań 1998, s. 262 (гл. таксама рукапіс: BN, Biblioteka Ordynacji Zamojskiej, rkps. 911); AGAD, AR, dz. II, nr 1882, s. 1-7 (пастанова наваградскага грамнічнага і фіскальнага соймікаў, 9 лютага 1700 г.); там жа, dz. VI, nr II-51, s. 166-167 (адказ К. С. Радзівіла на інструкцыю наваградскім паслам, Белая, 24 лютага 1700 г.); там жа, dz. V, nr 9133, s. 56 (ліст С. М. Маляўскага як дырэктара сойміка ад імя ўдзельнікаў да К. С. Радзівіла, Наваградак, 8 лютага 1700 г.); там жа, s. 57-58 (ліст С. М. Маляўскага да К. С. Радзівіла, Нясвіж, 14 лютага 1700 г.); там жа, nr 7303, s. 2 (ліст С. Корсака да К. С. Радзівіла, Ваўковічы, 27 кастрычніка 1699 г.); там жа, s. 4-7 (ліст С. Корсака да К. С. Радзівіла, Ваўковічы, 12 лютага 1700 г.). З больш значных удзельнікаў сойміка, акрамя дырэктара і дэпутатаў, пастанову падпісалі наваградскія гродскі суддзя (і старадубскі стольнік) Гедэон Воўк-Ланеўскі, стольнік Павел Вонгль-Свідэрскі, падчашы Казімір Маляўскі, чашнік Станіслаў Корсак, скарбнік Геранім Міхал Гарабурда, харужы *pro tunc* Станіслаў Незабітоўскі, мсціслаўскія падстолі Пётр Воўк і стольнік Геранім Жаба, пінскі падчашы Тамаш Мікалай Вайніловіч, браслаўскі падчашы Андрэй Міхал Мірскі, берасцейскі скарбнік Філіп Якуб Верашчака, полацкі скарбнік Аляксандр Чаркоўскі, чарнігаўскі чашнік Рафал Бжазоўскі і інш. Што тычыцца падаткаў, то ў пастанове канстатавалася, што ўтварылася двухгадовая запазычанасць па іх выплаце. У сувязі з гэтым павет не змог выдаць з паступленняў за 1699 г. заробак драгунскай харугве К. С. Радзівіла: LVIA, SA, b. 387, l. 1802-1803v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ у справе капітана С. Нейгарта з нава-

уліку дэпутатаў, якімі былі абраны ваўкавыскі земскі суддзя Ян Казімір Масальскі і Юрый Алендскі, сын маршалка. У крэдэнс ім былі ўпісаны розныя працэсуальныя патрабаванні адносна арганізацыі судаводства ў Трыбунале (разгляд у першую чаргу адкладзеных і крымінальных спраў і інш.). Асобна патрабавалася правесці следства ў справе затрымання Кіяноўскага. Пасля заканчэння паўнамоцтваў дэпутаты павінны былі скласці справаздачу са сваёй дзейнасці[31].

Грамнічны соймік у Віцебску сабраўся ў замку і працягваўся два дні, 8-9 лютага. Яго пасяджэннямі кіраваў віцебскі падкаморы Адам Кісель. Прысутнічалі таксама павятовыя гродскі суддзя Антоній Францішак Какоўскі, гродскі пісар Ян Багамолец, земскі суддзя Тэадор Лукомскі, падсудак Багдан Старасельскі, земскі пісар Геранім Ян Чапліц, стольнік і падваявода Самуэль Кісель, мечнік ВКЛ Марцыян Міхал Агінскі і іншыя. Шляхта абрала дэпутатаў Трыбунала (віцебскіх лоўчага Юзафа Гозіуша і падстолія Дзмітрыя Казіміра Васілеўскага), але вырашыла гэтым не абмяжоўвацца і накіраваць пасольства да караля (паколькі не зрабіла гэтага на рэляцыйным сойміку). Пасламі былі абраны чарнігаўскі стольнік Войцех Сабалеўскі і віцебскі харужыч Міхал Храпавіцкі. У дадзенай ім інструкцыі шляхта даводзіла, што канстытуцыя аб Скарбовым Трыбунале не была зацверджана і таму друкаваць яе было нельга, а дэпутаты, прызначаныя на сойме для яе складання, перавысілі свае паўнамоцтвы, аддаўшы яе ў друк. Караля прасілі перашкодзіць падобным інцыдэнтам. Шляхта абуралася скліканнем гэтага Трыбунала, нягледзячы на пратэсты, і сцвярджала, што яго дзейнасць парушае каэквацыю і юрысдыкцыю

градскімі скарбовымі суддзямі і адміністратарамі чопавага і шэлежнага, 25 жніўня 1700 г.; справа была адкладзена). У 1700 г. збор чопавага, шэлежнага і гіберны не быў прадугледжаны, таму на гэты год былі абраны толькі зборшчыкі жыдоўскага і татарскага пагалоўнага (на аплату трыбунальскай пяхоты).

31 НГАБ, ф. 1710, воп. 1, спр. 4, арк. 770-771 (крэдэнс ваўкавыскай шляхты дэпутатам Галоўнага Трыбунала, 8 лютага 1700 г.); *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 39. Сярод іншых удзельнікаў сойміка прысутнічалі ваўкавыскі войскі Геранім Калантай, стольнік Уладзіслаў Трызна, абозны Уладзіслаў Сарока, канюшы Ян Крыштаф Бяляўскі, крайчы Самуэль Сарока, стольнік Міхал Юндзіл, гродскі рэгент Мікалай Аляксандр Стоцкі, смаленскі падстолі Максіміліян Зеляневіч, вількамірскі гараднічы Ян Адамовіч, драгічынскі падстолі Казімір Урачынскі, віцебскі чашнік Адам Уладзіслаў Саковіч, хэлмінскі падчашы Уладзіслаў Канапацкі. Дамінавалі на сойміку прадстаўнікі роду Алендскіх (восем удзельнікаў; акрамя ўжо згаданых — Крыштаф, двое Багуславаў, Гедэон і Тэафіль Алендскія).

павятовых скарбовых судоў, а абраныя дэпутаты не маюць права судзіць, бо самі асуджаныя на баніцыю ды інфамію. Да таго ж, маўляў, разгляд спраў і вынясенне рашэнняў на ім адбываліся без уручэння позваў. Абурэнне ўдзельнікаў сойміка выклікаў і арышт Якуба Кіяноўскага, таксама як і ўзяцце пад варту краснасельскага старасты Казіміра Кміціча (апошні быў камісарам Аршанскага павета, і яго хацелі такім чынам прымусіць скласці справаздачу ў скарбе). У сувязі з усімі гэтымі падзеямі віцебская шляхта прасіла караля скласці конны сойм ды выдаць на соймавы суд позвы (мандаты) дэпутатам, якія пісалі канстытуцыю аб Скарбовым Трыбунале. Звычайны сойм, па яе словах, ужо не было сэнсу склікаць, бо „калі нашы паслы на нешта і не дадуць згоды, то што магнатам уздумаецца, тое і будзе надрукавана як права". Таксама віцебскія рэспубліканцы хадайнічалі за гарадзенскімі, якія змагаліся за павятовыя ўрады з сапежанцамі, і прасілі адмяніць праведзеныя апошнімі выбары на гэтыя ўрады. Акрамя таго, вінавацілі Сапегаў, што тыя незаконна ўстанавілі і збіраюць павышанае мыта, а на гэтыя грошы наймаюць прыватныя харугвы. На завяршэнне звярталіся да караля з просьбай або „дапамагчы" ім, склікаўшы конны сойм, або дазволіць бараніцца самім, „паколькі натуральная абарона дазволена Богам нават неразумнай жывёліне". Усяго па подпісах пад інструкцыяй вядомыя 75 удзельнікаў гэтага сойміка (да чаго трэба дадаць яшчэ двух паслоў і аднаго з дэпутатаў, Гозіуша)[32].

Соймік у Оршы прайшоў пад кіраўніцтвам мясцовага старасты Юрыя Гераніма Крышпіна-Кіршэнштэйна. Дэпутатамі былі абраны мсціслаўскі падчашы Ян Кіркор з Казімірам Статкевічам, якія склалі на сойміку прысягу трымацца ва ўсім каэквацыі, судзіць паводле ардынацыі Трыбунала 1698 года, не абіраць маршалкам таго, хто б выступаў супраць каэквацыі ці меў інфамію, акрамя таго — усяляк процідзейнічаць Скарбоваму Трыбуналу, не прызнаваць яго выракаў і дабівацца іх адмены. Аршанская шляхта, таксама як і віцебская,

32 AGAD, APP, nr 133, s. 544-550 (інструкцыя шляхты Віцебскага павета паслам да Аўгуста II, 8 лютага 1700 г.); Львівська національна наукова бібліотека України ім. В. Стефаника, Відділ рукописів, ф. 5, оп. 1, спр. 6090, арк. 396 зв. (пастанова шляхты Віцебскага павета наконт выплаты падатку на дарогу паслам да караля, 9 лютага 1700 г.); *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 39. З іншых удзельнікаў сойміка, акрамя ўжо згаданых, па подпісах вядомыя віцебскія намеснік Казімір Стафан Танаеўскі, войскі Міхал Шапка, стражнік Вацлаў Шапка, чашнік Мікалай Жаба, падчашы Юрый Асташкевіч, лоўчы Самуэль Лускіна, стражнік Станіслаў Мікоша, падчашы Казімір Амброк, каморнік Марцін Станіслаў Пшасмыцкі, менскі скарбнік Казімір Якуб Мікульскі і інш.

адправіла паслоў да караля (старадубскага стольніка Дамініка Крукоўскага і чавускага войта Яна Мольскага). Нават дадзеная ім інструкцыя блізка нагадвае сваім зместам віцебскую: у ёй таксама дзейнасць Скарбовага Трыбунала разглядаецца як парушэнне каэквацыі і наогул усіх магчымых правоў, а да караля звернута просьба склікаць конны сойм ды выдаць на яго позвы дэпутатам, якія пісалі адпаведную канстытуцыю. Акрамя таго, у манарха прасілі перасцерагчы вялікага гетмана, каб да сойма не спрабаваў прыводзіць у выкананне выракі Скарбовага Трыбунала з дапамогай жаўнераў ці сваіх слуг. Таксама патрабавалася распусціць як рэшту войска ВКЛ, што засталася пасля роспуску асноўных сіл у 1698 годзе, так і завербаваныя Сапегамі харугвы. Нарэшце, аршанская шляхта гэтаксама заступалася за Кіяноўскага і Кміціча, дадаўшы да іх яшчэ шляхціца Цюфяя, якога абрабавалі быхаўскія сапежанцы.

Усяго па подпісах вядомыя 73 удзельнікі гэтага сойміка (без уліку паслоў і дэпутатаў). Аднак улічваючы тое, што двое прадстаўнікоў павета, аршанскія гродскі суддзя і войскі Мікалай Станіслаў Галінскі з падсудкам Альбрэхтам Рабеем, бралі ўдзел у дзейнасці Скарбовага Трыбунала (Галінскі — у якасці дэпутата), відаць, аднадушнасці сярод аршанскай шляхты не было. Вядома, што яны „пазаносілі маніфесты супраць пастановы грамнічнага сойміка”, аднак не вядомыя ні сама пастанова, ні гэтыя пратэстацыі[33].

[33] AGAD, APP, nr 133, s. 552-557 (інструкцыя шляхты Аршанскага павета паслам да Аўгуста II, б. д.); НГАБ, ф. 1731, воп. 1, спр. 2, арк. 1514 (прысяга аршанскіх дэпутатаў, б. д.); LVIA, SA, b. 387, l. 1753v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ у справе Л. Гарадзенскага і П. Лінеўскага, прадстаўнікоў гусарскай харугвы Аўгуста II, з аршанскімі скарбовымі суддзямі, камісарамі, зборшчыкамі падаткаў і павятовымі ротмістрамі, 25 жніўня 1700 г.); *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 39. Акрамя ўжо згаданых асоб, у сойміку ўдзельнічалі таксама краснасельскі стараста Казімір Кміціц (таксама як ротмістр — магчыма, павятовы), берасцейскі ваяводзіч Ян Міхал Курч, Самуэль Цеханавецкі (павятовы ротмістр), аршанскія гродскі пісар Станіслаў Казімір Барташэвіч (таксама як каралеўскі сакратар), мечнік Міхал Станіслаў Баратынскі, гараднічы Пётр Хлявінскі, стражнік Аляксандр Дадэрка, каморнік Казімір Турчын, каморнік Габрыэль Жаброўскі, мсціслаўскі скарбнік Юзаф Міхал Петрыжыцкі, інфлянцкі падчашы Валерыян Борк, Станіслаў Пішчал, каралеўскі сакратар Ян Вяжбіцкі, рэчыцкі падчашы Міхал Казімір Пятух, гарадзенскі стражнік Ян Сасін-Калечыцкі, віцебскі лоўчы Ян Кулаковіч (Кулакевіч), полацкі чашнік Габрыэль Вастравух, аршанскі лянтвойт Адам Закшэўскі і інш. Што тычыцца падаткаў, то па іх выплаце ў павеце ўтварылася запазычанасць за два гады, у сувязі з чым не быў выдадзены заробак гусарскай харугве Аўгуста II (гл. згаданы дэкрэт Трыбунала; справа была адкладзена).

Пінскі грамнічны соймік, які сабраўся ў вызначаны дзень у замку, распачаў надворны маршалак ВКЛ і пінскі староста Януш Антоній Вішнявецкі. Ён прапанаваў на месца дырэктара канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла, з чым усе прысутныя пагадзіліся. У сойміку бралі ўдзел таксама глінянскі і ваўкавышкаўскі староста Міхал Сервацый Вішнявецкі, горждаўскі староста Казімір Агінскі, падканюшы ВКЛ Ян Кашоўскі, пінскія земскі пісар Самуэль Міхал Орда, войскі і падстароста Ян Філон Вароніч, гродскі суддзя Міхал Ажэшка (усяго вядомыя 73 удзельнікі). Прынятая пінскай шляхтай пастанова прызнавала за нелегітымны Скарбовы Трыбунал і ўсе яго вракі. Калі б хто паспрабаваў прывесці іх у выкананне на тэрыторыі павета, то супраць яго планавалася склікаць паспалітае рушэнне. Таксама з дапамогай паспалітага рушэння меркавалі пазбавіцца ад пяхоты войска ВКЛ, размешчанай у павеце, калі тая не пакіне яго межы добраахвотна. Павятовым палкоўнікам, які павінен быў склікаць у выпадку неабходнасці шляхту, быў абраны Януш Антоній Вішнявецкі. Дырэктар сойміка Караль Станіслаў Радзівіл быў абраны таксама дэпутатам разам з земскім пісарам Самуэлем Міхалам Ордам. Захавалася прысяга Орды, складзеная ў той жа дзень, у якой ён абавязаўся абараняць каэквацыю і прытрымлівацца зацверджанай соймам ардынацыі Трыбунала 1698 года. Заканчэнне сойміка было адзначана банкетамі — спачатку ў князёў Вішнявецкіх, потым у Радзівіла[34].

Паводле Януша Вішнявецкага, Радзівіл сам выступіў з ініцыятывай абрання дэпутатам на пінскім сойміку. Існавала верагоднасць, што на іншых сойміках сапежанцы будуць пільнаваць, каб не дапусціць яго абрання, як канкурэнта Слушкі ў барацьбе за месца маршалка. Што да Пінскага павета, то тут у Радзівіла не было ўладанняў, та-

[34] НГАБ, ф. 1733, воп. 1, спр. 15, арк. 288-289 адв. (пастанова шляхты Пінскага павета, 8 лютага 1700 г.); AGAD, AR, dz. VI, nr II-51, s. 165-166 (тое самае); НГАБ, ф. 1733, воп. 1, спр. 15, арк. 281 (прысяга С. М. Орды, 8 лютага 1700 г.); AGAD, AR, dz. VI, nr II-79, s. 37; *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 40; Д. Віцько, *Пінскі соймік у канцы XVII — пачатку XVIII ст.: функцыянаванне і палітычнае жыццё*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2011, № 2, с. 26. Акрамя згаданых вышэй удзельнікаў сойміка, пад пастановай свае подпісы паставілі пінскія чашнік Мікалай Орда, скарбнік Пётр Грычына, падчашы Міхал Ян Кірдзей, гараднічы Ян Казімір Парысевіч, каморнік Пётр Шырма, земскі суддзіч Пётр Гадэбскі, наваградскі скарбнік Андрэй Караль Букраба, аршанскі стольнік Багдан Друцкі-Любецкі, бельскі падстолі Стафан Ян Кужанецкі, чарнігаўскі стольнік Міхал Казімір Вушак-Кулікоўскі, віленскі мечнік Якуб Станіслаў Ясперс, ляцічаўскі гараднічы Павел Неслухоўскі і інш. (у тым ліку два подпісы кірыліцай).

му праціўнікі маглі не ўлічваць, што ён паспрабуе тут балатавацца[35]. У дыярыушы Радзівіла сцвярджаецца, што ён быў абраны дэпутатам адзінагалосна. На самой справе на сойміку супраць гэтага пратэставаў хтосьці з Масальскіх (цяжка сказаць, хто канкрэтна, магчыма, Уладзіслаў Караль). Меркавалася, што ён занёс пратэстацыю ў наваградскі гродскі суд. Каб высветліць гэта, пінскі гродскі рэгент Ігнацый Альшэўскі накіраваў у Навагрудак свайго прадстаўніка, Антонія Свентаслаўскага. Але пошукі, праведзеныя ім у наваградскіх гродскіх кнігах разам з мясцовымі ўраднікамі, нічога не далі[36]. Пазней, у верасні гэтага ж года, Міхал Казімір Вушак-Кулікоўскі (на той час ужо пінскі гродскі пісар) скардзіўся ў менскі гродскі суд на Самуэля Міхала Орду, што той стаў дэпутатам, нягледзячы на тое, што сам выступаў адным з адказчыкаў па справе Кулікоўскага з Аляксандрай Войзбун (зрабіўшы выгляд, што адказчыцай з'яўляецца толькі апошняя). Аднак магчыма, што гэтыя прэтэнзіі ён вырашыў выказаць ужо пазней, не падчас абрання[37].

Грамнічны соймік у Мсціславе адбыўся 8 лютага ў касцёле кармелітаў пад кіраўніцтвам троцкага харужага Казіміра Пацея. Прысутнічалі таксама мсціслаўскія харужы Марцыян Дамінік Валовіч, земскі пісар Аўгусцін Пагожы-Канстанціновіч, гараднічы і падстараста Стафан Галынскі, гродскі пісар Марцін Панятоўскі, намеснік і рэчыцкі каморнік Павел Галляш Дзеражынскі ды іншыя. На сойміку дамінавалі рэспубліканцы, пры гэтым, відаць, абышлося без сутыкненняў з сапежанцамі (напярэдадні і пасля заканчэння сойміка ў гэты дзень паміж шляхтай адбылося некалькі сутычак, але яны былі выкліканы, хутчэй, асабістымі прычынамі[38]). Дэпутатамі ад Мсціслаўскага ваяводства былі абраны дырэктар сойміка Казімір Пацей разам з мсціслаўскім войскім Крыштафам Гедройцем. У крэдэнс ім было ўпісана патрабаванне не абіраць маршалкам Трыбунала прыхільніка Сапегаў, а таксама таго, хто б засядаў на Скарбовым Трыбунале ці выступаў калі-небудзь супраць каэквацыі; наогул, патрабавалася, каб

[35] J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski (1700-1710)*, wyd. P. P. Romaniuk i J. Burdowicz-Nowicki, Warszawa 2018, s. 73-74.

[36] НГАБ, ф. 1733, воп. 1, спр. 15, арк. 426-426 адв.; *Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1582-1696): spis*, red. A. Rachuba; oprac. H. Lulewicz i A. Rachuba, Warszawa 2007, s. 402.

[37] НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 995-995 адв. (скарга М. К. Кулікоўскага на А. Войзбун і С. М. Орду-Балгарскага, занесеная 20 верасня 1700 г. у менскі гродскі суд пасля таго, як не была прынята ў пінскім).

[38] Гл. скаргі пацярпелых: там жа, ф. 1729, воп. 1, спр. 4, арк. 33, 34 (тут жа пра месца правядзення сойміка), 39, 44.

Галоўны Трыбунал не прызнаваў рашэнняў Скарбовага. Аднак гэтым удзельнікі сойміка не абмежаваліся і адправілі да Аўгуста II паслоў, мсціслаўскага гродскага суддзю Базыля Сухадольскага і хаславіцкага старасту (быў, відаць, яшчэ старосцічам. — *Д. В.*) Крыштафа Цеханавецкага. У дадзенай ім інструкцыі мсціслаўская шляхта, падобна да шляхты суседніх беларускіх паветаў, сцвярджала, што Скарбовы Трыбунал неправамоцны, паколькі не быў зацверджаны на сойме, а таксама скардзілася на Сапегаў, якія нібыта планавалі павялічыць войска без згоды сойма, ды прасіла караля склікаць супраць іх паспалітае рушэнне, а маршалку мінулага сойма і дэпутатам, якія рыхтавалі канстытуцыю аб Скарбовым Трыбунале, — выдаць позвы на соймавы суд. Вядома таксама, што на сойміку шляхта абрала суддзяў скарбовага суда, а таксама павятовага камісара, якім стаў мсціслаўскі стольнік Ян Лендарф.

Соймік быў дастаткова шматлюдны. Усяго па подпісах вядомыя 152 яго ўдзельнікі (да гэтага трэба дадаць яшчэ паслоў і другога з дэпутатаў, Гедройца). Аднак подпісы пад крэдэнсам захаваліся не цалкам і супастаўляліся з інструкцыяй не ўсе (толькі больш значных асоб), таму ў сапраўднасці іх было, відаць, крыху больш[39].

[39] AGAD, APP, nr 133, s. 532-542 (інструкцыя шляхты Мсціслаўскага ваяводства паслам да Аўгуста II, 8 лютага 1700 г.); НГАБ, ф. 1729, воп. 1, спр. 4, арк. 35-36 (крэдэнс мсціслаўскай шляхты дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ, 8 лютага 1700 г.); H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza (et al.), *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa (XIV-XXI w.)*, Warszawa 2013, s. 158; *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 40. Акрамя ўжо згаданых удзельнікаў сойміка свае подпісы пад дакументамі паставілі мсціслаўскія войскі Міхал Ян Каменскі, стольнік Ян Ліндарф (Лендарф), падстолі Себасцьян Антоній Бяляцкі, гараднічы Ян Галынскі, лоўчы Андрэй Свянціцкі, скарбнік Самуэль Казімір Іллініч, чашнік Павел Маскевіч, мастаўнічы Ян Гаўрыловіч-Пірагоўскі, абозны Пётр Гаўрыловіч-Пірагоўскі, мечнік Самуэль Міхал Панятоўскі, абозны Уладзіслаў Панятоўскі, скарбнік Андрэй Іпацевіч-Маскевіч, будаўнічы Канстанцый Коцел, гродскі рэгент Ян Асмалоўскі, рэчыцкі каморнік і мсціслаўскі намеснік Павел Галляш Дзеражынскі, абельскі староста Вінцэнт Пётр Валовіч, радамльскі гараднічы Дамінік Сухадольскі, аршанскі стольнік Антоній Навасельскі, мазырскі скарбнік Францішак Война-Ясянецкі, жамойцкі стражнік Матэвуш Мільвід, наваградскі чашнік Базыль Казімір Петрыжыцкі, абельскі старасціч Крыштаф Валовіч, рэчыцкі скарбнік Базыль Далецкі, віцебскі падчашы Станіслаў Козел, менскі стражнік Дамінік Ян Рагоза, смаленскі чашнік Станіслаў Зуб і іншыя (у тым ліку 10 подпісаў кірыліцай). Што тычыцца падатковых спраў, то ў красавіку гэтага года новаабраны камісар Ян Лендарф вінаваціў зборшчыкаў гіберны за мінулы год (мсціслаўскіх скарбніка Самуэля Казіміра Ілліміча і стражніка Дамініка Гедройца), што тыя былі абраны на сойміку суддзямі скарбовага суда і, такім чынам,

Менскі грамнічны соймік, як пісаў менскі стараста Крыштаф Завіша, быў „вельмі жвавы” і настроены супраць Сапегаў з прычыны дзейнасці Скарбовага Трыбунала. Праўда, дадаваў ён, дзякуючы яго прысутнасці гэтыя настроі ўдалося залагодзіць. Дырэктарам сойміка ў Менску быў Уладзіслаў Францішак Краеўскі, а дэпутатамі Галоўнага Трыбунала шляхта абрала павятовых скарбніка Яна Рдултоўскага і стражніка Яраша Мацкевіча[40].

Ужо не першы год працягвалася зацятае супрацьстаянне паміж сапежанцамі і рэспубліканцамі ў Мазырскім павеце, якое суправаджалася ўзаемнымі рабункамі, засадамі на дарогах і г.д.[41] Такая атмасфера не спрыяла супольнаму правядзенню соймікаў. Таму не дзіўна, што грамнічны соймік у Мазыры аказаўся раздвоеным. Для запалохвання праціўнікаў сапежанцы выкарысталі жаўнераў, узброеных ручной агністрэльнай зброяй і нават палявымі гарматамі, якіх расставі-

меліся судзіць саміх сябе. Пры гэтым яны не разлічыліся ні з папярэднім камісарам (памерлым ужо на той час мсціслаўскім падсудкам Іллінічам), ні з ім, Лендарфам як новым. Усё гэта, па яго словах, служыла для прыкрыцця злоўжыванняў, у прыватнасці, збору ў падвойным памеры падатку з яго Бабыліцкага староства: LVIA, SA, b. 4715, l. 470-470v (скарга Я. Лендарфа ў віленскі гродскі суд ад 2 красавіка 1700 г., непрынятая ў мсціслаўскім); там жа, b. 387, l. 1834-1835v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ, 25 жніўня 1700 г.; справа была адкладзена). Лендарф сцвярджаў, што атрымаў Бабылічы пасля мсціслаўскага стольніка Міхала Корвіна-Гансеўскага, але вядомы каралеўскі прывілей на гэтае староства таксама Яну Галынскаму і Адаму Гальцэвічу-Плескачэўскаму, жаўнерам войска ВКЛ, ад 4 ліпеня 1699 г.: НГАБ, КМФ-18, воп. 1, спр. 153, арк. 8.

40 *Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666-1721)*, wyd. przez J. Bartoszewicza, Warszawa 1862, s. 73; *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 40; *Deputaci Trybunału Głównego... (1582-1696)*, s. 402. У павеце ўтварылася значная запазычанасць па выплаце падаткаў. Так, Ян Казімір Матушэвіч, зборшчык чопавага і шэлежнага яшчэ з 1698 г., які збіраў даўгі таксама і ў наступным годзе, скардзіўся ў 1700 г. у менскі гродскі суд на полацкага ваяводу Дамініка Міхала Слушку, які не дазваляў спагнаць падаткі з Барысаўскага староства „за мінулыя гады”: НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 746. Што тычыцца жыдоўскага пагалоўнага, то адзін яго зборшчык, менскі лоўчы Грыгорый Няміра, у сакавіку 1700 г. разлічыўся ў скарбовым судзе з павятовымі камісарамі, а яго напарнік, менскі падчашы Давід Няміра, — не, у выніку чаго не быў выплачаны цалкам заробак панцырнай харугве менскага ваяводы У. Я. Сапегі: НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 1025-1026 адв.

41 Так, 2 студзеня ў Чалюшчавічах рэспубліканец Багуслаў Яленскі, мазырскі скарбнік, абрабаваў і збіў слугу Яна Казіміра Камароўскага, павятовага земскага пісара, які ехаў у Мазыр з Берасцейскага павета паперадзе гаспадара ды вёз ягоныя дакументы і грошы: НГАБ, ф. 1728, воп. 1, спр. 4, арк. 4-5 (скарга Я. К. Камароўскага ў мазырскі гродскі суд, 8 студзеня 1700 г.).

лі загадзя, 7 лютага, па ўсім горадзе („людзей розных чужаземных" — цяжка сказаць, хто пад імі меўся на ўвазе); імі ж быў акружаны і „соймікавы дом".

Тады рэспубліканцы, баючыся за сваё жыццё і не жадаючы паўтарыць лёс забітага на грамнічным сойміку 1696 года мазырскага стольніка Самуэля Яленскага, сабраліся назаўтра за горадам, „на той гары, там, дзе звычайна праходзіць попіс паспалітага рушэння". Яны абралі дырэктарам Юзафа Казіміра Юзафовіча-Мазоўскага, павятовага войскага і гродскага пісара (сапежанцы апошняга ўраду за ім не прызнавалі), а дэпутатамі Трыбунала — Багуслава Яленскага і Антонія Аскірку (Аскерку), мазырскіх скарбніка і чашніка адпаведна. Падпісаўшы крэдэнсы, удзельнікі гэтага сойміка раз'ехаліся па дамах.

Хто быў дырэктарам сойміка, які прайшоў у горадзе, невядома. Рэй на ім вялі Катоўскія (мазырскі стараста Пётр Караль, якога рэспубліканцы не прызнавалі і лічылі падкаморыем, павятовы маршалак Фларыян Лявон, а таксама Геранім), мазырскі земскі пісар Ян Казімір Камароўскі ды іншыя ўраднікі-сапежанцы. Дэпутатамі тут былі абраныя Пётр Караль Катоўскі і Адам Бянецкі, павятовыя стараста і гродскі пісар адпаведна. Фларыян Лявон Катоўскі быў, відаць, абраны павятовым палкоўнікам (згадваецца ў гэтай якасці ў траўні). Паводле рэспубліканцаў, рашэнні гэтага сойміка не мелі моцы, бо ўсе яго галоўныя ўдзельнікі былі асуджаны на баніцыю і інфамію, да таго ж дэпутаты былі імі абраны ўжо а гадзіне ночы, г.зн. 9 лютага, што таксама разглядалася як парушэнне. Па выніках сойміка ў менскім гродскім судзе рэспубліканцамі была складзена пратэстацыя[42].

[42] НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 769-770 адв. (пратэстацыя мазырскай шляхты; пададзена ў менскі гродскі суд 15 лютага 1700 г.); там жа, ф. 1728, воп. 1, спр. 4, арк. 71 (згадка Катоўскага як палкоўніка; побач з ім як павятовы ротмістр згадваецца мазырскі гродскі суддзя Валерыян Вольскі); *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 40. Разам з дырэктарам і абранымі дэпутатамі-рэспубліканцамі ў Менску пратэставалі таксама мазырскі земскі суддзіч Міхал Габрыэль Яленскі, Людвік Яленскі, Стафан, Тамаш і Крыштаф Войны, Адам Камінскі, Міхал Дастаеўскі, Базыль Грыгаровіч, Юзаф Галіцкі і іншыя. У Мазырскім павеце збор падаткаў выглядаў наступным чынам. З аднаго боку зборшчыкі гіберны за 1699 г. (Пётр Жыдановіч і Ян Маршэўскі) выплацілі неабходную суму па асігнацыі павятовага камісара, судовага падстарасты Аляксандра Пшыборы, янычарскай харугве вялікага гетмана К. Я. Сапегі і панцырнай харугве польнага гетмана Ю. Б. Слушкі: НГАБ, ф. 1728, воп. 1, спр. 4, арк. 12 (квітанцыя А. Пшыборы зборшчыкам гіберны, Мазыр, 20 студзеня 1700 г.). Перад гэтым яны склалі справаздачу са сваёй дзейнасці ў скарбовым судзе разам са зборшчыкамі чопавага, шэлежнага, пагалоўнага жыдоўскага, татарскага і тытунёвай манаполіі (Янам Бычкоўскім

На гэтым супрацьстаянне не скончылася. 20 лютага Міхал Францішак Халецкі (які лічыў сябе мазырскім старастам, але не прызнаваўся сапежанцамі) ехаў са Жлобіна ў Гарбавічы на запрашэнне Казіміра (Юзафа Казіміра) Юзафовіча на хрэсьбіны яго ўнука. На гасцінцы пад Даманавічамі Катоўскія зрабілі на яго засаду, але высланы імі наперад шпег трапіў у рукі Халецкаму. Дазнаўшыся пра небяспеку, той павярнуў назад у Жлобін, пасля чаго склаў скаргу ў рэчыцкім гродскім судзе, куды прывёў і шпега, а таксама ў менскім гродскім судзе[43]. Па версіі Фларыяна Лявона Катоўскага, гэта Халецкі збіраўся на яго напасці, дзеля чаго з 22 на 23 лютага арганізаваў цэлую выправу з Рэчыцкага павета на Даманавічы, сабраўшы некалькі сотнень валахаў, казакаў і „масквы сваёй з Хальча і Жлобіна, званай філіпаўцамі (стараабрадцаў — *Д. В.*)". Схапіўшы падданага Катоўскага, Халецкі даведаўся ад яго, што маршалка няма дома, таму павярнуў назад, а згаданага падданага загадаў забіць, але яго толькі пасеклі шабляй і кінулі, палічыўшы за мёртвага[44].

Гучнай акцыяй сапежанцаў у Мазырскім павеце ў гэты час быў захоп Петрыкава, які быў прадметам спрэчкі паміж Марыяннай Пац, удавой жамойцкага старасты Пятра Паца, і менскім падкаморыем Тэадорам Друцкім-Горскім. Апошняму перад гэтым Петрыкаў быў прысуджаны за фінансавыя прэтэнзіі, праўда, для прывядзення прысуду ў выкананне спатрэбілася прыцягваць менскае паспалітае рушэнне. Зараз жа ранейшыя ўладальнікі вырашылі ўзяць рэванш. Кіравалі

і Матэвушам Каткоўскім): там жа, арк. 7 (дэкрэт мазырскага скарбовага суда, 12 студзеня 1700 г.). Грошы, сабраныя апошнімі, таксама мусілі пайсці янычарскай харугве вялікага гетмана. З іншага боку, не была цалкам выплачана сума пешаму рэгіменту Ю. Б. Слушкі, паколькі А. Пшыбора адлічыў сабе „ўзнагароджанне", у сувязі з чым прадстаўнік рэгімента судзіўся з павятовымі камісарам і зборшчыкамі ў Скарбовым Трыбунале ВКЛ. За Пшыбору заступіўся мазырскі маршалак Катоўскі (паведаміў, што той захварэў па дарозе ў Вільню), у выніку чаго справа была адкладзена на другую кадэнцыю Скарбовага Трыбунала, на якой планаваўся канчатковы разлік: там жа, акр. 46-47 (рэмісійны дэкрэт Скарбовага Трыбунала ВКЛ, 1 лютага 1700 г.; актыкаваны ў мазырскіх гродскіх кнігах 3 красавіка 1700 г.). Тыя ж самыя зборшчыкі падаткаў засталіся і на 1700 г.: там жа, спр. 74, арк. 9, 15, 19, 21.

43 НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 784-784 адв. (скарга Міхала Халецкага на Фларыяна, Пятра і Гераніма Катоўскіх у менскі гродскі суд, 5 сакавіка 1700 г.).

44 Там жа, ф. 1728, воп. 1, спр. 4, арк. 23-23 адв. (скарга Фларыяна Катоўскага ў мазырскі гродскі суд на Міхала Халецкага, а таксама на Казіміра (Юзафа Казіміра) Юзафовіча-Мазоўскага, Уладзіслава Вольбека і Антонія Аскерку, 27 лютага 1700 г.); LVIA, SA, b. 387, l. 2095-2095 адв. (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад 27 жніўня 1700 г.; справа была адкладзена).

захопам лідскі скарбнік Уладзіслаў Гурыновіч, троцкі войскі Яўстахій Бурба і ксёндз-дамініканін Шпікуль. 19 сакавіка на чале аддзелу драгунаў яны занялі места, затым, падбухторыўшы сялян і мяшчан, захапілі пры іх падтрымцы замак, а пакінутага Друцкім-Горскім завядоўцу Юрыя Судніка, яго жонку і чэлядзь збілі[45].

Напады адбываліся і ў Рэчыцкім павеце. У канцы сакавіка быхаўскія сапежанцы (валашская або казацкая харугва Людвіка Казлоўскага) абрабавалі там адну з вёсак Халецкага[46].

Акрамя ўжо згаданых, вядома, што на грамнічных сойміках у гэтым годзе былі абраны наступныя дэпутаты Трыбунала: лідскія лоўчы Казімір Наневіч і гродскі суддзя Аляксандр Глэмбоцкі (лідскія дэпутаты), браслаўскія падкаморый Канстанцый Война-Ясянецкі і войскі Тамаш Канстанцый Рудаміна-Дусяцкі (браслаўскія), старадубскі падстолі Міхал Максіміліян Стравінскі і мсціслаўскі гараднічы Міхал Антоній Гімбут (старадубскія), слонімскі падстолі ды гродскі пісар Францішак Сухадольскі і Ян Фларыян Булгак (слонімскія), рэчыцкі войскі Баляслаў Станіслаў Біспінг і ясвойнскі старасціч Міхал Аляксандр Юдзіцкі (рэчыцкія)[47]. Невядома, чым скончыўся соймік у Берасці і ці былі на ім абраны дэпутаты[48].

[45] НГАБ, ф. 1728, воп. 1, спр. 4, арк. 42-43 (скарга Юрыя Судніка ў мазырскі гродскі суд, 26 сакавіка 1700 г.; паказанні ў гэтай справе).

[46] Там жа, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 816 (скарга Міхала Халецкага ў менскі гродскі суд).

[47] *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 36-40.

[48] Што тычыцца сітуацыі, якая склалася там у падатковай сферы, то вядома, што ў лютым гэтага года берасцейскія камісары паквітавалі зборшчыкаў жыдоўскага і татарскага пагалоўнага ды тытунёвай манаполіі за 1699 г., пасля чаго адпаведны квіт тыя атрымалі ў скарбовым судзе (з агаворкай, што татары ад выплаты былі вызвалены соймікавай пастановай): НГАБ, ф. 1705, воп. 1, спр. 31, арк. 2109 (квіт М. Непакойчыцкаму і М. Багуслаўскаму ад берасцейскіх павятовых камісараў М. Махвіца і П. Галемскага, Берасце, 2 лютага 1700 г.); там жа, арк. 2105-2017 (квіт М. Непакойчыцкаму і М. Багуслаўскаму ад берасцейскіх скарбовых суддзяў, Берасце, люты 1700 г., за подпісамі суддзяў на чале з маршалкам скарбовага суда Л. К. Пацеем). Суд у гэтым жа складзе, верагодна, дзейнічаў тут на працягу двух папярэдніх гадоў. Вынікі збору чопавага і шэлежнага невядомыя. Разлікі са зборшчыкамі гіберны былі адкладзены. Гэтае пытанне выносілася на разгляд яшчэ на лімітаваным берасцейскім сойміку на ўрад падсудка 16 лістапада гэтага года, але ізноў было адкладзена. Заробак дзвюм прыпісаным да павета харугвам (рэйтарскай К. Я. Сапегі і неназванай Л. К. Пацея) на той час выплачаны яшчэ не быў: там жа, арк. 1717-1719 (акт лімітацыі берасцейскага элекцыйнага сойміка на ўрад падсудка, 16 лістапада 1700 г.).

У той ці іншай ступені можна вызначыць, якую пазіцыю занялі 17 соймікаў. Восем з іх падтрымалі рэспубліканцаў: троцкі (але, верагодна, з пратэстамі), упіцкі (але са злоўжываннямі і пратэстамі), наваградскі, пінскі, ваўкавыскі, віцебскі, аршанскі, мсціслаўскі. Чатыры соймікі засталіся на баку Сапегаў: віленскі, ашмянскі (але з масавым пратэстам і сутыкненнямі), вількамірскі і ковенскі (таксама абодва з пратэстамі). Яшчэ два соймікі (гарадзенскі і мазырскі) аказаліся раздвоенымі. На смаленскім і, магчыма, жамойцкім мела месца супрацоўніцтва прадстаўнікоў розных груповак, а пазіцыя менскага дакладна невядомая, але была, відаць, дастаткова памяркоўнай. Прынамсі пяць рэспубліканскіх соймікаў выступілі супраць Скарбовага Трыбунала (наваградскі, пінскі, віцебскі, аршанскі, мсціслаўскі), а найбольш радыкальную пазіцыю занялі тры ўсходнія (віцебскі, аршанскі, мсціслаўскі), якія запатрабавалі склікання коннага сойма або паспалітага рушэння супраць Сапегаў.

Палітычную арыентацыю дэпутатаў часткова дазваляе вызначыць дэмарш сапежанцаў 15 лістапада 1700 года, падчас другой спробы лімітацыі Трыбунала ў сувязі са зборамі паспалітага рушэння. Дзевяць сапежанскіх дэпутатаў тады адмовіліся яе прызнаваць і спрабавалі працягнуць дзейнасць. Аднак спроба поспеху не мела, і яны таксама былі вымушаны адкласці пасяджэнні. Пратэставалі супраць лімітацыі тады наступныя дэпутаты: Міхал Ян Тызенгаўз (віленскі), Крыштаф Камінскі і Пётр Данілевіч (ашмянскія), Тамаш Канстанцый Рудаміна -Дусяцкі (браслаўскі), Адам Прозар і Даніэль Варлоўскі (ковенскія), Міхал Эперэйшы (жамойцкі), Міхал Максіміліян Стравінскі (старадубскі), Баляслаў Станіслаў Біспінг (рэчыцкі)[49]. Аднак гэта былі не ўсе сапежанцы. Да іх кола можна аднесці таксама другога віленскага дэпутата (Стафана Мікалая Швыкоўскага), абодвух вількамірскіх (Дамініка Міхала Слушку і Станіслава Шаўкоўскага), аднаго смаленскага (Станіслава Паплаўскага), верагодна, аднаго (Францішка Сухадольскага), а магчыма, што і абодвух слонімскіх, а таксама дэпутатаў з раздвоеных гарадзенскага (Альбрэхта Храптовіча і Эйсманта) ды мазырскага соймікаў (Пятра Караля Катоўскага і Адама

[49] *Postanowienie generalne stanów W. X. Litt., wieczne i nigdy nienaruszone, na zieździe walnym woiewództw y powiatów, pospolitym ruszeniem pod Olkinikami uchwalone*, [Wilno] 1700, k. H; *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794),* s. 36-37; AGAD, AR, dz. V, nr 17503/I, s. 31 (ліст М. С. Вішнявецкага да К. С. Радзівіла, Карысць, 6 снежня 1700 г.); AGAD, Zbiór z Muzeum Narodowego, nr 1220, s. 267 (тое самае).

Бянецкага). Безумоўна, гэта было вялікае прадстаўніцтва, але нават пры ўмове, што ўсе сапежанскія дэпутаты былі б зацверджаны, у тым ліку з раздвоеных соймікаў, то каб атрымаць кантроль над Трыбуналам, Сапегам усё роўна не хапала б дзесьці 4-5 галасоў. Тэарэтычна, з імі мог быць звязаны яшчэ нехта з дэпутатаў. Да таго ж сітуацыя магла яшчэ змяніцца падчас рэасумпцыі, паколькі вынікі шмат якіх соймікаў былі апратэставаныя (адзінкавыя ці калектыўныя пратэсты прынамсі на васьмі ці дзевяці сойміках). Аднак большая частка пратэстацый была скіравана супраць сапежанцаў, таму ў цэлым іх шансы былі сумнеўныя.

## Частка 2.
## Адкрыццё пасяджэнняў і судаводства (віленская кадэнцыя)

У сакавіку і красавіку, па меры набліжэння Галоўнага Трыбунала, сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім станавілася ўсё больш напружанай, асабліва ў сувязі з планамі склікання на яго паспалітага рушэння. Сапежанцы лічылі, што гэта незаконна, паколькі паспалітае рушэнне мог склікаць толькі кароль, спасылаліся пры гэтым і на прыклад Польшчы, дзе такога звычаю не было[50].

Караль Станіслаў Радзівіл як павятовы палкоўнік выдаў універсалы на паспалітае рушэнне да Наваградскага павета і распісаў лісты да павятовых ротмістраў у канцы сакавіка. Канкрэтны дзень у іх прызначаны не быў, але, паводле аднаго з ротмістраў, Станіслава Корсака, выступленне планавалі на 20 красавіка[51]. Верагодна, дзесьці ў гэты час яно і адбылося, бо ўжо 23 красавіка наваградская шляхта была ў Суботніках за Нёманам і накіравала адтуль паслоў да канцлера (мсціслаўскага стольніка ды аднаго з ротмістраў Гераніма Жабу і Яна Буйноўскага) з просьбай прызначыць ёй па прыбыцці месца для размяшчэння[52].

50 APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, s. 727.

51 AGAD, AR, dz. IV, teka 19, nr 235, s. 59-60 (К. С. Радзівіл да наваградскага ротмістра N., Горадна, 29 сакавіка 1700 г.); там жа, dz. V, nr 9133, s. 61-62 (С. М. Маляўскі да К. С. Радзівіла, Мір, 10 і 28 красавіка 1700 г.); там жа, nr 7303, s. 8 (С. Корсак да К. С. Радзівіла, Ваўковічы, 6 красавіка 1700 г.); S. Niezabitowski, *Dzienniki 1695-1700*, oprac. A. Sajkowski, Poznań 1998, s. 269. С. М. Маляўскі пісаў, што ўсе ротмістры пагадзіліся ісці, акрамя Льва Трóскі, але і таго яму ўдалося пераканаць.

52 AGAD, AR, dz. V, nr 9136 (наваградскія ротмістры К. Ф. Маляўскі і С. Межаеўскі, а таксама М. К. Есьман, паручнік харугвы Г. Жабы, да К. С. Радзівіла, Суботнікі, 23 красавіка 1700 г.).

У красавіку таксама склікаў шляхту Троцкага павета для выступлення на Вільню павятовы харужы Казімір Пацей[53]. Яго брат, стражнік ВКЛ Людвік Канстанцый Пацей прыкладаў намаганні, каб склікаць шляхту Берасцейскага павета, — звяртаўся з такой просьбай да павятовага палкоўніка — вялікага пісара Крыштафа Дуніна-Раецкага, але, відаць, беспаспяхова[54]. Цалкам верагодна, што сама ідэя сабраць паспалітае рушэнне, якую падтрымалі рэспубліканцы, зыходзіла ад Караля Станіслава Радзівіла, бо вядома пра адпаведныя рашэнні на грамнічных сойміках толькі двух паветаў — Навагрудскага і Троцкага, — шляхта іншых далучылася, верагодна, пазней. У Троцкім павеце радзівілаўскі ўплыў быў, хутчэй, апасродкаваны — канцлер мог уплываць на сітуацыю тут праз троцкага ваяводу Казіміра Уладзіслава Сапегу, павятовых харужага Казіміра Пацея і цівуна Міхала Яна Шчуку[55]. На 23 сакавіка мясцовымі рэспубліканцамі быў запланаваны соймік у Горадне, дзе планавалася абмеркаваць выступленне паспалітым рушэннем[56]. Рыхтавалася таксама шляхта Ашмянскага ды іншых бліжэйшых да Вільні паветаў[57]. Караль Станіслаў Радзівіл, які прэтэндаваў на месца маршалка Трыбунала, збіраўся прывесці да таго ж немалы ўласны почат[58]. Сцягвалі ў Вільню войскі і Сапегі[59].

[53] Там жа, Zbiór z Muzeum Narodowego, nr 1220, s. 328-329 (універсал [К. А. Пацея] да шляхты Троцкага павета, красавік 1700 г.; пропускі для даты дакумента і даты выступлення).

[54] Там жа, AR, dz. V, nr 11913/I, s. 35-43 (Л. К. Пацей да К. С. Радзівіла, Ружанка, 12 сакавіка 1700 г.). У гэты ж час абмяркоўвалася скліканне берасцейскай шляхты супраць саксонцаў, але не ўсе ў павеце былі з гэтым згодныя: там жа, nr 13874/I, s. 29, 32 (У. Ю. Сапега да К. С. Радзівіла, 14 і 15 сакавіка 1700 г.).

[55] Апошні быў звязаны з канцлерам праз падканцлера Станіслава Антонія Шчуку. Падчас перадсоймавай кампаніі 1699 г. Радзівіл пераслаў каралеўскую інструкцыю і лісты да ўраднікаў Троцкага павета акурат Міхалу Шчуку, які, дзякуючы за давер, прасіў яго „jako communi patrono domku naszego" пра больш частыя і адказныя даручэнні: там жа, nr 15653, s. 1-2 (М. Шчука да К. С. Радзівіла, Вільня, 9 траўня 1699 г.). З коданскімі Сапегамі і Пацеямі Радзівіл быў звязаны суседскімі і прыяцельскімі сувязямі. Пра захады па скліканні троцкага паспалітага рушэння згадваў у лісце да канцлера 12 сакавіка Людвік Канстанцый Пацей: там жа, nr 11913/I, s. 43. Як казалася вышэй, яшчэ перад грамнічным соймікам абяцаў сваю падтрымку Радзівілу і троцкі падсудак Ян Станіслаў Бакей.

[56] Там жа, dz. II, nr 1883, s. 2 (навіны з Біржаў, 10 сакавіка 1700 г.); APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, s. 607 (тое самае).

[57] LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229.

[58] APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, s. 662 (навіны з-пад Рыгі, 28 сакавіка 1700 г.).

[59] AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 318-319 (Д. Рэха [да С. А. Шчукі?], Горадна, 17 красавіка 1700 г.): „Пяхота ідзе праз горад. Робяць выгляд, што на Ры-

Як канцлер, так і вялікі гетман у сярэдзіне сакавіка знаходзіліся ў сталіцы ВКЛ, дзе „ўвіхаліся вакол Галоўнага Трыбунала”[60]. Апошняе магло азначаць не толькі мабілізацыю прыхільнікаў, але і перамовы двух першых асоб Княства, якія распачаліся дзесьці ў гэты час ці крыху пазней. Умяшаўся ў справу і кароль, які ў пачатку красавіка накіраваў лісты да Казіміра Яна Сапегі, Міхала Казіміра Коцела, Грыгорыя Антонія Агінскага і Караля Станіслава Радзівіла з заклікам лімітаваць Скарбовы Трыбунал, які неўзабаве таксама мусіў сабрацца, не прыводзіць у выкананне яго дэкрэты першай кадэнцыі і адмовіцца ад склікання паспалітага рушэння на пачатак Галоўнага Трыбунала[61]. Паводле Крыштафа Неміровіча-Шчыта, гэты ліст пісаў канонік Крыштаф Белазор[62], фактычны прадстаўнік рэспубліканцаў пры двары, г.зн. ён з’явіўся ў выніку захадаў апошніх.

Урэшце Сапегі пайшлі на саступкі. У сярэдзіне красавіка было дасягнута пагадненне, згодна з якім маршалкам Галоўнага Трыбунала станавіўся Караль Станіслаў Радзівіл, а Скарбовы Трыбунал мусіў быць лімітаваны да восені[63]. Дамінік Міхал Слушка атрымаў ад Радзівіла некалькі тысяч талераў адступнога[64]. У Варшаве, пры двары, пра пагадненне стала вядома незадоўга да адкрыцця Трыбунала. 25 красавіка Радзівіла павіншаваў з „дырэктарствам” падканцлер Станіслаў Антоній Шчука[65], а назаўтра да яго напісаў Аўгуст II, які прамым тэкстам хадайнічаў за адміністратарамі каралеўскіх уладанняў,

гу, але, відаць, на Трыбунал у Вільню, бо ідуць паволі; у панядзелак 1000 [чалавек] прайшло, якія ў 5 мілях за Гораднам гэтую ноч начавалі, пазаўчора, учора таксама прайшлі. Пагаворваюць, што яны атрымалі загад з’явіцца 25-га дня гэтага месяца ў Вільні. Дзве тутэйшыя харугвы, якія арганізавалі прыхільнікі яго міласці пана [ваяводы] віленскага, г.зн. валашскія, — тыя павінны з нядзелі ў Вільню рушыць”.

60 APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, s. 605 (навіны з Варшавы, 19 сакавіка 1700 г.).

61 Biblioteka Książąt Czartoryskich w Krakowie (далей: BCz.), rkps. 194, nr 10, k. 61-62 (Аўгуст II да К. С. Радзівіла, Варшава, 6 красавіка 1700 г.); AGAD, APP, nr 163a, t. 31, s. 42-43 (А. Уласкевіч да С. А. Шчукі, Варшава, 5 красавіка 1700 г.).

62 AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 254 (К. Неміровіч-Шчыт да К. С. Радзівіла, Вільня, 8 чэрвеня 1700 г.).

63 Там жа, s. 292-293 (ліст Я. Шрэтара, Вільня, 18 красавіка 1700 г.).

64 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski* s. 74; L. Powidaj, *Wojna domowa Sapiehów z szlachtą litewską w ostatnich latach XVII i na początku XVIII wieku*, „Przegląd Polski”, 1872/1873, R. 7, t. 2, z. 4, s. 85.

65 AGAD, AR, dz. V, nr 15655, s. 140 (С. А. Шчука да К. С. Радзівіла, Варшава, 25 красавіка 1700 г.).

у першую чаргу — за сваім крэдыторам Берэндам Леманам[66]. Януш Вішнявецкі пісаў пазней, што Радзівіл учыніў няшчыра, заключыўшы таемна пагадненне і не паведаміўшы пра гэта сваім саюзнікам, якія з'язджаліся ў Вільню, у прыватнасці, ім, Вішнявецкім[67]. Увогуле на Трыбунал з'ехалася мноства шляхты і ўраднікаў, часта са шматлікім суправаджэннем. Прыбыла шляхта Наваградскага, Троцкага, Упіцкага, Вількамірскага, Ашмянскага, Гарадзенскага паветаў (хаця ў двух апошніх рэспубліканцы не мелі істотнай перавагі, а ў Вількамірскім гэта была апазіцыйная меншасць)[68]. Таксама ў сталіцу было ўведзена войска — каля 3 тыс. чалавек[69].

Такое ж уражанне — што іх выкарысталі, — магло скласціся і ў іншых лідараў рэспубліканцаў, калі справа стала відавочнай у дзень адкрыцця Трыбунала. А пакуль што, не ведаючы пра дасягнутыя дамоўленасці, рэспубліканцы напярэдадні адкрыцця самі пайшлі на перамовы з Сапегамі. Ініцыятыва іх зыходзіла ад падскарбія Бенядзікта Паўла Сапегі, які прапанаваў абмеркаваць сітуацыю, якая склалася, у прысутнасці віленскага біскупа Канстанцыя Казіміра Бжастоўскага. 25 красавіка прадстаўнікі рэспубліканцаў, мсціслаўскі харужы Марцыян Дамінік Валовіч і ашмянскі земскі пісар Стафан Ян Слізень, сустрэліся з падскарбіем[70]. Не паспелі гэтыя перамовы пачацца, як адбылося здарэнне, якое прывяло да іх прыпынення і наогул значна абвастрыла і так складаную сітуацыю ў Княстве.

У гэты дзень у Вільню прыбылі і князі Вішнявецкія, Януш і Міхал, якія найперш нанеслі візіт канцлеру Радзівілу. Выехаўшы затым ад яго, ад'ехаўшы крыху ад палаца і павярнуўшы на Дамініканскую, яны сутыкнуліся з картэжам Казіміра Яна Сапегі, які рухаўся насустрач у суправаджэнні сваіх слуг і жаўнераў. Паводле найбольш пашыранай версіі, сапежанцы пераблыталі коней Вішнявецкіх з коньмі, якімі звычайна ездзіў віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел, пачалі

66 BCz., rkps. 194, nr 13, k. 75 (Аўгуст II да К. С. Радзівіла, 27 красавіка 1700 г.).

67 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 74.

68 VUB RS, f. 7, sign. 15, 20-5974, l. 253-256.

69 LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229; [J. Oleszewski], *Abrys domowej nieszczęsliwości i wnętrznej niesnaski, wojny Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego pro informatione potomnym następującym czasom wyrażony anno 1721*, wyd. F. K. Kluczycki, Kraków 1899, s. 7.

70 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 76; L. Powidaj, *Wojna domowa*, s. 85, 87; E. Otwinowski, *Dzieje Polski pod panowaniem Augusta II od roku 1696-1728*, [wyd. A. Mułkowski], Kraków 1849, s. 25. Перамовы, верагодна, датычылі не толькі Галоўнага Трыбунала, але і розных прэтэнзій да Сапегаў, у тым ліку і дзейнасці Скарбовага Трыбунала.

цясніць іх картэж і адкрылі па ім агонь. У выніку абодва князі былі паранены. Міхалу куля пашкодзіла палец, а Януш атрымаў дзве кулі ў спіну, калі выходзіў з карэты, а таксама парэзаў рукі, вырываючы шпагу ў афіцэра, які апынуўся перад ім[71].

У гэтай сумятні ў гетмана, які выйшаў, каб спыніць зваду, выстраліў менскі абозны і павятовы ротмістр Себасцьян Цадроўскі. Куля прайшла міма, прабіўшы толькі збоку кунтуш і жупан. Да Цадроўскага падскочылі жаўнеры і слугі Сапегі, ударылі два разы шабляй па галаве, сцягнулі з каня і бязлітасна збілі абухамі. Сапега загадаў яго затрымаць і, нягледзячы на пазнейшыя просьбы дэпутатаў, так і не выдаў Трыбуналу[72]. Гетман лічыў, што гэта беспрэцэдэнтны выпадак, не агавораны ў заканадаўстве, які павінен разглядацца соймавым

[71] LVIA, SA, b. 216, l. 9-10v (маніфест Я. А. і М. С. Вішнявецкіх супраць К. Я. Сапегі і яго слуг Шчасновіча, Барткевіча, Памазскага, Хмары, Мацкевіча, Тшцінскага, Шых-Ахмета, Снарскага, Расцішэўскага, Антаневіча, Куровіча, Хамера, Нараёўскага, Бянькоўскага, Зянковіча, Уладычкі, Казлоўскага, Пяніцкага, Глушынскага, Місуны і іншых, складзены ў Галоўным Трыбунале ВКЛ 29 красавіка 1700 г.); BCz., rkps. 1167, k. 39-45 (тое самае, выпіс з кніг Галоўнага Трыбунала ВКЛ); Lietuvos nacionalinė Martyno Mažvydo biblioteka Rankraščių skyrius (далей: LNB RS), f. 130 b 728 l. 145-146 (ліст Я. А. і М. С. Вішнявецкіх да інаўроцлаўскага ваяводы [З. Ф. Галэцкага], Вільня, 1 траўня 1700 г., копія); AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 262-263 (ліст з Вільні, 1 траўня 1700 г.); APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, k. 701-702 (навіны з Вільні, 26 красавіка 1700 г.); BN, rkps. III 3097, k. 240-241 (навіны з Вільні, 22 траўня 1700 г.); LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229-229v; Towarzystwo Naukowe Płockie (далей: TNPł.), rkps. 110, k. 85v; S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 271; J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 74-75; *Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666-1721)*, wyd. przez J. Bartoszewicza, Warszawa 1862, s. 206; [J. Oleszewski], *Abrys domowej nieszczęśliwości*, s. 8. Выпадак згадваецца практычна ва ўсіх працах, прысвечаных грамадзянскай вайне ў ВКЛ, і біяграфіях удзельнікаў тых падзей.

[72] LVIA, SA, b. 388, l. 279-282v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ у справе Грыгорыя, Мікалая, Тамаша і Станіслава Цадроўскіх, а таксама Канстанцыі з Каманякаў, удавы Сабасцьяна Цадроўскага, з Казімірам Янам Сапегам, 17 снежня 1700 г.); там жа, b. 216, l. 44-44v (пратэстацыя менскіх дэпутатаў Яна Рдултоўскага і Яраша Мацкевіча супраць дзеянняў Казіміра Яна Сапегі, Юзафа Багуслава Слушкі, ротмістраў венгерскай пяхоты Караля Корсака і Заклікі, а таксама Ракатанскага і Тшцінскага, як непасрэдных выканаўцаў нападу на Себасцьяна Цадроўскага, складзена ў Галоўным Трыбунале ВКЛ 13 траўня 1700 г.); BN, rkps. III 3097, k. 241 (навіны з Вільні, 22 траўня 1700 г.); AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 263 (ліст з Вільні, 1 траўня 1700 г.); APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, k. 701-702 (навіны з Вільні, 26 красавіка 1700 г.); LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229-229v; VUB RS, f. 7, sign. 15, 20-5974, l. 252v; LVIA, SA, b. 216, l. 10; S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 271; *Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy*, s. 205-206; J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 75.

судом (т.зв. *emergentia nova*)[73]. Скончылася ўсё тым, што 10 траўня Цадроўскі памёр ад атрыманых ран[74].

Так выглядае агульная карціна пры супастаўленні розных крыніц. Увогуле ж версіі гэтага здарэння істотна разыходзяцца між сабой[75]. У сваім маніфесце, складзеным 29 красавіка, Вішнявецкія абвінавацілі Казіміра Яна Сапегу ў наўмысным нападзе на іх падчас вяртання дадому ад канцлера Радзівіла. Цікава, што ў працы Януша Вішнявецкага „Польская Іліяда" размова ідзе пра тое, што ад Радзівіла яны ехалі не дадому, а з візітам да вялікага гетмана, што ім нібыта параіў зрабіць канцлер, які перад гэтым дамовіўся пра ўсё з Сапегамі. Пра візіт да гетмана размова ідзе і ў лісце Вішнявецкіх да інаўроцлаўскага ваяводы Зыгмунта Францішка Галэцкага. У любым выпадку, паводле Вішнявецкіх, гэта было не сутыкненне картэжаў, а напад, учынены з палаца Сапегаў. Вялікі гетман нібыта нават асабіста страляў з пісталета ў акно іх карэты і параніў Міхала Вішнявецкага. Аднак у лісце Вішнявецкіх да Галэцкага замест гетмана фігуруе ўжо адзін з яго жаўнераў. Наогул, Вішнявецкія, паказваючы гэтую гісторыю, падаецца, моцна згушчалі фарбы. Паводле іх, напад быў помстай за тое, што яны трымаюць „лігу са шляхтай"[76]. Мемуарыст Францішак Шырма, які ў сакавіку гэтага года пакінуў службу Сапегам, лічыў, што вялікі гетман уз'еўся на Вішнявецкіх за тое, што канцлер Радзівіл, які хацеў стаць маршалкам, быў абраны дэпутатам пры іх падтрымцы на пінскім сойміку, тады як сам гетман хацеў бачыць маршалкам Слушку[77]. Падобным чынам тлумачацца падзеі і ў т.зв. хро-

[73] AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 263. Зрэшты, відавочна, Сапега не меў тут рацыі.

[74] S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 274; J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 74; LVIA, SA, b. 388, l. 280-280v; там жа, b. 216, l. 44v; LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229-229v.

[75] Прычым разыходжанні пачынаюцца ўжо з вызначэння месца падзей: называюцца вуліцы Троцкая, Нямецкая, Святаянская. Зыходзячы з таго, што сутыкненне адбылося каля кляштара дамініканцаў і палаца Сапегаў (сёння не існуе, знаходзіўся насупраць кляштара), можна рэканструяваць дарогу Вішнявецкіх наступным чынам: выехаўшы ад палаца Радзівілаў на Віленскай вуліцы (т.зв. Малы палац), іх картэж даехаў да скрыжавання чатырох вуліц — Віленскай, Троцкай, Нямецкай і Дамініканскай — і павярнуў на апошнюю. У гэтым месцы і адбылося сутыкненне.

[76] J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 74; LVIA, SA, b. 216, l. 9-10v (маніфест Я. А. і М. С. Вішнявецкіх супраць К. Я. Сапегі і яго слуг, складзены ў Галоўным Трыбунале ВКЛ 29 красавіка 1700 г.); LNB RS, f. 130, b. 728, l. 145 (ліст Я. А. і М. С. Вішнявецкіх [да З. Ф. Галэцкага], Вільня, 1 траўня 1700 г.).

[77] TNPł., rkps. 110, k. 85.

ніцы Эразма Атвіноўскага, аднак гэта няпэўнае сведчанне, бо аўтар не меў адносін да ВКЛ[78]. Цалкам магчыма, што гэта альбо здагадкі, альбо тлумачэнне праціўнікаў Сапегаў. Сумнеўна, што Сапегі сталі б нападаць на асноўных саюзнікаў Радзівіла і ставіць пад пагрозу дасягнутыя пагадненні.

Наогул, у крыніцах пераважае версія пра блытаніну з коньмі Коцела. Яна добра вядомая ў значнай ступені дзякуючы ўспамінам Крыштафа Завішы. Праўда, сам ён адсутнічаў у гэты час у ВКЛ і не быў сведкам таго, што адбылося. Замах Цадроўскага і напад на Вішнявецкіх у яго — наогул дзве розныя падзеі. Выказваючы стаўленне да апошняй, менскі стараста піша: „Мне здаецца, што гэта вялікая і дурная памылка"[79]. Таксама Ян Аляшэўскі пісаў, што Вішнявецкія з'ехаліся з Сапегам, які загадаў па іх страляць, прыняўшы іх коней за коней Коцела[80]. Найбольш блізкім да месца падзей вядомым сведкам быў Станіслаў Незабітоўскі, які знаходзіўся ў палацы Радзівіла, калі яго пакідалі Вішнявецкія. Прычынай сутыкнення ён называе тое, што суправаджэнне Сапегі прыняло картэж Вішнявецкіх за кавалькаду Агінскага і Коцела[81]. Назаўтра версія пра блытаніну з коньмі Коцела з'яўляецца ў віленскіх навінах. Але прычынай канфлікту тут называецца стральба Цадроўскага і дзясятка з нечым яго спадарожнікаў па карэце гетмана[82]. Крыху інакш выкладзены падзеі ў ананімнай хроніцы канфлікту, якая захоўваецца ў Бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук: ахова Сапегі, памылкова зразумеўшы, што ездзе Коцел, пачала цясніць слуг Вішнявецкіх, і ў гэтай сутычцы Цадроўскі, які быў сярод тых, хто суправаджаў князёў, выстраліў гетману ў грудзі. Але слуга набіў яго пісталеты паперай, таму выстралам ён толькі парваў гетману адзенне на грудзях, але не параніў. Пасля гэтага сапежанцы адкрылі агонь па Вішнявецкіх[83]. Цікава, што сам Казімір Ян Сапега сцвярджаў, што па ім стралялі двойчы: адзін раз — у карэце, а другі — калі ён ішоў у палац[84]. Зразумець, што маецца на ўвазе, можна з наступных звестак. 22 траўня ў навінах зноў з'яўляецца версія з коньмі: на гэты раз прычынай канфлікту называецца стральба з боку паспалі-

78 E. Otwinowski, *Dzieje Polski*, s. 25.
79 *Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy*, s. 205-206.
80 [J. Oleszewski], *Abrys domowej nieszczęsliwości*, s. 8.
81 S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 271.
82 APT, kat. II, dz. XIII, nr 35, k. 701-702 (навіны з Вільні, 26 красавіка 1700 г.).
83 LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229-229v.
84 AGAD, Archiwum Zamojskich (далей: AZ), nr 3055, s. 110 (маніфест з'езда шляхты ВКЛ, Вільня, 27 красавіка 1700 г.).

тага рушэння, Цадроўскі ж робіць замах на гетмана, калі ўжо ўсё высветлілася[85]. Ёсць і яшчэ адно сведчанне, вартае ўвагі, якое паходзіць з ананімнага апісання падзей 25-26 красавіка, што захавалася ў паперах Станіслава Антонія Шчукі. Яго аўтар хаця і не займае бесстароннюю пазіцыю (адмоўна ставіцца да рэспубліканцаў), але складзенае ім апісанне вылучаецца падрабязнасцю і наяўнасцю звестак, невядомых з іншых крыніц. Паводле яго, перад Вішнявецкімі ехаў верхам, таксама ў атачэнні слуг, полацкі кашталян Міхал Казімір Пац, і адзін з яго слуг, будучы нападпітку, выстраліў па карэце гетмана. Палічыўшы, што гэта ўсё адна кавалькада, ахова Сапегаў пачала страляць па карэце Вішнявецкіх, не высвятляючы, хто там едзе[86]. Такое тлумачэнне выглядае даволі праўдападобна, хаця з усёй упэўненасцю сказаць, хто выстраліў першы, сёння складана.

Пасля ўжо, разабраўшыся, хто перад ім, Сапега адвёў параненых князёў да сябе ў палац і прапанаваў першую дапамогу. Аднак тыя адмовіліся і пагадзіліся прыняць яе толькі ад сына гетмана, канюшага Міхала Францішка Сапегі, як „галантнага кавалера”, і ў выніку той забраў іх да сябе[87].

Назаўтра, 26 красавіка, адбылася рэасумпцыя Трыбунала. Сапегі акружылі замак войскамі, таму рэспубліканцы на чале з жамойцкім старастам Агінскім і віцебскім кашталянам Коцелам палічылі за лепшае туды не з’яўляцца. Замест гэтага яны склікалі шляхту на з’езд у кляштары францішканцаў і пераконвалі далучацца да іх таксама дэпутатаў. Узнікла пагроза, што збярэцца не адзін, а два альтэрнатыўныя Трыбуналы. Аднак Караль Станіслаў Радзівіл дэманстратыўна рушыў на замак, туды ж прыбыў і віленскі біскуп Бжастоўскі. За Радзівілам пайшлі і дэпутаты-рэспубліканцы. Прыбыла таксама наваградская шляхта. Станіслаў Незабітоўскі, які выконваў абавязкі наваградскага павятовага харужага, з раніцы наведаў Сапегаў і Радзівіла, якія вырашылі, што шляхта прыбудзе на адкрыццё Трыбунала не пад павятовай харугвай, г.зн. не як паспалітае рушэнне[88].

85 BN, rkps. III 3097, k. 240-241 (навіны з Вільні, 22 траўня 1700 г.).

86 AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 262-263 (ліст з Вільні, 1 траўня 1700 г.).

87 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 75; LNB RS, f. 130, b. 728, l. 145 (ліст Я. А. і М. С. Вішнявецкіх [да З. Ф. Галэцкага], Вільня, 1 траўня 1700 г.); LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229-229v; [J. Oleszewski], *Abrys domowej nieszczęśliwości*, s. 8.

88 S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 271; AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 260-262 (ліст з Вільні, 1 траўня 1700 г.); там жа, AR, dz. VI, nr II-79, s. 38; LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229v. У апошняй крыніцы месцам пасяджэнняў рэспубліканскага з’езду называецца палац Агінскага на Нямецкай вуліцы недалёка ад кляшта-

Пасля праверкі законнасці абрання ў гэты дзень склалі прысягу 37 дэпутатаў[89], яшчэ пяцёра, відаць, дадаліся потым. Як рэспубліканскія, так і сапежанскія дэпутаты з раздвоенага гарадзенскага сойміка былі адхілены, а з мазырскіх былі прызнаны сапежанцы. Акрамя таго, не былі зацверджаны ўпіцкія дэпутаты[90]. Гэта зрушвала баланс сіл у бок сапежанцаў. Перавага рэспубліканцаў калі і захоўвалася, то складала ўсяго 1-2 дэпутаты, хаця магчыма, што размова ішла пра парытэтнае прадстаўніцтва. Верагодна, усё гэта таксама было часткай папярэдніх дамоўленасцей. Праўда, полацкі ваявода Слушка не прымаў удзелу ў пасяджэннях[91], але ўсё адно ў выпадку гэтага Трыбунала можна казаць пра прыблізны баланс інтарэсаў. Пры гэтым ролю арбітра ўдала забяспечыў сабе Радзівіл. Маршалкам ён быў абраны адзінагалосна. Павіншаваць яго з абраннем прыйшла і шляхта, прысутная на рэспубліканскім з’ездзе[92]. Як занатаваў аўтар ананімнай хронікі, абодва бакі засталіся задаволеныя яго асобай[93].

На рэспубліканскім з’ездзе ў гэты дзень, пасяджэннямі якога кіраваў віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел, быў прыняты маніфест супраць Сапегаў і польнага гетмана Слушкі. Яны абвінавачваліся

ра францішканцаў. Але цяжка сказаць, які будынак маецца на ўвазе. У 1690 г. у гэтым раёне вядомыя былы палац канцлера Марцыяна Аляксандра Агінскага (на той час ужо належаў Пацеям) на Нямецкай вуліцы і камяніца Агінскага, верагодна, падстолія ВКЛ Лявона Казіміра, на Троцкай вуліцы: *Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo wileńskie 1690 r.*, oprac. A. Rachuba, Warszawa 1989, s. 68, 70.

89 AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 261.

90 *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 37.

91 Там жа. Супраць зацвярджэння дэпутацкіх паўнамоцтваў Слушкі выступалі Цеханавецкія, сыны абознага ВКЛ Альбрэхта Канстанцыя Цеханавецкага, якія прэзентавалі атрыманую ім баніцыю, але той задаволіў іх фінансавыя прэтэнзіі і закрыў гэта пытанне: A. Rachuba, *Słuszka Dominik Michał*, „Polski Słownik Biograficzny”, Warszawa — Kraków 1999, t. XXXIX, s. 142.

92 AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 261-262. На адкрыццё Трыбунала сабралася і шмат сенатараў: акрамя канцлера Радзівіла і віленскага біскупа Бжастоўскага, прысутнічалі таксама смаленскі біскуп Яўстахій Катовіч, ваяводы віленскі Казімір Ян Сапега, полацкі Дамінік Міхал Слушка, наваградскі Стафан Тызенгаўз, берасцейскі Стафан Курч, мсціслаўскі Міхал Даўмонт-Сесіцкі, жамойцкі староста Грыгорый Антоній Агінскі, кашталяны віленскі Юзаф Багуслаў Слушка, троцкі Марцін Міхал Крышпін-Кіршэнштэйн, полацкі Міхал Казімір Пац, наваградскі Стафан Яўстахій Александровіч, віцебскі Міхал Казімір Коцел, смаленскі Крыштаф Антоній Храпавіцкі, вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега і надворны маршалак Януш Антоній Вішнявецкі (апошняга прынеслі на насілках).

93 LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229v. У якасці маршалка духоўнага кола згадваюцца дзве асобы — Канстанцый Война-Ясянецкі і Ян Казімір Масальскі: *Depu-*

ў нападзе на Вішнявецкіх і Цадроўскага, а таксама ў арганізацыі дзейнасці Скарбовага Трыбунала і затрыманні Кіяноўскага; прыгадалі ім і больш старыя справы (расстрэл Багуслава Бакея і Караля Белазора, напад на Лявона Казіміра Агінскага). Незадаволенасць рэспубліканцаў выклікала і выкарыстанне войска для аховы замка падчас адкрыцця пасяджэнняў. Згадваўся і выпадак з упіцкім старастам Геранімам Пузынам, якога жаўнеры спынілі на Мураваным мосце (дзе таксама была пастаўлена ахова), ссадзілі з каня пікамі і зняславілі. Маніфест падпісалі чацвёра сенатараў (віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел, троцкі кашталян Марцін Крышпін-Кіршэнштэйн, полацкі кашталян Міхал Казімір Пац і жамойцкі стараста Грыгорый Антоній Агінскі), двое цэнтральных ураднікаў (надворны падскарбі Мікалай Францішак Агінскі і падстолі Казімір Лявон Агінскі), ашмянская, вількамірская, троцкая, гарадзенская і ўпіцкая шляхта, якая прыбыла паспалітым рушэннем, і яшчэ асобна шасцёра павятовых ураднікаў (усяго — 335 чалавек)[94]. У з’ездзе не брала ўдзел наваградская шляхта, а з троцкай падпісаліся толькі дзевяць чалавек і яшчэ двое ўраднікаў асобна. З’езд працягваўся і ў наступныя дні, хаця і з меншай коль-

*taci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 37, 39. Падскарбіем гэтага Трыбунала быў Ян Станіслаў Бакей: НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 50, арк. 1160. Пісарам віленскай кадэнцыі, як звычайна, быў віленскі земскі пісар, г.зн. Міхал Кошчыц.

94 A. Rachuba, *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569-1763*, Warszawa 2002, s. 323; VUB RS, f. 7, sign. 15, 20-5974, l. 252-256 (маніфест рэспубліканскага з’езда шляхты, 26 красавіка 1700 г.). Акрамя пералічаных асоб, подпісы пад дакументам паставілі браслаўскі маршалак Казімір Уладзіслаў Бяганскі, троцкі харужы Казімір Пацей, лідскі падкаморы Уладзіслаў Нарбут, жамойцкі харужы Казімір Заранак, мсціслаўскі харужы Марцыян Валовіч, троцкі земскі суддзя Матэвуш Ромер, а таксама прадстаўнікі шляхты Ашмянскага павета — 113 асоб, у тым ліку ашмянскія маршалак Крыштаф Дэспат-Зяновіч, земскі пісар Стафан Ян Слізень, канюшы Людвік Якуб Хамінскі (павятовы ротмістр), чашнік Браніслаў Міхал Францкевіч-Радзымінскі (павятовы ротмістр), скарбнік Міхал Юрый Козел (павятовы ротмістр), наваградскі лоўчы Андрэй Міхал Юрага (паручнік адной з павятовых харугваў), Францішак Шкленнік (таксама паручнік другой ашмянскай харугвы), Тэадор Францкевіч-Радзымінскі (паручнік трэцяй харугвы), полацкі лоўчы Антоній Слізень, жамойцкі крайчы Багуслаў Лявон Блусь, ашмянскі каморнік Стафан Мацкевіч, пінскі падстолі Караль Антоній Вансовіч, ковенскі стражнік Ян Казімір Радзевіч, оўруцкі скарбнік Міхал Сегень, інфлянцкі падстолі Станіслаў Авярковіч, ломжынскі чашнік Уладзіслаў Коцел; Вількамірскага павета — 42 асобы на чале з мясцовым падкаморычам Станіславам Крыштафам Белазорам, аднак пераважна дробная шляхта (з павятовых ураднікаў — толькі падчашы Крысціян Феліцыян Сташкевіч); Троцкага павета — 9 асоб без урадаў; Гарадзенскага павета — 103 асобы,

касцю ўдзельнікаў, бо большасць шляхты раз’ехалася[95], і скончыўся, верагодна, дзесьці ў пачатку траўня.

Сапегі таксама ініцыявалі з’езд шляхты ВКЛ, на што ўказвае прэамбула яго маніфеста, прынятага 27 красавіка, пад якім, аднак, стаяць подпісы толькі саміх Сапегаў (вялікага гетмана Казіміра Яна і падскарбія Бенядзікта Паўла) і Слушкаў (польнага гетмана і віленскага кашталяна Юзафа Багуслава і полацкага ваяводы Дамініка Міхала). Рэспубліканцы ў ім былі абвінавачаны ў нявыплаце заробку войску, самавольным выбіранні падаткаў, незаконным скліканні соймікаў, паспалітага рушэння, стварэнні расколу ў ВКЛ (асабліва вострыя пярэчанні выклікала выкарыстанне імі назвы „Рэч Паспалітая”), а таксама ў замаху на жыццё вялікага гетмана. Падпісанты маніфеста абвясцілі пра заключэнне саюзу для сумеснай абароны ад ворагаў[96].

Пасля гэтых заяў у канцы красавіка і пачатку траўня былі яшчэ спробы вырашыць супярэчнасці праз перамовы[97]. Рэспубліканцы хацелі адкласці Скарбовы Трыбунал да наступнага сойма, каб той вырашыў пытанне законнасці яго склікання, Сапегі ж пагаджаліся толькі на лімітацыю. Паводле Коцела, з-за гэтых рознагалоссяў пагаднення дасягнуць не ўдалося[98]. Вішнявецкіх з Сапегамі ў гэты час спраба-

у тым ліку павятовыя маршалак Ян Масальскі, войскі Станіслаў Рукевіч (інстыгатар ВКЛ), харужы і падстараста Грыгорый Юзаф Катовіч, падчашы і гродскі суддзя Ігнацый Рукевіч, скарбнік і гродскі пісар Ян Казімір Тымінскі, гродскі рэгент Станіслаў Малышчынскі, радунскі гараднічы Станіслаў Парэй-Грушчынскі, піўнічы ВКЛ Ян Міхал Шылянскі, смаленскі скарбнік Станіслаў Сапоцька, полацкі падстолі Міхал Зувальт (Зывульт), крайчы Ян Геранім Казімір Паневіч (таксама як павятовы скарбовы суддзя), Якуб Палітальскі (як павятовы скарбовы суддзя), закрочымскі скарбнік Станіслаў Браткоўскі, старадубскі гродскі пісар Казімір Птак; Упіцкага павета — 56 асоб, у тым ліку павятовыя судовы стараста Геранім Дамінік Пузына, падсудак Геранім Пузына, земскі пісар Уладзіслаў Пузына, падстолі Караль Белазор, скарбнік Уладзіслаў Корвін-Крукоўскі, струкчашы Міхал Галяеўскі, „дэкрэтовы рэгент” Міхал Гягедскі, падчашычы Аляксандр і Уладзіслаў Пузыны, наваградскі войскі Мікалай Карп, старадубскі падстолі Казімір Пянткоўскі, ашмянскі падстолі Яраш Крыштаф Пузына, менскія кашталянічы Юзаф і Антоній Пузыны, пінскі стольнік Аляксандр Пукеж-Пухоўскі і інш.

95 AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 261.

96 Там жа, AZ, nr 3055, s. 108-111 (маніфест з’езда шляхты ВКЛ, Вільня, 27 красавіка 1700 г.).

97 S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 272; AGAD, APP, nr 163a, t. 29, 358-360 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 9 траўня 1700 г.). У Незабітоўскага згадваецца спроба перамоў у кляштары францішканцаў 30 красавіка — відаць, Сапегі прысылалі да рэспубліканцаў сваіх прадстаўнікоў.

98 AGAD, AR, dz. V, nr 6970, s. 1-2 (М. К. Коцел да Ю. Б. Слушкі, Ганута, 5 чэр-

ваў памірыць віленскі біскуп Бжастоўскі, але таксама безвынікова[99]. Пакрыўджаныя князі далучыліся да рэспубліканскіх нарадаў. У ходзе іх правадыры групоўкі разам з павятовымі лідарамі дамовіліся, што збяруць паспалітае рушэнне супраць Сапегаў, а Вішнявецкія паабяцалі выставіць 3 тыс. войска і выдаткаваць 30 тыс. злотых для схілення на свой бок „некаторых" асоб (верагодна, размова ішла пра подкуп адказных за скліканне паспалітага рушэння па паветах)[100]. У пачатку траўня лідары рэспубліканцаў, а таксама іншыя сенатары пачалі пакідаць Вільню ў сувязі з набліжэннем рады сената. 2 траўня з Вільні выехаў Агінскі[101], прыхапіўшы з сабой акрываўлены жупан Януша Вішнявецкага, які прэзентаваў перад сенатам[102]. 3 траўня свае асноўныя сілы вырашыў вывесці з Вільні вялікі гетман (пяхота і драгуны рушылі да Біржаў), а назаўтра сталіцу пакінуў Коцел[103]. У хуткім часе Сапегам стала вядома, што супраць іх рыхтуецца выступленне. Адбылося гэта па віне маці Вішнявецкіх, Ганны Дольскай, якая спачатку збіралася помсціць за сыноў, але потым вярнулася да свайго ранейшага плана выйсці замуж за Казіміра Яна Сапегу і выдала намеры яго праціўнікаў маці гетмана Ганне Барбары[104].

Таксама ў Варшаву выехаў Міхал Вішнявецкі — шукаць заступніцтва ў караля і сенатараў. Вішнявецкія мелі шырокія сувязі ў Польшчы і маглі разлічваць там на спачуванне і падтрымку. Так, за іх заступіліся вялікі каронны гетман Станіслаў Ян Ябланоўскі (брат іх бабулі) і, прынамсі на выгляд, прымас Міхал Радзяёўскі. Затым, аднак, у Варшаву прыехаў літоўскі польны гетман Слушка, які схіліў Ябланоўскага і прымаса да пасрэдніцтва. Перамовы затым працягваліся ў Львове, куды прыбыў каронны вялікі гетман, і Вішнявецкія пачалі ўжо схіляцца да пагаднення, калі ў ВКЛ пачаліся зборы паспалітага рушэння і з'явілася магчымасць звесці рахункі з Сапегамі[105].

веня 1700 г.); там жа, APP, nr 163a, t. 29, s. 358-360 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 9 траўня 1700 г.). Са слоў Неміровіча-Шчыта можна зразумець, што Сапегі пагаджаліся лімітаваць яго да сойма.

99 LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229v-230.

100 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 77; LMAVB RS, f. 17, b. 177, l. 229v. Верагодна, з гэтымі намерамі варта звязваць і ліст Януша Антонія Вішнявецкага да шляхты, разасланы з Вільні 20 траўня, дзе ён скардзіўся на Сапегаў і заклікаў да помсты: НГАБ, ф. 694, воп. 1, спр. 313, арк. 1.

101 S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 273.

102 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski...*, s. 77.

103 S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 273.

104 J. A. Wiśniowiecki, *Ilias Polski*, s. 77.

105 Там жа, s. 77-78.

10 траўня пачалася другая кадэнцыя Скарбовага Трыбунала ВКЛ, але ўжо 17 траўня яна была лімітаваная да 20 лістапада гэтага ж года. У акце лімітацыі было патлумачана, што гэта адбываецца ў сувязі з неабходнасцю ад'езду сенатараў, асабліва абодвух гетманаў, на раду сената ў Варшаве, дзе будзе абмяркоўвацца „знешняя небяспека" (на самой справе — удзел у вайне са Швецыяй). У сапраўднасці ўсё гэта было вынікам усё тых жа дамоўленасцей з Радзівіламі і дваром. Тут жа можна меркаваць, што было яшчэ паабяцана Сапегам за саступкі. Пасля роспуску ў 1698 годзе большай часткі войска ВКЛ і падпісання ў 1699 годзе міру з Турцыяй стаяла пытанне роспуску і яго рэшты. Сапегі былі ў гэтым незацікаўленыя, а сойм 1699 года звязваў гэта пытанне з выплатай даўгоў па заробку. Тут жа, у акце лімітацыі, размова ішла пра тое, што войска пакуль распушчана не будзе. Акрамя даўгоў, гэта абгрунтоўвалася просьбай караля затрымаць яго на службе з-за той самай „знешняй пагрозы" — г.зн. для ўдзелу ў баявых дзеяннях у Інфлянтах[106].

Хаця Скарбовы Трыбунал быў лімітаваны, але адменены ён не быў. Яшчэ ў пачатку чэрвеня супраць яго ў Галоўным Трыбунале дэпутаты-рэспубліканцы ініцыявалі пратэстацыю, але, мабыць, не назбіралі для яе дастаткова галасоў[107]. Сітуацыя, якая склалася вакол Скарбовага Трыбунала, па-ранейшаму адмоўна ўплывала на агульную палітычную сітуацыю ў Княстве і выступала як адзін з фактараў яе дэстабілізацыі.

Матэрыялы судаводства дазваляюць прасачыць, як уплывалі дамоўленасці і расклад палітычных сіл у Галоўным Трыбунале на яго рашэнні. Віленская кадэнцыя Галоўнага Трыбунала працягвалася да 11 верасня 1700 года[108]. Найбольшую цікавасць выклікаюць рашэнні, прынятыя на ёй па справах, дзе адказчыкамі ці ініцыятарамі выступалі Сапегі.

Так, 6 траўня ў Трыбунале быў адноўлены разгляд спрэчкі Кацярыны Заранак-Гарбоўскай з канюшым ВКЛ Міхалам Францішкам Са-

[106] LVIA, SA, b. 4715, l. 1341-1344 (акт лімітацыі другой кадэнцыі Скарбовага Трыбунала, Вільня, 15 траўня 1700 г.); НГАБ, ф. 1710, воп. 1, спр. 4, арк. 810-813 (тое самае, копія); VUB RS, f. 7, sign. 32/13909, l. 109 (тое самае, толькі канцоўка). Акт датаваны 15 траўня заднім числом, сама лімітацыя адбылася 17 траўня: S. Niezabitowski, *Dzienniki*, s. 275; AGAD, AR, dz. V, nr 13847/II, s. 217 (К. Я. Сапега да Я. Е. Пшэбяндоўскага, Вільня, 16 траўня 1700 г.).

[107] AGAD, APP, nr 163a, t. 29, s. 251-254 (К. Неміровіч-Шчыт да С. А. Шчукі, Вільня, 8 чэрвеня 1700 г.).

[108] *Deputaci Trybunału Głównego... (1697-1794)*, s. 36.

пегам за права валодання маёнткам Купіцк (Купіск) у Наваградскім павеце. Трыбунал 1698 года прызнаў закладное права на яго Заранак-Гарбоўскай. На наступным Трыбунале Сапега спрабаваў абскардзіць гэтае рашэнне, а Заранак-Гарбоўская — зацвердзіць, але да канца справа тады разгледжана не была і 28 снежня 1699 года яе адклалі на наступны год. Цяпер жа Сапега спрабаваў пацягнуць час, але 17 чэрвеня, калі справа чарговы раз была вынесена на разгляд, ад яго ніхто не з'явіўся і ў выніку завочна было прынята рашэнне прысудзіць яго да інфаміі, а сума, якую належала спагнаць з ягоных уладанняў, склала 16 120 злотых[109].

5 чэрвеня пачала разглядацца справа віцебскага кашталяна Міхала Казіміра Коцела з Казімірам Янам Сапегам, які завінаваціўся 200 злотых яго бацьку, ашмянскаму маршалку Самуэлю Гераніму Коцелу. Бакі спрабавалі дамовіцца, але безвынікова, і 7 жніўня гэтая справа была адкладзена на менскую кадэнцыю[110].

16 чэрвеня пачала разглядацца справа дарсунішкаўскага старасты Багуслава Агінскага з Казімірам Янам Сапегам і ротмістрам Вацлавам Кучэўскім. Спрэчка датычыла маёнтка Кераголішкі ў Троцкім павеце. Папярэдні Трыбунал 10 снежня 1699 года прызнаў, што ён быў захоплены Сапегам, які лічыў сябе спадчынным уладальнікам (Кучэўскі праходзіў як непасрэдны выканаўца, яму ж гэты маёнтак быў закладзены). 15 сакавіка 1700 года троцкі войскі і падваявода Міхал Барадзіч у суправаджэнні шляхты на чале з павятовым ротмістрам, троцкім лоўчым Тамашом Паўловічам (які дзейнічаў у адпаведнасці з універсалам троцкага харужага Казіміра Пацея) прыбылі ў Кераголішкі, каб прывесці ў выкананне дадзенае рашэнне і перадаць маёнтак Агінскаму. Гэтага спрабаваў не дапусціць Лявон Стэмпкоўскі, слуга Сапегі. Ён перадаў цыдулку з просьбай не забіраць маёнтак, аднак гэта не падзейнічала і рашэнне было прыведзена ў выкананне. Тым не менш, ужо 20 сакавіка Сапега наслаў на Кераголішкі жаўнераў, якія ізноў занялі маёнтак. Гэтая справа некалькі разоў адкладалася і 28 жніўня была перанесена на менскую кадэнцыю[111].

Некалькі разоў адкладаліся і былі перанесены на наступную кадэнцыю дзве справы Самуэля Казіміра Карэйвы з падскарбіем ВКЛ

[109] LVIA, SA, b. 386, l. 1684-1687v. Пра гэтую справу гл.: Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.: судовая расправа над Сапегамі*, „Arche", 2016, № 3, с. 119; разгляд яе на Трыбунале 1699 г.: LVIA, SA, b. 383, l. 1774-1775v.

[110] LVIA, SA, b. 387, l. 1040-1041v.

[111] Там жа, b. 386, l. 1932-1935v.

і алькеніцкім старастам Бенядзіктам Паўлам Сапегам, а таксама аканомам яго ўладанняў Станіславам Цалаванскім. Яны абвінавачваліся ў пакрыванні алькеніцкага падстарасты і падданых, вінаватых у збіцці сялян Карэйвы і захопе яго зямель (на карысць апошняга было два рашэнні Трыбунала 1698 года)[112].

Таксама ў гэтым Трыбунале браты Самуэль і Генрык Дамаслаўскія, якія трымалі „нойбургскія" ўладанні Дакудаў і Сялец у Лідскім павеце, судзіліся са стольнікам ВКЛ Юрыем Сапегам. Апошні 24 чэрвеня гэтага года паспрабаваў заняць гэтыя маёнткі і размясціў там жаўнераў, якія не дазвалялі трымальнікам кіраваць гаспадаркай (абстрэльвалі двор, не давалі нікому выйсці і г.д.). Паколькі ад стольніка на суд ніхто не з'явіўся, 24 ліпеня Трыбунал прысудзіў іх вяртанне Дамаслаўскім; на іх жа карысць з уладанняў Сапегі належала спагнаць 54 тыс. злотых, а сам ён атрымаў баніцыю[113].

Адна з самых складаных спраў, якія разглядаў гэты Трыбунал, датычыла кантракту на арэнду мытні з сярэдзіны 1697 да сярэдзіны 1698 года, які заключылі са скарбам ВКЛ ломжынскі лоўчы Фартунат Замойскі і віленскі райца Ян Казімір Яхімовіч. З-за таго, што скарб вызваляў ад мыта вельмі шмат асоб і дапускаў іншыя парушэнні кантракта, Замойскі ў пачатку 1698 года вырашыў адмовіцца ад арэнды. Новы кантракт замест яго быў падпісаны са скарбным ВКЛ Янам Шрэтарам. Аднак у студзені 1698 года Шрэтар пераняў арэнду мытні не толькі па Замойскім, але і адабраў яе ў Яхімовіча (унесеная сума кампенсавана ім не была). Замойскі з Яхімовічам у тым жа годзе звярнуліся ў Галоўны Трыбунал. Цікава, што абвінавачвалі яны толькі Яна Шрэтара — у тым, што ён нібыта падкупіў Уладзіслава Рора, які загадваў скарбовай канцылярыяй, і той выдаваў распараджэнні, якія парушалі ўмовы кантракта (маўляў, Шрэтар, „быўшы перад тым адміністратарам гэтага ж мыта ВКЛ і нажыўшы з яго сабе вялікае багацце", не быў зацікаўлены, каб яго арандаваў нехта іншы). Трыбунал у 1698 годзе прысудзіў спагнаць са Шрэтара 400 тыс. злотых, а сам скарбны атрымаў інфамію (дэкрэты ад 18 чэрвеня 1698 года і 7 красавіка 1699 года — у другім выпадку разглядалася справа аб супраціўленні правасуддзю пасля таго як Замойскі з Яхімовічам не змаглі дабіцца спагнання). Не атрымаўшы кампенсацыі, Замойскі саступіў

[112] Там жа, l. 2694-2695v, 2696-2697v.

[113] Там жа, b. 216, l. 130-131v (скарга Дамаслаўскіх, 1 ліпеня 1700 г.); там жа, b. 387, l. 418-421v (дэкрэт); там жа, b. 216, l. 215-216v (паўторная скарга Дамаслаўскіх, 30 ліпеня 1700 г.).

свае прэтэнзіі Яхімовічу, „які меў большую крыўду", а той — ашмянскаму падстолію Міхалу Багуславу Коцелу (дзесьці ў гэты час Замойскі і памёр). Коцел у 1699 годзе зноў звярнуўся ў Трыбунал, які даў Шрэтару магчымасць апраўдацца, але там гэтая справа скончана не была і яе адклалі на наступны год. 11 траўня 1700 года разгляд яе быў працягнуты (істцом разам з Міхалам Багуславам Коцелам ужо выступіў і віцебскі кашталян Міхал Казімір Коцел), а 16 жніўня гэтага ж года Трыбунал вынес рашэнне: Шрэтар павінен быў выканаць прысягу, што не ўступаў у змову з Рорам і ніякіх перашкод Замойскаму і Яхімовічу не чыніў. 18 жніўня прысягу ён выканаў і быў вызвалены ад адказнасці. Галоўным жа адказчыкам у справе імавернага парушэння кантракту быў прызнаны падскарбі Сапега, і Коцелы, калі хацелі, маглі з ім судзіцца. Сапега, каб задаволіць іх прэтэнзіі, у тым жа годзе выплаціў Коцелам 85 тыс. злотых „самога капіталу", але не хацеў пакрыць страты і выдаткі на 90 тыс. злотых. Коцелы вырашылі спагнаць іх у судовым парадку і 26 жніўня, калі кадэнцыя ўжо заканчвалася, занеслі на Сапегу скаргу ў Трыбунал[114].

Акрамя таго, 23 чэрвеня была вынесена на разгляд іншая справа, якая датычыла арэнды мытні. Разглядалася яна па сустрэчных позвах Бенядзікта Паўла Сапегі і Міхала Казіміра Коцела. Апошні ўзяў яе ў арэнду на год з 1 ліпеня 1698 года і, як сцвярджаў падскарбі, не разлічыўся па абавязацельствах. Коцел, наадварот, сцвярджаў, што ўсё выплаціў, але не атрымаў у скарбе разліку. 25 жніўня справу адклалі ў сувязі з заканчэннем кадэнцыі[115].

13 жніўня разглядалася і была адкладзена справа Казіміра Яна Сапегі і шаўдаўскага цівуна Казіміра Уняхоўскага з прадстаўнікамі некалькіх родаў дробнай жамойцкай шляхты (Люцікамі, Віткевічамі, Дрансутовічамі і іншымі), а таксама з ураднікамі жамойцкага земскага суда (суддзёй Тэадорам Стафанам Білевічам, падсудкам Янам Канстанцыем Адахоўскім і пісарам Юзафам Юрыем (Юрыем Юзафам) Хшанстоўскім). Яшчэ на мінулым Трыбунале 28 снежня 1699 года разглядалася справа Сапегі і Уняхоўскага з прадстаўнікамі гэтых родаў наконт захопу засценка Вайдатупіс, але яна была адасланая ў жамойцкі земскі суд. Там адказчыкі, не чакаючы яе разгляду, склалі новую скаргу і 12 чэрвеня 1700 года выйгралі па ёй справу ў вялікага гетмана і шаўдаўскага цівуна. Апошнія сцвярджалі, што гэта адбы-

[114] Там жа, b. 383, l. 1462-1463v; там жа, b. 386, l. 2326-2353v; там жа, b. 216, l. 283-288v (скарга М. Б. і М. К. Коцелаў, 26 жніўня 1700 г.).

[115] Там жа, b. 387, l. 1822-1825v.

лася без падачы позвы. Тым не менш, Уняхоўскі, даведаўшыся, што яна будзе разглядацца, папярэдзіў, што мае ў гэты час больш важную справу ў Трыбунале, але суд не прыняў гэта пад увагу[116].

26 чэрвеня пачаўся працэс па справе Яна Багдановіча-Дварэцкага, Яна Германовіча-Каспяровіча і яго жонкі Анастасіі з Багдановічаў з падскарбіем Бенядзіктам Паўлам Сапегам, аканомам яго беларускіх уладанняў, лідскім падстоліем Вацлавам Мейнартовічам, а таксама віленскім скарбнікам Казімірам Камаром (айчымам Багдановічаў). Спрэчка датычыла фальварка Прудзіны і пусткі Уладзіславаўкі ў Аршанскім павеце, вылучаных са складу маёнтка Бобр. Казімір Камар перадаў іх жонцы, Апалоніі з Дурасевічаў у 1687 годзе, а тая пакінула сваім дзецям ад першага мужа, смаленскага мечніка Міхала Багдановіча. Пасля яе смерці апекунамі гэтых дзяцей (Яна, Анастасіі і Пятра, які пазней памёр, не дасягнуўшы паўналецця) сталі іх айчым Казімір Камар і дзядзька Тэадор Багдановіч-Дварэцкі. У 1689 годзе Камар, які падступна скарыстаўся сваім становішчам апекуна, прадаў Прудзіны і Уладзіславаўку разам са сваімі бобрскімі ўладаннямі Бенядзікту Паўлу Сапегу. У ходзе разбіральніцтва стала вядома, што Сапега ўжо прадаў Бобр мсціслаўскаму стольніку Яну Ліндарфу (Лендарфу), таму таго таксама дадалі да ліку адказчыкаў. 14 жніўня гэтая справа была адкладзена на менскую кадэнцыю[117].

18 жніўня разглядалася і была адкладзена справа Казіміра Яна Сапегі з жамойцкімі адміністратарамі чопавага і шэлежнага (шаўдаўскім цівуном і падстарастам Андрэем Івановічам і каршоўскім цівуном Аляксандрам Корфам), а таксама зборшчыкам Якубам Улятовічам, якія зашмат узялі з яго ўладанняў Шкуды, Крэтынга, Гінтылішкі, Карцяны, Лаўкажэмы і Сяды. І хаця тыя дзейнічалі ў адпаведнасці з дэкрэтам жамойцкага скарбовага суда, аднак, паводле Сапегі, рашэннямі таго ж суда за папярэднія гады яго жамойцкім уладанням з-за моцнага спусташэння рэспубліканцамі была зроблена палёгка і толькі са Шкудаў належала выплаціць 500 злотых[118].

Таксама на гэтым Трыбунале разглядалася спрэчка таго ж гетмана Сапегі з дарсунішкаўскім старастам Багуславам, мечнікам ВКЛ Марцыянам і ўсвяцкім старастам Аляксандрам Агінскімі за валоданне маёнткам Стравенікі, які калісьці належаў канцлеру ВКЛ Марцыяну

[116] Там жа, l. 1238-1239v.
[117] Там жа, l. 1260-1263v; там жа, b. 216, l. 125-126v (скарга на продаж маёнтка Я. Лендарфу, 30 чэрвеня 1700 г.).
[118] Там жа, b. 387, l. 1398-1399v.

Агінскаму. Да таго ж Сапега скардзіўся на свайго адваката Стафана Аўдыцкага. Паводле вялікага гетмана, ён купіў Стравенікі ў мечніка ВКЛ Сімяона Караля Агінскага, бацькі адказчыкаў, за 300 тыс. злотых, і без праблем увайшоў у валоданне імі яшчэ дзесяць гадоў назад, таму ўсе прэтэнзіі Агінскіх няслушныя. Гэтая справа ў кастрычніку 1699 г. разглядалася ў троцкім земскім судзе, куды яе адаслаў мінулы Трыбунал, і была адкладзена да студзеня 1700 г. Сапега сцвярджаў, што яго адвакат пры гэтым не прадставіў на судзе ўсіх дакументаў на валоданне і ранейшых судовых выракаў, а таксама не ўжыў усіх неабходных захадаў. У выніку ў студзені троцкі земскі суд прысудзіў Агінскім ¾ маёнтка і толькі ¼ — вялікаму гетману. Справа пачала разглядацца ў Трыбунале 14 чэрвеня і некалькі разоў адкладалася. 19 жніўня да яе была далучана скарга на троцкіх земскіхураднікаў (суддзю Матэвуша Ромера, падсудка Яна Бакея і пісара ды цівуна Міхала Шчуку), абвінавачаных у несправядлівым рашэнні на карысць Агінскіх. 26 жніўня адвакат Агінскіх паспрабаваў зноў пацягнуць час, папрасіўшы для азнаямлення копію з кантракта на продаж Стравенікаў Сапегу і прапанаваўшы адкласці справу на наступную кадэнцыю. Адвакат Сапегі з гэтым не пагадзіўся, заявіўшы, што копію з кантракта яны ўжо атрымалі ў троцкім земскім судзе. Трыбунал, аднак, вырашыў справу адкласці[119].

20 жніўня пачала разглядацца і таксама была адкладзена справа Людвікі Марыянны з Гротузаў, удавы інфлянцкага ваяводы Андрэя Плятара, з Казімірам Янам Сапегам і Андрэем Гадэбскім. Сапега абвінавачваўся ў парушэнні закладной дамовы на Лаўкажэмы ў Жамойці. 23 жніўня 1697 г. накіраваныя ім жаўнеры на чале з Гадэбскім адабралі гэты маёнтак у Плятараў[120].

27 жніўня вялікі падскарбі Бенядзікт Павел Сапега як апякун нашчадкаў абознага ВКЛ Юрыя Караля Хадкевіча і яго жонкі Марыянны Тэклі з Нарушэвічаў (у другім шлюбе — з жамойцім старастам Пятром Міхалам Пацам, на той час ужо ўдава) судзіўся з жамойцкім харужым Казімірам Заранкам. Апошні абвінавачваўся, што ў канцы 1697 г. заняў тры вёскі Вялёнска-Бейсагольскага староства (Чэлькі, Манюны і Вілейкі), а ў 1700 г. напаў на два бейсагольскія засценкі[121].

[119] Там жа, l. 1478-1483v; разгляд справы ў Трыбунале за папярэднія гады гл.: Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.* ..., с. 118; LVIA, SA, b. 385, l. 1936-1939v.

[120] LVIA, SA, b. 387, l. 1542-1543v.

[121] Там жа, l. 1936-1937v.

Аднак Казімір Заранак у 1697 г. атрымаў ад Аўгуста II прывілей на гэтыя тры вёскі пасля Пятра Міхала Паца, а ў 1699 г. перадаў іх сваймu сыну Пятру Заранку[122]. Але і Марыянна Тэкля Пац, якая лічыла іх часткай Вялёнска-Бейсагольскага староства, атрымала ў тым жа 1699 г. ад караля дазвол на перадачу гэтага староства разам з войтаўствам Чэлькі свайму сыну Яну Каралю Хадкевічу[123]. У сувязі з заканчэннем віленскай кадэнцыі гэтая справа была адкладзена.

Таксама на гэтай кадэнцыі разглядалася і 28 жніўня была адкладзена справа Рэгіны Людвікі з Агінскіх Пацей, удавы віцебскага ваяводы Леанарда Пацея, з тым жа падскарбіем Сапегам. Яна сцвярджала, што Сапега пазычыў у 1680 г. у троцкага ваяводы (потым канцлера ВКЛ) Марцыяна Агінскага 3 тыс. злотых ды так іх і не аддаў[124].

19 чэрвеня была вынесена на разгляд справа ваўкавыскага маршалка Тэафіла Алендскага і яго жонкі Прузыны з Палубінскіх (у першым шлюбе — з наваградскім падкаморыем Аляксандрам Корсакам), якія судзіліся з Юрыем Станіславам Сапегам і яго жонкай Ізабелай Аленай з Палубінскіх за паперы, якія засталіся ў Майсея Ткачонка, былога фактара і распарадчыка Аляксандра Корсака. Згаданы Ткачонак пераехаў да жонкі ва ўладанні Сапегаў і забраў гэтыя паперы з сабой. Разгляд справы некалькі разоў пераносіўся, і 28 жніўня яна была адкладзена на наступную кадэнцыю[125].

Судзіліся з Сапегамі і іх палітычныя прыхільнікі, незадаволеныя тым, як складваюцца іх адносіны. Так, 31 ліпеня наваградскі ваявода Стафан Тызенгаўз судзіўся з Казімірам Янам Сапегам, які заклаў яму да канца чэрвеня гэтага года за 13 тыс. талераў маёнтак Стравенікі. Паводле дамовы, у выпадку невяртання гэтай сумы маёнтак заставаўся ў Тызенгаўза яшчэ на тры гады. Сапега грошай не вярнуў, але і Стравенікі Тызенгаўзу не пакінуў — 22 ліпеня даслаў туды рэйтараў на чале са сваім слугой Дамінікам Калусоўскім і забраў маёнтак

122 НГАБ, КМФ-18, спр. 149, арк. 311-311 адв. (прывілей К. Заранку на вёскі Чэлькі, Манюны і Вілейка ў Вялёнскім павеце Жамойцкага княства, Кракаў, 20 верасня 1697 г.); Там жа, арк. 456 адв. (кансэнс К. Заранку на перадачу вёсак Чэлькі, Манюны, Вілейшы і Пабержа ў Жамойцкім княстве сыну П. Заранку, 8 ліпеня 1699 г.).

123 J. Wolff, *Pacowie: materyjały historyczno-genealogiczne*, Petersburg 1885, s. 209; гл. таксама іншы кансэнс на гэтае ж староства (без указання войтаўства), выдадзены ў 1700 г., з пропускам для дзённай даты: НГАБ, КМФ-18, спр. 153, арк. 193.

124 LVIA, SA, b. 387, l. 2180-2181v.

125 Там жа, l. 2220-2221v.

назад. Справу на гэтай кадэнцыі разглядзець не паспелі, і яна была перанесена на наступную[126].

30 ліпеня Барбара з Дуніных Уняхоўская, удава троцкага ваяводы Багуслава Уняхоўскага, судзілася са стольнікам ВКЛ Юрыем Сапегам і яго жонкай Ізабелай з Палубінскіх. Спрэчка датычыла закладной сумы за маёнтак Цімкавічы, які ваўкавыскі староста, маршалковіч ВКЛ Крыштаф Палубінскі заклаў калісьці ваўкавыскаму харужаму Мальхеру Дуніну-Глушынскаму за 19,8 тыс. злотых. Пры падзеле ўладанняў Палубінскіх Цімкавічы перайшлі Дамініку Мікалаю Радзівілу, жонкай якога была Ганна Марыянна Палубінская, але вярнуць закладную суму абавязаўся Юрый Сапега, жанаты з Ізабелай Аленай з Палубінскіх. Між тым, закладное права на Цімкавічы ад Дуніна-Глушынскага перайшло да Багуслава Уняхоўскага, але апошні з ім не разлічыўся. Пасля смерці абодвух лідскі гродскі суддзя Аляксандр Глэмбоцкі, жанаты з дачкой Дуніна-Глушынскага Альжбетай, пачаў пагражаць судом удаве Уняхоўскага Барбары. Апошняя вымушана была выплаціць яму закладную суму і хацела цяпер спагнаць яе з Юрыя Сапегі і яго жонкі. Гэтую справу на віленскай кадэнцыі разгледзець не паспелі[127].

Таксама цікавасць уяўляюць судовыя працэсы, дзе бакамі выступалі ўплывовыя сапежанцы і рэспубліканцы. Так, 5 траўня быў працягнуты разгляд старой справы вялікага пісара Казіміра Міхала Паца з нашчадкамі полацкага ваяводы і польнага гетмана Яна Яцака Агінскага: жамойцкім старастам Грыгорыем Антоніем, надворным падскарбіем Мікалаем, падстоліем ВКЛ Лявонам, горждаўскім старастам Казімірам ды Марцыянам Агінскімі, а таксама іх сёстрамі Аленай Тарла з мужам, чашнікам ВКЛ Мікалаем Тарлам, Ганнай Тышкевіч, удавой старадубскага старасты Казіміра Тышкевіча, ды Марыяннай з Агінскіх і яе мужам, браслаўскім падкаморыем Канстанцыем Войнам-Ясянецкім. Пац патрабаваў вяртання яму 7 735 злотых доўга, які застаўся пасля Яна Яцака Агінскага. Гэта справа цягнулася ўжо даўно. Пачала яна разглядацца ў Трыбунале ў 1687 г., затым, верагодна, была адасланая ў ковенскі земскі суд, дзе ў 1688 г. Пац дабіўся асуджэння на баніцыю ўдавы Яна Яцака Агінскага, Яанны Тэадоры з Нарушэвічаў, і ўсіх яго дзяцей. Затым, у 1695 г. яна трапіла ў задворны асэсарскі суд, а ў 1699 г. — у Трыбунал ВКЛ, дзе разглядалася 28

[126] Там жа, l. 744-745; там жа, b. 216, l. 227-227v (паўторная скарга Тызенгаўза, 3 жніўня 1700 г.).
[127] Там жа, b. 387, l. 640-641v.

снежня 1699 г., але была адкладзена. Выкананне ранейшых рашэнняў у гэтай справе ўскладнялася „пуставаннем земскіх урадаў і іншымі прычынамі". Адвакат Агінскіх відавочна зацягваў працэс, патрабуючы па чарзе копіі папярэдніх дэкрэтаў, аж пакуль 10 верасня разгляд гэтай справы не быў адладзены на наступную кадэнцыю[128].

Таксама 3 чэрвеня быў адноўлены разгляд гучнай справы, перанесенай з мінулага Трыбунала. Мсціслаўскі харужы Марцыян Дамінік Валовіч абвінавачваў мазырскага харужага Аляксандра Пшаздзецкага і обер-лейтэнанта Міхала Пяроці, а таксама Яна Паплінскага ў супраціўленні правасуддзю. Яшчэ ў пачатку 1699 г. Валовіч дабіўся ў Трыбунале асуджэння Пшаздзецкага і Пяроці за захоп Магілёўскага замка ў 1698 г., але спагнаць прысуджаную яму суму не атрымалася — Пшаздзецкі паспеў збыць маёнтак Бясяды ў Менскім павеце, які хацелі канфіскаваць менскія ўраднікі, Яну Паплінскаму. Валовіч абвінавачваў апошняга ў змове і зносінах з асуджаным на інфамію. Справа аб супраціўленні правасуддзю пачала разглядацца ў Трыбунале ў 1699 г., але наўмысна там зацягвалася і ўрэшце была перанесена на гэты. Таксама Пшаздзецкі і Пяроці падалі сустрэчную скаргу, у якой сцвярджалі, што першы дэкрэт быў вынесены без падачы позваў, звярталі ўвагу, што Валовіч у той год сам быў дэпутатам, і наогул адмаўлялі, што нападалі на замак. Паводле іх версіі, Пшаздзецкі разам са львоўскім канонікам Аўгусцінам Бернічам прыехалі ў Магілёў як каралеўскія камісары і занялі замак без ніякага супраціўлення. Прычым у Магілёве ўжо да гэтага былі размешчаны „людзі вялікага гетмана Казіміра Сапегі" (відаць, жаўнеры на чале з Пяроці). Гэтая справа была зноў адкладзена, і да канца віленскай кадэнцыі яе разгледзець не паспелі, таму перанеслі на менскую.

Гэтых жа падзеяў датычыла справа магілёўскіх войта Базыля Сідаровіча-Гука, бурмістра Міхала Каскевіча і ўсяго магілёўскага магістрата з Марцыянам Дамінікам і Вінцэнтам Валовічамі. Сідаровіч і Каскевіч спрабавалі дабіцца перагляду рашэнняў Трыбунала 1699 г., якімі яны былі прысуджаны да інфаміі і смяротнага пакарання за дапамогу сапежанцам у захопе Магілёва. Яны настойвалі, што рашэнні былі вынесены без падачы позваў, прычым першае — калі сам Марцыян Дамінік Валовіч быў дэпутатам Трыбунала. Справа пачала разглядацца 20 жніўня, але была адкладзена[129].

128 Там жа, b. 386, l. 1035-1040v.
129 Там жа, l. 1239-1242v (справа Пшаздзецкага і Пяроці); LVIA, SA, b. 387, l. 1554-1557v (справа Сідаровіча-Гука і Каскевіча). Пра іх разгляд у мінулыя

3 чэрвеня быў працягнуты разгляд справы наваградскага кашталяна Стафана Александровіча, гарадзенскага падкаморыя Крыштафа Міцуты, гарадзенскага земскага пісара Казіміра Александровіча ды іншых сапежанцаў з інстыгатарам ВКЛ Станіславам Рукевічам, гарадзенскім маршалкам Янам Масальскім, а таксама Андрэем, Станіславам і Францішкам Грушчынскімі. У 1698 г. апошнія выйгралі ў Трыбунале апеляцыю наконт несправядлівага рашэння гарадзенскага гродскага суда, у выніку якога Александровічам быў заняты маёнтак Ласасна. Напрыканцы гэтага ж Трыбунала, у сакавіку 1699 г., Александровічу ўдалося ініцыяваць працэс перагляду дадзенай справы. На наступным Трыбунале, аднак, ён завершаны не быў (рашэннем ад 23 снежня 1699 г. яе адклалі). Таксама не атрымалася яе разгледзець і цяпер — 11 верасня ў сувязі з заяршэннем віленскай кадэнцыі яна была перанесена на менскую[130].

9 ліпеня слухалася справа Казіміра Яна і Бенядзікта Паўла Сапегаў ды іх гарадзенскіх прыхільнікаў (Стафан Александровіч і інш.) супраць тамтэйшых рэспубліканцаў на чале з Янам Масальскім, на якіх ускладалася віна за раскол у павеце: тыя праводзілі соймікі асобна і ў неналежным месце, а на іншых выкарыстоўвалі „староннiх людзей" (жаўнераў-саксонцаў), каб задушыць „шляхецкія галасы". З рэспубліканцаў патрабавалі па тысячы коп грошаў з кожнага. Разгляд гэтай справы на віленскай кадэнцыі завершаны не быў[131].

гады гл.: Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.*, с. 135; LVIA, SA, b. 385, l. 834-839v.

130 LVIA, SA, b. 386, l. 1247-1248. Пра гэтую справу гл.: Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.*, с. 121-122.

131 LVIA, SA, b. 386, l. 2794-2795v. Акрамя Сапегаў, ініцыятарамі справы выступілі наваградскі кашталян Стафан Александровіч, гарадзенскія падкаморы Крыштаф Міцута, земскі суддзя Крыштаф Юндзіл, земскі пісар Казімір Александровіч, чашнік Станіслаў Гадачэўскі, падкаморыч Казімір Міцута (быў ужо падсудкам. — *Д. В.*), чарнігаўскі падчашы Казімір Талочка, менскі скарбнік Леапольд Храптовіч, старадубскі харужы Андрэй Храптовіч, каняўскі староста Станіслаў Паплаўскі ды Станіслаў Талочка. У якасці абвінавачаных выступалі гарадзенскія маршалак Ян Масальскі (сапежанцы яго называлі толькі харужычам), харужы Грыгорый Катовіч (лічылі яго падстарастам), стольнік Аляксандр Валовіч, падчашы і гродскі суддзя Ігнацый Рукевіч, інстыгатар ВКЛ Станіслаў Рукевіч, дорпацкі падстолі Жыгімонт Багуфал, Юзаф Ельскі, Ян Бухавецкі, Ян Панцэвіч, Ян Снарскі, Юзаф і Ян Пачобуты. Скарга Сапегаў і сапежанцаў з гэтай нагоды была занесена ў віленскі гродскі суд 18 лютага 1700 г., у адказ на падобную скаргу рэспубліканцаў, занесеную на наваградскай кадэнцыі Трыбунала 1699 г.: LVIA, SA, b. 4715, l. 292-293v.

Яшчэ адна справа, звязаная з супрацьстаяннем груповак у Гарадзенскім павеце, была вынесена на разгляд 14 траўня і два разы адкладалася, перш чым яе пачалі слухаць па сутнасці. Гарадзенскі падсудак Казімір Міцута судзіўся з гарадзенскім харужым і падстарастам Грыгорыем Катовічам, мазырскім старастам Міхалам Халецкім (сапежанцы яго не прызнавалі) і Стафанам Странкоўскім. Спрэчка датычыла канфлікту, які здарыўся ў Вільні ў траўні мінулага года: Міцута сцвярджаў, што Катовіч з Халецкім яго тады пабілі, а тыя абвінавачвалі Міцуту ў нападзе на Странкоўскага і слуг Катовіча. 30 ліпеня адвакат Катовіча і Халецкага заявіў, што справа паміж імі па сустрэчных позвах ужо пачала разглядацца і была адкладзена (магчыма, на мінулым Трыбунале), таму пакуль яна не будзе разгледжана, новай пачынаць нельга. Суд з гэтымі аргументамі пагадзіўся і адклаў разгляд[132].

14 траўня пачала разглядацца справа гарадзенскіх падсудка (названы, як і ў папярэдняй справе, толькі падкаморычам) Казіміра Міцуты, чашніковіча Уладзіслава Талочкі, мечніковіча Яна Эйсманта і Грыгорыя Нятупскага з Янам Пачобутам, Янам Юроўскім і неназваным па імені Браніцкім, як непасрэднымі адказчыкамі, а таксама з гарадзенскімі гродскімі ўраднікамі: падстарастам Грыгорыем Катовічам (памылкова — Францішкам; быў ужо харужым, але не прызнаваўся сапежанцамі), суддзёй Ігнацыем Рукевічам і пісарам Янам Казімірам Тымінскім (памылкова — Людвікам). Апошнія абвінавачваліся ў тым, што ў 1699 годзе прапусцілі тры кадэнцыі („рочкі”) пасяджэнняў суда, а ў 1700 годзе, нягледзячы на наяўнасць у іх саміх баніцый і інфамій, наважыліся судзіць лютаўскую кадэнцыю на „прыватным месцы”. Падчас яе завочна, па скарзе Пачобута, Юроўскага і Браніцкага, яны вынеслі вырак цяперашнім істцам, а іх агента, Пятра Габрыяловіча, які патрабаваў прытрымаць выкананне гэтага рашэння, трымалі некалькі дзён у вязніцы. Разгляд гэтай справы на віленскай кадэнцыі скончаны не быў[133].

27 жніўня гарадзенскі земскі пісар Казімір Александровіч судзіўся з гарадзенскімі маршалкам Янам Масальскім, падчашым Ігнацыем Рукевічам, чашнікам Аляксандрам Валовічам (быў ужо стольнікам. — *Д. В.*), інстыгатарам ВКЛ Станіславам Рукевічам, а таксама смаленскім скарбнікам Станіславам Сапоцькам. Александровіч хацеў

[132] LVIA, SA, b. 387, l. 672-673v.

[133] Там жа, b. 4715, l. 468-469 (скарга ў гэтай справе ў віленскі гродскі суд); там жа, b. 387, l. 674-675v.

пацвердзіць тры дэкрэты гарадзенскага каптуровага суда 1697 года, якімі яму прысуджалася 17 тыс. злотых. Аднак у сувязі з заканчэннем кадэнцыі гэта справа была адкладзена[134].

14 траўня пачаўся разгляд справы паміж Юзафам Багуславам Слушкам і Міхалам Казімірам Коцелам, якія судзіліся за розныя закладныя каштоўнасці скарбу ВКЛ, выкупленыя калісьці з закладу бацькам Міхала Казіміра, ашмянскім маршалкам Самуэлем Геранімам Коцелам. У той жа час на права іх выкупу прэтэндавалі іншыя асобы, якія саступілі свае прэтэнзіі Слушку (у прыватнасці, жонка надворнага кароннага харужага Войцеха Пражмоўскага). Гэтая справа разглядалася ў скарбовым камісарскім судзе ў 1691 годзе, дзе было вырашана перанакіраваць яе *ad forum competens* (у нейкі іншы суд, які меў паўнамоцтвы яе разглядаць). У сувязі з гэтым Коцел звярнуўся ў Трыбунал з заявай, што справа не была да канца разгледжана, і прасіў яе перанакіравання. 23 ліпеня яго адвакат папрасіў накіраваць справу ў віленскі земскі суд. Адвакат Слушкі быў не супраць, і Трыбунал гэтую просьбу задаволіў[135].

Таксама Юзаф Багуслаў Слушка з жонкай Тэрэзай спрабавалі адсудзіць у Коцела Маладзечна. Раней Коцел ужо выйграваў завочна гэтую справу ў Трыбунале ў 1688 і 1693 гадах. Цяпер яе разгляд, як і мінулай справы, доўжыўся з 14 траўня да 23 ліпеня і быў перанесены на наступную кадэнцыю[136].

12 чэрвеня разглядаліся прэтэнзіі наваградскага падкаморыя Тэадора Гераніма Абуховіча і яго жонкі Іаанны з Керлаў да Агінскіх, Пацеяў Гружэўскіх і Завішаў — нашчадкаў і спадчыннікаў канцлера ВКЛ Марцыяна Агінскага. Апошні застаўся вінаваты 3 тыс. злотых бацьку Іаанны Абуховіч, старадубскаму маршалку Габрыелю Керлу. 14 жніўня адвакат пакліканых заявіў, што справа павінна разглядацца ў судзе ніжэйшай інстанцыі, і Трыбунал адаслаў яе ў троцкі земскі суд[137].

[134] Там жа, b. 387, l. 2084-2085v.

[135] Там жа, l. 358-359v.

[136] Там жа, l. 395-399v.

[137] Там жа, l. 1300-1301v. Абуховічы хацелі іх спагнаць з Рэгіны Пацей, яе сыноў Людвіка і Казіміра Пацеяў, мечніковічаў ВКЛ Багуслава, Марцыяна і Аляксандра Агінскіх, мсціслаўскага старасты і падстолія ВКЛ Лявона Агінскага, менскага старасты Крыштафа Завішы, полацкіх ваяводзічаў Аляксандра і Казіміра Агінскіх, Тэадоры з Агінскіх Гружэўскай, жамойцкіх падкаморычаў Якуба (жамойцкага стольніка) і Марцыяна Гружэўскіх, жамойцкага старасты Грыгорыя Агінскага.

10 чэрвеня пачаўся працэс па справе вялікага пісара Яна Тызенгаўза з жамойцкім харужым Казімірам Заранкам-Гарбоўскім, які 15 лістапада 1697 года захапіў Шавельскую эканомію. Невядома, якім правам ёй распараджаўся вялікі пісар, які пакінуў там у якасці свайго адміністратара смаленскага падстолія, таксама Яна Тызенгаўза. Апошні вымушаны быў ратавацца ўцёкамі, яго слугі былі збіты, а шавельскі двор, дзе размяшчалася адміністрацыя, абрабаваны. 20 жніўня на патрабаванне адказчыка справа была адаслана спачатку ў жамойцкі гродскі суд[138].

27 жніўня пачалі разглядацца і тут жа былі адкладзены дзве справы інфлянцкага стольніка, сапежанца Вільгельма Фрыдрыха Бухальца з прадстаўнікамі ўплывовага ўпіцкага роду Пузынаў наконт прадузятых рашэнняў, вынесеных упіцкімі земскім і гродскім судамі[139].

25 чэрвеня пачала разглядацца і праз дзень была адкладзена справа мазырскага маршалка Фларыяна Лявона Катоўскага, які судзіўся з мазырскім старастам (лічыў яго толькі старосцічам) Міхалам Халецкім праз напад на Даманавічы 22-23 лютага гэтага года, калі быў цяжка паранены падданы Катоўскага. Яшчэ раней, 12 верасня 1699 года, па сцвярджэнні Катоўскага, ён збіраўся ехаць з Вільні па пэўнай справе да троцкага харужага Казіміра Пацея ў Кетвішкі (Троцкі павет), але яго папярэдзілі, што ў Панарскіх Гарах Халецкі зрабіў на яго засаду, таму ён вырашыў адмовіцца ад паездкі. Катоўскі паскардзіўся на гэта ў віленскі гродскі суд, які прысудзіў яму 2247 злотых, але не змог спагнаць іх з Халецкага[140].

Таксама 27 жніўня была адкладзена справа ўпіцкага земскага суддзіча Антонія Пузыны з наваградскім ваяводам Стафанам Тызенгаўзам. У верасні 1698 года ў карчме ў Глінцішках (Віленскі павет) на Пузыну, які там спыніўся нанач, напалі мясцовыя жыхары, і той лічыў, што гэты напад — справа рук Тызенгаўза. Акрамя таго, у каст-

138 Там жа, l. 1588-1589v.

139 Першая справа была паміж Бухальцам і менскім кашталянам Андрэем, упіцкімі старастам Геранімам, падсудкам Геранімам, земскім пісарам Уладзіславам Пузынамі: там жа, l. 1870-1871v. У другой справе, дзе Бухальц выступаў разам з прыхільнікамі (палкоўнікам Крыштафам Бухальцам, упіцкім мечнікам Ота Юрыем Ганам, полацкім падстоліем Ота Філіпам Клопманам, маёрам Крыштафам Клопманам і Канстанцыем Рымкевічам), адказчыкамі называюцца ўпіцкія староста Геранім Пузына, гродскі пісар Станіслаў Домбскі, пінскі стольнік Базыль Крукоўскі, наваградскі чашнік Якуб Карп, наваградскі войскі Мікалай Карп, упіцкі падчашы Геранім Пузына і інш.: там жа, l. 1872-1873v.

140 Там жа, l. 2094-2097v.

рычніку 1699 года слугі Тызенгаўза незаконна затрымалі ў Вільні слугу Пузыны, які ехаў на Трыбунал у Наваградак[141].

Яшчэ на наваградскай кадэнцыі мінулага Трыбунала разглядалася і 24 снежня 1699 года была адкладзена справа, якую ініцыявалі старадубскі войскі Францішак Стравінскі і яго жонка Юстына з Тарлецкіх. Апошняя была ўнучкай пінскага маршалка Лукаша Ельскага, і справа датычыла маёнткаў, якія дасталіся ёй ад дзеда: Мялешкавіч, Касцюковіч і мястэчка Ельск у Мазырскім павеце, пляца ў Мазыры, а таксама Пінкавіч і Курадава ў Пінскім павеце. Стравінскія судзіліся за іх з Ганнай Дольскай, удавой маршалка ВКЛ Яна Караля Дольскага, а таксама яе сынам ад папярэдняга шлюбу Міхалам Сервацыем Вішнявецкім і яго жонкай Кацярынай з Дольскіх. Са слоў Стравінскіх вынікала, што Ян Караль Дольскі ўвесь час судзіўся са сваім дзедам Лукашом Ельскім і дзядзькам Раманам Ельскім, дзеля чаго таксама выкарыстоўваў саступленыя яму іншымі асобамі прэтэнзіі ў розных справах, у тым ліку ў такіх, тэрмін даўнасці па якіх ужо мінуў. Працягнуў ён гэтую практыку і ў дачыненні да Стравінскіх як пераемнікаў Ельскіх. Пасля чарговай справы, выйгранай завочна ў 1688 годзе, нягледзячы на глейт, які быў у Стравінскіх, Дольскі вырашыў дзейнічаць і заняць маёнткі, якія дасталіся ім ад Ельскіх, але зрабіў гэта не праз судовых выканаўцаў, а самавольна. Дзеля гэтага ён накіраваў з Пінска на Пінкавічы і Курадава нанятых жаўнераў на чале з Бенядзіктам Качаноўскім, якія занялі гэтыя маёнткі. Затым, дадаўшы яму яшчэ дзве рэйтарскія харугвы і некалькі сот стральцоў, накіраваў іх у Мазырскі павет. Першай справай яны напалі на Ельск, пабілі там менскага земскага суддзіча Лукаша Валадковіча ды зняважылі яго маці, якая там жыла. Не зусім ясна, ці быў Ельск на той час закладзены Валадковічам Стравінскімі, ці быў у іх сумесным валоданні. Тое самае датычыць наступнага маёнтка, Мялешкавіч, куды накіравалася ўзброеная ватага, — ён знаходзіўся „ў трыманні як істцоў, так і Яго міласці пана Рамана Валадковіча". Урадніка апошняга адтуль выгналі і ўзялі шлях на Касцюковічы — „у трыманні як істцоў, так і Яго міласці пана Храпавіцкага і жонкі Яго міласці" — якія таксама былі заняты, а Храпавіцкіх адтуль выгналі. Пасля гэтага ў 1689 годзе Валадковічаў прымусілі падпісаць новыя ўмовы валодання маёнткамі, дзе ўласнікам выступаў ужо сам Дольскі, і нават завезлі пад канвоем у Пінск, каб вызнаць там угоду ў гродскім судзе. 11 верасня разгляд

[141] Там жа, l. 2092-2093v.

гэтай справы ў Трыбунале быў адноўлены і адразу ж перанесены на наступную кадэнцыю[142].

29 красавіка быў працягнуты разгляд перанесенай на гэты Трыбунал справы ковенскага канюшага Адама Антонія Вятчанага з ураднікамі ковенскага земскага суда: суддзёй Адамам Прозарам, падсудкам Сымонам Забелам, пісарам Янам Прозарам і рэгентам Геранімам Жыгімонтам Кульвінскім. Дадзеная справа разглядалася 18 снежня 1699 года на мінулым Трыбунале, але была адкладзена. Датычыла яна чатырох рашэнняў, вынесеных нібыта без падачы позваў земскім судом 19 чэрвеня 1699 года, згодна з якімі Вятчаны быў асуджаны на баніцыю. Чаго датычылі гэтыя справы — не сказана, згадваецца толькі, што рашэнні земскія ўраднікі прынялі, „звязаўшыся з Яго міласцю панам Андрэем Качынскім, іменем сваім і іменем урада як земскага, так і гродскага Жамойцкага княства". Вятчаны, аднак, сцвярджаў, што жамойцкія ўраднікі не давалі нікому права выступаць ад іх імя ў ковенскім судзе. Наогул, ён лічыў суд неправамоцным, паколькі самі ковенскія земскія ўраднікі мелі баніцыі (троцкі каморнік Юзаф Кульвінскі прэзентаваў іх у судзе за два дні да пасяджэння, спрабуючы перашкодзіць выкананню імі сваіх абавязкаў). Вятчаны меркаваў, што працэс над ім — гэта нагода для Яна Прозара, з якім ён судзіўся па іншай справе, каб не адказваць перад судом самаму. Ковенскі канюшы спрабаваў прытрымаць выкананне гэтых рашэнняў і дабіцца іх перагляду, але скончылася ўсё тым, што рэгент Кульвінскі абвінаваціў яго ў нападах на канцылярыю гродскага суда (23 чэрвеня 1699 года і ў іншыя дні).

22 траўня прадстаўнік Вятчанага ў Трыбунале прэзентаваў афіцыйна завераныя сведчанні жамойцкіх земскіх і гродскіх ураднікаў, якія пацвердзілі, што не давалі нікому права выступаць ад свайго імя ў судзе. У сваю чаргу прадстаўнік адказчыкаў заявіў, што ніякіх рашэнняў ковенскі земскі суд у справе Вятчанага не прымаў (!) і ў нападзе на канцылярыю яго не вінавацілі. Гэта ж пацвердзілі і самі прысутныя на пасяджэнні Адам і Ян Прозары. У выніку Трыбунал не стаў разглядаць высунутыя супраць іх абвінавачанні, але судовыя дэкрэты, калі б аказалася, што яны існуюць, пастанавіў скасаваць[143].

Таксама 5 траўня пачалі разглядацца дзве сустрэчныя позвы: Марыянны з Завішаў Вятчанай і яе сына Адама Антонія Вятчанага, якія таксама выступалі ад імя Кацярыны Вятчанай, дачкі Марыянны (як непаўналетняй пад апекай брата) да ковенскага земскага пісара Яна

[142] Там жа, l. 2757-2760v.
[143] Там жа, b. 386, l. 941-944v.

Прозара і яго жонкі Ружы з Шукштаў ды ўзаемна, якія датычылі выканання трох дэкрэтаў ашмянскага гродскага суда ад 4 кастрычніка 1698 года. Апошні завочна прысудзіў спагнаць на карысць Прозара ў пэўнай справе 3300 злотых (нібыта без падачы позваў). Прывесці ў выкананне іх спрабаваў ковенскі земскі суддзя Адам Прозар, але безвынікова, у сувязі з чым Ян Прозар абвінаваціў Вятчанага ў супраціўленні правасуддзю. Вятчаны ж сцвярджаў, што гэта спроба была прадпрынята нягледзячы на тое, што ў 1699 годзе ў Трыбунале ім была пададзена апеляцыя. Яна разглядалася на віленскай кадэнцыі і была адкладзена на наваградскую. 17 лістапада ў Наваградку было завочна прынята рашэнне не на яго карысць, нягледзячы на тое, што ён прысылаў з просьбай перанесці разгляд, паколькі быў хворы. 26 траўня адбыліся спрэчкі бакоў, на якіх прысутнічалі Вятчаны і абодва Прозары. Адвакат Яна Прозара, у прыватнасці, заявіў, што Адам Прозар, выехаўшы да Вятчанага, ніякіх гвалтоўных дзеянняў у яго ўладаннях, у чым яго абвінавачвалі, не чыніў, а прыняў ад апошняга цыдулку з тлумачэннем і адаслаў гэтую справу ў Трыбунал. У выніку было прынята рашэнне адаслаць гэтую справу назад у ашмянскі гродскі суд[144].

На гэтым жа Трыбунале разглядаліся падатковыя справы — відаць, у сувязі з праблемамі ў функцыянаванні Скарбовага Трыбунала. Апошні быў адкладзены да лістапада, але цяжка было сказаць, які будзе яго далейшы лёс. Асобныя такія справы разглядаліся ў Галоўным Трыбунале ўжо з пачатку чэрвеня.

Так, 7 чэрвеня былі пастаўлены на разгляд дзве справы, ініцыяваныя чарнігаўскім харужым Лукашом Гарадзенскім і оўруцкім стольнікам Пятром Лінеўскім, прадстаўнікамі гусарскай харугвы Аўгуста II. Па першай з іх адказчыкам выступаў віцебскі кашталян, генеральны палкоўнік ВКЛ Міхал Казімір Коцел. Апошні займаўся выдачай асігнацый на выплату заробку харугвам войска ВКЛ. 1 чэрвеня 1699 года ён выдаў такую асігнацыю згаданай гусарскай харугве на атрыманне заробку ў Аршанскім павеце, але прадстаўнікі харугвы грошай па ёй не атрымалі. Па месцы прызначэння ім заявілі, што павет перагружаны асігнацыямі і гэта ўжо лішняя. Некалькі разоў гэтая справа адкладалася і 25 жніўня яе перанеслі на наступную кадэнцыю[145].

144 Там жа, l. 995-998v. Вядома, што Вятчаныя судзіліся з Прозарамі за спадчыну Завішаў. Магчыма, дадзены працэс таксама быў звязаны з гэтымі спрэчкамі. Гл. напрыклад: там жа, b. 382, l. 1570-1573v; Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.*, с. 131.

145 LVIA, SA, b. 387, l. 1750-1751v.

Другая позва Гарадзенскага і Лінеўскага была да аршанскіх павятовых камісараў (мясцовых падстарасты Казіміра Кміціча і падчашага Казіміра Эйсманта), скарбовых суддзяў (на чале з дырэктарам — аршанскім войскім Мікалаем Галінскім; названы таксама адзін з суддзяў — аршанскі падсудак Альбрэхт Рабей), ротмістраў (смаленскага стольніка Мікалая Шэмета і аршанскага скарбніка Самуэля Цеханавецкага) і неназваных зборшчыкаў падаткаў за 1698 і 1699 гады. Заробак жаўнерам з Аршанскага павета не быў выплачаны нягледзячы на рашэнне Трыбунала ў гэтай справе ад 15 снежня 1699 года. Фактычна грошы не былі нават сабраныя, запазычанасць не разглядалася ў скарбовым судзе і да даўжнікоў не накіроўвалі павятовых харугваў. Галінскі з Рабеем бралі ўдзел у працы Скарбовага Трыбунала 1700 года, дзе было прынята рашэнне выплаціць заробак гэтай харугве з падаткаў па пазнейшых асігнацыях на іншыя харугвы. Таксама яны занеслі пратэстацыі супраць ухвалы аршанскага грамнічнага сойміка 1700 года, каб не дапусціць выплаты гэтых грошай. 25 жніўня 1700 года гэтая справа была адкладзена[146].

Яшчэ некалькі падобных спраў было вынесена на разгляд у ліпені — пачатку жніўня. Так, 7 ліпеня пачалі разглядацца, а 25 жніўня былі адкладзены дзве справы: першая — Міхала Казіміра Коцела з полацкімі адміністратарамі падаткаў, якія не выдалі ў поўным аб'ёме заробку яго драгунскай харугве[147], а другая — Саламона Нейгарта, капітана драгунскай харугвы Караля Станіслава Радзівіла, з навагрудскімі скарбовымі суддзямі, абранымі на 1699 год. Апошнія не прынялі асігнацыю Коцела на выплату заробку гэтай харугве, заявіўшы, што павет асіганацыямі перагружаны[148]. Таксама 2 жніўня пачала разглядацца, а 25 жніўня была адкладзена справа прадстаўнікоў панцырнай харугвы Андрэя Крышпіна-Кіршэнштэйна з ковенскімі адміністратарамі і зборшчыкамі[149].

Пасля таго, як 21 жніўня паміж варагуючымі групоўкамі было дасягнута пагадненне, што Скарбовы Трыбунал будзе адкладзены да сойма, у Галоўным Трыбунале з'явіліся і падатковыя справы, ініцыяваныя Сапегамі і жаўнерамі-сапежанцамі. Так, 25 жніўня 1700 года Міхал Францішак Сапега, рэгімент якога не атрымаў заробку ў Гарадзенскім павеце, судзіўся з мясцовымі адміністратарамі падаткаў за

[146] Там жа, l. 1752-1755v.
[147] Там жа, l. 1772-1773v.
[148] Там жа, l. 1802-1803v.
[149] Там жа, l. 1776-1777v.

1698 год — павятовым маршалкам Янам Масальскім (адміністратар чопавага і шэлежнага), вількамірскім чашнікам Траянам Львовічам і полацкім падстоліем Міхалам Зывультам (адміністратары гіберны), а таксама інстыгатарам ВКЛ Станіславам Рукевічам (павятовы камісар за 1698 год) ды гарадзенскімі скарбовымі суддзямі за 1699 год (на чале з дырэктарам, павятовым земскім суддзёй Крыштафам Віктарынам Юндзілам)[150]. У той жа дзень спрабавалі спагнаць запазычанасць па заробку з Ковенскага павета прадстаўнікі панцырнай харугвы Міхала Францішка Сапегі (позва да ковенскіх адміністратараў падаткаў за 1698 год і суддзяў скарбовага суда)[151]. Абедзве гэтыя справы былі адкладзены.

Таксама з позвамі ў падатковых справах выступалі прыватныя асобы і духавенства.

Так, 7 ліпеня пачала разглядацца справа Вільгельма Фрыдрыха Бухальца з упіцкімі скарбовымі суддзямі, якія вырашылі ў 1699 годзе, што з Гульбінскага староства, закладзенага яму Аляксандрам Паўлам Сапегам, не была выплачана гіберна. Сам жа Бухальц настойваў, што ўсё выплаціў[152]. 12 ліпеня была пастаўлена на разгляд справа наваградскага ваяводы Стафана Тызенгаўза з вількамірскімі скарбовымі суддзямі і зборшчыкам гіберны Францішкам Ямантам. Тызенгаўз сцвярджаў, што ён выплаціў гіберну з Купішкаўскага староства, але нягледзячы на гэта скарбовы суд у 1699 годзе пастанавіў спагнаць яе яшчэ раз, што і было зроблена ў прымусовым парадку[153]. 21 ліпеня была вынесена на разгляд справа мсціслаўскага стольніка Яна Лендарфа з мсціслаўскімі зборшчыкамі гіберны за мінулы год. Апошнія, па версіі Ліндарфа, сабралі яе ў падвойным памеры з яго Бабыліцкага староства і каб не высветліліся махінацыі, не склалі справаздачу са сваёй дзейнасці[154]. 9 жніўня пачала разглядацца справа полацкага ўніяцкага архіепіскапа Марцыяна Белазора з упіцкімі зборшчыкамі падаткаў ды інстыгатарам павятовага скарбовага суда. Зборшчыкі абвінавачваліся, што ў 1698 годзе дабіліся ў скарбовым судзе рашэння выбраць чопавае і шэлежнае з яго ўладанняў ва Упіцкім павеце ў падвойным памеры, хаця ў іх ніколі не было корчмаў ці шынкоў[155].

150 Там жа, l. 1738-1739v.
151 Там жа, l. 1740-1741v.
152 Там жа, l. 1810-1811v.
153 Там жа, l. 1818-1821v.
154 Там жа, l. 1834-1835v.
155 Там жа, l. 1794-1797v.

23 жніўня слухалася справа віграўскіх камедулаў з гарадзенскімі скарбовымі суддзямі, абранымі на гэты год, якія прынялі рашэнне спагнаць з Віграў завышаную суму чопавага і шэлежнага[156]. Усе гэтыя справы 25 жніўня былі адкладзены на другую кадэнцыю.

Таксама 23 чэрвеня пачала разглядацца, а 28 жніўня была адкладзена справа Зоф'і з Дзежкаў, удавы чарнігаўскага стольніка Якуба (Яна Якуба) Скальскага, якой пажыццёва належала юрыздыка ў Лінкаве (Упіцкі павет), а таксама яе сыноў ад папярэдняга шлюбу, вількамірскіх падкаморычаў Станіслава і Францішка Белазораў, супраць упіцкіх адміністратараў і зборшчыкаў падаткаў. Апошнім уладальнікі прапаноўвалі выплаціць чопавае і шэлежнае за 1699 год з юрыздыкі паводле ранейшых квітоў, але тыя не пагадзіліся і выйгралі завочна справу супраць Скальскай у павятовым скарбовым судзе, пасля чаго сілай прымусілі яе выплаціць гэты падатак[157].

27 жніўня слухалася справа віграўскіх камедулаў з венгерскай харугвай Аляксандра Паўла Сапегі (ротмістр — Міхал Куровіч, паручнік — Ян Паўлоўскі). Харугва стаяла ў Віграх у 1699-1700 гадах і нанесла шкоды ўладанням кляштара на 20 тыс. злотых. 24 сакавіка 1700 года манахі выйгралі справу з жаўнерамі гэтай харугвы ў гарадзенскім скарбовым судзе (відаць, размова ішла пра тое, каб вылічыць ім гэта з заробку) і хацелі зацвердзіць яе ў Трыбунале. Аднак справа была адкладзена ў сувязі з заканчэннем кадэнцыі[158].

Можна заўважыць, што большасць спраў паміж уплывовымі асобамі з варагуючых груповак на віленскай кадэнцыі была адкладзена на менскую. Можна меркаваць, што на зацягванне іх разгляду ўплывала прыблізна роўнае прадстаўніцтва дэпутатаў розных груповак, а таксама, нельга выключаць, што і папярэднія дамоўленасці ды пазіцыя маршалка Радзівіла. У цэлым такім судаводствам Галоўны Трыбунал 1700 года нагадваў папярэдні, 1699 года. Выключэнне складаюць толькі дзве справы, прайграныя прадстаўнікамі малодшага пакалення Сапегаў (канюшы Міхал Францішак у спрэчцы за Купіск прапусціў пасяджэнне і быў асуджаны завочна; тое самае адбылося са справай аб захопе Дакудава і Сяльца, якую прайграў стольнік Юрый

[156] Там жа, l. 1784-1785v.

[157] Там жа, l. 2116-2119v. Пра выбарных асоб, адказных за збор і выплату падаткаў у гэтых паветах за розныя гады, якія згадваюцца ў тым ліку ў дадзеных справах, гл.: Д. Віцько, *Галоўны Трыбунал ВКЛ 1698 г.*; той жа, *Дэпутацкія соймікі ВКЛ 1699 г.*, „Arche", 2015, № 12, с. 164-193, а таксама ў першай частцы дадзенага артыкула.

[158] LVIA, SA, b. 387, l. 1914-1915v.

Станіслаў, але тут яшчэ трэба ўлічваць, што ні Радзівілы, ні рэспубліканцы не былі зацікаўлены ў пераходзе „нойбургскіх" уладанняў да Сапегаў). Канешне, цяжка меркаваць, як бы ўсе адкладзеныя справы вырашаліся на менскай кадэнцыі, калі б яна прайшла ў звычайным рэжыме. Аднак яшчэ да бітвы пад Алькенікамі на менскай кадэнцыі адбыўся раскол: дзевяць дэпутатаў-сапежанцаў не пагадзіліся на лімітацыю Трыбунала ў сувязі з паспалітым рушэннем. Пасля паразы Сапегаў яны былі пазбаўлены паўнамоцтваў. Акрамя таго, Алькеніцкая пастанова ад 24 лістапада 1700 года, прынята пасля бітвы рэспубліканцамі, прадугледжавала, што на менскай кадэнцыі павінны разглядацца ўсе прэтэнзіі, якія назбіраліся ў шляхты да Сапегаў[159]. Судаводства ў Менску адбывалася ў цалкам змененых палітычных абставінах; змяніўся і расклад сіл сярод дэпутатаў — большасць цяпер была ў рэспубліканцаў, якія скарысталіся становішчам для звядзення рахункаў з Сапегамі. У выніку менская кадэнцыя ператварылася фактычна ў вялікі разбор сапежанскіх уладанняў. Дзейнасць Трыбунала ў гэты перыяд адбывалася ў вельмі спецыфічных умовах і патрабуе асобнага разгляду.

**Summary**

**The High Tribunal of the Grand Duchy of Lithuania in 1700.**

The article is concerned with one of the episodes in the struggle between the republicans and the Sapiehas in the Grand Duchy of Lithuania, namely Lithuanian High Tribunal elections and this highest court's activity in 1700. As the result of the elections republicans gained a narrow majority and the Grand Chancellor of Lithuania Karol Stanisław Radziwiłł, who had been expected to be appointed Marshal of the Tribunal, became one of the deputies.

**Keywords:** dietines, deputies, nobility, republicans, civil war.

**Streszczenie**

**Trybunał Główny Wielkiego Księstwa Litewskiego w 1700 roku**

Artykuł poświęcony jest jednemu z etapów walki między stronnictwem republikanów a Sapiehami w Wielkim Księstwie Litewskim podczas wyborów do Trybunału Głównego WKL oraz działalności tej najwyższej instancji sądowej w 1700 roku. W rezultacie wyborów z niewielką przewagą zwyciężyli republikanie, a jednym z deputowanych został kanclerz wielki litewski Karol Stanisław Radziwiłł, który liczył na stanowisko marszałka Trybunału.

**Słowa kluczowe:** sejmiki, deputaci, szlachta, republikanci, wojna domowa.

**Dzmitry Wićko** – doktor, redaktor czasopisma „Arche" (Mińsk). Zainteresowania badawcze: historia wojskowa i polityczna Wielkiego Księstwa Litewskiego na przełomie XVII i XVIII wieku oraz kartografia historyczna.

**Віталь Карнялюк**
(Гродна)

## Аўгустоўскі канал: паўстанцкая памяць прыроднай рэкрэацыі

Калі б Аўгустоўскі канал меў памяць, то ён помніў бы войны і паўстанні. За менш чым двухсотгадовы час існавання на яго долю прыйшліся падзеі двух мяцяжоў і трох войнаў, сярод якіх, дзве былі сусветнымі. Мы нагадаем толькі адзін эпізод гэтай гісторыі, які звязаны з лістападаўскім вызваленчым паўстаннем 1830-1831 гадоў. Дакладней, з тым, як падзеі гэтага мяцяжу адгукнуліся ў лёсе гэтай гідратэхнічнай воднай камунікацыі ў беларускіх і польскіх абшарах Расійскай імперыі.

Мінуўшчына Аўгустоўскага канала, як заўважнай, штучнай воднай транспартнай артэрыі, што звязвае з 1924-1939 гадоў басейны рэк Нёмана і Віслы, яшчэ чакае свайго даследавання. Пэўна першы, хто мэтанакіравана звярнуў увагу на гэты незвычайны аб’ект беларуска-польскага памежжа быў гісторык і краязнаўца Юзэф Ядкоўскі. У сваім па сутнасці турыстычным буклеце „Гродна і ваколіцы. Азёры Аўгустоўскія. Сувальшчына” (1934) ён дае агульную характарыстыку Аўгустоўскаму каналу і называе яго найпершай „асаблівасцю і гонарам Аўгустава”[1]. Паводле адмысловай класіфікацыі Аўгустоўскі канал уяўляе сабою ландшафт з узаемазвязанымі помнікамі прыроды і тэхнікі, у якіх гарманічна суіснуюць прыродныя кампаненты і створаныя чалавекам помнікі тэхнікі і індустрыяльнай архітэктуры. Усё разам складае агульную каштоўнасць культурнай спадчыны ландшафту[2]. Але феномен прасторы Аўгустоўскага канала, акрамя прыроднай разнастайнасці і цікавых інжынерных канструкцый, палягае ў яго гісторыі людзей.

Тэрыторыя Аўгустоўскага канала з’яўляецца сумежжам трох краін, з накладзенымі на яго сеткамі палітычных карт, кожная з якіх з’яўляецца вынікам войнаў і перамоў як мінімум апошніх двух стагоддзяў. Часткаю якіх толькі дзяржаў і часовых дзяржаўных утварэнняў не

[1] J. Jodkowski, *Grodno i okolice. Jeziora Augustowskie. Suwalszczyzna. Przewodnik turystyczny*, Grodno1934, s. 21.

[2] И. А. Великанова, Г. Л. Миронова, *Опыт Польшы по сохранению культурного наследия*, „Региональные исследования”, 2013, № 3, с. 105.

былі ваколіцы канала[3]. Ужо гэтая адметнасць дадзенай тэрыторыі ператварае яе ў гістарычны музей пад адкрытым небам, своеасаблівы скансэн з унікальнымі артэфактамі розных эпох і падзей.

Акрамя таго, этнакультурнае багацце Аўгустоўскага рэгіёна робіць яго „звычайным” для трансгранічных тэрыторый культурным палімпсестам. Гэтыя кроскультурныя праявы ў мове, традыцыйнай культуры, рэлігіі і менталітэце мясцовага насельніцтва сталі прадметам адмысловых даследаванняў[4].

Асобна адзначым, што ўся гэтая чалавечая гісторыя і культура раёна Аўгустоўскага канала знаходзіцца ў геаграфічнай прасторы лясоў, рэк і азёр, ахопленых у мінулым і сучаснасці назвамі „Гродзенская пушча”, „Перстуньская пушча” і „Аўгустоўская пушча”. Апошняя з’яўляецца сённяшнім акрэсленнем прыроднага багацця рэгіёна. Яна — аб’ект і прадмет шчырага інтарэсу ўсіх, каму неабыякавы свет дзікай прыроды Беларусі, Польшчы і Літвы.

Пералічаныя адметнасці Аўгустоўскага краю на тры бакі беларуска-польска-літоўскай мяжы ўжо сталі дзеючай падставаю для арганізацыі і развіцця разнастайнага турыстычнага адпачынку.

Менавіта з такога стаўлення, кожны новы факт, які дадае прывабнасці гэтаму кутку Гродзеншчыны, варты ўвагі. У нашым выпадку, такім новым матэрыялам з’яўляецца змест архіўнай справы, якая захоўваецца ў Маскве ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі. Назва справы — „Дело собственной канцелярии наместника Его Императорского Величества в Царстве Польском о постройке водного канала Августовского. 1831-1832 г.”. Справа выклікае цікавасць ужо тым, што на вокладцы тэчкі можна заўважыць налепленую паперку з надпісам „Archiwum Główne Akt Dawnych, Zespół Generał-kwartermistrza nr 14”[5]. Прычым увесь характар дакументаў сведчыць, што перад іх даследчыкам ляжаць арыгінальныя аркушы з тэкстамі і картаю Аўгустоўскага канала. А значыць, нават сама архіўная справа мае ўласную археаграфічную гісторыю.

[3] А. Вашкевіч, Д. Нарэль, *Паміж Ласоснай і Чорнай Ганчай: Гісторыя каталіцкіх парафій*, Мінск 2006, с. 22-25, 57, 68.

[4] Н. Н. Беспамятных, *Этнокультурное пограничье и белорусская идентичность: проблемы методологии анализа кросс-культурных взаимодействий*, Минск 2007, 404 с.; *Этнакультурныя і прыродныя турыстычныя рэсурсы Гродзеншчыны і Сувальшчыны: энцыклапедычны даведнік*, рэд. В. Р. Карнялюк, І. І. Трацяк, Мінск 2014, 300 с.

[5] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі г. Масква (далей: ДАРФ Масква), ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115.

Змест згаданай архіўнай справы тычыцца перапіскі вышэйшага кіраўніцтва Расійскай імперыі наконт аднаўлення і заканчэння будаўніцтва Аўгустоўскага канала.

На старонках пажаўцелых аркушаў з рознымі філігранямі мы знаходзім імёны такіх асоб, як галоўнакамандуючы дзеючай арміяй, генерал-фельдмаршал, князь Іван Фёдаравіч Паскевіч (1782-1856), старшыня Часовага кіравання Царства Польскага Фёдар Іванавіч Энгель (1771-1837), варшаўскі ваенны губернатар, генерал ад кавалерыі Іван Восіпавіч дэ Віт (1781-1840), выканаўчы спраў начальніка інжынераў дзеючай арміі, генерал-інжынер Іван Іванавіч Дэн (1786-1859). Акрамя таго перапіска згадвае імёны знакамітага інжынера-генерала М. М. Малецкага — аднаго з аўтараў праекта Брэсцкай крэпасці, генерала Восіпа Іванавіча Раўтэншраўха (1773-1842), які прайшоў шлях ад ад’ютанта Тадэвуша Касцюшкі да прэзідэнта Дырэкцыі тэатраў Царства Польскага, а таксама інспектара класаў і намесніка начальніка Галоўнай інжынернай вучэльні ў Санкт-Пецярбургу Хрысціана Хрысціанавіча Хрысціані (1787-1835), які тады часова выконваў абавязкі дырэктара шляхоў зносін у Царстве Польскім.

Менавіта гэтае кола ўдзельнікаў падаўлення паўстання 1830-1831 гадоў і новых тагачасных адміністратараў Польшчы абмяркоўвала далейшы лёс Аўгустоўскага канала ў 1831 годзе.

Што новага мы даведваемся са зместу захаванай перапіскі? Для гэта спачатку, мусім згадаць некаторыя аспекты гісторыі канала, усім вядомыя, але звязаныя сваім зместам з тэкстам дакументаў справы. Важнай для нас характарыстыкай пачатковай гісторыі канала з’яўляецца тое, што гэты штучны водны шлях будаваўся ваеннымі інжынерамі войска Царства Польскага, галоўным сярод якіх быў Ігнацы Прандзыньскі (1792-1850), які ў час паўстання 1830-1831 гадоў у чыне брыгаднага генерала выступіць адным з кіраўнікоў паўстанцаў, і якога Аляксандр Пузырэўскі назаве ў сваім фундаментальным даследаванні паўстання „ледзь не самай яскравай асобай рэвалюцыі”[6]. Між іншым у сваім „Гістарычным і ваенным дзённіку” Прандзыньскі ніяк не згадвае сваё дзецішча, апавядаючы пра перамяшчэнне расійскіх і польскіх войск у час мяцяжу па вакольнай тэрыторыі канала[7]. Менавіта І. Прандзыньскі ў красавіку 1824 года прапанаваў папярэдні раз-

[6] А. К. Пузыревский, *Польско-русская война 1831 г.*, 2-е изд., перераб., испр. и доп., Санкт-Петербург 1890, т. 1, с. 30.

[7] I. Prądzyński, *Pamiętnik historyczny i wojskowy o wojnie polsko-rosyjskiej w roku 1831*, Warszawa 1894, ss. 292.

лік будаўніцтва канала, які з заўвагамі генерала Маўрыкія Фёдаравіча Гаўке і начальніка корпуса інжынераў Жана-Баціста дэ Гранвіль-Малецкага быў прадстаўлены ў Санкт-Пецярбург. Гэты 500-аркушавы план быў зацверджаны Аляксандрам I у тым жа годзе і будаўніцтва пачалося[8]. Работы былі прыпынены ў студзені 1831 года з-за падзей вызваленчага паўстання, якое выбухнула ўвосень 1830 года. Для заканчэння будаўнічых работ заставалася стварыць трохкамерны шлюз Нямнова і выкапаць частку канала на поўдзень ад горада Аўгустаў, паміж вёскамі Полькава і Бялабжэгі[9]. Вайна не толькі ўцягнула тэрыторыю канала ў свае крывавыя падзеі, але і прывяла да ліквідавання папярэдняй каманды інжынераў, большасць з якіх прыняла актыўны ўдзел ва ўзброенай барацьбе з расійскім урадам.

Заўважым, што канал па рашэнні расійскага імператара павінен быў стварацца, менавіта, польскімі афіцэрамі, хаця той жа І. Прандзыньскі спрабаваў на пачатку абмеркавання праекта адмовіцца ад удзелу ў гэтай будоўлі[10]. Мы вернемся да гэтай дэталі гісторыі канала, калі будзем знаёміцца са зместам нашай архіўнай справы.

Рэгіён Аўгустоўскіх лясоў з-за багацця рэсурсаў для войска быў вельмі зручнай мясцовасцю, на што звяртаў увагу Фелікс Вратноўскі ў сваім дзённіку, выдадзеным амаль уздагон мяцежным падзеям[11]. З галоўных пачатковых падзей паўстання ў гэтым краі вядома, што 24 студзеня 1831 года атрад генерал-маёра Карла Ягоравіча Мандэрштэрна рэйдам з Гродна праз раён Аўгустоўскай пушчы заняў г. Аўгустаў і стаў весці барацьбу з мяцежнікамі ў Аўгустоўскім ваяводстве[12]. Менавіта гэты эпізод паўстання пэўна мог быць тым часам, калі паўстанцы ўласнаручна разбурылі шэраг элементаў канструкцыі яшчэ да канца не дабудаванага Аўгустоўскага канала. Пра гэтую старонку гісторыі канала мы і даведваемся з матэрыялаў маскоўскай архіўнай справы. Мяцежнікі „разбурылі масты, якія злучаюць дарогі ад Бялабжэгаў да Нёмана, знішчылі некалькі пад’ёмных мастоў і гацей і спа-

[8] О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, А. Г. Хропов, *Августовский канал — памятник гидротехники XIX века*, [у:] *Институт истории естествознания и техники им. С. И. Вавилова. Годичная научная конференция, 2014.*, Москва 2014, с. 509.

[9] О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1762

[10] Там жа, с. 1761.

[11] F. Wrotnowski, *Pamiętniki o powstaniu Litwy i ziem ruskich w roku 1831*, cz. 1, sposzyt 1, Paryż 1833, s. 11.

[12] А. К. Пузыревский, *Польско-русская война 1831 г.*, с. 65.

лілі дашчэнту замкі шлюза Аўгустоўскага і магазейны, у якіх былі склады лесу і жалеза, мадэлі, вадаёмы, перавозачныя судны і шматлікія іншыя запасы", — чытаем у рапарце ад 1 лютага 1832 года[13]. Вядома, што ў гісторыі канала былі гэта не апошнія такія сур'ёзныя разбурэнні. Паўстанцы наступнага мяцяжу 1863 года і партызаны ў часы Другой сусветнай вайны таксама разбуралі, і то нават ушчэнт, канструкцыі гэтай воднай камунікацыі[14].

Паўстанне 1830-1831 гадоў скончылася, і адразу ўзнялася пытанне пра далейшы лёс будоўлі і самога канала. На сённяшні час такая пастаноўка пытання выглядае па-свойму дзіўнай, тым больш што асноўныя прычыны, па якіх канал не стаў істотнай эканамічнай транспартнай артэрыяй рэгіёна, у 1831 годзе былі яшчэ наперадзе. Ні аграрнага еўрапейскага крызісу, што сур'ёзна замарудзіў расійскі гандаль, ні чыгункі на пачатак 30-х гадоў XIX стагоддзя яшчэ не было. Але былі іншыя аргументы, якія агучвалі ўдзельнікі ліставання, захаванага ў архіўнай справе. І гэтыя аргументы ставілі пад пытанне існаванне канала.

Але перш чым рабіць нейкія высновы, І. Ф. Паскевічам 11 снежня 1831 года было загадана скласці і прадставіць як мага хутчэй падрабязны агляд стану канала з вызначэннем усіх пашкоджанняў, выдаткаў і часу, якія патрэбны для правядзення ўсіх належных па аднаўленні канала работ і падтрымання канструкцыі да вясны 1832 года[15]. Для правядзення такіх агледзін канала было загадана скласці адмысловую камісію ў складзе Х. Х. Хрысціяні, М. М. Малецкага, і яшчэ аднаго дасведчанага і кемлівага „штаб ці обэр-афіцэра", якому можна было б растлумачыць усе планы наконт канала і даручыць пры нагодзе нагляд за аднаўленчымі работамі[16].

Адзначым, што ў лісце расійскага галоўнакамандуючага канал згадваецца як маючы 21 шлюзу, цалкам дабудаваны ў 1830 годзе, па якім літаральна напярэдадні паўстання ўжо пачалася навігацыя[17]. Пра гэта ўскосна сведчыць і колькасць разбураных паўстанцамі мастоў. Згодна з картай Агустоўскага канала тэрыторыя ад Бялабжэгаў

[13] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 30.

[14] *Польская часть канала*, http://augustow.ru/augustow-channel/polish-part-of-the-channel [доступ: 09.10.2017]; О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1763.

[15] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 3.

[16] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 2-3.

[17] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 2.

да Нямнова ўключае 13 мастоў на адлегласці больш ста кіламетраў. Заўважым, што калі канал быў цалкам дабудаваны, у 1839 годзе ён налічваў 14 мастоў[18]. Значыць, паўстанцы разбурылі амаль усе масты, знішчылі такім чынам усю сістэму надводнай камунікацыі канала.

Па выніках праведзенай інспекцыі, генерал М. М. Малецкі склаў справаздачу на французскай мове (*ліставанне паміж расійскімі ваеннымі адміністратарамі ішло па-руску — заўвага аўтара*). Істотным дадаткам яго справаздачы і рапарта былі падрабязная карта Аўгустоўскага канала і каштарысныя разлікі, якія павінны былі даць уяўленне пра сапраўдныя выдаткі, патрэбныя для аднаўлення і завяршэння гэтага воднага шляху. Падрыхтаваны М. М. Малецкім матэрыял быў 9 снежня 1832 года прадстаўлены варшаўскім губернатарам І. В. дэ Вітам на разгляд І. Ф. Паскевічу[19].

Сам даклад быў складзены М. М. Малецкім на імя І. І. Дэна, аднаго з самых таленавітых ваенных інжынераў расійскай арміі XIX стагоддзя. Дэн быў вядомым спецыялістам фартыфікацыі, кіраваў і прымаў актыўны ўдзел у 30-40-х гадах XIX стагоддзя ў стварэнні такіх крэпасцей як Нова-Георгіеўская, Аляксандраўская, Іванагародская і Брэст-Літоўская. Акрамя таго, гэты ваенны інжынер кіраваў будаўніцтвам і развіццём Варшаўска-Венскай чыгункі. Асобным эпізодам у інжынернай дзейнасці І. І. Дэна была яго бліскучая, прадбачлівая рэкамендацыя маладому Эдуарду Іванавічу Татлебэну. Цяпер жа, у 1831 годзе, 46-гадоваму ваеннаму інжынеру трэба было ацаніць перспектывы завяршэння складанага гідратэхнічнага будаўніцтва ў Аўгустоўскай пушчы.

Трэба прызнаць, І. І. Дэн не толькі ўважліва прааналізаваў дэталёва складзены рапарт свайго калегі, але і дадаў да яго шэраг трапных заўваг, якія шмат тлумачаць разуменне месца і ролі Аўгустоўскага канала ў эканоміцы рэгіёна. Вынікам такога аналізу сталі „Разбор описания Августовского канала по пунктах на оригинале помеченных и мнение об оном”, як быў адзначаны тэкст самога І. І. Дэна[20]. Згадаем асноўныя тэзы гэтага дакумента. Па-першае інжынер-генерал выказвае сумненне ў канчатковым завяршэнні будаўніцтва канала, з’едліва адзначаючы: „Што ж тычыцца да праходжання некаторых лодак у верасні месяцы 1831 года, то гэта даказвае толькі заканчэнне пабу-

[18] О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1762.

[19] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 20-20адв.

[20] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 27-29адв.

довы, але зусім не вырашае пытання аб дасягнутай агульнай карысці”[21]. Агульныя разлікі сум выдаткаў на рамонт таксама выклікаюць справядлівыя сумненні ў генерала. Але самы вялікі скепсіс І. І. Дэн выказвае наконт выгодаў канала: „Калі меркавалі атрымліваць такі значны прыбытак ад пошлін, то, няма сумневу, што было зроблена меркаванне ўлічваць наяўныя караблі, што праходзяць па канале, як для вывазу тавараў уласна прыбярэжнага краю, так і для абмену лішку іх, па рэках Вісле і Нёмане, але планаваць гэта немагчыма. Аднак, здаецца, і сам генерал Малецкі мяркуе, што нельга ад пошлін чакаць не толькі выплаты працэнтаў за страчаную суму 11 000 000 злотых, але нават 156 000 патрэбных для штогадовага ўтрымання канала”. І далей: „Генерал Малецкі даволі справядліва кажа, што гэтая крыніца багацця краю толькі часовая, бо праходзіла ад распаўсюджвання працоўных грошай паміж сялянамі, якія ёю займаюцца *(гэта значыць, будуюць канал; акрамя таго вядома, што прыгонныя пасля будоўлі атрымалі волю — заўвага аўтара)*, пастаяннае ж ўзбагачэнне пабярэжных жыхароў гэтага канала краю наогул будзе залежаць ад узроўню развіцця прамысловасці, вытворчасці яе, і як ужо вышэй сказана, аб гэтым нельга судзіць інакш, як па вопыце, або па звестках сабраных ад купцоў, якія гандлююць па рэках Нёмане і Вісле, аб карысці гэтых шляхоў зносін у развіцці гандлю. Што ж тычыцца асушэння балот, то гэтая выгада можа быць толькі невялічкай. І таму не павінна быць далучана да карысці, якую ад канала чакаюць”. Далей вопытны фартыфікатар адзначае абсалютную здзіўленасць у тым, што напярэдадні будаўніцтва такога дарагога праекта не быў улічаны такі геаграфічны факт, як далейшы водны шлях па рэках Нараў і Нёман, бо „неразумна было спалучыць гэтыя дзве ракі такімі значнымі выдаткамі, для таго, каб толькі правозіць прадукцыю вытворчасці малой часткі Аўгустоўскага ваяводства, да Візны па Нарэву і да Курколь пры Нёмане”. І тлумачыць, што „калі суднаходства па рэках Нараў і Нёман выклікае такія вялікія складанасці, то галоўная карысць ад Аўгустоўскага канала знікае, бо неабходна будзе выканаць вялікую працу па ачышчэнні дадзеных рэк, якія служаць далейшым сплавам тавараў, якія вязуць па канале”[22]. Справа ў тым, што паводле яшчэ аднаго дакумента дадзенай архіўнай тэчкі, які бачыцца канчатковым падсумаваннем для інфармавання найвышэйшых асоб дзяржавы, Нёман, „рэчышча якога ад Гродна і да Коўна, напоўнена вялікімі граніт-

[21] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 27.
[22] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 28-29.

нымі камянямі, не толькі якія абцяжарваюць плаванне, але і робяць яго немагчымым” патрабаваў такіх капіталаўкладанняў у яго ачышчэнне, што ніякія прыбыткі за кошт падаткаў і пошлін не кампенсавалі б тых выдаткаў, якіх каштавалі б будаўнічыя работы на канале[23].

Гэтыя аргументы І. І. Дэна знайшлі пацвярджэнне ў далейшай гісторыі канала, бо рукатворная водная артэрыя стала гуляць ролю толькі мясцовага транспартнага шляху (тым больш, што задуманы водны шлях абрываецца на Нёмане, паколькі Віндаўскі канал так і не быў пабудаваны), які, праўда, у значнай ступені ажывіў эканоміку раёна горада Аўгустаў і прылеглых літоўскіх і беларускіх зямель. Канал выкарыстоўваўся, галоўным чынам, для сплаву лесу і розных будаўнічых матэрыялаў, а не для транзіту сельскагаспадарчых прадуктаў як першапачаткова планавалася[24].

Цікавым з’яўляецца вердыкт І. І. Дэна, якім той заканчвае сваю дзелавую запіску: рацыя рацыяй, а палітыка палітыкай, і генерал вымушана робіць славесны рэверанс у бок вышэйшай улады, згадваючы, што ідэя канала была ўвасоблена ў час праўлення імператара Аляксандра, а значыць мае сэнс адрамантаваць пашкоджанні, выкліканыя падзеямі мяцяжу і чакаць вялікай вады, калі канал „будзе служыць стымулам развіцця прамысловасці на рэках Нёман, Нараў і Вісла і акрамя таго, без сумневу, прынясе некаторую карысць прыбярэжнаму краю”[25].

Звяртаюць на сябе ўвагу звесткі пра кошт будаўнічых і рамонтных работ на канале, якімі аперыруе М. М. Малецкі, а потым гэтыя лічбы згадваюцца ў ліставанні паміж вышэйшым расійскім камандаваннем. Вядома, што ў 1839 годзе, па заканчэнні канала, яго кошт склаў больш чым 14 000 000 польскіх злотых альбо 1 500 000 рублёў срэбрам, што амаль у два разы перавысіла зацверджаны Аляксандрам І 15 лютага 1825 года каштарыс на стварэнне канала на суму 7 681 587 польскіх злотых[26]. Але ўжо ў 1832 годзе паводле калькуляцыі М. М. Малецкага мы можам бачыць, якім чынам гэты рост кошту рамонтна-будаўнічых работ на канале ажыццяўляўся. Будаўніцтва 17 шлюзаў, па-

23 ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 32адв.

24 О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1763.

25 ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 29адв.

26 О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1761-1762.

чынаючы з 1824 года склалі 10 200 000 польскіх злотых. Да гэтага трэба дадаць выдаткі на выплату ўзнагарод уладальнікам угоддзяў, праз якія быў пракладзены канал (уласнасць гаспадара ніхто не адмяняў яшчэ!). Да гэтага дададзім кошт казённага лесу, які ў вялізнай колькасці ўжываўся падчас будоўлі. Разам спатрэбілася выдаткаваць яшчэ 700 000 злотых. Для заканчэння будоўлі канала, пачынаючы з 1830 года, планавалася вытаткаваць яшчэ 132 000 польскіх злотых. Да гэтага трэба дадаць 122 000 злотых, што каштавала б выпраўленне пашкоджанняў, якія зрабілі паўстанцы. Акрамя таго сюды варта дадаць яшчэ 150 000 польскіх злотых — кошт пабудоў уздоўж канала, таксама разбураных удзельнікамі паўстання. Агульная сума выдаткаў, такім чынам складае 11 304 000 польскіх злотых. Да гэтай агульнай сумы рамонтных, будаўнічых і кампенсацыйных выдаткаў трэба дадаць 156 000 польскіх злотых, якія штогод каштавала тэхнічная падтрымка канала ў якасці дзеючага воднага шляху. Калі памножыць гэтыя выдаткі на 8 гадоў — да 1839 года — мы будзем мець агульную суму роўную 12 552 000 польскім злотым[27]. Але і гэтай сумы, як мы бачым, не хапіла для завяршэння праекта.

Каб уявіць неяк памеры выдаткаў на канал, нагадаем, што ў 30-я гады XIX стагоддзя ў Расійскай імперыі на 1 500 000 рублёў срэбрам можна было набыць 6000 прыгонных сялян і 12 000 га зямлі. А калі параўноўваць каштарыс Аўгустоўскага канала з маштабнымі будоўлямі таго часу, то ўспомнім, што запланаваная сума на стварэнне велічнага Казанскага сабора ў Пецярбургу ў 1801 годзе склала 2 843 434 рублёў і была перабольшана яшчэ ўдвая[28]. Мы бачым, што фінансавыя ўкладанні ў стварэнне Аўгустоўскага канала робяць яго адным з самых маштабных праектаў Расіі ў першай палове XIX стагоддзя і адначасова адным з самых стратных. Пэўна толькі цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, створаная дзвесце гадоў таму назад водная артэрыя памежжа стала сапраўднай крыніцай прыбытку мясцовай супольнасці суседніх краін. Будучыня Аўгустоўскага канала будзе прырастаць турызмам.

Звесткі архіўнай справы, якую мы разгледзелі ў дадзеным артыкуле, дадаюць, на наш погляд, да гісторыі Аўгустоўскага канала важныя дэталі. І дэталі гэтыя дазваляюць разглядаць сённяшні гучны аб’ект туры-

[27] ДАРФ Масква, ф. 1769, воп. 1, адз. зах. 115, арк. 30-32 адв., 35.

[28] *Казанский Кафедральный собор. История строительства*, Портал: Русская Православная церковь. Московский патриархат Санкт-Петербургская епархия, http://kazansky-spb.ru/texts/stroitelstvo [доступ: 09.10.2017].

стычнай цікавасці і перспектыўную турыстычную дэстынацыю ў якасці помніка не толькі гідратэхнічнай інжынернай думкі першай траціны XIX стагоддзя, які на час свайго завяршэння ўключаў 29 прапускных плацін, 12 суднаходных шлюзаў, 21 камеру, 14 пад'ёмных мастоў тыпу „журавель" і 24 аб'екты тэхнічнага абслугоўвання[29]. Аўгустоўскі канал — гэта помнік выразнай грамадзянскай прагі да незалежнасці і волі. Яго галоўны інжынер-будаўнік Ігнацы Прандзыньскі нездарма вызначаўся сярод сучаснікаў сур'ёзнай адукаванасцю, творчым розумам, бляскам і смеласцю дальнабачных, нярэдка геніяльных стратэгічных разважанняў і, адначасова, надзвычайнай палкасцю і выразнай непавагаю да праціўніка[30]. Менавіта такі неспакойны стан натуры, памножаны на выключнае непрыяцце прышлай, чужой расійскай улады, якая разбурыла ранейшыя ўклады жыцця — дзяржаўны і жыцейскі — мог быць фактарам рашучага разбурэння толькі што пабудаванага, найноўшага, найскладанейшага канструктарскага збудавання, якім быў Аўгустоўскі канал. З пэўнай доляю рацыі можна выказаць здагадку, што загады па разбурэнні канала аддаваў, менавіта, Прандзыньскі, які выдатна ведаў усе самыя важныя, вузлавыя элементы сваёй канструкцыі. Шкадаванне свайго, разумна і рупліва зробленага, было моцным і балючым, але прага да незалежнасці і нянавісць да ворага былі мацнейшымі. У памяці Аўгустоўскага канала — такія людскія пачуцці і высокія думкі. І гэта толькі адна старонка яго двухвекавой гісторыі.

* * *

**Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, г. Масква**
**Фонд 1769, опись 1, единица хранения 115**

Дело собственной канцелярии наместника Его Императорского Величества в Царстве Польском о постройке водного канала Августовского
**(Архив Актов Давних г. Варшава**
**Zespół Generał-kwartermistrza № 14)**

***Директору Путей Сообщений в Царстве Польском Господину генерал-майору и кавалеру Христиани***

[29] О. С. Романова, В. А. Широкова, Н. А. Озерова, В. М. Чеснов, *Августовский канал: к истории создания*, «Фундаментальные исследования», Пенза 2014, №№ 8-9, с. 1762.

[30] А. К. Пузыревский, *Польско-русская война 1831 г.*, с. 30.

По Высочайшему повелению блаженной памяти Государя Императора Александра устроен был канал. Который посредством рек Нарева, Нетты и Биброна, цепи озёр Августовского воеводства и Чёрной Ганчи, составил водяное сообщение между Вислой и Неманом и далее по сей последней реке до моря. Канал сей имеющий 21 шлюз и стоивший боле 10 миллионов злотых, совершенно окончен в 1830 г. и едва лишь открыто было судоходство по оному, как возникшее в Царстве Польском возмущение. Не только прервало всякое сообщение сим путём. Но сверх того, не соблюдением мер, принятых для содержания канала в исправности, привело оный в большое расстройство.

Принимая в уважение, что существование сего канала принесло бы краю большие выгоды в многих отношениях и согласно представлением о том генерала Раутенштрауха, я полагаю полезным предварительно сделать соображение о которых ныне же необходимо сделать, чтобы предохранить канал от разрушения и таким образом уменьшить издержки, которые в последствии для совершенного восстановления оного окажутся нужными. Но поелику состав корпуса военных инженеров, которые под начальством генерала Малецкого управляли работами упомянутого канала, — ныне уничтожен, то я признаю удобным передать сии работы в ведение корпуса инженеров путей сообщения и потому предписываю Вашему Превосходительству, обще с генералом Малецким (которому вместе с сим дано будет знать о том), обозреть в подробности канал, по всему его протяжению. И сообразуясь с состоянием, в коем оный ныне находится, представить мне в возможной скорости подробный обзор настоящего положения сего канала и для сметы за общим подписанием, а именно:

1. О починках (где таковые действительно нужны) и сумме на оные необходимой, для предохранения канала от дальнейшей порчи и для поддержания оного в настоящем виде, до наступающей весны, и
2. О издержках и времени. Потребных в последствии для проведения сего канала в то совершенство, в коем при первоначальном заложении предполагалось иметь оный.

Между тем, так как Вашему Превосходительству предстоит поездка в Санкт Петербург, то при обозрении канала предлагаю вам иметь с собою, из числа состоящих под Начальством вашим, одного опытного Штаб или Обер-офицера, которому вы объясните все предположения свои касательно восстановления канала, дабы по отъезде вашем, можно было поручить сказанному офицеру наблюдение за сими работами, если надобность потребует приступить к оным в скором времени. Вместе же с сим сообщим Председателю временного Прав-

ў вывучэнні „нацменшасцей” у БССР, што рабіліся ў межах Інбелкульта (фонд 67), затым польскага сектара БАН. А таксама і каштоўныя даныя аб дзейнасці Інстытута нацыянальных меншасцей ужо АН БССР і месца ў ім „польскага фактару” (фонды 1, 72).

Будзем спадзявацца на тое, што стануць даступнымі даследчыкам сховішчы архіва КДБ, якія крыху прыадчыніліся ў 1990-я гады і паказалі новыя магчымасці асэнсавання складаных працэсаў савецкай гісторыі ХХ стагоддзя. Да гэтага часу застаецца без належнай навуковай апрацоўкі і больш даступны матэрыял, які ўтрымліваюць шматлікія сродкі масавай інфармацыі. Так, па акрэсленых вышэй сюжэтах цікавыя і адмысловыя звесткі пададзены на старонках універсітэцкай шматтыражкі „За ленінскія кадры”, не кажучы ўжо пра цэнтральную і мясцовую прэсу.

Непасрэдны разгляд вылучаных аспектаў праблемы мяркуем пачаць з абазначанага пад трэцім нумарам. Абгрунтуем такі падыход: калі першыя два складнікі паказваюць, як ствaралася і развівалася інтэлектуальная сфера савецкай Беларусі і як тыя ці іншыя фактары ўплывалі на гэты працэс, то апошні неабходна ўлічваць у якасці асноўнага фактару, што не проста ўздзейнічаў на працэс, а ствараў той падмурак, што дазваляў/забараняў дзейнічаць і праяўляцца ўсім астатнім складнікам праблемы.

Разгляд „польскага фактару” ў развіцці інтэлектуальнай сферы савецкай Беларусі пад вуглом зроку яго афіцыйнай інтэрпрэтацыі з боку савецкіх улад рознага ўзроўню паўнамоцтваў пачнем з вельмі кароткага агляду нацыянальнай палітыкі савецкай дзяржавы ў даследаваны перыяд. Гэта дасць магчымасць не толькі прасачыць эвалюцыю, але растлумачыць танальнасць і нават агрэсіўнасць рознага кшталту ўстановак „зверху” ў дачыненні да дакладных падзей, асоб, карпарацый, як і нацменшасці ў цэлым. Таксама дазволіць паказаць уключанасць у палітычныя „трэнды” дакладнага часу асобных прадстаўнікоў прафесуры і навукоўцаў.

Сучасныя беларускія даследчыкі нацыянальнай палітыкі савецкай дзяржавы ў 1920-1930-я гг. вылучаюць тры этапы яе эвалюцыі:

1) 1921-1928 гг. — перыяд рашучага пашырэння правоў усіх без выключэння нацыянальных меншасцей у СССР. Галоўнай асаблівасцю рэалізацыі нацыянальнай палітыкі ў гэтыя гады былі відавочныя праявы велікарускага шавінізму, з якім камуністычная партыя вяла рашучую барацьбу.

2) 1929-1935 гг. — перыяд значнага абмежавання правоў меншасцей. Напрыклад, кіраўніцтва УКП(б) адмовілася ад супрацоўніцтва з прадстаўнікамі меншасцей, якія не з’яўляліся прыхільнікамі ідэй

класавай барацьбы і пралетарскай ідэалогіі. Наступіў час барацьбы з „мясцовым нацыяналізмам", мноства прыкладаў якой можна прывесці ў сувязі з жорсткім выкараненнем беларускіх „нацдэмаў" з палітычнага і інтэлектуальнага палёў савецкай Беларусі.

3) 1936-1939 гг. — перыяд панавання цэнтралісцкіх тэндэнцый у нацыянальнай палітыцы. Гэта перыяд узмацнення рэпрэсій у дачыненні да ўсіх сацыяльных пластоў і груп нацменшасцей[2].

Наколькі гэтая градацыя дакладна адпавядае кожнай з чатырох асноўных нацыянальных меншасцей Беларусі, і непасрэдна польскай, цяжка сказаць. Як правіла, на гэты аспект беларуская гістарыяграфія спецыяльнай увагі не звяртала. У вышэйназванай працы даецца толькі згадка аб існаванні перыядызацыі — у працы Мікалая Іванова аб эвалюцыі нацыянальнай палітыкі СССР у дачыненні да польскай нацменшасці: а) **1924-1928** гг.; б) **1929-1931** гг.; в) **1932-1935** гг. Але ацэнка — згода ці адмаўленне вышэй пазначанага падыходу — не даецца. Ды і наогул нават павярхоўны агляд беларускай гістарыяграфіі, прысвечанай гэтаму перыяду, звяртае ўвагу на значна большую даследаванасць „яўрэйскага фактару". А польскі, як правіла, застаецца ў навуцы „белай плямай". І толькі ў польскай гістарыяграфіі (у большасці ў публікацыях даследчыкаў беларускага паходжання) можна спаткаць ацэнку савецкай нацыянальнай палітыкі прымяняльна непасрэдна да польскай меншасці.

Што было закладзена ў падмурак канцэпцыі нацыянальнай палітыкі савецкай дзяржавы ў 1920-1930-я гг. адносна польскай меншасці? Непарыўнасць польскасці з каталіцызмам! „Каталіцызм на ўсходніх рубяжах Рэчы Паспалітай заўсёды сімвалізаваў польскасць", — сцвярджае ўжо ўзгаданы польска-беларускі гісторык Мікалай Іваноў[3]. І мае ў гэтым рацыю. На ўсіх гістарычных этапах спачатку ў Расійскай імперыі, потым у СССР католікаў на беларускай тэрыторыі разглядалі як палякаў. І, адпаведна гэтаму, будавалася ўнутраная палітыка да іх. Таму палітыка да рымска-каталіцкага касцёла ў 1920-я гг. праецыравалася паступова на ўсё „польскае" насельніцтва. Больш таго, як адзначае беларускі даследчык Ігар Пушкін, польскае бюро пры ЦК КП(б)Б (дзейнічала з пачатку 1920-х гг. да 1929 г.) намагалася ўзаконіць палітызаванае атаясамленне часткі беларускага этнасу каталіцкага веравызнання з польскай нацыянальнай прыналежнасцю[4].

[2] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII пачатку XXI ст.*, кн. 1, Мінск 2011, с. 537.

[3] M. Iwanow, *Zginęli, bo byli Polakami*, s. 35.

[4] І. Пушкін, *Асаблівасці фарміравання і развіцця нацыянальна-дзяржаўнай палітыкі БССР у 1920-я гг.*, с. 13.

Першыя сур’ёзныя антыкаталіцкія рэпрэсіі даследчыкі праблемы адносяць да пачатку 1922-1923 гг. і звязваюць іх з ліквідацыяй царкоўнай маёмасці і канфіскацыяй царкоўных каштоўнасцей, што знаходзіліся ў карыстанні вернікаў. У якасці падставы для гэтай акцыі, якая, дарэчы, тычылася ўсіх канфесій, бальшавікі выкарысталі голад у Паволжы. Дэкрэтам УЦВК і наступнай ягонай пастановай прадпісвалася мясцовым органам савецкай улады канфіскаваць з храмаў усе вырабы з золата, срэбра і каштоўных камянёў і перадаць іх у Цэнтральны фонд дапамогі галадаючым. Адзначаецца, што ўсяго ў СССР было канфіскавана царкоўных каштоўнасцей на два з паловай мільярда залатых рублёў. Але толькі невялікая колькасць з гэтых сродкаў (прыкладна адзін мільён рублёў) была выдаткавана на закупку харчавання для галадаючых. Асноўная ж частка сабраных сродкаў пайшла на „набліжэнне сусветнай рэвалюцыі”. Каталіцкі касцёл стаў адзінай легальнай арганізацыяй, якая адкрыта выступіла супраць савецкай улады, прадстаўляючы, галоўным чынам, польскае насельніцтва. Гэтым і тлумачыць М. Іваноў тыя „асаблівыя” адносіны савецкай улады да польскай меншасці на працягу ўсяго міжваеннага перыяду. А 1929 год, па меркаванні гісторыка, стаў пачаткам першай хвалі масавых рэпрэсій, якая была звязана з калектывізацыяй[5]. Між тым нельга прыніжаць відавочны фактар: польская меншасць у савецкай рэспубліцы, якая межавала з варожай „буржуазнай Польшчай”, з нарастаннем ваеннай атмасферы ў Еўропе проста не магла быць „сваёй” як у цэлым, так і ў дачыненні да кожнага яе прадстаўніка. Савецкая прапаганда з нарастаючай моцай выкарыстоўвала вобраз найбліжэйшага ворага — ад „белапалякаў” 1919-1921 гадоў, да „буржуазнай Польшчы як прыгнятальніцы рабочых і працоўных сялян Заходняй Беларусі”. Падаецца, што якраз гэтае становішча мацавала ўвагу ўлад і яе карных органаў да асаблівай пільнасці ў адносінах да кожнага беларускага паляка.

У кантэксце заяўленай тэмы можна вылучыць некалькі момантаў выкарыстання ўладамі „польскага фактару” ў сваёй ідэалогіі і практыцы кіравання „вялікай дзяржавай” (СССР) і „малой рэспублікай” (БССР), якая знаходзілася на мяжы двух сістэм. Перш за ўсё гэта ўключэнне навукоўцаў і выкладчыкаў польскага паходжання ў структуры кіруючага апарату. І, наадварот, накіраванне палякаў, прадстаўнікоў гэтых структур, на працу ў навуковыя і навучальныя ўстановы, дзе яны маглі быць праваднікамі дзяржаўнай палітыкі. А па-другое, уз-

[5] M. Iwanow, *Zginęli, bo byli Polakami*, s. 65.

мацненне абгрунтаванасці і практычнага ажыццяўлення дзяржаўнай знешняй палітыкі ва ўмовах нарастання „ваенізацыі" і супрацьстаяння двух палітычных сістэм.

На III З'ездзе КП(б)Б (адбыўся 22-25.11.1920 года) было вырашана, каб у дзяржаўныя ўстановы і органы ўлады рэспублікі ўваходзілі прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей, якія пражывалі на яе тэрыторыі. З'езд выказаўся за стварэнне нацыянальных бюро пры ЦБ (пазней — ЦК КП(б)Б). У сакавіку 1921 года ў БССР, па прыкладзе РСФСР, быў утвораны Народны камісарыят па справах нацыянальнасцей, які ўзначаліў Мотл Кіпер. Наркамнац БССР праіснаваў нядоўга — рашэннем ЦБ КП(б)Б ад 13.01.1922 года ён быў ліквідаваны. Далей у савецкай Беларусі арганізоўвалі і кіравалі працай сярод нацыянальных меншасцей нацыянальныя бюро пры КП(б)Б, Нацыянальная камісія пры Прэзідыуме ЦВК БССР, а з 1934 года — Аддзел нацыянальнасцей[6]. Напрыклад, польскае бюро пры ЦК КП(б)Б дзейнічала з пачатку 1920-х гг. да 1929 года. Яго сакратарамі з'яўляліся: у 1921-1922 гг. — Я. Цесляк, у 1923-1925 гг. — С. Пшэдзецкая (Пржэдэцкая), у 1925-1929 гг. — В. Унароўскі[7].

Асноўнымі задачамі нацыянальных бюро пры ЦК КП(б)Б былі вызначаны вядзенне агітацыі і прапаганды сярод рабочых і беднаты, палітычнае выхаванне членаў партыі з ліку дадзенай нацыянальнай супольнасці, барацьба супраць уплыву буржуазіі і дробнабуржуазных груп на працоўныя масы з захаваннем нацыянальнай ідэалогіі і інш. Яны таксама кіравалі дзейнасцю нацыянальных секцый пры мясцовых арганізацыях КП(б)Б, кантралявалі дзейнасць Наркамасветы ў дачыненні нацыянальных школ, падрыхтоўкі настаўнікаў для гэтых школ і г.д. У 1920-я гг. польскія бюро існавалі пры Бабруйскім, Барысаўскім, Віцебскім, Калінінскім і Мінскім акруговых камітэтах КП(б)Б. Сярод польскай моладзі працавалі польскае бюро пры ЦК ЛКСМБ і мясцовыя польбюро ў некаторых акругах. Усе кіруючыя пасады па рабоце з нацменшасцямі зацвярджаліся і трымаліся пад жорсткім кантролем камуністычнай партыі[8].

[6] І. А. Пушкін, *Грамадская і культурна-асветніцкая дзейнасць нацыянальных меншасцей у Беларускай ССР (1919-1991)*, с. 65.

[7] В. Жук, *Участие поляков в общественно-политической жизни Советской Белоруссии в 1921-1929 гг.*, http://mb.s5x.org/homoliber.org/ru/xx/xx030109.html [доступ: 16.04.2019].

[8] І. А. Пушкін, *Дзейнасць нацыянальных бюро ў складзе партыйных органаў БССР на працягу 1920-1930-х гг.*, [у:] *Актуальные проблемы социально-гуманитарных наук*, с. 132.

Тое, што ў першай палове 1920-х гг. работа партыйнай арганізацыі Беларусі па выкарыстанні „польскага фактару” станоўча ацэньвалася на саюзным узроўні, сведчаць дакументы таго часу. І заслуга ў гэтым у вялікай ступені бачылася ў ролі сакратара партыі. Так, на пасяджэнні Аргбюро ЦК РКП(б) па пытанні польскай мяжы, якое адбылося 2 жніўня 1923 года, адзначалася: „Польработа в Белоруссии в значительной степени благодаря тому, что секретарем Компартии Белоруссии является поляк тов. Богуцкий[9] выгодно отличается от работы на Украине”[10].

Пры ажыццяўленні ўнутранай палітыкі партыі „польскі фактар”, перш за ўсё, прыходзіў на падмогу, калі справа тычылася „польскай ваяўнічасці”, „польскіх шпіёнаў”, „польскага фашызму”. Па-другое, калі савецкіх беларусаў паўсядзённа трэба было апрацоўваць прапагандай наконт „нечалавечых умоў” жыцця іх братоў пад „прыгнётам польскіх паноў, жандараў, улад” і г.д. Даследаванні, прысвечаныя ўключанасці навукоўцаў і выкладчыкаў (ды і наогул адукаваных асоб польскага паходжання) у гэты прапагандысцкі „хор”, на сённяшні дзень выпалі з поля зроку беларускай гістарыяграфіі і маюць навуковую перспектыву. Прычым трэба браць да ўвагі, што ўключанасць гэтая не была адназначнай, а мела два бакі: размову трэба весці як пра практычны эфект дзейнасці інтэлектуальных праваднікоў афіцыйнай палітыкі, так і пра лёс яе ахвяр.

На гэты конт маецца шмат прыкладаў. Зразумела, у эпіцэнтры тых ці іншых дакладных падзей заўсёды знаходзіўся чалавек, які і вызначаў іх скіраванасць і выніковасць. Калі пра адных засталася зусім лапідарная інфармацыя, жыццё і лёс другіх можна акрэсліць дастаткова грунтоўна. Сярод сакратароў польскага бюро пры ЦК КП(б)Б згадвалася Стэфанія Бернардаўна Пржэдзецкая (народжаная Сура Беркаўна Пшэдзецкая). Яе лёс даволі традыцыйны для многіх адукаваных людзей таго часу, якія прыхіліліся да рэвалюцыйнай дзейнасці яшчэ ў перыяд Расійскай імперыі і ў 1917 годзе прынялі кастрычніцкую рэвалюцыю. Сярэднюю адукацыю яна атрымала ў Варшаве, дзе скончыла жаночы пансіянат. З 1904 года — сябра СДКПіЛ, а з 1918

[9] Вацлаў Антонавіч Багуцкі (1884-1937) — рэвалюцыянер, савецкі партыйны дзеяч. У 1921-1924 гг. загадчык арганізацыйнага аддзела, сакратар ЦБ КП(б) Б. У 1937 г. асуджаны і расстраляны за „ўдзел у контррэвалюцыйнай тэрарыстычнай агранізацыі”.

[10] Цыт. па: В. Жук, *Участие поляков в общественно-политической жизни Советской Белоруссии в 1921-1929 гг.*, http://mb.s5x.org/homoliber.org/ru/xx/xx030109.html [доступ: 16.04.2019].

года ўваходзіла ў Цэнтральны Камітэт Камуністычнай рабочай партыі Польшчы. У лютым 1919 года яна пераехала ў Мінск, а затым у Вільню, а ўжо ў маі 1919 года была пераведзена ў Беласток, дзе ўзначаліла акруговы і гарадскі камітэты КРПП і два месяцы займалася арганізацыяй нелегальных структур будучага камуністычнага ўрада Польшчы. Пасля паразы савецкага боку ў вайне засталася ў падполлі ў Польшчы — у Лодзінскім акруговым камітэце партыі. У жніўні 1921 года была арыштавана і абвінавачана ў дзейнасці супраць польскай дзяржавы. У сакавіку 1923 года Стэфанію Пржэдзецкую выслалі ў СССР — па абмене палітычнымі вязнямі. У 1925-1928 гг. яна ўзначальвала Польскае бюро ВКП(б) у Ленінградзе. Затым (у 1928-1933 гг.) займалася навуковай работай у Інстытуце Маркса-Энгельса-Леніна пры ЦК ВКП(б) у Маскве і стала арганізатарам польскага рэвалюцыйнага архіва. Згаданая вышэй „традыцыйнасць лёсу" польскай інтэлектуалкі і рэвалюцыянеркі (па сутнасных характарыстыках успрыняцця рэчаіснасці і імкненні яе карэнным чынам змяніць — расійскай інтэлігенткі) знайшла сваю праяву і ў часы крывавых рэпрэсій. Стэфанія Бернардаўна 3 верасня 1937 года была арыштавана НКВД за „контррэвалюцыйную дзейнасць", а ўжо 21 студзеня 1938 года яе расстралялі (у Ленінградзе).

Асобая роля ў ідэалагічнай апрацоўцы будучай эліты беларускага грамадства надавалася арганізацыі і правядзенні ўрачыстасцей з нагоды розных савецкіх свят і адзначэння юбілейных дат. Маштабныя і пампезныя мерапрыемствы павінны былі садзейнічаць умацаванню карпаратыўнай супольнасці новай улады і „народных мас". Тут на інтэлектуальныя інстытуцыі ўскладваліся абавязкі навуковага суправаджэння і абгрунтавання спалучэння падзей і імёнаў з далёкага і блізкага мінулага з рэчаіснасцю, з задачамі пабудовы новых сацыяльных адносін. Напрыклад, гадавіны дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, іншых вучэбных і навуковых устаноў (а тым больш юбілейныя даты ў іх гісторыі) дазвалялі падвесці вынікі і вызначыць перспектывы. Перспектывы не толькі дакладнай інстытуцыі, але, па вялікім рахунку, далейшага інтэлектуальнага развіцця савецкай рэспублікі, яе насельніцтва. Цікавым падаецца тагачаснае імкненне ўлад і кіраўніцтва таго ж БДУ зафіксаваць у якасці „першаснай" адну з магчымых дат станаўлення першага беларускага ўніверсітэта ў непасрэднай сувязі з палітычнымі падзеямі.

Вядома, што 30 кастрычніка 1921 года быў афіцыйна пакладзены пачатак рэгулярных вучэбных заняткаў ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях. Але раней, яшчэ 25 лютага 1919 года, быў выдадзены дэкрэт ЦВК ССРБ аб неабходнасці стварэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсі-

тэта ў Мінску. А 18 красавіка 1921 года гэты вышэйшы заканадаўчы орган савецкай Беларусі замацаваў „ранее изданные постановления об открытии в гор. Минске Белорусского государственного университета” асобнай пастановай[11].

Сярод гэтых і іншых дат „нараджэння БДУ” абсалютна палітычна заангажаванай падаецца дата 11 ліпеня 1921 года. У гэты дзень адбыўся публічны Ганаровы акт адкрыцця БДУ, прымеркаваны да першай гадавіны вызвалення Мінска ад польскіх акупацыйных войск. Ва ўмовах нарастаючага абвастрэння супрацьстаяння з „панскай Польшчай” дзесяцігадовы юбілей БДУ і прымеркавалі менавіта да 11 ліпеня 1921 года. Гэта было зроблена, каб у каторы раз акцэнтаваць знакавасць двух падзей у жыцці беларусаў, а яшчэ больш — для натхнення іх, асабліва моладзі, на адпор „класаваму ворагу”, „эксплуататару беларусаў”, „акупанту”. Пэўны ідэалагічна-метафарычны кантэкст святкавання ўніверсітэцкай знакавай даты менавіта 11 ліпеня прагучаў у прывітальным слове калег з Казанскага ўніверсітэта: „Белорусский Университет, стоящий на границе Советских Союзных Республик и буржуазной враждебной нам Польши, будет тем непосредственным рассадником свободных научных истин и научных завоеваний, которые в первую очередь будут бить буржуазный мир и проникать в его толщу. С этой точки зрения Белорусский Университет поистине является тем стражем, который будет распространять новые мысли и новые идеи социализма и коммунизма вокруг себя”[12].

Выступленні афіцыйных асоб (калі аналізаваць надрукаваныя тэксты) — наркама асветы Антона Платуна і новага ўніверсітэцкага рэктара Язэпа Каранеўскага — у першых радках згадвалі гэтую дату. Але без абгрунтавання і асаблівага імпэту. Іншыя аўтары (дэканы і прафесура БДУ) зусім яе не датыкаліся. Галоўнай тэмай для ўсіх было, калі зыходзіць з сэнсу артыкула наркама А. Платуна, — „10 год існаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту як першай вышэйшай школы ў БССР”[13]. Відаць, на пачатак 1930-х гг. яшчэ не зусім усведамляўся антыпольскі складнік, які мог быць натуральна актуалізаваны як праз дзейнасць, так і праз кароткую гісторыю БДУ.

Між тым з гэтага часу антыпольская рыторыка ў навукова-адукацыйных колах няўхільна набірала моц і напрыканцы 1930-х — пачат-

[11] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 6, воп. 1, спр. 6, арк. 3.

[12] НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 464, арк. 9.

[13] *Дзесяць год Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. 1921-11.VII-1931*, Менск 1931, с. 3.

ку 1940-х гг. дасягнула абсалютных памераў. Натуральна, што яна знайшла сваю праяву ў падрыхтоўцы да чарговай „круглай" гадавіны дзейнасці БДУ. Спецыяльным рашэннем ЦК КП(б)Б ад 14 лістапада 1940 года было вызначана, што „Беларускі Дзяржаўны Універсітэт у 1941 годзе [...] святкуе 20-гадовы юбілей свайго існавання". І быў прызначаны дзень святкавання — 11 ліпеня. Абгрунтаванне гэтай даты ў хуткім часе (6 снежня) было прадстаўлена ў лісце, накіраваным на імя старшыні СНК БССР Івана Былінскага, старшынёй юбілейнай камісіі і наркамам асветы Еўдакіяй Уралавай разам з рэктарам БДУ Парфёнам Савіцкім. У рэчышчы палітычнага моманту яны канстатавалі, што „Універсітэт аснован дэкрэтам В. І. Леніна ў 1921 годзе 11 ліпеня ў дзень першай гадавіны аслабанення БССР ад белапольскай акупацыі"[14].

Значны ўплыў на фарміраванне нацыянальна-дзяржаўнай палітыкі, а як вынік — і на грамадскае жыццё, аказваў агульны знешнепалітычны фактар і перш-наперш тое, што БССР знаходзілася на мяжы паміж дзвюма „варожымі сістэмамі" — сацыялістычнай і капіталістычнай. Гэтая сфера таксама патрабавала задзейнічання савецкімі ўладамі інтэлектуальнага фактару — навуковага і асветніцка-адукацыйнага, літаратурнага і публіцыстычнага. Асобным сюжэтам распавядання магла б стаць навуковая заангажаванасць у дадзеным накірунку гісторыкаў БДУ — Уладзіміра Пічэты, Васіля Дружчыца і інш., як і іх даволі сістэмныя і выніковыя навуковыя камандзіроўкі ў Польшчу.

Знакавай асаблівасцю дадзеных двух дзесяцігоддзяў у развіцці інтэлектуальнай сферы БССР была наяўнасць розных адмысловых інстытуцый, прызначаных для насельніцтва польскай нацыянальнасці, у тым ліку скіраваных на вывучэнне гісторыі, мовы, антрапалагічных асаблівасцей і інш. Слова „адмысловых" у дадзеным выпадку мы выкарысталі ў сувязі з тым, што даць ім адназначную назву, напрыклад, „грамадскіх" цяжка. Калі па сваёй мэце яны былі прызначаны для шырокай грамадскасці і ў той ці іншай ступені садзейнічалі развіццю іх інтэлектуальнага патэнцыялу, то па сутнасці іх галоўнай задачай было выхаванне прыхільнікаў савецкай улады. У пэўнай ступені гэты аспект разгледжаны ў кандыдацкім даследаванні Віталя Жука „Польское национальное меньшинство в БССР (1921–1939 гг.)". Стрыжнем ягонай дысертацыі была ўзята грамадска-палітычная сістэма таго часу і тое, як у гэтую структуру „ўпісвалі" польскі фактар. Кажучы словамі аўтара дысертацыі, ён паказаў, з дапамогай якіх арганізацый

[14] НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 751, арк. 9-11.

мясцовых палякаў імкнуліся далучыць да сацыялістычнага будаўніцтва (камуністычная партыя, камсамольская арганізацыя, піянерская арганізацыя, прафсаюзы, грамадскія аб'яднанні тыпу „МОПР" (Міжнародная арганізацыя дапамогі змагарам рэвалюцыі), „ОСОАВИАХИМ" (Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыі і хімічнаму будаўніцтву і інш.), да дзяржаўнага кіравання (польскія нацыянальныя саветы, удзел у выбарчых кампаніях), каб такім чынам зрабіць іх прыхільнікамі савецкай улады. Своеасаблівасцю, у параўнанні з палітыкай у дачыненні да іншых нацыянальных меншасцей, стала вылучэнне (традыцыйнае ў дачыненні да палякаў) рэлігійна-грамадскіх аб'яднанняў католікаў-палякаў.

Разам з тым гэтая тэма падаецца яшчэ далёка нявычарпанай. Па тых дастаткова адрывачных звестках, якія пападаліся на вочы ў час працы ў архівах і бібліятэках, можна канстатаваць наяўнасць велізарнага пласта найцікавай інфармацыі аб дзейнасці польскаарыентаваных адукацыйных і навуковых устаноў. Можна нават сцвярджаць, што іх спасцігалі неверагодныя рэфармацыі, якія адпавядалі зменлівай афіцыйнай палітыцы савецкага саюзнага і мясцовага рэспубліканскага кіраўніцтва. Вось толькі да гэтага часу даследчыкі так і не распрацавалі і не абагулілі дадзены аспект праблемы. А ён насычаны арганізацыйнымі пертурбацыямі, зменамі задач дзейнасці, складанымі лёсамі ўдзельнікаў тых працэсаў.

Арганізацыя вучэбнага працэсу на „польскім аддзяленні" педфака БДУ, калі зыходзіць з даных, якія ўдалося адшукаць у архіўных дакументах, змянялася з году ў год. Зразумела, патрэбна прыняць да ўвагі той факт, што і ў цэлым даволі доўга вышэйшая школа Беларусі і БДУ ў прыватнасці павінны былі пастаянна карэктаваць свае вучэбныя планы ў сувязі ці то з адсутнасцю кваліфікаваных кадраў выкладчыкаў, ці прыдатных памяшканняў, ці проста элементарнай вучэбнай і метадычнай літаратуры. Не менш вострым было пытанне: як і дзеля чаго рыхтаваць спецыялістаў. Але ў дадзеным выпадку прыдаць пэўную сістэмнасць у працы менавіта ў рэчышчы выкладання прадметаў, арыентаваных на польскія складнікі па змесце, па запатрабаванасці ў грамадскім жыцці, адукацыі розных узроўняў, навуцы і г.д., было па сутнасці рызыкоўна. Рызыкоўна, бо палітыка цэнтра і мясцовых улад што і раз змянялася. Усё ж у дачыненні да наладжвання працы „яўрэйскага аддзялення" такіх праблем у 1920 — пачатку 1930-х гг. не існавала, ці яны былі значна меншыя. Таму гэтае аддзяленне, у адрозненне ад „польскага", было насычана і зместам, і паўнавартаснымі кадрамі.

Калі зыходзіць якраз з дакументаў, то працу „польскага аддзялення" ў БДУ можна праілюстраваць на прыкладзе 1926/27 і 1927/28

вучэбных гадоў, бо маецца магчымасць спаслацца і прааналізаваць поўнафарматныя вучэбныя планы, якія тады выдаваліся друкаваным чынам у колькасці ад 400 да 1 тыс. экземпляраў. Яны былі дастаткова інфарматыўнымі па накірунках і прадметах выкладання, з прапісваннем прозвішчаў выкладчыкаў і рэкамендацый наконт вучэбнай і дапаўняльнай літаратуры, якую павінны былі на працягу навучання засвоіць студэнты. Так, у 1926/27 вучэбным годзе на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ ў вучэбным плане яго „польскай секцыі" у раздзеле „Секцыйныя курсы" пазначаліся тры прадметы: „Гісторыя Польшчы ў новы час" (4 гадзіны на першы семестр), „Польская народная творчасць" (таксама 4 гадзіны, але ў другім семестры) і „Польская мова" (па 2 гадзіны на працягу вучэбнага года)[15]. Выкладчык польскай мовы, у адрозненне ад першых двух курсаў, быў зафіксаваны — „Гэльтман". Архіўныя матэрыялы далі магчымасць удакладніць звесткі аб гэтым выкладчыку.

Гэта была Ядвіга Уладзіславаўна Гельтман. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь маецца невялікая асабовая справа, заведзеная ўніверсітэцкай канцылярыяй 1 студзеня 1925 года на „лектора польского языка". Ядвіга Уладзіславаўна Машынская (па мужу — Гельтман) нарадзілася ў ліпені 1886 года ў мястэчку Глуск Бабруйскай акругі. Лічыла сябе полькай, а роднай мовай — польскую. І нават на ўжо не вельмі спакойны 1925 год палічыла не ўтойваць сваё шляхецкае паходжанне. Сярэдні ўзровень адукацыі, як яна сваёй рукой зафіксавала ў анкетах, атрымала „ў Вільні, дзе скончыла сямёхгадовую школу В. Прозаравай у 1906 г.", а вышэйшую „атрымала ў Унівэрсытэце ў гор. Кракаве, дзе скончыла факультэт філязофічна-гістарычны (філелёгія і спэцыяльнасць — польская мова)"[16]. Праўда, атрымаць паўнавартасны дыплом не змагла, бо захварэла на сухоты. Гэтую абставіну пад час працы ў БДУ прыйшлося абгрунтоўваць у адмысловай заяве, якую, мабыць, запатрабавалі кадравікі. Прыём на працу ў якасці „преподаватель польского языка и литературы на Педфаке Б.Г.У.", які быў зацверджаны Галоўпрафасветы БССР напрыканцы 1924 года, адбываўся паспешна, без запатрабавання ўсіх неабходных дакументаў. Хапіла рэкамендацыі загадчыка „ЦентрПольПросбюро" Янкі Клыса і таго, што на той час першаснае рашэнне ад імя дэканата педфака і канчатковае ад імя Галоўпрафасветы падпісваў адзін

[15] *Агляд выкладаньня на 1-м Курсе Пэдагагічнага Факультэту Бел. Дз. Ун-ту*, Менск 1926, с. 18.

[16] НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 1634, арк. 1, 9.

і той жа чалавек — Яўген Успенскі[17]. Ды і праца ў польскім сектары Інбелкульта была добрай падставай. Тым больш, што мужам Ядвігі Уладзіславаўны быў выбітны дзяржаўны дзеяч Стэфан Лявонавіч Гельтман. Але ўжо ў верасні 1927 года ўніверсітэцкая кар'ера Я. У. Гельтман завяршылася. Член партыі з актыўным рэвалюцыйным мінулым была запатрабаванай на іншым „фронце", у Маскве. Тут можна толькі дадаць, што Гельтманы ў 1930-я гг. падвергліся рэпрэсіям, у тым ліку пакуты ў сумна вядомым лагеры „АЛЖИР" разам з маці перанёс адзіны сын Віктар, якому ўсё ж удалося выжыць і пазней стаць выдатным беларускім вучоным.

Калі працягнуць размову аб вучэбным працэсе ў БДУ, то ў адрозненне ад мноства іншых курсаў, што былі запланаваны на педфаку, вышэйназваныя тры не мелі спасылак на пэўную літаратуру, якую студэнты абавязаны былі дапаўняльна прачытаць і засвоіць. Пэўна, была верагоднасць для выкладчыкаў, што прапанаваныя імі кнігі і падручнікі маглі быць расцэнены „куратарамі ад адукацыі" адпаведным чынам. А можа, і не было насамрэч магчымасці знайсці неабходныя кнігі? І ці былі такія, якія б адпавядалі ўзроўню ўніверсітэцкіх патрабаванняў? Таму спадзявацца патрэбна было толькі на лекцыі і дасведчанасць выкладчыкаў.

На сацыяльна-гістарычным аддзяленні педфака згаданая вышэй Я. У. Гельтман для студэнтаў другога курса па „польскай сэкцыі" выкладала польскую мову. А вось на фізіка-матэматычным ды прыродазнаўчым аддзяленнях польскай мовы (не кажучы ўжо аб іншых прадметах) не было зусім. Затое былі беларуская ды „новыя мовы" — нямецкая, ангельская і французская. Педпрактыка ў школах прадугледжвала правядзенне ўрокаў на ідыш[18]. Але не на польскай...

У наступным 1927/28 вучэбным годзе агульны сэнс выкладання на ўсіх чатырох аддзяленнях педфака амаль што не змяніўся. Так, для польскай секцыі была запланавана польская мова ў памеры двух гадзін. З'явіўся шэраг новых прадметаў, сярод якіх і з „польскім ухілам". Напрыклад, у праграме „сацыяльна-гістарычнага цыклу" выкладчык Каліноўскі для беларускай і польскай секцый павінен быў чытаць курс „Гісторыя польскай культуры"[19]. Тут можна ўдакладніць: гэтым выкладчыкам быў Уладзімір Сямёнавіч Каліноўскі, які ўладкаваўся

[17] Там жа, арк. 2, 4, 6.
[18] Там жа, с. 24, 52, 54.
[19] *Агляд выкладаньня на пэдагогічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў 1927-28 ак. г.*, Менск 1927, с. 6.

на працу ў БДУ ў кастрычніку 1927 года, але ўжо ў верасні 1929 года, як сведчыць ягоная „Асабовая справа”, пакінуў універсітэт.

Фігура Каліноўскага як бы ўвасобіла ў сваім лёсе важнейшыя палітычныя, грамадскія, культурна-адукацыйныя працэсы, якія бурліва развіваліся на беларускіх землях у атачэнні ўсходняй і заходняй дзяржаў-суседак на працягу першай траціны ХХ стагоддзя. Ён вядомая постаць беларускай гісторыі, хаця для дэталёвай біяграфіі не хапае інфармацыі (як за 1930-я гады, так і звестак, калі і якім чынам завяршыўся яго жыццёвы шлях). Мы будзем абапірацца на факты, якія ўласнай рукой Уладзімір Сямёнавіч зафіксаваў у сваёй універсітэцкай „Справе”. Нарадзіўся ён у 1889 годзе ў Ваўкавыску ў сям’і фельчара. Паслядоўна скончыў класічную гімназію ў Гародні і гімназію пры Пецярбургскім гісторыка-філалагічным інстытуце. Потым атрымаў вышэйшую юрыдычную адукацыю ў Пецярбургскім універсітэце і працаваў у сталіцы імперыі „па судзебнаму ведамству”. Ужо ў чэрвені 1921 года пасля Рыжскага міру прыехаў на радзіму, прайшоў па выніках выбараў у лістападзе 1922 года паслом у Сойм — „ад беларускага сялянства Беластоцкага, Ваўкавыскага і Сакольскага паветаў”[20]. Але праз восем месяцаў Уладзіміра Сямёнавіча абвінавацілі ў вялікарасійскім паходжанні і кінулі ў турму. І толькі магчымасць разгляду яго справы ў Лізе Нацый вымусіла польскія ўлады выслаць яго ў СССР. У Мінску ён (да пачатку выкладання ў БДУ) працаваў юрысконсультам у сельскагаспадарчым інстытуце, затым — у апараце ЦВК БССР. Зусім не вопытны педагог стаў адразу дацэнтам „па катэдры гісторыі польскай культуры” педфака ўніверсітэта дзякуючы, як мы лічым, тром абставінам. Па-першае, ён меў рэкамендацыю ад самога Аляксандра Чарвякова, які палічыў, што „тав. Каліноўскі як па падрыхтоўцы, так і па напрамку думкі зусім здавальняе, каб быць выкладчыкам па гісторыі польскай культуры”. Па-другое, дыпламаваны юрыст змог праслухаць у Петраградзе поўны курс Археалагічнага інстытута і нават скончыць курс ва „Усходняй Акадэміі ў Петраградзе на грузінскай мове”[21]. І па-трэцяе, такі адукаваны чалавек, а тым больш выкінуты з родных мясцін варожай для савецкіх улад дзяржавай, проста не мог не быць выкарыстаны ў публіцыстыцы. Таму натуральна, што У. Каліноўскі друкаваўся ў беларускіх часопісах „Полымя” і „Савецкае будаўніцтва”, у газетах „Звезда” і „Савецкая Беларусь”, іншых выданнях. Гэта дазволіла яму прадставіць кіраў-

[20] НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 3400, арк. 3.

[21] Там жа, арк. 6, 4.

ніцтву ўніверсітэта „Спіс Галоўных друкаваных прац аб Польшчы”, якія тычыліся эканамічных, палітычных, грамадскіх аспектаў развіцця заходняй суседкі БССР. Вось толькі ў выніку прадпрынятых немалых намаганняў стаць сталым навукоўцам БДУ Уладзімір Сямёнавіч не змог прафесійна ці палічыў ва ўмовах нарастання антыпольскіх настрояў небяспечным. У студэнцкіх аўдыторыях ён пратрымаўся са жніўня 1927 года да верасня 1929 года. Апошняя інфармацыя аб ім адносіцца да 22 красавіка 1931 года, калі кадравікі БДУ саставілі (мабыць, па запыце самога У. Каліноўскага) кароценькае „Пасьведчаньне” аб часе ягонай працы ва ўніверсітэце на пасадзе дацэнта[22].

Калі ж вярнуцца да аналізу вучэбнага плана, то прадугледжваліся заняткі „літаратурна-лінгвістычнага цыклю” ў форме „просэмінарыяў па нацыянальных літаратурах” — беларускай, польскай, яўрэйскай і расійскай. І калі прафесар Міхаіл Піятуховіч выкладаў беларускую, а прафесар Аляксандр Вазнясенскі — „сучасную пралетарскую літаратуру”, то імя выкладчыка польскай у раскладзе не было названа.

Некалькі пашырыўся пералік прадметаў на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні. Так, па „польскай сэкцыі” ў першым семестры выкладаўся курс „Гісторыя Польшчы ў новы час” (4 гадзіны), у другім — „Польская народная творчасць” (таксама 4 гадзіны), а польская мова — на працягу года. Зноў жа падручнікі і дапаможная літаратура, як і выкладчыкі, у дадзеным выпадку не былі зафіксаваны ў адрозненне ад „яўрэйскай сэкцыі”, па якой пералік прадметаў і метадычныя парады па іх засваенні былі падрабязна распісаны. На 3-м курсе прафесар Мікалай Шчакаціхін заявіў арыгінальную лекцыйную дысцыпліну — „Гісторыя польскага і ўкраінскага мастацтва” (у другім семестры 4 гадзіны). І што цікава: амаль упершыню ён зрабіў удакладненне наконт магчымасці выкарыстання студэнтамі падручнікаў па гэтым курсе. У раскладзе было запісана: „Падручнікі будуць вызначаць у часе выкладаньня ў залежнасці ад набыцьця тых ці іншых у Дзяржаўную Бібліатэку ці ў габінет гісторыі мастацтва”[23]. Паралельна ў гэты ж вучэбны перыяд студэнты павінны былі праслухаць курс „Гісторыі новай польскай літаратуры” (імя выкладчыка расклад не падаваў).

Між тым, калі звярнуцца да архіўных матэрыялаў, то можна згадаць некалькі прозвішчаў тых, хто якраз у гэтыя гады вёў выкладанне па „польсэкцыі”. Акрамя згаданага вышэй У. С. Каліноўскага,

[22] Там жа, арк. 5, 12.

[23] *Агляд выкладаньня на пэдагогічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў 1927-28 ак. г.*, с. 10, 16.

у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь маюцца невялікія „дасье” на „выкладчыка польскае мовы на пэдфаку Даўкш Казіміра Ромуальдавіча” і „асістэнта пры катэдры польскай літаратуры на пэдфаку Друскоўскага Адама Генрыкавіча”. Праўда, першы пратрымаўся ў БДУ толькі два апошнія месяцы 1927 года, а другі выкладаў з лістапада 1927 года па сакавік 1928 года. Біяграфіі абодвух дастаткова цікавыя. Нават з кароткіх звестак можна зразумець, які складаны шлях па жыцці і ў адукацыйнай сістэме прайшлі гэтыя амаль што аднагодкі. К. Р. Даўкш нарадзіўся ў 1884 годзе ў Магілёўскай губерні і змог скончыць Жэнеўскі ўніверсітэт. А. Г. Друскоўскі быў родам з Галіцыі (нарадзіўся ў 1882 годзе), асвойваў вышэйшую адукацыю ў Ягелонскім універсітэце, потым ва ўзноўленым Віленскім. І Казімір Рамуальдавіч, і Адам Генрыкавіч пісаліся палякамі, а польскую мову лічылі роднай[24]. Нельга ўстрымацца, каб не прывесці цікавую акалічнасць з біяграфіі А. Г. Друскоўскага. Ён не толькі быў родам з Галіцыі, але ў 1914-1918 гг. служыў у аўстра-венгерскай арміі, а ў 1918-1920 — у польскай[25]. Можна толькі здагадвацца аб цяжкасцях на ягоным жыццёвым шляху ў савецкай Беларусі ў 1930-я гады.

На апошнім, чацвёртым, курсе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педфака ў 1927/1928 вучэбным годзе з’явіўся новы арыгінальны прадмет — „Культура і літаратура Беларусі і Польшчы ў XVI ст.”, які распрацаваў дацэнт Дзмітрый Даўгяла не толькі ў якасці „сэкцыйнага курса”, але і для чытання лекцый сумесна студэнтам „польсэкцыі”. Гісторык дакладна пазначыў кола неабходнай для засваення студэнтамі літаратуры: тры падручнікі (Яўхіма Карскага „Белоруссы”, Мікалая Янчука „Гісторыя беларускай літаратуры” мінскага выдання 1922 года і даўняе выданне „История славянских литератур” Аляксандра Пыпіна і Уладзіміра Спасовіча) і тры „Дапаможнікі” („Выпісы з беларускай літаратуры”, „400-лецьце беларускага друку” і „Хрестоматия образцов польской литературы церкови”). Асобна для польскай секцыі былі запланаваны заняткі па курсе „Гістарычная граматыка польскай мовы” і „Найноўшая польская літаратура”. На жаль, прозвішчы выкладчыкаў адсутнічаюць.

Для студэнтаў сацыяльна-гістарычнага аддзялення па „польскай сэкцыі” на другім курсе была пастаўлена ў расклад „Гісторыя Польшчы да падзелаў”. Гэты лекцыйны курс перакрыжоўваўся са зместам курса, які на „белсэкцыі” чытаў дацэнт В. Д. Дружчыц, але ў сувязі

[24] НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 2437, арк. 6; спр. 2640, арк. 6.
[25] НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 2640, арк. 3.

з гісторыяй Беларусі. Мабыць, ён вёў гэтыя два курсы, але ў раскладзе гэта не прапісана. Цікава, што прафесар Сосіс па „яўсэкцыі" у гэтым жа семестры чытаў курс „Гісторыі яўрэяў у Польшчы, Літве і Беларусі". У расклад трэцяга курса „польсэкцыі" гэтага аддзялення без пазначэння выкладчыкаў былі ўключаны „Гісторыя новай польскай літаратуры" і „Новая гісторыя Польшчы". Адзначалася, што педпрактыка будзе праходзіць выключна ў беларускай і яўрэйскай школах[26]. На двух іншых аддзяленнях педфака, як і годам раней, польскага складніка ў навучанні зусім не было.

Пэўным феноменам развіцця савецкай Беларусі ў 1920-1930-я гг. неабходна лічыць тое, што такая далікатная сфера жыцця новага савецкага беларускага соцыуму, як інтэлектуальная, развівалася праз чатыры мовы. Важнасць уліку моўнага фактару ў сацыялістычным дзяржаўным будаўніцтве была адлюстравана ў прынятай 31 ліпеня 1920 года Дэкларацыі аб незалежнасці ССРБ, а пазней рэалізавана ў Канстытуцыі БССР 1927 года, якая перад гэтым некалькі гадоў натужна дапрацоўвалася. У артыкуле 21 Канстытуцыі адзначалася: „За ўсімі грамадзянамі Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі прызнаецца права свабоднага карыстання роднай мовай на з'ездах, у судзе, кіраванні і грамадскім жыцці. Нацыянальным меншасцям забяспечваецца права і рэальная магчымасць навучання ў школе на роднай мове. У дзяржаўных і грамадскіх установах і арганізацыях Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі ўсталёўваецца поўнае раўнапраўе беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай моў"[27]. Усе чатыры мовы з'явіліся на дзяржаўным гербе. Раўнапраўе „мясцовых" нацый і іх моў — беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай — суправаджалася наданнем беларускай мове статусу мовы міжнацыянальных зносін[28].

Такім чынам, адной з чатырох дзяржаўных моў была мова польская. Статус польскай мовы і яго змены на працягу 1920-1930-х гг. разгледжаны ў кандыдацкай дысертацыі Марыны Аляксандраўны Раткевіч[29]. У выніку праведзенага даследавання аўтар прыйшла да высновы, што фактычны статус моў у адзначаныя гады адпавядаў іх

[26] *Агляд выкладаньня на пэдагогічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў 1927-28 ак. г.*, с. 27, 31, 32, 37.

[27] *Канстытуцыя (Асноўны закон) Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі*, Менск 1927, арт. 21.

[28] С. М. Ходзін, *Дзяржаўнае будаўніцтва ў Беларусі ў 1920-я гг.*, „Працы гістарычнага факультэта БДУ", 2011, вып. 6, с. 113.

[29] М. А. Раткевич, *Польский язык в Беларуси в XX веке (1920-е — 1990-е гг.): социологический аспект: дис. ... канд. филол. наук*, Минск 2013.

юрыдычнаму статусу, што дазваляла мовам асноўных нацыянальнасцей, у тым ліку і польскай мове, функцыянаваць у найбольш важных сферах зносін. Да гэтых сфер аднесены адукацыя, справаводства, сродкі масавай камунікацыі, культура.

Можна пагадзіцца з тым, што польская мова ў 1920-1930-я гг. стала паўнапраўным кампанентам сацыяльна-камунікатыўнай сістэмы БССР. Але ўзнікае пытанне, наколькі яе становішча забяспечвала патрэбы польскага насельніцтва (як у колькасным, так і ў якасным плане)? Так, на тэрыторыі рэспублікі ў пачатку 1921 года было адноўлена выданне органа РСДРП „Młot" („Молат"). У 1926 годзе газета была закрыта і замест яе пачала выходзіць сялянская газета „Orka". Для моладзі з сакавіка 1921 па снежань 1922 года раз у месяц на старонках газеты „Młot" друкавалася спецыяльная калонка „Sztandar Młodzieży" („Сцяг моладзі"). З 1922 года па 1927 год выходзіла асобная газета для моладзі „Gwiazda Młodzieży" („Звязда моладзі"). Пасля яе закрыцця рэкамендавалася маскоўскае выданне „Bądź gotów" („Будзь гатоў")[30].

Што да якаснага стану мовы газет, спецыялісты адзначаюць: калі „Młot" імкнуўся яшчэ падтрымліваць дастаткова высокі ўзровень, то ў рэдакцыі газеты „Orka" відавочна не хапала рэдактараў, карэктараў і нават шрыфтоў. Але яшчэ горшы быў моўны стан рэгіянальных газет, у якіх, напрыклад, як у органе польскага нацыянальнага раёна „Szturmowiec Dzierżyńszczyzny" („Штурмавік Дзяржыншчыны"), пастаянна сустракаліся русізмы. Ну, а тое, што да сярэдзіны 1930-х гг. колькасць падпісчыкаў рэзка скарацілася, сведчыла, відавочна, і пра незадавальняючы стан змястоўнасці гэтых выданняў. З 1937 года польскія газеты наогул зніклі з інфармацыйнай прасторы савецкай Беларусі. Іх выданне аднавілася толькі ў верасні 1939 года пасля далучэння заходніх абласцей[31]. Што датычылася польскамоўнай кніжнай прадукцыі, то нягледзячы на тое, што яна займала чацвёртае месца сярод іншамоўных выданняў, большасць кніжак (да 60%) займалі пераклады — у адрозненне ад выданняў на беларускай, рускай мовах і ідыш, дзе большую частку складалі арыгінальныя выданні[32].

[30] М. А. Раткевич, *Национально-языковая политика в БССР (1920-е — начало 1930-х гг.) и её влияние на статус польского языка*, „Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", 2018, серыя гуманітарных навук, т. 63, № 3, с. 343.

[31] А. А. Кожинова, *Языки и графические системы Беларуси в период от Октябрьской революции до Второй мировой войны*, https://oaj.fupress.net/index.php/ss/article/view/2402/2402 [доступ: 22.04.2019].

[32] М. А. Раткевич, *Национально-языковая политика в БССР (1920-е — начало 1930-х гг.) и её влияние на статус польского языка*, с. 344.

Такая сітуацыя, хутчэй за ўсё, сведчыла аб недахопе якасных кадраў, інтэлектуальнага польскамоўнага патэнцыялу. Хаця, безумоўна, у разгляданыя гады ў гэтым кірунку было зроблена шмат. Але тут зноў узнікае пытанне аб вызначэнні крытэрыю ацэнкі. З чым параўноўваць: з папярэднімі гадамі, ці са зменлівымі патрэбамі грамадства. Адзначаецца, што за 1927-1934 гады колькасць польскіх школ павялічылася на 107 і склала 252 (гэта другое месца пасля беларускамоўных школ). Разам з тым, кадраў, якіх рыхтаваў адзіны польскі педагагічны тэхнікум, было недастаткова для забеспячэння гэтых школ кваліфікаванымі настаўнікамі. Не хапала і падручнікаў. Тыя, што ў першай палове 1920-х гг. завозіліся з Польшчы, не маглі задаволіць улады па ідэалагічных прычынах. Таму для распрацоўкі і выдання падручнікаў былі створаны выдавецкія цэнтры ў Маскве, Беларусі, Украіне[33].

Польская мова ўваходзіла ў вучэбныя планы ВНУ, у навуковыя распрацоўкі Інбелкульта, пазней — Беларускай акадэміі навук (БАН) і Акадэміі навук БССР (АН БССР). Польская мова афіцыйна лічылася роўнай мовам беларускай, рускай і ідыш. Гэта агульнавядомы факт. Але, як не дзіўна, і на сёння няма якіх-небудзь грунтоўных прац, дзе б даследчыкі-гісторыкі прасачылі тыя «хвалі», што суправаджалі выкарыстанне польскай мовы ў адукацыі, навуцы і жыццёвым абыходзе.

Увядзенне ў адукацыйны працэс вышэйшай навучальнай установы навучання на той ці іншай мове, як ужо адзначалася вышэй, было забяспечана юрыдычна. Для рэалізацыі права на атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове студэнту дастаткова было пазначыць, на якой мове ён жадаў атрымліваць адукацыю. Прычым гэтай моваю (прынамсі, яго гутарковым варыянтам) ён павінен быў валодаць цалкам вольна. Але на практыцы ўсё адбывалася больш складана.

Па-першае, складанасці выклікаліся нацыянальным складам выкладчыкаў. Напрыклад, у БДУ сярод іх у першыя гады было даволі шмат прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі. Таму выкладанне да 1925 года вялося ў большай ступені на рускай мове. Па-другое, для ўвядзення моўнай разнастайнасці трэба было распрацаваць спецыяльныя навучальныя праграмы, якія дазволілі б студэнтам не толькі навучацца на роднай мове, але і інтэграваццa ў адукацыйны асяродак універсітэта. І, па-трэцяе, залежнасць ад нацыянальнага складу студэнцтва. Так, у першы навучальны год у БДУ з 1480 прынятых студэнтаў 459 склалі беларусы, 678 яўрэі, 21 рускія і 14 палякі. У 1925/1926 навучальным годзе ў БДУ навучалася 2916 студэнтаў.

33 М. А. Раткевич, *Польский язык в системе образования БССР в 20-е-30-е гг. XX в.*, с. 64.

З іх беларусаў — 1519, яўрэяў — 1162, рускіх — 165 і палякаў — 26. У 1927/1928 навучальным годзе з 2986 студэнтаў беларусаў было 1720, яўрэяў — 1025, рускіх — 143 і 51 паляк[34]. Невялікая колькасць польскамоўных студэнтаў стала прычынай таго, што польская секцыя так і не была цалкам сфарміраваная і не мела ў 1920-я гг. ва ўніверсітэце вялікага ўплыву. У 1931 годзе ў пераўтвораным з педагагічнага факультэта БДУ Беларускім дзяржаўным вышэйшым педагагічным інстытуце ў Мінску пачала дзейнічаць польская секцыя, якую планавалася пераўтварыць у Польскі педагагічны інстытут. Але гэтыя спробы не ўдалося рэалізаваць[35].

Навуковай працай па вывучэнні стану польскай мовы ў БССР займаўся польскі аддзел (пазней сектар), створаны пры Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульце). 31 студзеня 1925 года агульны сход рэарганізаванага Інбелкульта падчас абмеркавання планаў далейшай працы прыняў адпаведныя папраўкі да статута ўстановы ў сувязі з арганізацыяй новага (польскага) аддзела. На гэтым жа пасяджэнні старшыня польскага аддзела Стэфан Лявонавіч Гельтман (у 1922-1925 гг. наркам земляробства, старшыня Дзяржплана, эканамічнага савета і намеснік старшыні Саўнаркама БССР, у 1937 годзе арыштаваны і расстраляны) быў уключаны ў склад Прэзідыума ІБК[36]. Ужо ў ходзе падрыхтоўкі плана работы будучага аддзела меркавалася стварыць тры пастаянныя камісіі па вывучэнні польскай мовы, польскай літаратуры і польскай гісторыі.

У дачыненні польскай мовы адзначалася неабходнасць правесці „навуковае дасьледваньне польскае мовы ў яе асаблівасьцях на Беларусі; упрашчэньне правапісу". У рэчышчы польскай літаратуры меркавалася „крытычнае вывучэньне польскай літаратуры, асабліва творчасьці польскіх пісьменьнікаў, паходзячых з Беларусі; распрацоўка яе гісторыі; дасьледваньне народнае творчасці польскае людносьці на Беларусі". Пры вывучэнні польскай гісторыі прыярытэты размяркоўваліся наступным чынам: „навуковае дасьледваньне тых перыядаў польскае гісторыі, калі Беларусь-Літва складала супольнае дзяржаўнае цэлае; вывучэньне рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і яго ўплываў на беларускія працоўныя масы; гістарычнае дасьлед-

[34] Л. И. Мосейчук, *Национальное многообразие в учебных программах Белорусского государственного университета в 20-30-е гг. XX в.*, [у:] *История и историография: объективная реальность и научная интерпретация*, Минск 2018, с. 80.

[35] Там жа, с. 83.

[36] *Пратакол першага агульнага сходу-пасяджэння членаў Інстытуту беларускай культуры ад 31 студзеня 1925 г.*, [у:] *Інстытут беларускай культуры. 1922-1929: дакументы і матэрыялы*, Мінск 2011, с. 87, 88.

ваньне эканомікі Польшчы і яе культуры, асабліва ў іх уплывах на Беларусь”[37].

У дакументах, што захоўваюцца ў Цэнтральным навуковым архіве НАН Беларусі, маецца і больш падрабязны план работы па ўсіх трох кірунках. І, хаця на ім пазначана, што план часовы і выпрацаваны „наскоро и поэтому не мог обнять всей работы”, маштабы яго ўражваюць. План дае магчымасць прасачыць і размеркаванне кадраў (адразу адзначым, вельмі нешматлікіх у параўнанні з адначасова створаным „жыдоўскім аддзелам”). Так, кіраваць даследаваннямі па праблемах польскай мовы меркавалася даручыць Чаславу Дамброўскаму і Ядвізе Гельтман; польскай літаратуры — Хшчановічу (гэтае прозвішча сустракаецца толькі ў дакументах падрыхтоўчага часу і не фігуруе ў далейшым); польскай гісторыі (інакш у гэтым плане пазначана „польской истории/истории польского населения в Белоруссии”) — Івану Віткоўскаму і В. Фрышман[38].

Больш дакладныя звесткі аб кадравым складзе польскага аддзела і размеркаванні супрацоўнікаў па секцыях (што дае магчымасць вызначыць іх спецыялізацыю і тыя навуковыя кірункі, якімі яны займаліся ў Інбелкульце) дазваляе дакумент пад назвай „Расклад-росьпіс сапраўдных членаў ІБК па секцыях” ад 25 лютага 1925 года. Зыходзячы з гэтага дакумента, у польскім аддзеле на пастаяннай аснове працавалі: С. Гельтман (агранамічная і эканамічная секцыя), Ч. Дамброўскі (прыродазнаўчая), Я. Гельтман (мовазнаўчая), В. Фрышман (гістарычная), І. Віткоўскі (гістарычная), У. Даведчык (агранамічная)[39].

Дадзеная раскладка навуковых сіл паказвае, што, калі ў сярэдзіне 1920-х гг. на тэрыторыі СССР узнікла дыскусія аб неабходнасці спрашчэння польскага правапісу і графікі[40], наша рэспубліка не валодала творчымі сіламі для правядзення глыбокага навуковага даследавання праблемы. Тым больш, што і названыя вышэй нешматлікія навукоўцы польскага аддзела Інбелкульта не мелі адзінага погляду. Праз некалькі гадоў пасля пачатку дыскусіі старшыня польскага сектара Іван Віткоўскі так ахарактарызуе расстаноўку навуковых сіл: „Ряд товарищей стал на правооппортунистические позиции или совсем отрицая необходимость реформы (Гельтман, 1924; А. Ф-ов?), или откладывая её до момента пролетарской революции в Польше,

[37] Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (далей: ЦНА НАНБ), ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 76.

[38] Там жа, арк. 69.

[39] ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 4.

[40] Пытанне аб змяненні польскага правапісу ўзнікла яшчэ на пачатку XX ст. з па-

исходя из невозможности построения польской национальной культуры в СССР (т. Домбаль, 1924 г.). В дискуссии выявились и левацкие настроения перемены почти целиком и графики и правописания (польский националист К. Даукша)”[41].

Прапановы рэфарматараў былі наступныя: замяніць **rz** на **ż**, **ó** на **u; дыграфы sz** і **cz** на знакі з адной буквы (напрыклад, **š** і **č**); выдаліць насавыя **ą** і **ę,** замяніўшы на **om** і **em** або на **on** і **en** (у залежнасці ад пазіцыі ў слове). Прапаноўвалася таксама замена **ch** на **h** (але тут узнікалі сумневы, выкліканыя вымаўленнем гэтых літар розных гукаў у розных дыялектах)[42]. Былі і некаторыя іншыя прапановы. Але нас, як гісторыкаў, больш цікавяць прычыны, што выклікалі шматгадовую дыскусію, якая распачалася на старонках газеты „Młot”. Пра прычыны змен гаварылася рознае. Перш за ўсё, афіцыйна адзначалася, што гэты крок неабходны для спрашчэння правапісу, каб спрыяць ліквідацыі непісьменнасці сярод простых палякаў (у 1920-я гг. сярод польскай нацыянальнай меншасці каля паловы насельніцтва было непісьменным). Некаторыя сучасныя аўтары (напрыклад, М. Іваноў) адной з прычын называюць імкненне адарваць палякаў-каталікоў ад касцёла шляхам ускладнення чытання рэлігійных кніг, ды і наогул ад польскай культуры.

На пачатку 1930-х гг., калі пачалася новая хваля дыскусіі, у дакументах таго часу асноўнай мэтай рэформы адзначаўся палітычны чыннік. Так, у дакладной запісцы С. Губэр „Аб неабходнасці спрашчэння польскага правапісу” гаворыцца адназначна: „Рэформа правапісу — гэта ня толькі справа скарачэньня часу, неабходнага для ўладаньня тэхнікай пісаньня, — гэта справа першачарговага палітычнага значэньня. Рэформа правапісу — гэта справа хуткага ўцягненьня працоўнага насельніцтва да актыўнага грамадзка-палітычнага жыцьця, уцягненьня яго да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтва сацыялізму [...].

дачы польскага даследчыка Адама Антонія Крынскага (1844-1932), прапановы якога падтрымала частка польскай інтэлігенцыі, члены СДКПіЛ, а пазней і КПП (рэформа атрымала ўмоўную назву „варшаўская арфаграфія”). У 1918 г. лінгвісты Кракаўскай Акадэміі прапанавалі праект, які па сутнасці вяртаў правапіс у статус да рэформы Крынскага („кракаўская арфаграфія”). Гэтая (апошняя) прапанова была прынята польскім урадам. Дыскусія ў СССР адбывалася хвалепадобна, найбольшы пад’ём быў адзначаны ў 1924 г., 1928-1929 гг., 1931 г. На пачатак 1930-х гг. у СССР выкарыстоўваўся правапіс і „варшаўскай”, і „кракаўскай” арфаграфіі (ЦНА НАНБ, ф. 72, воп. 1, спр. 9, арк. 7).

41 Там жа, арк. 9.

42 А. А. Кожинова, *Языки и графические системы Беларуси в период от Октябрьской революции до Второй мировой войны*, https://oaj.fupress.net/index.php/ss/article/view/2402/2402 [доступ: 22.04.2019].

Польсэктар Беларускай Акадэміі Навук павінен заняцца навуковай апрацоўкай гэтага пытаньня. Гэтае пытаньне павінна быць вырашана бальшавіцкімі тэмпамі”[43].

Вынікам дыскусіі стала прынятае ў 1931 годзе на нарадзе ў польскім сектары Беларускай акадэміі навук рашэнне аб неабходнасці больш хуткага правядзення рэформы арфаграфіі. Разам з тым адзначалася, што сур’ёзнай перашкодай у справе рэфармавання польскай мовы з’яўляецца пазіцыя Украіны, дзе „ня лічаць гэтую справу важнай дзеля таго, каб мабілізаваць вакол яе ўвагу мас”[44]. Але не меншай, а, хутчэй, больш важнай праблемай была адсутнасць і на пачатку 1930-х гг. у Беларусі кваліфікаваных кадраў філолагаў, знаўцаў польскай мовы. Ды і палітычная сітуацыя ў краіне, звязаная з узмацненнем барацьбы з „нацыянал-дэмакратызмам”, не спрыяла развіццю моўных праектаў.

Вельмі цікавым падаецца пытанне аб узаемакантактах на глебе навукі і адукацыі беларускіх і польскіх інтэлектуалаў тых гадоў. На гэты конт асабліва па 1920-х гадах маецца вялікая, цікавая і каштоўная з даследчыцкіх пазіцый інфармацыя. Безумоўным лідарам у дадзеным кантэксце быў рэктар БДУ Уладзімір Пічэта. Але потым карціна радыкальна змянілася.

Лічым, што ў адным матэрыяле больш-менш грунтоўна падаць разнавектарнасць навуковых, адукацыйных, грамадскіх працэсаў, якія развіваліся ў адносінах паміж двума суседнімі палітычна варожымі сістэмамі, проста немагчыма. Калі ж зыходзіць з неабходнасці вызначыць пэўную парадыгму ў прадстаўленай інфармацыі, то можна пагадзіцца з тымі меркаваннямі, што ў азначаны час многае ў правядзенні „нацыянальнай палітыкі” савецкімі ўладамі было як натуральным, вызначаным задачамі падтрымкі гармоніі ў жыццядзейнасці этнасаў БССР, так і штучным, калі з году ў год мацнелі бюракратыя, адпіскі, сабатаж на месцах і інш. Адначасова мацнела разуменне не толькі немагчымасці выканання ўстаноўкі „ўсебаковага развіцця” польскай мовы, культуры і інш., але і таго, што праяўленне намаганняў на гэты конт амаль што адназначна пагібельна.

[43] ЦНА НАНБ, ф. 72, воп. 1, спр. 9, арк. 3, 4.
[44] Там жа, арк. 5.

**Summary**

**„The Polish Factor" in the Intellectual Sphere of Belarus in the 1920s and 1930s**

The article considers the key issues, that are crucial to solving the problem of the influence of „the Polish factor" in the development of intellectual sphere of the Soviet Belarus in 1920s and 1930s. These include: the official interpretation of the problems by the Soviet authorities; activities of special national institutions; the status of the Polish language and its changes during the 1920s and 1930s. The authors have reached the conclusion that at that period the Soviet authorities did a lot to support the harmony between the nations which lived in the Soviet Belarusian Republic, on the other hand such problems as the bureaucracy and repressions for „counterrevolutionary" activities were growing. Simultaneously, it was soon obvious that there was no possibility of the development of the Polish language as well as culture and all attempts to do so were threatened with death.

**Keywords:** intellectual sphere, the Polish language, Belarus under the Soviet rule, national policy, the language factor.

**Streszczenie**

**„Czynnik polski" w kształtowaniu intelektualnej sfery na Białorusi (lata 1920-1930)**

W artykule przeanalizowane zostały problemy, mające kluczowe znaczenie w zbadaniu wpływu „czynnika polskiego" na rozwój sfery intelektualnej na Białorusi radzieckiej w latach 20. i 30. XX wieku. Analizie poddano oficjalną interpretację polityki narodowościowej przez władze radzieckie, działalność instytucji narodowościowych oraz status języka polskiego w omawianym okresie.

Autorzy dochodzą do wniosku, że w badanym okresie wiele elementów radzieckiej polityki narodowościowej miało zarówno charakter naturalny, wynikający z potrzeby utrzymania harmonijnego współżycia narodów w BSSR, jak i sztuczny, gdy z roku na rok zwiększała się rola biurokracji, nasilały się represje za działalność „kontrrewolucyjną".

Jednocześnie rosło przekonanie nie tylko o niemożności dokonania „wszechstronnego rozwoju" języka polskiego, kultury, ale również o tym, że każdy wysiłek w tym kierunku jest prawie równoznaczny z utratą życia.

**Słowa kluczowe:** sfera intelektualna, Białoruś radziecka, polityka narodowościowa, czynnik językowy.

**Aleh Yanouski** — historyk, profesor Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku, autor ponad 400 prac naukowych. Zainteresowania badawcze: problemy kształtowania i rozwoju edukacji wyższej na Białorusi, polityka zagraniczna państw Europy Środkowej i Wschodniej w XV-XVII w.

**Valiantsina Yanouskaya** — historyk, autorka ponad 250 prac naukowych. Bada problemy historii i historiografii historii Białorusi XIX-XX w.

**Любоў Козік**
(Мінск)

# Падзеі польска-савецкай вайны на старонках часопіса „Беларуская работніца і сялянка” (1924-1939 гг.)

У гісторыі кожнага народа можна вылучыць знакавыя падзеі мінулага. На пэўных этапах развіцця грамадства і дзяржавы ім надаецца выключнае значэнне альбо адбываецца іх сімвалічнае „забыванне”. У гісторыі Беларусі адным з прыкладаў такіх змен у палітыцы памяці выступае польска-савецкая вайна 1919-1921 гадоў. У міжваенны перыяд пра яе актыўна згадвалі ў публічнай прасторы, а дзень вызвалення Мінска святкавалі на дзяржаўным узроўні. Ужо пасля вераснёўскіх падзей 1939 года, якія прывялі да ўз’яднання Заходняй Беларусі і БССР, а тым больш пасля Вялікай Айчыннай вайны польска-савецкая вайна страціла сваё прапагандысцкае значэнне. Аднак за міжваеннае дваццацігоддзе ў грамадстве сфарміраваўся пэўны вобраз падзей 1919-1920 гадоў, які ў значнай ступені вызначаў стаўленне да палякаў у наступныя дзесяцігоддзі.

Для аналізу дзяржаўнай палітыкі БССР па фарміраванні вобраза польска-савецкай вайны і палякаў намі быў выбраны часопіс „Беларуская работніца і сялянка”. Ён выступаў адным са сродкаў савецкай прапаганды і быў адрасаваны жаночай частцы беларускага грамадства. Нягледзячы на вузкую мэтавую аўдыторыю, выданне праводзіла агульную лінію партыйна-дзяржаўнай палітыкі БССР. Тым больш, што жанчыны, працэнт пісьменнасці якіх быў нізкі, былі той часткай грамадства, на якую адносна лёгка ўздзейнічала прапаганда.

Як вядома, у снежні 1917 года бальшавікі абвясцілі аб роўнасці мужчын і жанчын. Для беларускага грамадства, дзе пераважала вясковае насельніцтва, а грамадскі і сацыяльны статус жанчын быў нізкі, гэта была сапраўды рэвалюцыйная з’ява. Для яе ўсведамлення і рэалізацыі на практыцы патрабаўся час. Гэта разумела і кіраўніцтва савецкай дзяржавы, якое разам з ліквідацыяй непісьменнасці пачало выхоўваць у грамадстве новыя ідэалы, каштоўнасці і свядомасць.

Праца па ідэйным выхаванні жанчын была ўскладзена на так званыя жаночыя аддзелы, рашэнне аб стварэнні якіх было прынята ў 1917 годзе на I Усерасійскім з’ездзе работніц і сялянак. Перад жаночым аддзелам ЦК КП(б)Б і яго структурнымі адзінкамі былі пастаўлены дзве задачы:

1) распаўсюджанне ўплыву камуністычнай партыі на шырокія слаі работніц і сялянак з мэтай зрабіць іх актыўнымі праваднікамі мерапрыемстваў савецкай улады;

2) падняцце іх культурна-палітычнага ўзроўню шляхам тлумачэння задач, якія стаяць перад партыяй і савецкай уладай[1].

Адным са сродкаў рэалізацыі гэтых задач стаў часопіс „Беларуская работніца і сялянка"[2] (аналаг савецкіх часопісаў „Работница" і „Крестьянка"). Рашэнне аб яго ўзнікненні і распаўсюджанні было прынята ЦК КП(б)Б на падставе рашэння XIII З'езда РКП(б) аб умацаванні працы перыядычных выданняў для работніц і сялянак[3].

У БССР выданне часопіса было даручана жаночаму аддзелу ЦК КП(б)Б. Выхад першага нумара быў прымеркаваны да гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі, правядзення ўсебеларускага з'езда грамадскіх дзяячак і стварэння дэлегацкіх сходаў[4]. Адбылося гэта ў лістападзе 1924 года. Перыядычнасць выхаду часопіса вагалася ад 1 да 3 нумароў у месяц. Ён распаўсюджваўся праз падпіску і свабодны продаж, а яго наклад вагаўся ад 3 тысяч да 18,5 тыс. экземпляраў[5].

Храналагічныя межы даследавання — 1924-1939 гг. — абумоўлены пачаткам выхаду часопіса, з аднаго боку, і пачаткам Другой сусветнай вайны, з другога. Дадатным фактарам з'яўляецца тое, што ў гэты перыяд 11 ліпеня адзначалася як дзяржаўнае свята. Першапачаткова гэта была проста памятная дата. Аднак ужо ў 1923 годзе атрымала яна назву „Дзень вызвалення Мінска ад белапалякаў". Бліжэй да канца 1920-х гадоў за 11 ліпеня замацавалася афіцыйная назва „Дзень вызвалення Савецкай Беларусі ад белапалякаў"[6]. Апошні раз на афіцыйным узроўні свята адзначалася 11 ліпеня 1939 года. Далей знакавай датай у гісторыі Беларусі стала 17 верасня 1939 года.

Бліжэй да 11 ліпеня ў „Беларускай работніцы і сялянцы" з'яўляліся публікацыі, прысвечаныя падзеям польска-савецкай вайны. У знач-

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), фонд 4п, вопіс 1, справа 1841, аркуш 13.

[2] Пад уплывам сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў у БССР восенню 1931 г. адбылася змена назвы часопіса на „Работніца і калгасніца Беларусі". У 1941-1995 гг. ён выходзіў пад назвай „Работніца і сялянка", а з 1995 г. вядомы як часопіс „Алеся".

[3] НАРБ, ф. 4 п, воп. 1, спр. 1845, арк. 91.

[4] Тамсама, спр. 1845, арк. 182; спр. 1823, арк. 15, 17.

[5] *Рост тыража журнала за дзесяць год*, „Работніца і калгасніца Беларусі", 1934, № 21, s. 12-13.

[6] У. Садоўскі, *Забытый праздник. Как в БССР до войны отмечали «День независимости»*, https://news.tut.by/culture/600070.html [доступ: 25.11.2018].

най ступені яны паўтаралі матэрыял цэнтральных газет, але мелі і свае адметнасці. На пачатку выхаду часопіса ў назвах артыкулаў пераважалі негатыўныя згадкі пра палякаў[7], а з цягам часу акцэнт змясціўся на апісанне барацьбы з імі[8]. Пачынаючы з 1925 года, публікацыі, прысвечаныя польска-савецкай вайне і вызваленню Беларусі, станавіліся ўсё больш „красамоўныя" і агрэсіўныя.

У матэрыялах часопіса закраналіся такія пытанні як прычыны вайны, польскі акупацыйны рэжым і партызанскі рух. Іх разгляд і тлумачэнне мелі выразна прапагандысцкі характар і суб'ектыўную, а дакладней — ідэалагічна выверанную, ацэнку. Сярод прычын вайны ў першую чаргу называлася жаданне палякаў аднавіць „стары парадак"[9]. Старшыня ЦВК БССР і СССР А. Чарвякоў у апублікаваных у часопісе ўспамінах адзначаў: „Польскія паны не хацелі прымірыцца з тым, што ў іх аднялі маёнткі. Таму адрадзіўшаяся панская Польшча старалася заняць Беларусь, каб вярнуць польскім панам іх панаванне"[10]. Гаворка пра барацьбу з першай сацыялістычнай дзяржавай з'явілася толькі ў 1930-я гады, калі Польшчу актыўна сталі называць наймітам імперыялістычных сіл.

Апісваючы сацыяльна-эканамічнае становішча беларускіх зямель у гады вайны, у часопісе зазначалі, што летам 1919 года для Беларусі наступае „змрочны перыяд улады польскіх буржуазна-памешчыцкіх акупантаў, якія тэрмінова бяруцца за аднаўленне старога „парадку". Памешчыкі вяртаюцца ў свае маёнткі і распраўляюцца са сваімі батракамі пры дапамозе польскіх жандараў. З гэтай мэтай некалькі месяцаў спецыяльна прысланыя атрады жандармерыі „наводзілі парадкі" ў панскіх маёнтках"[11]. У матэрыялах падкрэслівалася: „З заняццем

[7] Работница Гарелик, *Очевидцы о зверствах белополяков. Сжигали города и села*, „Беларуская работніца і сялянка", 1925, № 8, s. 5; Работница Швейпрома Лахман, *Пытки и издевательства над молодежью*, „Беларуская работніца і сялянка", 1925, № 8, s. 6.

[8] Ц. Сьвірыноўская, *Помняць сяляне і сялянкі сваю барацьбу*, „Беларуская работніца і сялянка", 1927, № 10 (26), s. 8; Ю. М., *Барацьба за вызваленне Савецкай Беларусі ад белапалякаў. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў цесным зьяднаньні з рабочымі Савецкага Саюза працоўныя БССР аслабаніліся ад белапольскай акупацыі*, „Беларуская работніца і сялянка", 1930, № 19, s. 3-5.

[9] Ст. Пшедецкая, *Годы борьбы (1919-1920 год) (отрывок из воспоминаний)*, „Беларуская работніца і сялянка", 1925, № 8, s. 3-4.

[10] А. Чарвякоў, *У барацьбе за ўладу саветаў. Удзел работніц і сялянак у барацьбе за Савецкую Беларусь (Успамін старшыні ЦВК БССР і СССР тав. Алеся Чарвякова)*, „Беларуская работніца і сялянка", 1927, № 10 (26), s. 3-7. У дадзенай і наступных цытатах захоўваецца арыгінальнае напісанне.

[11] Ст. Пшедецкая, *Годы борьбы*, s. 3.

абшараў Беларусі палякамі пачалі адбудоўвацца «добрыя старыя парадкі». Зьвярталіся памешчыкі і буржуазія. Пачаліся расправы з рабочымі і сялянамі, якія аднімалі ў іх зямлю і капіталы. Палякі гаспадарылі, як у сябе дома"[12]. Любыя спробы супраціўлення падаўляліся палякамі: „За маленькае супраціўленьне падпальвалі цэлыя вёскі і мястэчкі, напаўляліся турмы рабочымі і сялянамі"[13].

У часопісе прысутнічала шмат апісання здзекаў з мясцовага насельніцтва. Гаворка ішла пра сотні чырвонаармейцаў, якія былі зажыва спалены ў казармах (без пазначэння месца). У Смілавіцкім раёне была спалена вёска Чорны Рог. Там „живых крестьян сжигали на кострах, насиловали девушек и женщин". Аўтары адзначалі, што „обезумевшие от злобы поляки старались уничтожить все, что могли, сжигали скот, отбирали последние лохмотья"[14], страшылі сялян бізунамі і забойствамі, забіралі коней, кароў, а саміх сялян збівалі[15]. Так, напрыклад, жыхарка вёскі Тварычаўка Міхайлаўскага сельскага савета Мазырскага раёна М. Высоцкая адзначала, што пасля заняцця іх вёскі палякамі, яны ўжо праз 2 гадзіны сталі патрабаваць у гаспадынь прадукты харчавання. Пры гэтым забіралі з куфраў усё, што ім спадабалася, а што не падабалася — рвалі ці ламалі. Збілі адну з сялянак. Яе мужа забілі, а дачку згвалтавалі[16]. Ва ўмовах здзекаў і „зверстваў белапалякаў" некаторыя канчалі жыццё самагубствам, каб не патрапіць у рукі палякаў[17].

Невядомы аўтар (Ю. М.) адзначаў, што з прыходам новых акупантаў — белапалякаў, мірнае жыццё БССР скончылася: „Ужо пачатак выступленьня белапалякаў супроць Савецкай Беларусі быў адзначан масавымі экзэкуцыямі, забойствамі, арыштамі, пыткамі і пагромамі ў цэлым радзе мястэчак і вёсак". Ён згадваў, што ўся Беларусь і яе жыхары пацярпелі ад белапалякаў: „Альбо хата была спалена, альбо хто з сямейства быў расстрэлены, замучан альбо ізувечан, альбо хто з дачок былі згвалтованы". Былі разбураны фабрыкі, заводы, майстэрні, масты, шляхі, вёскі і мястэчкі[18]. Гэты ж аўтар спрабаваў высветліць

[12] Міх. Шапавалаў, *К гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў*, „Беларуская работніца і сялянка", 1926, № 6 (20), s. 1.

[13] Тамсама.

[14] Работница Гарелик, *Очевидцы о зверствах белополяков.*

[15] Ц. Сьвірыноўская, *Помняць сяляне і сялянкі сваю барацьбу*, „Белрауская работніца і сялянка", 1927, № 20 (26), s. 8.

[16] М. Высоцкая, *Отбирали последнее (дер. Творичевка, Михайловского сельсовета, Мозырского района)*, „Беларуская работніца і сялянка", 1925, № 8, s. 6.

[17] Работница Швейпрома Лахман, *Пытки и издевательства над молодежью.*

[18] Ю. М., *Барацьба за вызваленне Савецкай Беларусі ад белапалякаў. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў цесным зьяднаньні з рабочымі Савецкага*

прычыны „дзікай жорсткасці паноў”. Ён адзначаў, што некаторыя тлумачаць яе асаблівасцямі характару палякаў. Але, на яго думку, так лічаць класавыя ворагі. Бо супраць белапалякаў у польскай чырвонай дывізіі змагаліся і палякі. Больш таго палякі здзекаваліся з польскіх камуністаў. Аўтар даводзіў сваё тлумачэнне „зверстваў польскіх паноў” — „яны імкнуліся аднавіць старыя парадкі ў захопленых імі мясцовасцях — забраць землі ў сялян, вярнуць фабрыкі і заводы капіталістам”. Супраць гэтага і разгарнуўся падпольны рух[19]. Такім чынам у часопісе праводзілася думка, што прычыны паводзін палякаў мелі выключна эканамічны характар.

З апісання здзекаў з боку польскіх войскаў лагічна выводзілася прычына ўзброеных выступленняў мясцовага насельніцтва супраць іх. Прыкладам служыць артыкул Ц. П. Сьвірыноўскай „Як нам жылося пры паляках (Самахвалаўскі раён, Меншчына)”. Яна згадвала: „Паны руйнавалі нашы хаты, зьбівалі жанчын і дзяцей да поўсьмерці, адбіралі хлеб і скот. За сапраціўленне садзілі ў турму, стралялі [...]”[20]. У гэтых умовах людзям нічога не заставалася як ісці ў партызаны, якім дапамагалі жанчыны. Як адзначалі аўтары, не толькі камуністы змагаліся супраць палякаў. Арышты і катаванні вызывалі ў насельніцтва „нянавісць да акупантаў”[21].

У 1930-я гады да падобнага роду матэрыялаўдадаліся публікацыі, прысвечаныя ўдзельніцам і ўдзельнікам змагання з „белапольскімі акупантамі”[22]. У іх распавядалася пра цяжкія ўмовы, у якіх фарміраваўся і дзейнічаў партызанскі рух. У гэтых публікацыях галоўнымі гераінямі былі жанчыны, якія прымалі ўдзел у падпольным руху (Чэслава Салятынская, Надзя Гарэлік, Соня Пінкус, Эдзя Зуймач, Марыя Сасновіч, Марыя Баброва і інш.). Некаторыя з іх былі закатаваны

*Саюза працоўныя БССР аслабаніліся ад белапольскай акупацыі*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1930, № 1, s. 4. Як бачна з назвы гэтай публікацыі, аўтар згадаў СССР, які паўстаў толькі ў 1922 г., значна пазней апісваных падзей. Але гэты факт мала засмуціў рэдакцыю, для якой галоўная мэта заключалася ў фарміраванні грамадскай думкі, а не ў адлюстраванні гістарычнай праўды.

[19] Ю. М., *У барацьбе за Савецкую Беларусь*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1931, № 19, s. 6-7.

[20] Ц. П. Сьвірыноўская, *Як нам жылося пры паляках (Самахвалаўскі раён, Меншчына)*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1927, № 7 (33), s. 6.

[21] Ст. Пшедецкая, *Годы борьбы*.

[22] Л., *Змагары за вызваленне Беларусі*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1933, № 25, s. 16; *Вялікае народнае свята*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1935, № 12, s. 2 вокладкі-1; *Апавяданне маці партызана (Варвара Блашко, калгас імя 16 партызан) (Дукоры, Смілавіцкі раён)*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1937, № 13, s. 6.

падчас следства альбо расстраляны (напр, Марыя Баброва, Эдзя Зуймач і інш.). Падрабязна апісваліся і метады катавання бальшавічак і бальшавікоў. Некалькі публікацый у часопісе былі прысвечаны партызанам з в. Дукоры Смілавіцкага раёна. У іх апісвалася, як палякі арыштавалі 16 партызан, катавалі іх, а потым расстралялі[23].

Вельмі ўзнёсла падавалася ў часопісе вызваленне Беларусі. Так, напрыклад, у артыкуле А. Сянькевіча „Ліпнёўскія святы працоўных" адзначалася, што Чырвоная Армія прагнала „польскую навалу, якая прынесла на Беларусь панскі бізун, вярнула панам маёнткі, а капіталістам — прадпрыемствы", але „ў памяці рабочых і сялян яшчэ дагэтуль жывуць тыя зьдзекі, катаваньні цэлых вёсак, пагромы і расстрэлы, якія рабіліся польскімі бандамі"[24]. Такому вобразу польска-савецкай вайны супрацьпастаўлялася апісанне савецкай адбудовы і дасягненняў. Зразумела, што такое параўнанне было маніпуляцыйным прыёмам, які вельмі добра граў на эмоцыях і свядомасці малаадукаванага насельніцтва.

Жорсткай крытыцы падвяргаліся тыя, хто супрацоўнічаў з польскай адміністрацыяй. Пад уплывам грамадска-палітычнай сітуацыі ў БССР іх характарыстыка станавілася ўсё больш негатыўнай, а колькасць „здраднікаў" з кожным годам павялічвалася. У 1924 годзе іх называлі „подлые изменники рабочего класса"[25], а пазней — „белагвардзейскія прыслужнікі — розныя Балаховічы, Перамыкіны"[26], беларускія нацыянал-дэмакраты[27], эсэры, бундаўцы і г.д.

Такім чынам, у публікацыях часопіса пастаянна падкрэслівалася, што 11 месяцаў „панскай акупацыі" былі часам жаху і разбурэнняў[28]. Палякі імкнуліся аднавіць „стары парадак", з дапамогай жандармерыі „наводзілі парадак" у маёнтках, жорстка распраўляліся з камуністамі і іх прыхільнікамі, катавалі іх, гвалтавалі дзяўчат і жанчын, да смерці замучвалі дзяцей, жанчын і старых, падпальвалі хаты, часам з людзьмі, адбіралі ў насельніцтва прадукты харчавання, прадметы быту, скаціну і г.д.[29] Вельмі часта падобнага роду апісанні суправа-

[23] *Апавяданне маці партызана (Варвара Блашко, калгас імя 16 партызан) (Дукоры, Смілавіцкі раён)*, „Работніца і калгасніца Беларусі", 1937, № 13, s. 6.

[24] А. Сянькевіч, *Ліпнёўскія сьвяты працоўных*, „Беларуская работніца і сялянка", 1927, № 7 (33), s. 1-2.

[25] Ст. Пшедецкая, *Годы борьбы*.

[26] Ал., *11 ліпеня*, „Работніца і калгасніца Беларусі", 1933, № 25, s. 2 вокладкі-1.

[27] *14 год (Да 14 гадавіны вызвалення Беларусі ад белапалякаў)*, „Работніца і калгасніца Беларусі", 1934, № 12, s. 1-2.

[28] А. Славинский, *Великая годовщина освобождения от белополяков*, „Беларуская работніца і сялянка", 1925, № 8, s. 1-2.

[29] Работница Гарелик, *Очевидцы о зверствах белополяков*; Работница Швейпрома Лахман, *Пытки и издевательства над молодежью*; Ст. Пшедецкая, *Годы*

джаліся фотаздымкамі ці малюнкамі з подпісамі кшталту: „Трупы истерзанных белополяками”, „Польскія паны і ксяндзы вешаюць рэвалюцыянераў”, „Расстрэл сялян „белапалякамі” ў Мазырскім уездзе”, „Расправа белапалякаў над сялянамі ў Бабруйскім уездзе”, „Ахвяры белапольскай акупацыі”[30] і інш. Магчыма з той прычыны, што часопіс „Работніца і сялянка” быў арыентаваны на жаночую аўдыторыю, у публікацыях часта згадваліся асіроцелыя дзеці.

Як адзначалася, з году ў год апісанне жахаў, якія перанесла насельніцтва беларускіх зямель, нарастала. Мянялася і сама характарыстыка польскіх войскаў і Польшчы. Калі ў 1925 годзе пісалі пра „польскую акупацыю”, „панскую акупацыю”[31], „польскіх буржуазна-памешчыцкіх акупантаў”[32], то пазней сталі выкарыстоўваць такія азначэнні як „белапалякі”, „найміты міжнароднага капіталу”[33], „зграя белапольскіх фашыстаў”[34], „белапольская акупацыя”[35], „белапольскія орды”[36], „людаеды”[37] і г.д. Напрыклад, у 1932 годзе С. Градэцкі пісаў: „Упіўшыся крывёю рабочых і сялян, дыфэнзіва з кожным днём прыносіла новыя і новыя ахвяры расстрэленых і закатаваных рабочых і сялян у імя «культуры і цывілізацыі»”[38].

*борьбы*; Міх. Шапавалаў, *К гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1926, № 6 (20), s. 1-2; М. Высоцкая, *Отбирали последнее (дер. Творичевка, Михайловского сельсовета, Мозырского района)*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1925, № 8, s. 6; Ю. М., *У барацьбе за Савецкую Беларусь*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1931, № 19, s. 6-7; Ц. П. Сьвірыноўская, *Як нам жылося пры паляках (Самахвалаўскі раён, Меншчына)*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1927, № 7 (33), s. 6; *Вялікае народнае свята*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1935, № 12, s. 2 вокладкі-1; *Ал. 11 ліпеня*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1933, № 25, s. 2 вокладкі-1; Зена Хадасевіч, *Гэта было ў ліпені 1920 года*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1937, № 13, s. 7.

30 „Беларуская работніца і сялянка”, 1930, № 19, s. 7; А. Градэцкі, *Сьвята вялікіх перамог*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1932, № 19, s. 1-2.

31 А. Славинский, *Великая годовщина освобождения*.

32 Ст. Пшедецкая, *Годы борьбы*.

33 Міх. Шапавалаў, *К гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў*, „Беларуская работніца і сялянка”, 1926, Nr 6 (20), s. 1-2.

34 А. Градэцкі, *Сьвята вялікіх перамог*.

35 Л., *Змагары за вызваленне Беларусі*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1933, № 25, s. 16.

36 Е. С., *Лікуе Савецкая Беларусь*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1937, № 14, s. 4-5; *Дзевятнаццаць квітнеючых год*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1939, № 13, s. 1-2.

37 Н. Старавойтава, *Вёска, знішчаная белапалякамі*, „Работніца і калгасніца Беларусі”, 1939, № 13, s. 5.

38 А. Градэцкі, *Сьвята вялікіх перамог*.

Апісанне акупацыйнага рэжыму абавязкова суправаджалася адлюстраваннем зробленага савецкім кіраўніцтвам па аднаўленні эканомікі БССР[39]. Да чытача ішоў выразны пасыл пра дрэнныя ранейшыя часы (часам да апісання польскай акупацыі дадавалася характарыстыка сітуацыі ў Расійскай імперыі[40]) і добрыя ўмовы жыцця ў савецкай дзяржаве. Такім чынам савецкая прапаганда фарміравала адназначна негатыўны вобраз польска-савецкай вайны і палякаў. Якая доля праўды была ў гэтай прапагандзе, цяжка сказаць. Сучасныя гісторыкі зазначаюць, што ад тэрору, рабавання і гвалту за час польска-савецкай вайны Беларусь згубіла звыш за 158 тысяч мірных грамадзян[41]. За гэтымі лічбамі хаваецца асабістая гісторыя кожнага чалавека, даследаваць якую складана і нават немагчыма.

**Summary**

**The Publications on the Polish-Soviet War in the magazine „Belaruskaya rabotnitsa i syalyanka" [Belarusian Worker and Peasant Woman] (1924-1939)**

The author shows the place of the Polish-Soviet war of 1919-1921 in the Soviet propaganda by using as an example the magazine „Belaruskaya rabotnitsa i syalyanka". She notes that such issues as the causes of the war, the Polish occupation regime and the partisan struggle against Poles were considered in the articles. The Soviet propaganda insisted that the cause of the war was economic. The occupation regime was characterized as inhumane with the descriptions of torture and brutality against the local population. According to the propaganda this violence pushed the people to resist the Polish administration and the army. Describing the destructions during the Polish-Soviet war the editors paid attention to the changes made by the Soviet government in the 1920s-1930s. Using various methods of manipulation, the magazine formed a negative image of Poland and Poles.
**Keywords:** Polish Soviet War, war propaganda, the image of Poland, the image of Poles.

**Streszczenie**

**Wydarzenia wojny polsko-radzieckiej na łamach czasopisma „Biełaruskaja Rabotnica i Sialanka" (1924-1939)**

Na przykładzie czasopisma „Biełaruskaja Rabotnica i Sialanka" („Białoruska Robotnica i Chłopka") autorka pokazuje miejsce wojny polsko-bolszewickiej (1919-1921) w propagandzie radzieckiej w latach 1924-1939. W ówczesnych publikacjach poruszano takie

[39] А. Сянькевіч, *Ліпнёўскія сьвяты працоўных*, „Беларуская работніца і сялянка," 1927, № 7 (33), s. 1-2; А., *Социалистическим строительством — укрепим обороноспособность страны*, „Беларуская работніца і сялянка", 1928, № 7, s. 1-2; *14 год (Да 14 гадавіны вызвалення Беларусі ад белапалякаў)*, „Работніца і калгасніца Беларусі", 1934, № 12, s. 1-2.

[40] Ю. М., *Барацьба за вызваленне Савецкай Беларусі ад белапалякаў. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў цесным зьяднаньні з рабочымі Савецкага Саюзу працоўныя БССР аслабаніліся ад белапольскай акупацыі*, „Беларуская работніца і сялянка", 1930, № 19, s. 3-5.

[41] С. Крапивин, *Забытый праздник 11 июля*, http://www.expressnews.by/2538.html [доступ: 15.11.2018].

kwestie jak przyczyny wojny, polski reżim okupacyjny i walka partyzancka przeciwko Polakom. Radziecka propaganda przekonywała, że przyczyny wojny miały charakter ekonomiczny. Reżim okupacyjny został scharakteryzowany jako nieludzki z opisami tortur i okrucieństwa wobec miejscowej ludności. Stąd wynikało, że mianowicie przemoc skłoniła naród do przeciwstawienia się polskiej administracji i wojsku. Opisując zniszczenia w czasie wojny polsko-sowieckiej, redakcja zwracała uwagę na zmiany dokonane przez władze radzieckie w latach 1920-1930. Stosując różne metody manipulacji, czasopismo kształtowało negatywny wizerunek Polski i Polaków.

**Słowa kluczowe:** wojna polsko-bolszewicka, propaganda prasowa, wizerunek Polski i Polaków.

**Liubou Kozik** — kandydat nauk historycznych, docent Katedry Historii Słowian Południowych i Zachodnich Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego. Zainteresowania badawcze: historia PRL, państwa obozu socjalistycznego, polityka historyczna w państwach Europy Środkowo-Wschodniej, mity narodowe.

**Юры Грыбоўскі**
(Варшава)

## Алесь Махноўскі — беларускі дзеяч з Латгаліі (1902-1967)

У гісторыі беларускага нацыянальнага руху ёсць шмат постацей, якія з’яўляюцца добра вядомымі як даследчыкам, так і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларускага Адраджэння. Ёсць аднак і тыя, чые імёны па шэрагу прычын менш вядомыя альбо зусім забытыя. Да ліку апошніх належаць многія прадстаўнікі беларускага руху ў Латгаліі. Магчыма, што па прычыне геаграфічнай адлегласці мясцовы беларускі рух працяглы час не быў прадметам належнай даследчыцкай увагі. А тым часам гэты рэгіён, які з’яўляецца культурным і этна-канфесійным памежжам, даў беларускаму адраджэнню шэраг руплівых і адданых дзеячаў. Да плеяды беларускіх нацыянальных актывістаў, якія паходзілі з Латгаліі, належыць Алесь Махноўскі, грамадска-палітычны дзеяч і педагог.

Герой нашай публікацыі нарадзіўся 24 верасня 1902 года ў Дзвінску ў беларускай праваслаўнай сям’і. Яго бацька Сцяпан Кандратавіч Махноўскі (нар. 16 лістапада 1857 г. у Дрысінскім павеце) у 1878 годзе скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю і да Першай сусветнай вайны настаўнічаў на Дзвіншчыне, якая тады ўваходзіла ў склад Віцебскай губерні. Падчас вайны сям’я Махноўскіх была вымушана пакінуць родныя мясціны і апынулася ў бежанстве. У выніку пачатковую асвету юнак атрымаў у расійскім Курску, дзе скончыў рэальную сярэднюю школу[1]. Аднак пасля заканчэння баявых дзеянняў разам з бацькамі вярнуўся дахаты. Вяртанне ў родныя мясціны азначала пераезд у Латвію, паколькі Латгалія тады ўжо стала часткай незалежнай Латвійскай Рэспублікі. Безумоўна, Махноўскія былі не адзінымі беларусамі, якія прынялі латвійскае грамадзянства. Нагадаем, што ў межах міжваеннай латвійскай дзяржавы налічвалася некалькі дзясяткаў тысяч беларусаў, якія паводле колькасці належалі на найбуйнейшых сярод нацыянальных меншасцей у гэтай краіне. Кампактным месцам жыхарства беларускага насельніцтва з’яўлялася менавіта Латгалія. Вяртанне Махноўскім было часам, калі сярод латвійскіх беларусаў распачыналася нацыянальна-культурная праца. Дэмакратычнае заканадаўства Латвіі прадугледжвала існаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі для нацыянальных меншасцей.

[1] Latvijas Valsts vēstures arhīvs (далей: LVVA), 4932 f., 1 apr., 623 l., 173 lp.

У выніку мясцовыя беларусы атрымалі вельмі добрыя ўмовы для развіцця ўласнай культуры і асветы. Рухавіком беларускага жыцця стала група дзеячаў БНР, якія пасля Рыжскага міру абралі Латвію ў якасці сталага месца жыхарства. Бясспрэчным пачынальнікам і арганізатарам мясцовага беларускага руху быў Кастусь Езавітаў. Да яго далучыліся аднадумцы, якія прыбылі з Польшчы і Літвы (Іван Краскоўскі, Андрэй Якубецкі, Уладзімір Пігулеўскі, Мікалай Дзямідаў, Паўліна Мядзёлка-Грыб і інш.). Менавіта гэта нешматлікая група дзеячаў стаяла ля вытокаў беларускага нацыянальна-культурнага, асветнага і грамадска-палітычнага жыцця ў Латвіі ў міжваенны перыяд. Да эмігрантаў пачалі далучацца мясцовыя актывісты, сярод якіх пераважалі настаўнікі. У выніку на працягу кароткага часу атрымалася разгарнуць шпаркую грамадска-культурную, асветную, выдавецкую і палітычную працу. Першай арганізацыяй латвійскіх беларусаў стала Беларускае культурна-асветнае таварыства „Бацькаўшчына", якое было створана ўвесну 1921 года ў Дзвінску[2]. Згодна са статутам таварыства ставіла сабе за мэту праводзіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння ў масы беларускага народа і яго суседзяў праз выданне кніг, брашур і газет на беларускай, латышскай, літоўскай, расійскай, нямецкай, польскай і ідыш мовах; спрыяць асвеце беларускага народа праз адкрыццё школ, чытальняў, бібліятэк, тэатраў, кніжных шапікаў, клубаў, а таксама дапамагаць незаможным вучням і прадстаўнікам інтэлігенцыі. На правінцыі таварыства мела свае гурткі (філіялы), якія мелі за заданне пашыраць сярод беларускага насельніцтва нацыянальную культуру на роднай мове. Лозунгам гурткоў былі словы: „Жыве мова — жыве народ"[3]. Паводле Езавітава, таварыства праводзіла працу ў трох асноўных напрамках:

1) пашырэнне сваіх уплываў сярод латгальскіх беларусаў праз арганізацыю рэгіянальных філіялаў і аб'яднанне ў іх нацыянальна свядомую частку грамадства;

2) інфармаванне латвійскіх улад і грамадства аб становішчы беларускай меншасці і ейных культурна-асветных патрэбах;

3) арганізацыя беларускага школьніцтва[4].

[2] К. Езавітаў, *Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі і ягоная роля ў справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі,* «Беларуская Школа ў Латвіі», 1932, № 1 (11), с. 147.

[3] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей: БДАЛіМ), ф. 3, воп. 1, спр. 18, л. 4, 14.

[4] К. Езавітаў, *Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва «Бацькаўшчына» ў Латвіі*, Рыга 1932, с. 5, 24.

Натуральным прыярытэтам дзейнасці таварыства „Бацькаўшчына” было стварэнне беларускага школьніцтва. Неўзабаве, з першых месяцаў свайго існавання таварыства распачало працу над арганізацыяй беларускіх школ у Дзвінскім, Люцынскім і Рэжыцкім паветах Латгаліі, а таксама ў Ілуцкім павеце Земгаліі. Кіраўніцтва арганізацыі разаслала ў інспектараты асноўных школ і кіраўніцтву павятовых школьных упраў лісты з патрабаваннем адкрыцця беларускіх школ у мясцовасцях, дзе беларусы складалі значны адсотак насельніцтва[5]. У 1921 годзе таварыства „Бацькаўшчына” правяло рэгістрацыю настаўнікаў-беларусаў, якія скончылі расійскія настаўніцкія інстытуты і семінарыі, васьмікласныя жаночыя вучылішчы, альбо вытрымалі адпаведныя іспыты і атрымалі ад латвійскіх улад права на педагагічную дзейнасць. З мэтай падрыхтоўкі педагагічных кадраў у беларускіх школах у ліпені 1921 года ў Дзвінску былі арганізаваны шасцітыднёвыя курсы беларусазнаўства для настаўнікаў. Праграма курсаў складалася з лекцый па гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускага адраджэння, геаграфіі Беларусі, а таксама беларускай мове. У жніўні 1921 года курсы скончыла 20 першых слухачоў, якія атрымалі права працаваць у беларускіх школах. Гэтым людзям было наканавана ўвайсці ў гісторыю як першым беларускім настаўнікам у Латвіі. У верасні 1921 года працу распачалі 16 першых пачатковых (чатырох- і шасцікласных) школ на Дзвіншчыне. Восенню 1921 года пры Міністэрстве асветы быў створаны Беларускі школьны аддзел (кіраўнік Сяргей Сахараў), які ажыццяўляў агульнае кіраванне беларускай школьнай справай і прадстаўляў культурна-асветныя інтарэсы беларускай меншасці ў адносінах з дзяржаўнымі ўладамі. 1 снежня 1921 года ў Дзвінску распачалі працу аднагадовыя Беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы, якія сталі кузняй новых педагагічных кадраў на патрэбы беларускага школьніцтва. Сярод прадметаў, якія там выкладаліся, была беларуская мова, гісторыя і геаграфія Беларусі, латышская мова, методыка выкладання мовы, педагогіка. З практычных заняткаў выкладаліся: кааператыўная справа, арганізацыя народных хароў і тэатраў, гімнастыка[6]. Значным дасягненнем беларускага актыву была арганізацыя беларускай гімназіі ў Дзвінску (кіраўнік Іван Краскоўскі), якая распачала працу ў верасні 1922 года. У 1922/1923 навучальным годзе беларускае школьніцтва ў Латвіі на-

[5] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі*, Рыга 1927 [перадрук: Нью-Ёрк — Мінск 2013], с. 59.

[6] LVVA, 2125 f., 5 apr., 343 l., 3 lp.

лічвала 54 пачатковыя і 2 сярэднія школы (гімназіі), у якіх працавала 158 настаўнікаў і навучалася 3629 вучняў[7]. Гэты вынік можна лічыць найбольшым поспехам мясцовага беларускага актыву.

Вышэйзгаданыя падзеі мелі вырашальны ўплыў на лёс маладога Алеся Махноўскага. Сям'я Махноўскіх не засталася ў баку ад беларускай справы. Сярод тых, хто на пачатку 1920-х гадоў адгукнуўся на заклік таварыства „Бацькаўшчына" і ўзяў удзел у арганізацыі і працы беларускага школьніцтва ў Латгаліі знаходзіўся Сцяпан Махноўскі. У жніўні 1922 года ў Дзвінску ён праслухаў курсы беларусазнаўства і быў прызначаны кіраўніком Дудзельскай чатырохкласнай пачатковай школы (Дзвінскі павет). У 1922/1923 навучальным годзе ў гэтай школе налічваліся 42 вучні (34 беларусы-каталікі і 8 рускіх-старавераў)[8].

Сын падзяліў лёс бацькі. Юнаку было наканавана быць не толькі сведкам, але і актыўным удзельнікам беларускага жыцця ў Латвіі. У 1922 годзе Алесь Махноўскі скончыў аднагадовыя беларускія настаўніцкія курсы ў Дзвінску, у межах якіх праслухаў курс лекцый беларускай мовы і беларусазнаўства. Яго прозвішча фігуруе сярод курсантаў, якія ў лютым 1922 года прасілі матэрыяльнай дапамогі на пражыванне і адзежу. У яго лісце да кіраўніцтва курсаў ад 23 лютага 1922 году чытаем:

„Слухача Аляксандра С. Махноўскага. Маю ахвоту вучыцца, але мушу старацца дастаткаў для жыцьця. Ды як на бяду — ні здараіцца службы. Жыву цяпер у вялікіх нідастатках. Каб як небудзь датрываць на іх і ні ўцячы далёка на заработкі, дык мушу старацца якой небудзь цяпер дапамогі. Із гэтай бядой удаюся да Вас: шчыра прашу пастарацца мне якой нібудзь падмогі на жыцьё, на кнігі, на цітрадкі"[9].

Адразу пасля заканчэння курсаў юнак вырашыў працягваць асвету ў Дзвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі. Заяву аб прыняцці ў апошні клас гімназіі ён падаў 13 верасня 1922 года[10]. А ўжо ўлетку 1923 года адбыўся першы выпуск гімназістаў, якую скончыла 14 вучняў, у тым ліку Махноўскі[11]. Такім чынам, малады Махноўскі апынуўся ў ліку першых выхаванцаў першых беларускіх асветных

[7] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 458, воп. 1, спр. 107, л. 2.

[8] LVVA, 2125 f., 5 apr., 130 l., 4 lp.

[9] LVVA, 2125 f., 5 apr., 392 l., 88 lp.

[10] LVVA, 4932 f., 1 apr., 623 l., 173 lp.

[11] С. Сахараў, *Гістарычны нарыс пяцігодзьдзя Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай Гімназіі за 1922–1927 г.г.*, Дзьвінск 1927, с. 30.

установ — настаўніцкіх курсаў і гімназіі. Яго настаўнікамі ў Дзвінскай гімназіі і на вышэйзгаданых курсах былі такія беларускія нацыянальныя дзеячы і педагогі, як Кастусь Езавітаў, Андрэй Якубецкі, Іван Краскоўскі, Паўліна Мядзёлка-Грыб, Максім Гарэцкі, Эдуард Будзька. Бясспрэчна, што ў Дзвінску юнак атрымаў не толькі добрую асвету і педагагічную падрыхтоўку, але таксама моцную нацыянальную загартоўку, якая канчаткова зрабіла з яго палымянага і адданага патрыёта свайго народа. Неабходна тут адзначыць, што менавіта першыя выхаванцы гімназіі і слухачы настаўніцкіх курсаў складалі стрыжань маладога пакалення беларускага руху ў Латвіі ў міжваенны час.

Восенню 1923 года Алесь Махноўскі, разам з жонкай Антанінай — таксама настаўнцай — распачаў працу ў беларускім школьніцтве ў Латгаліі. Першым месцам працы стала шасцігадовая пачатковая школа ў мясцовасці Пустын. Першыя гады існавання беларускага школьніцтва ў Латвіі былі не толькі перыядам уздыму, але і часам сур'ёзных выпрабаванняў. Нягледзячы на поспехі ў адкрыцці новых школ хапала таксама праблем, з якімі быў вымушаны змагацца беларускі актыў. Дзейнасць беларускага школьніцтва моцна ўскладняла прысутнасць у ім настаўнікаў-небеларусаў. Праз недахоп педагогаў-беларусаў у школах працавалі настаўнікі іншых нацыянальнасцей — рускія, палякі, латышы. Гэта акалічнасць была прычынай значных праблем і нават ставіла пад пагрозу існаванне беларускіх школ. Некаторыя настаўнікі-небеларусы ставіліся абыякава да нацыянальнага выхавання вучняў, а многія нават дэманстравалі адкрытую варожасць да беларускай справы і адмаўляліся выкладаць па-беларуску. Падбухторанае гэтымі настаўнікамі маласвядомае ў нацыянальным сэнсе мясцовае беларускамоўнае сялянства нярэдка выступала супраць таго, каб іх дзеці наведвалі беларускія школы і адначасова патрабавалі ператварэння іх у рускія. У выніку многія школы ў першыя гады існавання былі перададзены ў падпарадкаванне Рускага школьнага аддзела альбо Агульнага школьнага дэпартамента. Не абмінуў гэты лёс і Пустынскую школу, якая апынулася ў Агульным школьным дэпартаменце[12].

У 1924 годзе ў Латгаліі адбылася яшчэ адна падзея, якая моцна паўплывала на становішча мясцовага беларускага руху. У Дудзельскай школе, кіраўніком якой быў Сцяпан Махноўскі, школьны інспектар знайшоў мапу Беларусі, у межах якой знаходзілася таксама Латгалія.

[12] LVVA, 2125 f., 5 apr., 333 l., 60-64 lpp.

Інцыдэнт з мапай стаў прычынай інспекцый іператрусаў у іншых беларускіх школах, падчас якіх таксама была знойдзена падобная літаратура. У выніку пачалося следства. На лаве падсудных апынуўся амаль увесь мясцовы беларускі актыў, які абвінавачваўся ў спробе адарвання Латгаліі ад Латвіі з мэтай далейшага яе далучэння да Беларусі. Першапачаткова следства ахапіла шырокае кола беларускіх актывістаў, у тым ліку Алеся Махноўскага. Яму ставілася ў віну чынная прапаганда сярод вучняў ідэі, згодна з якой Латгалія павінна быць далучана да Беларусі[13]. Аднак у выніку адсутнасці пераканаўчых доказаў напрыканцы 1924 года з яго, як і большасці настаўнікаў, было цалкам знята абвінавачанне[14].

Увесну 1925 года т.зв. беларускі працэс у Латгальскім акруговым судзе скончыўся апраўдальным прысудам у дачыненні да ўсіх падсудных. Нягледзячы на тое, што ўсе падсудныя былі апраўданы, працэс меў вельмі шкодны ўплыў на становішча мясцовага беларускага руху. Спыніла сваю дзейнасць таварыства „Бацькаўшчына". Падчас следства на моцы пастановы Рады Міністраў ад 20 лістапада 1924 года была прыпынена (ад 1 снежня) дзейнасць Беларускага аддзела, а яго кіраўнік быў адхілены ад працы. Некаторыя настаўнікі, якія не мелі латвійскага грамадзянства (Краскоўскі, Мядзёлка), былі дэпартаваны з краіны. Кіраванне школьнымі справамі беларускай меншасці перайшло да Галоўнай школьнай управы Міністэрства асветы. У гэтай сітуацыі ўвесну 1925 года беларускі актыў распачаў рабіць захады перад уладамі з мэтай рэактывацыі Беларускага школьнага аддзела. У авангардзе гэтых пачынанняў знаходзіўся малады настаўнік Алесь Махноўскі. 25 траўня 1925 года ён узяў удзел у сходзе беларускіх настаўнікаў Дзвінска і Дзвінскага павета[15], на якім быў ухвалены зварот беларускай грамадскасці да ўрада Латвіі з патрабаваннем узнаўлення працы Беларускага школьнага аддзела[16]. Махноўскі таксама ўвайшоў у склад беларускай дэлегацыі, якая 21 чэрвеня 1925 года ўручыла міністру асветы і міністру-прэзідэнту Латвіі ліст з беларускімі патрабаваннямі. Захады беларускіх дзеячаў прынеслі станоўчыя вынікі і ў 1926 годзе нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў была

[13] *Беларускі працэс у Латвіі*, «Голас Беларуса», 1.07.1925, № 3, с. 2.

[14] Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии в 1918-1940 годах*, [у:] *Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў*, Мінск 2001, с. 205.

[15] М. Каліна, *Зьезд вучыцялёў-беларусаў у Дзьвінску*, «Голас Беларуса», 1925, № 1, с. 2.

[16] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 112, л. 4.

цалкам аднаўлена, пасля чаго жыццё беларускага школьніцтва вярнулася ў нармальнае рэчышча[17].

У гэты час Махноўскі працягваў педагагічную дзейнасць у беларускіх школах на тэрыторыі Дзвіншчыны. Вядома, што напрыканцы 1920-х і на пачатку 1930-х гадоў ён кіраваў Келаўскай і Савейкаўскай чатырохкласнымі школамі. Тым часам, жонка — Антаніна Махноўская — была настаўніцай беларускага камплекта ў Ліўчанскай школе, а потым працавала ў Келаўскай школе. Праца настаўніка не належала да лёгкага хлеба. Асноўную масу беларусаў Латгаліі складалі незаможныя сяляне, якія не былі ў стане падтрымаць родную школу. Наадварот, сталым элементам штодзённасці была дапамога бедным вучням, якія нярэдка праз адсутнасць абутку і вопраткі не наведвалі заняткаў. У многіх школах даваўся ў знакі недахоп мэблі і інвентару. Некаторыя школы не мелі ўласных будынкаў і ў выніку заняткі адбываліся ў памяшканнях, якія былі часткай гаспадарскіх хат. Пра ўмовы працы на латгальскай правінцыі яскрава сведчыць ліст Махноўскага да кіраўніка Беларускага аддзела Міністэрства асветы. У сакавіку 1928 года ён як кіраўнік Келаўскай школы (у 1927/1928 навучальным годзе ў школе налічваліся 23 вучні)[18] пісаў:

„Усе парты, за выключэньнем аднэй, зроблены пры адчыненьні школы (3 гады назад) самымі бацькамі для часовага карыстаньня і таму, не кажучы аб гігіенічных вымогах, зусім разваліваюцца. На шматлікія запросы аб новых партах ні Павятовая, ні Валасная Управы ніякага адказу ў працягу трох гадоў не далі. Што да памешканьня, то пры данных варунках ніякае пажаданьне ня можа быць зьдзейсьненым за адсутнасьцю лепшых памешканьняў для школы ў данным раёне. З знаходзячыхся пад школай памешканьняў лепшае на бягучы год гаспадаром ня будзе здана пад школу. Заганы меньшага памешканьня ў тым, што яно малое і прахадное (падчас лекцыяў часта ходзяць узад і ўперад гаспадары, бо праз клясу адзіны ход у іх памешканьне)”[19].

Настаўніцкую працу Махноўскі спалучаў з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Прадстаўляў інтарэсы беларускага настаўніцтва ў Дзвінскай школьнай павятовай управе. Адначасова быў членам беларускіх культурна-асветных таварыстваў — „Беларуская Хата” і „Прасвета”

[17] Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах,* [у:] *Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў*, Мінск 2001, с. 206; LVVA, 2750 f., 1 apr., 7 l., 1-2 lpp.

[18] LVVA, 2125 f., 5 apr., 141 l., 9 lp.

[19] LVVA, 2125 f., 5 apr., 37 l., 15 lp.

(створана ў 1926 годзе). Больш за тое, ён увайшоў у гісторыю як першы старшыня таварыства „Прасвета"[20]. Абодва таварыствы займаліся арганізацыяй беларускіх імпрэз і фэстаў, стварэннем хат-чытальняў, апекай над беларускімі школамі і дзіцячымі садкамі. Акрамя таго, Махноўскі быў актыўным сябрам створанага ў 1925 годзе Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі (ТБНЛ), якім кіраваў Кастусь Езавітаў. Ад верасня 1926 да кастрычніка 1927 года быў прадстаўніком Дзвінскага аддзела гэтай арганізацыі ў Радзе Беларускага школьнага аддзела Міністэрства асветы[21]. Увайшоў у ініцыятыўную групу беларускіх дзеячаў па стварэнні Таварыства беларускага тэатра ў Латвіі, якія ў кастрычніку 1926 года звярнуліся з адпаведным заклікам да грамадскасці[22].

У траўні 1934 года ў Латвіі адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўлада апынулася ў руках аўтарытарнага рэжыму Карліса Ульманіса. Апошні значна абмежаваў нацыянальна-культурную аўтаномію нацыянальных меншасцей. У выніку беларускае школьніцтва ў Латгаліі было зліквідавана, а беларускія арганізацыі паступова забаронены. Аднак нават ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму латвійскія беларусы не былі цалкам пазбаўлены магчымасці нацыянальнай працы. Да канца 1930-х гадоў працягвала дзейнічаць Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі (кіраўнік Мікалай Дзямідаў). Захавалася вельмі мала крыніц, якія дазволілі б прасачыць дзейнасць Махноўскага ў згаданы перыяд. На падставе ўскосных звестак можна зрабіць выснову, што да канца 1939 года ён настаўнічаў на Прыдруйшчыне. Апрача таго працягваў утрымліваць сувязь з беларускім актывам, што адбывалася галоўным чынам па лініі ТБНЛ. Напрыканцы 1930-х гадоў арганізацыя значна актывізавала сваю дзейнасць. У гэты час было вырашана перайменаваць ТБНЛ у Беларускае таварыства ў Латвіі[23]. Арганізацыя пад такой назвай пачала дзейнічаць са жніўня 1939 года і ставіла сабе за мэту аб'яднанне ўсіх беларусаў у Латвіі[24].

Тым часам у рэгіёне імкліва мянялася міжнародная і палітычная сітуацыя. Латвія разам з іншымі краінамі Балтыі стала ахвярай палітыкі двух таталітарных дзяржаў — Трэцяга Рэйха і Савецкага Саюза. 17 чэрвеня 1940 года савецкія войскі перайшлі савецка-латвійскую дзяр-

[20] *Беларускае жыцьцё ў Латвіі*, «Голас Беларус», 18.08.1926, № 17, с. 4.

[21] LVVA, 2125 f., 5 apr., 80 l., 3-4 lpp.

[22] *Аб беларускім нацыянальным тэатру ў Латвіі*, „Голас Беларуса", 27.10.1926, № 24, с. 1.

[23] LVVA, 2924 f., 1 apr., 2 l., 30 lp.

[24] LVVA, 2924 f., 1 apr., 3 l., 13 lp.

жаўную мяжу і акупавалі Латвію. 20 чэрвеня быў створаны марыянеткавы „народны ўрад” на чале з праф. Аўгустам Кірхенштэйнам, а ўжо ў ліпені 1940 года адбыліся першыя арышты і дэпартацыі. Новы ўрад пад дыктоўку Андрэя Вышынскага распачаў рэарганізацыю і ліквідацыю дзяржаўных інстытутаў Латвіі і падрыхтоўку да паступовай саветызацыі краіны. Беларуская меншасць мусіла рэагаваць на падзеі, якія адбываліся ў краіне. 10 ліпеня 1940 года ў Рызе адбыўся сход сяброў Беларускага таварыства ў Латвіі, бацькоў дзяцей беларускіх школ у Рызе, а таксама дэлегатаў з Латгаліі[25]. Сярод тых, хто ўзяў удзел у гэтым мерапрыемстве, знаходзіўся таксама Махноўскі. Удзельнікі ўхвалілі зварот да новых улад, у якім прасілі ўзнавіць працу беларускіх сярэдніх і пачатковых школ, беларускіх настаўніцкіх курсаў; рэактываваць Беларускі школьны аддзел пры Міністэрстве асветы; дазволіць у валасцях, дзе большасць жыхароў складаюць беларусы, арганізаваць беларускае самакіраванне з правам выкарыстання ў мясцовых органах беларускай мовы[26]. Новыя ўлады не збіраліся аднак выконваць патрабаванняў беларускай меншасці. У выніку справа абмежавалася сімвалічнымі крокамі. Некаторыя беларусы „як пацярпелыя ад ранейшага рэжыму” нават атрымалі высокія пасады ў галіне асветы. Аднак адраджэнне беларускага школьніцтва не адпавядала палітычным інтарэсам савецкіх улад. Сталінская палітыка ў дачыненні да нацменаў была накіравана на іх асіміляцыю і саветызацыю. У жніўні 1940 года Латвія была інкарпаравана ў склад СССР. З гэтага часу латвійскія беларусы апынуліся ў новай палітычнай рэчаіснасці, якая характарызавалася тэрорам. Праўда, у параўнанні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі ў Латвіі, беларусаў у найменшай ступені закранулі сталінскія рэпрэсіі ў 1940-1941 гадах. У „беларускіх” раёнах Латгаліі адчыняліся рускамоўныя школы, а беларусы мусілі задаволіцца толькі беларускай мовай як дадатковым прадметам. У адной з такіх школ працаваў Махноўскі. У 1940-1941 гадах ён займаў пасаду дырэктара няпоўнай сярэдняй школы ў Ілуцкім павеце.

У выніку маланкавага наступу нямецкіх войскаў на пачатку ліпеня 1941 года тэрыторыя Латвіі была занята Вермахтам. У краіне ўсталяваўся нямецкі акупацыйны рэжым, які на большай частцы Латвіі доўжыўся тры гады. Пад нямецкай акупацыяй у Латвіі адбылося ажыўленне мясцовага беларускага руху. Галоўным чыннікам, які гэтаму паспрыяў, была нацыянальная палітыка акупантаў. Кіру-

[25] LVVA, 2924 f., 1 apr., 9 l., 8 lp.
[26] LVVA, 2924 f., 1 apr., 9 l., 40 lpp.

ючыся халодным палітычным разлікам і жаданнем падначаліць сабе захопленыя землі ўлады Трэцяга Рэйха дазволілі існаванне пэўнай культурна-асветнай аўтаноміі для беларусаў. Акупанты лічылі, што адпаведнае стаўленне да беларускай меншасці спрычыніцца да ўзмацнення сярод яго пранямецкіх настрояў, тым часам, як магчымая дыскрымінацыя з боку тытульнай нацыі зробіць іх падатнымі на бальшавіцкую прапаганду[27]. Рэалізуючы вышэйзгаданую палітыку, немцы вырашылі дазволіць існаванне органу даверу беларускай меншасці. Восенню 1941 года ў Рызе быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК; ад сакавіка 1942 г. — Беларускае аб'яднанне, БА) у Генеральнай акрузе „Латвія". На пачатку 1942 года кіроўны орган арганізацыі выглядаў наступным чынам: Кастусь Езавітаў (старшыня), Пятро Мірановіч (намеснік), Якуб Кастылюк (сакратар), Сцяпан Сіцько (скарбнік), Люцыя Тэтар, Сяргей Сахараў і Пятро Масальскі (сябры ўправы)[28]. Згодна са статутам арганізацыя ахоплівала ўсю тэрыторыю Генеральнай акругі „Латвія", а галоўнай мэтай арганізацыі было „злучэнне ўсіх беларусаў, што жывуць на абшары былога латышскага гаспадарства дзеля супольнае працы і ўзаемнага падтрымання ў культурным матар'яльным сэнсе"[29].

Пасля таго, як БНК распачаў працу ў Рызе, у Латгаліі пачалося стварэнне рэгіянальных аддзелаў арганізацыі. Асноўны цяжар арганізацыйнай справы быў ускладзены на мясцовую беларускую інтэлігенцыю. Алесь Махноўскі не збіраўся заставацца ў баку гэтай працы. Улетку 1941 года ён заангажаваўся ў стварэнне аддзелаў БНК на Дзвіншчыне. Праўда, праца рухалася вельмі павольна. Нягледзячы на тое, што ў Дзвінску пражывала група нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, мясцовы асяродак працяглы час не праяўляў ніякай актыўнасці. Адной з прычын кволай самаарганізацыі была няпэўная будучыня і няўпэўненасць у тым, якую палітыку будуць ажыццяўляць акупанты. Пра настроі дзвінчукоў можна меркаваць па лісце Махноўскага да К. Езавітава (18 жніўня 1941 г.), у якім чытаем: „Альбо мы павінны атрымаць магчымасць працаваць хоць у больш-менш спрыяючых варунках, альбо кінуць гэтае балота і перайсці працаваць на Беларусь"[30]. З мэтай дапамогі дзвінчукам у арганізацыйнай працы нап-

27 Archiwum Akt Nowych (далей: AAN), sygn. T-454, 88/001057-58; Bundesarchiv, Berlin-Lichterfelde (далей: BA), R6/159, s. 45-46.

28 *Беларускае жыцьцё ў Латвіі*, „Раніца", 22.02.1942, с. 4.

29 *Статут Беларускага аб'еднаньня (у ген. кам. Латвіі)*, „Раніца", 14.06.1942, с. 2-3.

30 НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 40, л. 9.

рыканцы кастрычніка з Рыгі ў Дзвінск выехалі С. Сахараў, С. Маціеўскі, М. Дзямідаў і Я. Камаржынскі. Арганізацыйная праца прынесла свае вынікі. На працягу першага года нямецкай акупацыі ўдалося стварыць філіі камітэта ў Дзвінску, Краславе, Пасіене, Індры і Зілупе[31]. Алесь Махноўскі ўвайшоў у склад кіраўніцтва Дзвінскага аддзела БНК і заняў пасаду сакратара ўправы. Акрамя яго ў склад кіроўнага органа ўвайшлі старшыня — Мікалай Дзямідаў (ад сакавіка 1942 г. — А. Якубецкі), намеснік — Язэп Камаржынскі, сябры — кс. Язэп Гайлевіч, а. Нікан Заліўскі і Андрэй Якубецкі (да вясны 1942 г.)[32].

Нягледзячы на абяцаючы пачатак дзейнасці Дзвінскі аддзел не праяўляў належнай актыўнасці. У пэўнай ступені на павольнасць працы дзвінскага беларускага асяродка ўплывалі ўнутраныя непаразуменні паміж асобнымі дзеячамі. У прыватнасці, не складаліся адносіны паміж Махноўскім і Якубецкім, які ўвесну 1942 года стаў на чале Беларускага аб'ядання. З Якубецкім Махноўскага дзялілі пэўныя розніцы характару, як і прыналежнасць да розных пакаленняў. У лютым 1943 года ў лісце да А. Махноўскага старшыня Беларускага аб' яднання пісаў:

„Дужа сумую, што ў Вас з Андрэем Паўлычам троху „няма кантакту" і што ён завойстрывае куты. Аднак спадзяюся, што „ўсё абразуецца". Важна, каб Вы спакойна працавалі, як інспектар і як грамадскі дзеяч, і моцна памяталі, што Дзвінск важнее Рыгі і Ваша месца не ў Рызе. Кажу аб гэтым таму, што апошнімі часамі, з Вашага ведама, ці без Вашага ведама і згоды, дзея-якія любіцелі „путаць" беларускую грамадскую працу пачалі былі насіцца з праектам аб пераносе Вашае працы ў Рыгу. Гэта было-б вялікаю шкодаю для нашага руху, а таксама і дужа вялікаю памылкаю з Вашага боку, калі-б Вы на гэтую ўдачку пайшлі, бо справа тутака тая-ж самая, што і вываз нашых грамадзянаў з Пустыншчыны ды Прыдруйшчыны. Патрэбна, каб у Дзвінску сядзеў дзвінчук, а пры тым яшчэ не толькі з шляпаю на галаве, але і з самой галавой на плячах"[33].

Не выглядалі найлепшым чынам таксама адносіны Махноўскага з Дзямідавым, пра якога сакратар БНК пісаў у лісце да Езавіката (1 сакавіка 1942 г.): „У ім 1000 талантаў, але і тысяча чартоў сядзіць. І не ведаю, што пераважае"[34].

[31] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940-1945)*, „Беларускі Гістарычны Агляд", 2006, т. 13, с. 2, с. 207.

[32] *Беларускае жыццё ў Латвіі*, „Раніца", 22.02.1942, с. 4.

[33] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5.

[34] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 8.

Нягледзячы на непаразуменні дзвінскі актыў усё ж працаваў на нацыянальна-культурнай ніве. Аналіз даступных крыніц дазваляе сцвярджаць, што не апошняя ў гэтым была заслуга менавіта Алеся Махноўскага. Яскрава сведчаць аб гэтым словы К. Езавітава. Будучы вельмі патрабавальным і крытычным у адносінах да паплечнікаў гэты беларускі дзеяч змясціў на старонках выдання „Новы Шлях" вельмі крытычны артыкул „Дзвінскі аддзел БНА спіць", у якім наракаў на бяздзейнасць дзвінскага асяродка, які „замест працаваць спіць". Разам з тым беларускі дзеяч хваліў Алеся Махноўскага, падкрэсліваючы, што „калі і робіцца што, дык гэта выключна амаль праца сп. А. Махноўскага, якому і без таго хапаець працы"[35].

Аднак галоўным аб'ектам увагі Алеся Махноўскага ў гэты час стала беларускае школьніцтва. Нямецкія акупанты дазволілі, каб беларуская моладзь у Латвіі атрымлівала пачатковую і сярэднюю асвету на роднай мове. У выніку мясцовы беларускі актыў атрымаў шанц на адраджэнне ў Латгаліі школьніцтва, якое не існавала тут з 1934 года. Улетку і восенню 1941 года распачалася праца па арганізацыі беларускіх школ у Латгаліі і Земгаліі. Гэту працу беларускага актыву належыць лічыць вельмі эфектыўнай. У Дзвінску арганізацыяй школ займаўся Махноўскі, якому на працягу ліпеня і жніўня 1941 года ўдалося сабраць 540 заяў ад бацькоў, якія жадалі, каб іх дзеці хадзілі ў беларускія школы. Да пачатку 1942 года ў Латвіі дзейнічалі 32 пачатковыя (пяці- і сямігадовыя) школы, якія наведвала каля тры тысячы вучняў. У 1942/1943 навучальным годзе было ўжо 35 беларускіх школ, у якіх навучалася 3432 вучняў і працавала каля ста настаўнікаў[36]. Маштаб беларускай школьнай дзейнасці не можа не ўражваць, паколькі ён нічым не саступаў паказчыкам 1921-1934 гадоў, а ў дачыненні да пазнейшага перыяду — знаходжання краіны пад панаваннем рэжыму Карліса Ульманіса (1934-1940 гг.), а потым пад савецкай акупацыяй (1940-1941 гг.) — быў непараўнальна большы.

З мэтай кіравання працай беларускага школьніцтва ў снежні 1941 года была створана пасада інспектара беларускіх школ у Латгаліі і Земгаліі. Першым інспектарам быў прызначаны М. Дзямідаў. Аднак ужо ў лютым 1942 года ён быў адкліканы з гэтай пасады ў сувязі з ад'ездам у Люцыншчыну. Частка беларускага актыву прапанавала, каб новым інспектарам стаў К. Езавітаў. Аднак апошні адмовіўся, падтрымаўшы кандыдатуру Махноўскага, якога вельмі цаніў і паважаў

[35] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 l., 31 lp.
[36] BA, R 92/102, s. 231-232.

за актыўнасць на грамадскай ніве. У лісце Езавітава да Махноўскага чытаем:

„Мой персанальны пагляд гэткі. На пасаду гэтую пажаданы малады беларус-вучыцель, свядомы і энергічны, не палахлівы і не ліслівы, але і не зазнаты і не чванлівы, каб мог спакойна рэпрэзентаваць беларусаў, а разам з тым, каб і быў педагог і канцылярыю ведаў і грамадскую жылку меў. Вымаганняў, як бачыце, шмат, бо праца паважная і справа ідзе не аб гонару і акладзе, але аб нацыянальнай нашай асвеце. Як і заўсёды, каля гэтае пасады курыцца смуродны дым дробных самалюбстваў, атручваючы паветра і засцілаючы „дымавую завесаю" самы сэнс справы ды самую нашую справу. Высоўваюць зноў і зноў маю кандыдатуру, хто шчыра, а хто і з тактычных матываў, маючы таемную надзею, што яна: або „не пройдзе", або я сам адмоўлюся. Я — заняты іншымі справамі: руплюся аб кніжках для школ, бо пакуль што аб гэтым іншыя не думаюць і чакаюць, што кніга сама зваліцца ім з неба. У звязку з гэтым я павінен быць у Рызе. Павінен я быць тутака яшчэ і таму, што тут Цэнтральнае Праўленне і наагул — цэнтр. Таму быць інспектарам на Дзвінскі вокруг я адмаўляўся ўжо некалькі разоў і рашуча адмаўляюся зараз. З тае-ж прычыны не магу я быць і ў Дзвінскай гімназіі. Супраць Вашае кандыдатуры, зразумела, ёсць галасы, але яны бываюць супраць кождае кандыдатуры. Куды важней тое, што вы самі адчуваеце: калі адчуваеце, што справа Вам па сілах і што Вы з ёй не будзеце таптацца, а павядзеце энергічна ўперад, дык і вядзіце яе адразу, нягледзячы на тое, ці вы толькі часовы ці вы ўжо назаўсёды, бо гэта, па-перш, не мае абсалютна ніякое розніцы для ходу справы, а па-другое, гэта дасць Вам пэўныя перавагі, бо Вам заўсёды „забяспечаны тыл" тэю пасадаю, якую Вы займаеце, як кіраўнік школы; па-трэцяе-ж, нічога назаўсёды на свеце не бывае, гэта закон развіцця. Дык працуйце шчыра і энергічна!"[37].

Падтрымка Езавітава паспрыяла таму, што Махноўскі ў сакавіку 1942 года заняў пасаду інспектара. Праўда, не ўсім сябрам БНК-БА падабалася гэта прызначэнне. Сведчаць аб гэтым нават словы самога Махноўскага, які ў лісце да Езавітава наступным чынам тлумачыў сваё прызначэнне:

„З апошняга даклада М.[ікалая] Я.[навіча] на паседжанні БНК высвятлілася, што нібы БНК у Рызе зусім і не выстаўляў маю кандыдатуру і супроць яе, а выставіў Міранові. Што будзе прызначаны яшчэ нехта, ні то Езавітаў, ні то Кастылюк. Але гэты нехта баіцца, каб Дзя-

[37] LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 l., 17 lp.

мідаў не даў яму па мордзе пры прыняцці інспектарату, а таму знайшлі „зайчыка" Махноўскага, супруць якога М. Я. нічога не мае, а таму і ў морду не дасць"[38].

Супраць кандыдатуры Махноўскага выказаўся кіраўнік Дзвінскага аддзела БНК-БА А. Якубецкі. На падставе аналізу ліставання паміж К. Езавітавым і А. Якубецкім можна зрабіць выснову, што апошні кіраваўся асабістай крыўдай і адчуваў сябе недацэненым. Якубецкі ў перапоўненым адчаем і пачуццём крыўды лісце да Езавітава жаліўся:

„Замест пастановы камітэту Вы пішаце па гэтаму пытанню прыватны ліст і зазначаеце, што „адкладаць гэтую справу ніяк няможна" і што інспектарам павінен быць „або Вы, або Махноўскі пад Вашым кантролем". З аднаго боку вы хацелі справе з інспектарам прыдаць грамадскасць, а з другога боку, правесці гаворачы за кулісамі беларускай грамадскасці правялі з гр. Міplayer Мірановічам у інспектары гр. Махноўскага, які ўжо 1-га III назначан на пасаду інспектара Дзвінскім камісарам, аб чым гр. Махноўскі ў сваім цыркуляры паведамляе вучыцялёў. 2 III г.г. вы пішаце мне ліст, а Махноўскі ў гэты дзень ужо падпісываў паперы, як поўнапраўны інспектар. Дзе логіка? Дзе грамадскасць? Яксці сумна [...]. Дрэнна Вы ведаеце гр. Махноўскага, калі думаеце, што ён будзе пад Вашым ці маім кантролем працаваць. Увосень прошлага году я таксама падумаў, што гр. Махноўскі будзе працаваць пад маім кантролем, а таму і заклікаў яго да беларускай працы. Практыка паказала, што я памыляўся. М. робіць у беларускай справе сабе кар'еру і ні з кім не жадае лічыцца [...]. Яму хочацца паказаць сябе ўва ўсім сваім харастве, а вы тут хочаце падпарадкаваць яго другому ды яшчэ «беларускаму шавіністу»"[39].

Нягледзячы на вышэйзгаданыя разыходжанні ўсё ж Махноўскі быў зацверджаны на пасадзе інспектара беларускіх школ у Латгаліі і Земгаліі. 25 лютага 1942 года ён прыступіў да выканання службовых абавязкаў. Сядзіба інспектара знаходзілася ў Дзвінску, на вул. Мірнай, 38. Інспектар беларускіх школ быў падначалены рэферэнту асветы і культуры ўправы гебітскамісара Дзвінска немцу Рольфу Вінбергу. Пачаткі працы Махноўскага па пасадзе школьнага інспектара былі даволі цяжкімі. Вось якім чынам ён апісваў момант прыняцця абавязкаў ад свайго папярэдніка:

„Хаос. Дабіваўся я ад М.[ікалая] Я.[навіча] хоць спіса вучыцялёў, дзе былі-б пададзены супраць кожнага з якой датай і ў якую школу

[38] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 9.
[39] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 39, л. 5-6.

вучыцель прызначаны. Пакуль не дабіўся. Копій выходзячых папер няма. Вучыцялі-беларусы не атрымалі пенсіі за студзень, не кажучы аб лютым. Спісы на пенсію ляжаць у інспектараце (беларускім), бо М. Я. „не мае часу" на іх напісаць. [...] Некаторыя вучыцялі не атрымалі пенсіі і за 4 месяцы [...]. Кожны дзень 5-6 тэлефонных званкоў — грошы! У першую чаргу вазьмуся за гэта. 28 II М. Я. зусім у інспектараце не з'явіўся, нягледзячы на тое, што ўмовіліся на 9 гадзін зрання. Сродкі БНК жалкія, бо М. Я. іх раскалашмаціў і ніякіх рахуб не даў"[40].

У красавіку 1942 года А. Махноўскі скардзіўся кіраўніку БА, што ў інспектараце адсутнічае справавод, бухгалтар, машыніст-перакладчык і канцылярскі супрацоўнік[41].

Тым не менш новы інспектар не ўхіліўся ад адказнасці і ўскладзеных на яго абавязкаў. У арганізацыйных справах ён шчыльна супрацоўнічаў з рэферэнтам беларускага школьніцтва ў Рызе Пятром Міратовічам. На новай пасадзе Махноўскі не мог наракаць на адсутнасць працы. Да абавязкаў інспектара належала арганізацыя новых школ і дагляд за ўжо дзейнымі. Пераважная большасць беларускіх школ размяшчалася ў незаможных вёсках, дзе матэрыяльныя ўмовы былі вельмі цяжкімі. У выніку некаторыя школы знаходзіліся ў гаротным стане: адчуваўся недахоп мэблі і адпаведнага абсталявання будынкаў. Больш за тое, некаторыя школы ў паўднёвай Латгаліі часта былі ахвярамі нападаў з боку савецкіх партызан. Большасць беларускіх школ знаходзілася на Дзвіншчыне, паколькі адсутнічала беларускамоўная асвета ў Ілуцкім павеце Земгаліі. У красавіку 1942 года Махноўскі наведаў Ілукшчыну з мэтай арганізацыі там беларускай школьнай справы[42]. У выніку ў Ілуцкім павеце ўдалося адчыніць сем беларускіх школ (у Дземенскай, Карлаўскай і Саліенскай валасцях), якія ў 1942/1943 навучальным годзе наведвалі 523 вучні і працавала 18 настаўнікаў[43]. Падчас кіравання інспектаратам Махноўскім беларускае школьніцтва ў Латвіі мела яшчэ адзін істотны поспех. У 1942/1943 навучальным годзе распачала працу беларуская гімназія ў Зілупе[44]. Рабіліся таксама захады па арганізацыі гімназій у Дзвінску і Пасіене, аднак яны не прынеслі чаканых вынікаў[45].

[40] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 9 зв.-10.
[41] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 13.
[42] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 40, л. 9 зв.
[43] BA, R 92/102, s. 232.
[44] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 l., 39 lp.
[45] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 1 зв.

Праца школьнага інспектара не была пазбаўлена клопатаў і непрыемнасцей, якія былі вынікам складаных міжнацыянальных і палітычных адносін у Латгаліі. Так, напрыклад, 12 снежня 1942 года генеральны дырэктар асветы генеральнай дырэкцыі зажадаў звальнення А. Махноўскага з займанай пасады, фармулюючы ў яго адрас цяжкія абвінавачванні ў шкодніцкай дзейнасці і свядомым увядзенні ў зман органаў школьнага кантролю[46]. Паводле латышскага дырэктара А. Махноўскі ў пяць разоў завысіў колькасць вучняў у беларускіх школах, каб пазбегнуць іх закрыцця. У якасці прыкладу падавалася пачатковая школа ў Граверы (Аўлейская воласць), якая дзейнічала нягледзячы на тое, што, на думку чыноўніка, у ёй было толькі 13 вучняў. Згодна з заканадаўствам яна не павінна была дзейнічаць, а вучняў належала перанесці ў суседнюю школу ў Дудзелях. Замест гэтага інспектар беларускіх школ прыхаваў інфармацыю наконт сапраўднага колькаснага стану школы. Генеральны дырэктар выдаў загад аб закрыцці гэтай школы, але інспектар А. Махноўскі яму не падпарадкаваўся. Акрамя таго, латышскі генеральны дырэктар лічыў, што А. Махноўскі беспадстаўна дамагаўся адкрыцця новых беларускіх школ і дзіцячага садка ў Краславе, бо ў рэчаіснасці там не было адпаведнай колькасці дзяцей-беларусаў. На думку генеральнага дырэктара асветы дзеянні А. Махноўскага прыносілі шкоду школьнай справе, паколькі праз захаванне нерэнтабельных школ і стварэнне новых месцаў працы там, дзе не было ў іх патрэбы, адбывалася марнаванне значных грашовых сродкаў[47].

Вышэйзгаданыя падзеі былі адлюстраваннем шырэйшых працэсаў, якія адбываліся на латышска-беларускім памежжы. У сапраўднасці ішло своеасаблівае змаганне паміж беларускімі і латвійскімі дзеячамі за „сэрцы і душы” тутэйшага славянскамоўнага сялянства, якога нацыянальная свядомасць знаходзілася ў стадыі фармавання. Як вядома, яшчэ ў міжваенны час, асабліва пасля 1934 года, латвійскія дзеячы рабілі захады, каб надаць Латгаліі як мага больш латыш-

[46] Латышскі генеральны дырэктар асветы пісаў: „яго [А. Махноўскага — Ю. Г.] дзейнасць паказала, што ён наўмысна ашукаў улады школьнага кантролю, падаў несапраўдныя звесткі і тым самым выклікаў нічым неабгрунтаваныя выдаткі ў гаспадарчым плане. У сувязі з дасюлішняй дзейнасцю інспектара Махноўскага я зрабіў выснову, што ён не спраўляецца з даручанымі яму заданнямі, паводзіць сябе непрыхільна ў адносінах да супрацоўніцтва з латышскімі ўладамі школьнага кантролю і дзейнічае на шкоду справы”. BA, R 92/102, s. 189.

[47] BA, R 92/102, s. 188.

скае нацыянальнае аблічча, што было гарантам захавання рэгіёна ў складзе латвійскай дзяржавы. Стаўленне латвійскага боку можна зразумець, паколькі ў Латгаліі ў міжваенны час існавала рэальная праблема інтэграцыі гэтага рэгіёна з астатняй часткай латвійскай дзяржавы. У паўднёвалатгальскіх валасцях толькі ў другой палове 1930-х гадоў латышам удалося дасягнуць перавагі ў мясцовым самакіраванні. Натуральна, што ва ўмовах нямецкай акупацыі латышскі бок намагаўся не дапусціць да страты з такім цяжарам здабытых уплываў[48]. Латышскі і беларускі бакі разумелі, што будучыня рэгіёна можа залежаць ад нацыянальнага складу яго жыхароў, а тым часам, нацыянальна маласвядомае мясцовае сялянства было схільнае пад уплывам вонкавых чыннікаў падаваць розную нацыянальнасць. Неўзабаве як беларускія, так і латышскія актывісты збіралі подпісы ад бацькоў аб тым, што яны належаць да латышскай ці беларускай нацыянальнасці і жадаюць высылаць сваіх дзяцей у адпаведныя школы. Раптоўнае з'яўленне — пасля працяглай адсутнасці (ад сярэдзіны 1930-х гадоў) — беларускіх школ не магло не выклікаць насцярогі латышоў, якія бачылі ў ім пагрозу для сваёй тэрытарыяльнай інтэгральнасці. Тым больш, што некаторыя беларускія школы былі створаны шляхам закрыцця латышскіх. Засцярогі латышскага боку не былі пазбаўлены рацыянальных падстаў, паколькі беларускія дзеячы сапраўды лічыліся з магчымасцю далучэння ў будучыні „беларускіх" валасцей Латгаліі да Беларусі. Беларускія дзеячы разумелі, што новая палітычная кан'юнктура ў значнай ступені спрыяе ім, а акупацыйная рэчаіснасць стварае перад імі шанц на ўзмацненне ўласнай пазіцыі ў рэгіёне, што магло адбыцца за кошт латышоў. Настроі і спадзяванні беларускага актыву яскрава адлюстроўвае ліст К. Езавітава да А. Махноўскага, у якім кіраўнік БНК заклікаў не баяцца рэпрэсій з боку латышоў: „На пагрозы „выслаць у Менск" не звяртайце ўвагі. Мяжы зараз няма і дзе яна будзе — ніхто не ведае: будзе там, дзе будзе наша большасць! Можа здарыцца, што самі крыкуны будуць павінны выехаць, а не мы!"[49]. Больш за тое, лідар латвійскіх беларусаў лічыў, што беларусы не павінны вагацца, калі давядзецца „пакрыўдзіць" латышоў. У іншым сваім лісце да А. Махноўскага ён пісаў:

„Уважайце, маемо мы за ўсё тое, што з намі яны рабілі, а яны хай памаўчаць. Адступаць тутака не варта, няможна, непатрэбна і мала-

48 Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940-1945)*, „Беларускі Гістарычны Агляд", 2006, т. 13, сш. 2, с. 212.

49 LVVA, P-712 f., 1 apr., 6 l., 4 lp.

душна нават. Могуць быць здарэнні, прыдзецца ўсе школы забраць у пэўных валасцёх, дык ці-ж і там мы будземо дэлікатнічаць? Пры абароне інтарэсаў уласнага народу дэлікатнічаць — шкоднае пачуццё. Вучыцеся ў саміх латышоў і ў немцаў. Нас за тое і білі, што мы за дужа дэлікатны народ. Хто з нашае дэлікатнасці толькі не скарыстаўся: і расейцы, і палякі, і жыды, і літоўцы, і латышы, нават украінцы! Даволі! — Гэта трэба скончыць!"[50].

Неабходна аднак адзначыць, што Махноўскі на пасадзе школьнага інспектара не адзначаўся радыкалізмам у дачыненні да нядобразычліўцаў беларускай справы. Ён намагаўся захоўваць далікатнасць і такт у адносінах як з прадстаўнікамі латвійскага самакіравання, так і нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Ён лічыў, што не належыць фарсаваць школьнага пытання, каб пазбегнуць непатрэбнай напругі. Інспектар сцвярджаў, што трэба дзейнічаць па прыкладзе беларусаў у Літве, дзе ў паразуменні з літоўцамі і немцамі беларусам было перададзена шмат школ. 18 жніўня 1942 года А. Махноўскі пісаў К. Езавітаву:

„Я ўжо звярнуўся з дакладам у Дзвінскі гебітскамісарыят з гэтым, і хутка надашлю і ў Мітаву. А Вам і рэферэнту не шкодзіла-б звярнуцца у Рэйхскамісарыят і да Адольфі. „Вольнае-ж змаганне" па адчыненню школ вызывае толькі варожыя настроі і пасягненні на нас латышоў, што надта балюча адгукнулася на вучыцялёх нашых, так і на сялянстве. Сяляне цэлымі вёскамі перапісываюцца ў латышы [...]. Дайце-ж нарэшце зразумець, што не да бясконца можа змагацца тутака ў Латвіі невялічкая кучка інтэлігенцыі за свае правы з арганізаванай сілай (урадам і паліцыяй) ульманаўскай Латвіі"[51].

Адначасова беларускі інспектар бачыў новыя перспектывы развіцця беларускага школьніцтва на тэрыторыі Латвіі. У адным з лістоў да Езавітава ён дзяліўся сваімі думкамі наконт магчымасці адкрыцця новых школ на абшары, які знаходзіўся на ўсход ад Латвіі: „Да літоўцаў далучылі 3 паветы беларускія з насельніцтвам 200.000. Латышы чакаюць, што і да іх Латвіі далучаць да Вялікіх Лук. Не ведаюць яны толькі як будзе з „шырынёй". Латышкі інспектар [...] прапаноўваў падумаць і выпрацаваць план, як „мы" будзем адчыняць тамака, у новым абшары беларускія і латышскія школы. Дзеля гэтага раіў падрыхтаваць кадры вучыцялёў. Хоча, каб мы разам летам туды паехалі і абгледзілі становішча і насельніцтва"[52].

[50] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 2.
[51] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 40, л. 9 зв.
[52] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 11 зв.–12.

Гісторыя захавала сведчанні пра выпадкі пераследу беларускіх настаўнікаў з боку мясцовага самакіравання і дапаможнай паліцыі. Брутальнымі метадамі карысталася мясцовая дапаможная паліцыя, якая нярэдка арыштоўвала беларускіх настаўнікаў. Пакідала жадаць лепшага і стаўленне латышскай цывільнай адміністрацыі да беларускіх школ. Са скаргаў, якія прыходзілі ў 1942-1944 гадах у Беларускае аб'яднанне ў Рызе ад мясцовых актывістаў гэтай арганізацыі вынікала, што ў правінцыі частай з'явай быў адкрыты ціск на педагогаў-беларусаў. Многія настаўнікі станавіліся ахвярай вывазу на прымусовыя працы. Здаралася, што некаторыя педагогі затрымліваліся нават некалькі разоў. У лісце А. Махноўскага (26 красавіка 1942 г.) да К. Езавітава чытаем:

„Вы-ж павінны ведаць, што Дзвінская турма напіхана біткам беларусамі (вызнаючымі сябе так) і расейцамі-палякамі, а латышоў няма. А на вёсцы бяруць „не мыццём, дык катаннем". Зараз горшае становішча, чым было ўвосені і зімой. Бацькі-беларусы проста баяцца называцца беларусам, а каб не называцца латышом, дык проста не пушчаюць дзяцей нікуды. Рэгістрацыі, праведзеныя па загаду Гебітскамісара для высвятлення ліку беларусаў і латышоў у некатарых школах, не далі вынікаў і яснага малюнку, бо бацькі ўхіліліся ад рэгістрацыі. Праўда, супраць латышоў паўстане на вёсцы страшэнная злосць, але пакуль яны заціснулі так меншасці, што сок цячэ"[53].

Інспектар Махноўскі мусіў абараняць беларускае школьніцтва перад вышэйзгаданымі нападамі і рэпрэсіямі. 15 студзеня 1943 года ён разам з кіраўніком Дзвінскага аддзела БА А. Якубецкім сустрэўся з намеснікам гебітскамісара ў Дзвінску і ўручыў яму ліст з просьбай вызваліць з-пад варты беларускіх настаўнікаў. У выніку частка затрыманых была вызвалена, але іншыя вывезены на працу ў Эстонію[54]. Рэпрэсіі ў дачыненні да настаўніцтва аднак не спыніліся і адбываліся ў пазнейшы час. У жніўні 1943 года паліцыя арыштавала шэсць беларускіх настаўнікаў краслаўскай, дземанаўскай, юхнавецкай і гараўскай школ. У гэтых ж час былі, таксама, затрыманы чатыры вучні індраўскай гімназіі. У сувязі з гэтымі інцыдэнтамі інспектар А. Махноўскі зноў быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да Дзвінскага гебітскамісара[55]. Яму ўдалося дамагчыся вызвалення кіраўніка беларускай школы ў Краслаўцы і настаўніцы гэтай жа школы[56].

[53] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 11 зв.-12.
[54] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 37, л. 26-28; спр. 16, л. 5.
[55] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 l., 27 lp.
[56] Э. Екабсонс, *Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940-1945)*, „Беларускі Гістарычны Агляд", 2006, т. 13, сш. 2, с. 208, 222.

Чарговай праблемай, якая з’яўлялася выклікам для інспектара Махноўскага, было тое, што не заўсёды настаўнікі беларускіх школ у дастатковай ступені валодалі беларускай мовай. Беручы над увагу працяглую адсутнасць у Латгаліі беларускага школьніцтва, не павінна здзіўляць тое, што ў некаторых школах педагогі ў зносінах з вучнямі карысталіся латышскай ці рускай мовамі. Некаторыя беларускія дзеячы (Якубецкі) абураліся такім становішчам. Больш за тое, гэта не адпавядала таксама латышскім школьным уладам. У сувязі з гэтым генеральны дырэктар асветы ў звароце да рэферэнта асветы Генеральнай акругі „Латвія” (12 снежня 1942 года) патрабаваў выдання адмысловага загаду аб тым, каб заняткі ў беларускіх школах адбываліся на роднай мове[57]. У сваю чаргу інспектар беларускіх школ ставіўся да гэтай справы значна больш памяркоўна. Ён лічыў, што нельга патрабаваць ад настаўнікаў раптоўных змен, паколькі гэта можа знішчыць у іх жаданне працаваць у беларускім школьніцтве. Сваімі думкамі Махноўскі падзяліўся з Езавітавым у лісце ад 4 снежня 1942 года:

„Мне добра вядомы недахопы кадраў вучыцельскіх і тая вучнёўская маса, якая запаўняе гэтую школу, але я лічу, што мы зараз заняты будаўнічай працай і павінны асцярожна і ўважліва падыходзіць і да рознашорснай вучнёўскай масы, і да набранага вучыцельскага персанала. Мне каштавала вялікіх высілкаў арганізацыя гэтае школы і я лічу, што такі падыход грам.[адзяніна] Якубецкага да справы беларускасці, які ён ужывае, можа разагнаць вучняў і вучыцялёў. Так востра ставіць пытанні, закранутыя грам.[адзянінам] Якубецкім, мы маглі-бы тут у Дзвінску толькі пасля некалькі гадоў працы і пры іншых абставінах і варунках. Беларуская школа зараз перапоўнена беларусамі быўшымі на працягу многіх дзесяцігоддзяў пад польскімі ўплывамі і не адразу можна ставіць нацыянальнае пытанне гэтак востра, як ставіць гэта грам.[адзянін] Якубецкі. Павінен Вам давесці да ведама, што гэта спольшчаная беларуская вучнёўская маса набрана з ведама Дзвінскага Гебітскамісарыята, бо і яны таксама, і я, перакананы ў іх беларускім паходжанні. Няма зараз у нас кім замяніць і тых вучыцялёў, якія ў школе працуюць. Прагнаць — гэта рэч вельмі простая, але сабраць — не так лёгка. Я безумоўна ў сувязі з гэтым схаджу на рэвізію, праслухаю лекцыі паасобных вучыцялёў, спакойна і па сяброўску зраблю ім некаторыя заўвагі, але агалошываць паперу спадара Якубецкага, альбо рабіць „захады”, каб людзі адразу перарадзіліс ператварыліс — не буду. Нападкі на Гайлевіча, што

[57] BA, R 92/102, s. 189.

датычыцца школьнага жыцця, дарэмныя, ён выкладаў і выкладае па беларуску, але некаторы пераход ад польскага тэксту малітв да беларускага павінен існаваць, бо ломка ў школьным жыцці не павінна быць войстрай. Калі грам.[адзянін] Камаржынскі не падыходзіць на пасаду кіраўніка, дык трэба гэта сказаць яму спакойна і па сяброўску. Але я павінен зазначыць, што ў сучасны момант у нас няма кім яго замяніць і мы павінны быць задаволены яго працай. Калі патрэбна даць якія ўказанні, патрэбна даць, але не ў форме цыркуляраў і адношанняў. Спадар Якубецкі па свайму здароўю не можа і не хоча заняць пасаду кіраўніка Дзвінскае школы. Выходзіць так: самі мы не хочам працаваць, а крытыкуем і зневажаем працу другіх. Другія дзе вось не дасягнулі тэй вышыні, якую патрэбна было-б дасягнуць! Гэтак лягчэй за ўсё рабіць"[58].

Сур'ёзнай перашкодай на шляху да нармальнай працы беларускага школьніцтва ў Латвіі была адсутнасць дастатковай колькасці адпаведна падрыхтаваных настаўнікаў. Сітуацыю пагаршаў факт, што напрыканцы 1942 года генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ выдаў распараджэнне аб тэрміновым вяртанні ў Беларусь тых нешматлікіх настаўнікаў, якія ў 1942/1943 навучальным годзе выехалі ў Латвію і знайшлі працу ў тутэйшым школьніцтве. Інспектар беларускіх школ А. Махноўскі прасіў старшыню Беларускага аб'ядання хадайнічаць перад уладамі Генеральнай акругі „Латвія", каб гэтыя настаўнікі надалей працавалі ў Латгаліі[59].

Беларускае школьніцтва змагалася таксамі з недахопам падручнікаў. Часткова дэфіцыт быў пакрыты шляхам атрымання навучальнай літаратуры з Генеральнай акругі „Беларусь". Аднак гэта была кропля ў моры патрэб. У сувязі з гэтым у сярэдзіне 1942 года К. Езавітаў ініцыяваў сярод настаўнікаў збор сродкаў на выдавецкі фонд. Кожны настаўнік ахвяроўваў на справу адзін месячны заробак[60]. У гэтай справе К. Езавітаву актыўна дапамагаў інспектарат беларускіх школ. Пры гэтым часамі ўдавалася сабраць нядрэнныя сумы. 21 верасня 1942 года А. Махноўскі пераслаў Езавітаву 800 марак на выданне падручнікаў[61]. У чэрвені 1943 года інспектар беларускіх школ паведамляў, што ён атрымаў ад настаўніцтва Дзвіншчыны яшчэ 1550 марак[62].

[58] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 l., 23 lp.
[59] BA, R 92/101 s. 195.
[60] Ю. Туронак, *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем*, [у:] ён жа, *Мадэрная гісторыя Беларусі,* Вільня 2006, с. 342.
[61] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5; спр. 51, л. 43.
[62] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 l., 18 lp.

Праца прынесла свой плён і ў сярэдзіне 1943 года накладам трох тысяч асобнікаў выйшла чытанка К. Езавітава „Беларуская школа” (перадрук даваеннага выдання). Выданне аказалася вельмі памоцным у педагагічнай працы, хоць не было пазбаўлена пэўных хібаў. У лісце да А. Махноўскага выдавец скардзіўся, што праз малы наклад кошты выдання былі вельмі вялікія. Больш за тое, тэкст рыхтавалі да друку латышскія наборшчыкі, якія не ведалі беларускай мовы, што адбілася на якасці[63]. Беручы пад увагу нешматлікасць мясцовай выдавецкай прадукцыі беларускія школы надалей былі залежныя ад даставаў з-за межаў Латвіі. 11 кастрычніка 1943 года інспектар А. Махноўскі звярнуўся да Язэпа Найдзюка, тэхнічнага кіраўніка Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі з просьбай даслаць шэраг кніг на патрэбы беларускіх школ у Латвіі. У першую чаргу ён звяртаў увагу на тое, што існуе запатрабаванне на выданне Антона Лёсіка „Беларускі Правапіс”[64]. У лістападзе 1943 года А. Махноўскі і кс. Я. Гайлевіч накіравалі ліст да кс. Адама Станкевіча, у якім прасілі даслаць у Латвію 3-4 тысяч асобнікаў беларускамоўнага малітоўніка. Аўтары лісту прасілі таксама згоды на перавыданне даваеннага малітоўніка „Голас душы. Кніжка да набажэнства для беларусаў-каталікоў” (Вільня 1934)[65].

Працу школьнага інспектара Махноўскаму даводзілася спалучаць з грамадскай і культурнай актыўнасцю. Па-ранейшаму ён з’яўляўся сакратаром управы Дзвінскага БА. Як адзін з наймалодных і адначасова найактыўнейшых сяброў БНК-БА на Дзвіншчыне Махноўскі ўдзельнічаў ва ўсіх пачынаннях арганізацыі на тэрыторыі Латгаліі. Адным з накірункаў працы БНК-БА была папулярызацыя народнай культуры шляхам арганізацыі тэатральных пастановак і выступаў. Пры ўдзеле Махноўскага ў Дзвінску ў 1942 годзе была створана беларуская драматычная трупа. Ён асабіста звяртаўся да беларускага актыву ў Менску і Вільні з просьбай дапамагчы дзвінчукам наладзіць тэатральную працу на належным узроўні[66]. Акрамя таго, не без яго ўдзелу ў Дзвінску адбыліся гасцінныя выступы актораў з-за мяжы. Поспехам можна лічыць арганізацыю латгальскіх гастроляў Міхася Забэйды-Суміцкага[67]. Рабіліся таксама спробы наладзіць выданне бе-

[63] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 l., 36 lp.
[64] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 l., 26 lp.
[65] LVVA, P-712 f., 1 apr., 3 l., 47 lp.
[66] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 l., 26 lp.
[67] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 l., 26 lp.

ларускага перыёдыка ў Дзвінску[68]. На пачатку 1943 года ў Генеральнай акрузе „Латвія” адбыўся перапіс жыхарства. У сувязі з гэтым 30 студзеня 1943 года А. Махноўскі заклікаў кіраўніцтва БА паруціцца пра ўключэнне беларусаў у склад лічыльных камісій. Ён лічыў, што ў адваротным выпадку беларусаў будуць запісваць „чым і кім хочаце, але не беларусамі”[69]. На пачатку 1943 года А. Махноўскі супольна з К. Езавітавым падрыхтаваў мемарыял да генеральнага камісара ў Рызе і Дзвінскага гебітскамісара, які ўтрымліваў адпаведную просьбу да нямецкіх улад[70].

Ацэньваючы дзейнасць Махноўскага ў гады вайны варта заўважыць, што ён праявіў сябе як здольны руплівы арганізатар і педагог, які ў складаных умовах нямецкай акупацыі працаваў на карысць беларускай асветы і захавання беларускай ідэнтычнасці сярод жыхароў Латгаліі. Працу на пасадзе школьнага інспектара і сакратара Беларускага аб’яднання спынілі ў сярэдзіне 1944 года імгненныя змены на нямецка-савецкім фронце. Улетку 1944 года савецкія войскі занялі Латгалію. У выніку беларускае школьніцтва, якое дзейнічала тут пад нямецкай акупацыяй, спыніла сваё існаванне. Некаторыя мясцовыя беларускія актывісты мусілі ратаваць жыццё і пакінуць бацькаўшчыну. На той час Алесь Махноўскі ўжо быў вядомым грамадскім дзеячам і безумоўна разумеў, што яго чакае ў выпадку, калі трапіць у рукі сталінскіх катаў. У абліччы новай сітуацыі восенню 1944 года ён разам з сям’ёй вырушыў на захад.

Заканчэнне вайны застала Махноўскага ў заходняй зоне акупацыі Аўстрыі. Беларус падзяліў лёс іншых уцекачоў з цэнтральна-ўсходняй Еўропы, якія апынуліся ў лагерах для перамешчаных асоб (ДП). Падчас знаходжання на чужыне ў яго жыцці здарылася вялікая трагедыя. У ваколіцах Брэгенца трагічна загінуў яго адзіны сын. Нягледзячы на асабістую трагедыю, ён не спыніў сваёй грамадска-палітычнай працы. Ён не застаўся ў баку ад беларускай нацыянальнай працы на чужыне. Пасля расколу беларускага незалежніцкага эміграцыйнага лагера на прыхільнікаў БЦР і Рады БНР Махноўскі далучыўся да апошніх. 24-25 красавіка 1948 года ў Остэргофэн адбыўся агульны з’езд дэлегатаў беларускіх лагераў і груп, на якім быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт — Цэнтральнае Прадстаўніцтва Беларускай Эміграцыі ў Нямеччыне. У склад кіраўніцтва новай арганізацыі

[68] LVVA, P-712 f., 1 apr., 4 l., 31 lp.
[69] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 33, л. 19.
[70] НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 16, л. 5.

ўвайшоў таксама Махноўскі[71]. Акрамя таго, ён з'яўляўся сябрам Прэзідыума Рады БНР. Належаў да ліку бліжэйшых паплечнікаў Міколы Абрамчыка, аб чым сведчыць прызначэнне наменікам Прэзідэнта БНР. Восенню 1948 года па даручэнні ўрада БНР Махноўскі ініцыяваў перамовы з латышскім незалежніцкім эміграцыйным прадстаўніцтвам — Латвійскай Цэнтральнай Радай. Невыпадкова — як латвійскі беларус — увайшоў у склад беларускай дэлегацыі падчас сустрэчы з латышскімі прадстаўнікамі, якая адбылася 20 лістапада 1948 года ў мясцовасці Эслінген. Праўда, ён даволі скептычна ставіўся да магчымасці дасягнення трывалага беларуска-латвійскага паразумення і не верыў у шчырасць латышскіх палітыкаў[72]. Верагодна, што ўплыў на гэта меў даваенны досвед працы ва ўмовах ульманісаўскай Латвіі, а таксама ў перыяд нямецкай акупацыі.

У 1949 годзе як многія беларускія дыпісы ён эміграваў за акіян. У якасці сталага месца жыхарства абраў ЗША. Апынуўшыся на амерыканскай зямлі, не забыўся аднак пра суродзічаў, якія заставаліся ў лагерах ДП. Алесь Махноўскі дапамагаў дыпісам у атрыманні дазволу амерыканскіх улад на пераезд у ЗША, рыхтуючы ім запрашэнні. За акіянам ён не пераставаў браць удзелу ў працы Рады БНР. Неаднаразова кіраваў працамі пасяджэнняў сесій Рады, якія адбываліся на пачатку 1950-х гадоў. На Шостай сесіі Рады БНР (1951-1952) быў абраны кіраўніком Выканаўчага органу. Тады ж ён увайшоў у склад камісіі Рады БНР па апрацаванні тэзаў, якімі павінны былі кіравацца прадстаўнікі Рады БНР у дачыненнях з расійскімі антыкамуністамі. У 1953 годзе Махноўскі атрымаў запрашэнне ад кіраўніцтва Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амерыкі да ўдзелу ў падрыхтоўцы да склікання 1-га Усеэміграцыйнага кангрэсу[73].

Неабходна адзначыць, што — як большасці тагачасных амерыканскіх беларусаў — Махноўскаму даводзілася спалучаць грамадска-палітычную актыўнасць з цяжкай фізічнай працай, каб пратрымаць сям'ю. Пры гэтым паступова пагаршаўся стан здароўя беларускага дзеяча і ягонай жонкі. На пачатку 1950-х гадоў ён перанёс складаную аперацыю. Нягледзячы аднак на жыццёвыя цяжкасці ён намагаўся не траціць бадзёрасці. 8 лютага 1953 года пісаў да Віталя Кажана:

[71] „Бацькаўшчына", 2.05.1948.

[72] Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч, *Рада БНР (1947-1970): Падзеі. Дакументы. Асобы*, Менск 2013, с. 124-125.

[73] А. Гардзіенка, *Беларуская Цэнтральная Рада: стварэньне, дзейнасьць, заняпад*, Менск 2016, с. 48, 188, 250.

„Апошні час (на Коляды) сядзеў у цёмным пакоі, бо хворае было вока. Папала істружка зялезная з машыны. Пару тыдняў прахварэў, ня мог спаць лежучы, а толькі седзючы, бо ад прыліва крыві к воку яно дужа балела. Зараз лепш, але пэўны, што ня будзе бяльма, будзе толькі праз 4 месяцы. Праца для мяне цяжкая, але што-ж зробіш. Задаволены, што яна ёсьць. Жонка ўсё мучаецца з артрытам. Усе шпацыры й лекі даюць толькі аблягчэньне на кароткі час, а не вылячэньне. Часам працуе, часам не. Што да нашых спраў агульных, то нельга ў лісьце ўсе апісаць, толькі асабіста. Мо як пад'еду ў Stamford. Жадаю Вам бадзёрасьці духу!”[74]

У выніку ўнутранага крызісу Рады БНР і непаразуменняў сярод радных у сярэдзіне 1950-х гадоў Алесь Махноўскі разам з шэрагам іншых актыўных сяброў цалкам адышоў ад палітычнай дзейнасці[75]. Аднак адмова ад працы ў Радзе БНР зусім не азначала спынення ўдзелу ў беларускім руху. Па-ранейшаму ён працягваў удзельнічаць у нацыянальна-культурным жыцці беларускай грамады ў Амерыцы. Сям'я Махноўскіх адрознівалася рэлігійнасцю і набожнасцю, належала да шчырых вернікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ). Імёны Алеся і Антаніны Махноўскіх можна знайсці ў спісе ахвярадаўцаў, дзякуючы якім у 1957 годзе быў набыты будынак на Брукліне (*401, Atlantic Avenue*), у якім размясцілася галоўная святыня БАПЦ у ЗША — сабор Св. Кірылы Тураўскага[76].

Аднак працаваць на карысць беларускай справы на чужыне давялося нядоўга. Алесь Махноўскі адышоў у лепшы свет 19 кастрычніка 1967 года. Апошні свой прытулак знайшоў на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку пры праваслаўнай парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ (штат Нью-Джэрсі). Вось якім чынам пісаў пра пахаванне Махноўскага яго даўні сябра іншы латвійскі беларус Пятро Мірановіч:

„У сонечны дзень кастрычніка ён адбыў апошняе падарожжа на беларускія могілкі ў Іст-Брансьвіку. Тут яго ў апошні раз сустрэла і праводзіла з сумнай песьняй „Спі пад курганам” вялікая беларуская грамада. Хай будзе Яму вечная памяць!”[77].

[74] Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч, *Рада БНР (1947-1970)*, с. 497.
[75] Там жа, с. 62.
[76] В. Кіпель, *Беларусы ў ЗША*, Менск 2017, с. 329.
[77] П. Мірановіч, *Святой Памяці Аляксандра Махноўскага*, [у:] *Крывіцкія руны*, вып. 2: *Беларускі культурны мацярык у Латвіі*, укл. М. Казлоўскі і С. Панізьнік, Менск 2017, с. 319.

На працягу свайго нядоўгага веку Алесь Махноўскі самаахвярна і паслядоўна служыў беларускай справе. Бесперапынна і сумленна працаваў на нацыянальна-асветніцкай і грамадска-палітычнай ніве на бацькаўшчыне і эміграцыі. На старонках беларускага нацыянальнага руху запісаўся як педагог, палітык і грамадскі дзеяч. Яскрава засведчыў гэта сваім жыццёвым шляхам, за што з упэўненасцю заслугоўвае ўдзячнай памяці і пашаны нашчадкаў.

**Summary**

**Alexander Makhnovsky**
**— A Belarusian Activist from Latgale (1902-1967)**

In the interwar period and during the World War II, Latgale was one of the main centers of Belarusian national life. Educational and socio-cultural organizations worked in this region, newspapers appeared in the Belarusian language. All this was possible thanks to a small group of local Belarusian intelligentsia. Among the most active Belarusian activists in Latgale was Alexander Makhnovsky. He was an educator and a cultural and educational activist. Despite this, until recently, the name of Makhnovsky was little known in literature. Therefore, the purpose of this publication is to fill this important gap in the research on the history of the Belarusian minority in Latvia. The article presents the most important stages of Makhnovsky's life and work in the Republic of Latvia between the wars, during the Soviet and German occupations of Latvia and in exile. This activity has been shown in the context of the background of political events taking place at that time in the history of the Belarusian national movement. This article is based on sources from the Belarusian, Latvian and German archives.

**Keywords:** Latvia, Latgale, Belarusian minority, Belarusian schools.

**Streszczenie**

**Aleś Machnoŭski — działacz białoruski z Łatgalii (1902-1967)**

W okresie międzywojennym oraz w czasie II wojny światowej Łatgalia była jednym z liczących się ośrodków białoruskiego życia narodowego. Działało tam szkolnictwo i organizacje społeczno-kulturalne, ukazywała się również prasa w języku białoruskim. Wszystko to należy zawdzięczać nielicznej grupce miejscowej inteligencji białoruskiej. Do grona najaktywniejszych działaczy białoruskich w Łatgalii należał m.in. Aleś Machnoŭski. Człowiek ten dał się poznać jako pedagog i działacz kulturalno-oświatowy. Mimo to nazwisko Machnoŭskiego do niedawna było mało znane w literaturze przedmiotu. W związku z tym celem publikacji jest wypełnienie tej istotnej luki w badaniach nad historią mniejszości białoruskiej na Łotwie. W artykule zostały przedstawione najważniejsze etapy życia i aktywności Machnoŭskiego w międzywojennej Republice Łotewskiej, na Łotwie pod okupacją sowiecką i niemiecką oraz na emigracji. Działalność ta została ukazana na tle wydarzeń politycznych zachodzących wówczas w historii białoruskiego ruchu narodowego. Artykuł powstał w oparciu o źródła z archiwów białoruskich, łotewskich i niemieckich.

**Słowa kluczowe:** Łotwa, Łatgalia, mniejszość białoruska, szkolnictwo białoruskie.

**Jerzy Grzybowski** – dr hab., pracuje w Katedrze Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego. Zainteresowania naukowe: dzieje białoruskiego ruchu narodowego; stosunki polsko-białoruskie; diaspora białoruska w XX wieku; historia Kościoła prawosławnego w Polsce i na Białorusi. Autor ponad 200 publikacji naukowych w kraju i za granicą, w tym kilku monografii.

**Виталий Барабаш**
(Гродно)

## Беларусь в советско-польской дипломатической борьбе в период Второй мировой войны

Начало Второй мировой войны в сентябре 1939 года коренным образом изменило существовавшую систему международных отношений в Европе. В результате краха Польского государства и соглашений с Германией была установлена новая западная граница СССР. Тайный протокол советско-германского договора от 23 августа 1939 года предусматривал прохождение границы вдоль рек Писса, Нарев, Висла, Сан. Первоначально вынашивались также планы допустить существование «остатка Польши». Однако по инициативе Москвы наступило новое разграничение сфер влияния. В результате советское руководство отказалось от Люблинского воеводства, а также части Варшавского, расположенного по правой стороне Вислы. Взамен Германия передала СССР Литву. Мотивы советского правительства были продиктованы прежде всего политико-стратегическими целями. В случае установления границ на Висле было бы трудно обосновать вхождение части центральной Польши в состав Украины и Беларуси. Польская проблема в виде сохранения небольшого государственного образования могла стать предметом разногласий между Советским Союзом и Германией[1].

К предстоящему занятию своей «сферы влияния» в СССР была развернута крупномасштабная пропагандистская подготовка. Официально вступление Красной Армии в восточные польские земли обосновывалось необходимостью взять под защиту жизнь и имущество украинского и белорусского населения, которому угрожает Германия в условиях краха Польши. «Этот предлог, — как убеждал 10 сентября 1939 года народный комиссар иностранных дел Вячеслав Молотов германского посла в СССР Фридриха Шуленбурга, — представит интервенцию Советского Союза благовидной в глазах масс и даст Советскому Союзу возможность не выглядеть агрессором»[2]. Однако заявленный предлог Молотова вызвал серьезное возражение министра иностранных дел Третьего Рейха Иоахима фон Риббентропа.

[1] P. Eberhardt, *Polska granica wschodnia. 1939-1945,* Warszawa 1993, s. 20.
[2] М. И. Мельтюхов, *Упущенный шанс Сталина. Советский Союз и борьба за Европу: 1939-1941 гг. (Документы, факты, суждения)*, Москва 2002, с. 90.

Он предложил советскому руководству изменить мотивировку, так как она противоречила достигнутым соглашениям и представляла всему миру оба государства как врагов. В ответ на встречи 16 сентября Молотов признался Шуленбургу, что «советское правительство, к сожалению, не видело какого-либо другого предлога, поскольку до сих пор Советский Союз не беспокоился о своих меньшинствах в Польше и должен был так или иначе оправдать за границей свое теперешнее вмешательство»[3].

После согласования деталей, 28 сентября 1939 года был заключен договор «О дружбе и границе». Установленная граница между Германией и СССР не имела этнографического обоснования. На участке между Бугом и Восточной Пруссией пограничная линия разделяла территории с польским населением. В последующее время советские власти старались отождествить ее с так называемой линией Керзона. Данное ошибочное утверждение иногда можно встретить и в современной литературе. В действительности граница СССР была выдвинута на запад от линии Керзона на разных участках от 10 до 150 километров[4].

Для решения вопросов по установлению новой государственной власти на присоединенных территориях в октябре 1939 года были избраны Народные собрания Западной Украины и Западной Беларуси. Народные собрания приняли обращения с просьбой о вступлении Западной Украины и Западной Беларуси в состав СССР и о включении их соответственно в состав УССР и БССР. 1-2 ноября Верховные Советы УССР и БССР, а 14 ноября 1939 года Верховный Совет СССР удовлетворили их просьбу[5]. В результате осуществленных мероприятий руководство СССР обосновывало легитимность своей западной границы не на основе договора с Германией от 1939 года, а итогами плебисцита, к которому приравнивались выборы Народных собраний. Указом Президиума Верховного Совета СССР от 29 ноября 1939 года все граждане западных областей Украинской и Белорусской ССР, находившиеся на их территории к 1-2 ноября 1939 года, приобрели гражданство СССР[6].

Территориальное разграничение между Советским Союзом и Германией вызвало необходимость проведения эвакуации населения.

[3] *Оглашению подлежит: СССР — Германия. 1939-1941: Документы и материалы*, сост. Ю. Фельштинский, Москва 1991, с. 100-102.

[4] P. Eberhardt, *Polska granica wschodnia*, s. 25-26.

[5] *Документы и материалы по истории советско-польских отношений*, ред. И. А. Хренов и В. Т. Ковальский, Москва 1973, т. 7, с. 184-185.

[6] Там же, с. 256.

версіі расійскага НГН у дадзеную эпоху ўрываюцца маскоўска-літоўскія войны канца XV — XVI стагоддзя, міграцыі з Літвы ў Масковію і наадварот (князі Варатынскія, Адоеўскія і іншыя; апагеем жа становіцца ад'езд Андрэя Курбскага ў межы ВКЛ і Польскага Каралеўства). Падобныя даследаванні ў 1990-2010-я гады існуюць на ўзроўні персанальных навуковых праектаў[15]. Аднак яны амаль не патрапляюць ні ў дзяржаўны, ні ў федэральны кампанент падручнікаў. Адсутнічаюць не толькі пераемнасць унутры персанальных навуковых школ, але — і цэнтры пры ўніверсітэцкіх ці акадэмічных інстытутах. „Заходняя мяжа" ў гісторыі Расіі наблізілася да Масквы на сотні кіламетраў, пакінуўшы Беларусь і Украіну без увагі (без ацэнак) як Сярэднявечча, так і ранняга Новага часу.

Выключэннем можа стаць рэгіянальны кампанент падручнікаў, які быў рэалізаваны ў канцы 1990-х і ў 2000-я гады. Тут вылучаюцца рэгіёны, чыя гісторыя не можа быць раскрыта без увагі на час знаходжання ў складзе ВКЛ. Перш за ўсё гэта гісторыя Смаленскай зямлі. У аснову падручніка была пакладзена дысертацыйная работа Генадзя Ластоўскага „Политическое развитие Смоленской земли в конце XIII — начале XVI веков", падрыхтаваная ў Мінску пад навуковым кіраўніцтвам Паўла Лойкі[16].

Аднак пры адносна нізкай уплывовасці даследаванняў на агульнарасійскі НГН у 2000-я гады ўзрастае роля даследаванняў па гістарыяграфіі XIX — пачатку XX стагоддзя пра ВКЛ XV-XVI стагоддзяў. Расійскія гістарыёграфы рэанімуюць ідэю пра „альтэрнатыўную" Русь у выглядзе ВКЛ, якая ў літаратуры 1990-х гадоў атрымлівае найменне „дэмакратычная альтэрнатыва", а ў 2000-х гадах — „Alter Russica"[17].

15 А. В. Шеков, *Политическая история и география верховских княжеств. Середина XIII — середина XVI в.*, Москва 2018; ён жа, *Верховские княжества. Середина XIII — середина XVI в.*, Москва 2012; К. Ю. Ерусалимский, *Изучение в российской историографии 1991-2003 гг. культурных и литературных связей России и Великого княжества Литовского (А. М. Курбский и курбскиниана в историографии рубежа веков)*, [у:] *Вялікае Княства Літоўскае: гісторыя вывучэння ў 1991-2003 гг.*, с. 25-30.

16 Г. А. Ластовский, *История и культура Смоленщины: С древнейших времен до конца XVIII в. Учебное пособие для школ Смоленской области*, Смоленск 1997; ён жа, *Политическое развитие Смоленской земли в конце XIII — начале XVI веков*, Минск — Смоленск 2001.

17 С. В. Думин, *Другая Русь (Великое княжество Литовское и Русское)*, [у:] *История Отечества: люди, идеи, решения*, сост. С. В. Мироненко, Москва 1991, с. 76-126; А. М. Столяров, *История Великого Княжества Литовского в отечественной историографии XIX — начала XX века*: диссерт. на

Для ажыўлення грамадскай цікавасці да гісторыі рэгіёна былі рэалізаваны спецыялізаваныя выданні па гісторыі ВКЛ і кантактах з Вялікім Княствам Маскоўскім і Расійскай дзяржавай. Падобныя спробы былі рэалізаваны на старонках перыядычных выданняў „Родина" (1993), „Ab Imperio" (2004), „Історіческій сборнік" (2014). Аднак заўважым, што праекты не былі прэзентацыяй напрацовак расійскай гістарыяграфіі — „расійскі даследчык" адразу ж саступае старонкі выданняў інтэрнацыянальнаму калектыву аўтараў. Інтэрнацыяналізацыя аўтара ў расійскіх праектах па гісторыі ВКЛ прыводзіць да прэзентацыі беларускімі, літоўскімі, украінскімі даследчыкамі сваіх нацыянальных наратываў. А рэпрэзентацыя сучаснага расійскага НГН ВКЛ XV-XVI стагоддзяў губляецца.

*Расія канца XX — пачатку XXI стагоддзя*
*як кансалідатар даследчыкаў.*

З пачатку 1990-х гадоў асобныя расійскія навуковыя выданні актыўна падтрымліваюць нацыянальныя ініцыятывы па стварэнні і пераасэнсаванні нацыянальных гістарычных наратываў былых саюзных рэспублік. Відавочна, расійскія калегі спрабуюць стаць кансалідатарамі даследчыкаў рэгіёна, падтрымліваць ранейшыя гегемоніі і права на абагульненне. Якая мэта ў падобных ініцыятыў? Маладое пакаленне расійскай гістарыяграфіі 1990-х гадоў адчувала ў даследаваннях гісторыі Усходняй Еўропы Сярэднявечча і ранняга Новага часу магчымасць вырвацца з традыцыйнай парадыгмы савецкай гістарычнай навукі, змяніць традыцыйную марксісцкую на метадалогіі Новай гісторыі і культурнай антрапалогіі. Вопыт Беларусі, Украіны, Літвы і іншых дазволіў бы не толькі памяняць праблемнае поле расійскай гістарыяграфіі, але і паказаць альтэрнатыву старым гістарыяграфічным школам, хуткаму асэнсаванню немасквацэнтрычнага шляху ў гісторыі народаў і рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі, які назіраўся ва ўнутранай палітыцы і быў надзённы ў тыя ж 1990-я гады.

Расійская гістарычная навука пачатку 1990-х гадоў мела свой патэнцыял і кадравы рэсурс у даследаванні гісторыі Беларусі, Літвы і Украіны эпохі феадалізму. Менавіта ў Маскве кансалідаваліся даследчыкі-археографы ВКЛ. Доўгі час праз 1970-1980-я гады выспявала ідэя публікацыі комплексаў крыніц па гісторыі рэгіёна. З 1977 па 1990 год рэалізуецца выданне комплексу крыніц „Полацкія граматы" ў шасці тамах, сабранага і падрыхтаванага да выдання Ганнай Харашкевіч (у XXI стагоддзі адбылося перавыданне комплекса). Нараджаецца ідэя выдання „Літоўскай метрыкі" (рэалізаваная ўжо ў межах літоўскага, беларускага і ін-

шых праектаў *Metricana*). Ужо рэалізавана выданне Мікалаем Улашчыкам „беларуска-літоўскіх летапісаў" (шматтомнае выданне „Полное собрание русских летописей", тамы 32 і 35). У патэнцыяле — мемуарная літаратура і нават прыватныя архівы, напрыклад, сумесна з польскімі калегамі (шматгадовыя перамовы часткова рэалізаваліся ў запачаткаванай у канцы XX стагоддзя серыі выданняў крыніц „Monumenta historica res gestas Europae Orientales illustrantia / Памятники истории Восточной Европы"). Аднак, пасля развалу СССР падобныя ініцыятывы становяцца ўсё менш запатрабаванымі для расійскага НГН, перыферыйнымі для расійскай гістарычнай навукі. А міжнародныя праекты з ужо незалежнымі нацыянальнымі гістарычнымі інстытутамі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны прасоўваюцца марудна. На месца афіцыйнай навукі прыходзяць грамадскія і новыя акадэмічныя ініцыятывы (суполка „Ab Imperio", гуманітарныя ўніверсітэты і ініцыятывы ў межах „Адкрытага грамадства", міжнародная „Акадэмічная сетка даследчыкаў ВКЛ" у Беларусі, „Таварыства даследчыкаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" ва Украіне, летнія і зімнія школы на базе ўсходне- і цэнтральнаеўрапейскіх універсітэтаў і іншыя).

*Часопісы. Спецыяльныя выпускі.*

Калі ўважліва ўгледзецца ў праекты выданняў, то можна ўбачыць спробу канструявання новага наднацыянальнага наратыву; навуковай прасторы рэгіёна Усходняй Еўропы, які дастаткова хутка аддаляецца ад дзяржаўнай палітыкі ў адукацыі, акадэмічнай навуцы, палітычнай ідэалогіі сучаснай расійскай дзяржавы. Ліберальная расійская ідэя ў НГН атрымала сваё вымярэнне ў спробах пераасэнсаваць ролю рэгіёна Усходняй Еўропы, агулам, і ВКЛ у прыватнасці, у гісторыі Расіі.

Піянерам, у некаторай ступені, становіцца часопіс „Родина", які ў 1993 годзе прапанаваў сваім чытачам выпуск, дзе Вялікае Княства Літоўскае падаецца як унікальная з'ява ў гісторыі і гістарыяграфіі Усходняй Еўропы. Гэта быў перыяд своеасаблівых намаганняў пошуку белых плям гісторыі і пераасэнсаванне гістарычнай памяці Усходняй Еўропы, дыялогу паміж ужо народжанымі нацыянальнымі навуковымі школамі рэгіёна, гісторыі і гістарычнай памяці не сваёй для расійскага НГН, але яшчэ супольнай у разуменні гісторыкаў постсавецкай прасторы[18].

соиск. уч. ст. к. ист. н., Казань 2008; А. И. Филюшкин, *„Другая Русь" в русской историографии*, [у:] *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštios tradicija ir paveldo „dalybos"*, Vilnius 2008, s. 93-113.

[18] *Великое княжество Литовское: дискуссия*, „Родина", 1993, № 3, с. 81-93.

У прапанаваным фармаце прынялі ўдзел вядомыя спецыялісты з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі: Аляксандр Вінаградаў, Станіслаў Думін, Барыс Флора, Эгідзіюс Банёніс, Робертас Гірконтас, Артур Дубоніс, Жыгмантас Кяўпа, Юрата Кяўпене, Леонас Мулявічус, Мечыслаў Ючас, Георгій Галенчанка, Дзмітрый Караў, Павел Лойка, Міхаіл Спірыдонаў, Геранім Граля. Прадстаўлены вытрымкі з выступленняў на міжнародным круглым стале „Беларусь і Вялікае Княства Літоўскае" (Мінск 1992) Анатоля Грыцкевіча, Юльюша Бардаха і Анджэя Рахубы. Удзельнікі выказаліся па слупавых пытаннях пра паходжанне і развіццё ВКЛ на працягу XIII-XVI стагоддзяў, ролю „літоўскага" і „рускага" элементаў і, традыцыйна для дыскусій першай паловы 1990-х гадоў, засяродзіліся на абмеркаванні „бяспечных" пытанняў тэрміналогіі і дуалістычнай „беларуска/руска-літоўскай" складаючай дзяржавы. Цікавымі з'явіліся матэрыялы, размешчаныя на маргінэсе, якія мелі на ўвазе паказаць шчыльную сувязь пануючых дынастый рэгіёна — у такім „вольным фармаце" матэрыял А. Вінаградава „Родственные связи Ягелонов с древнерусскими князьями"[19], дзе праведзена спроба пераплесці пратапласты дынастый і геапалітыку XIV-XVI стагоддзяў.

Праз дзесяцігоддзе на старонках выдання „Ab Imperio", стваральнікі якога бачылі сваёй мэтай пераасэнсаванне гісторыі Усходняй Еўропы з гледзішча змен палітыкі памяці Расіі аб рэгіёне і нацыянальных гістарыяграфій аб Расіі, у 2004 годзе выдаецца спецыяльны нумар, прысвечаны даследаванню новай імперскай гісторыі і нацыяналізму ў паслясавецкай прасторы. Інтэрнацыянальнаму складу аўтараў раздзела „Поле битвы память: Великое княжество Литовское в современных исторических дискурсах и нарративах памяти Беларуси, Литвы, Польши, России и Украины" (Геранім Граля, Дар'юс Вілімас, Ігар Марзалюк, Дмытро Вырскі, Гідра Міцкунайтэ) была прадстаўлена магчымасць выказацца па праблеме існавання і функцыянавання ў НГН гісторыі ВКЛ[20]. Ад расійскай гістарычнай навукі выступіў А. Філюшкін, адзін з нешматлікіх спецыялістаў у сувязях ВКЛ — Расійская дзяржава па перыядзе XVI стагоддзя. У сваім матэрыяле ён паспрабаваў даць агляд агульнай сітуацыі ў даследаваннях ВКЛ у су-

[19] А. В. Виноградов, *Родственные связи Ягелонов с древнерусскими князьями*, „Родина", 1993, № 3, с. 94, tabl.

[20] *Поле битвы память: Великое княжество Литовское в современных исторических дискурсах и нарративах памяти Беларуси, Литвы, Польши, России и Украины*, „Ab Imperio. Исследование по новой имперской истории и национализму в постсоветском пространстве", 2004, № 4, с. 491-560.

часнай гістарыяграфіі, адносін расійскага гісторыка да гістарычнай спадчыны ВКЛ.

Ва ўводным слове да блока артыкулаў „Одна земля разная память: Великое княжество Литовское в исторической памяти Польши, Литвы, Украины, Белоруссии и России" А. Філюшкін прапануе глядзець на гісторыю і культуру памяці рэгіёна як на шматнацыянальную і выказвае перасцярогу пра немагчымасць прэтэнзій ніводнай з сучасных нацый на памяць ВКЛ. Звяртае ўвагу на розныя падыходы да адаптацыі сімвалаў ВКЛ і дыскурсу ВКЛ у нацыянальных гісторыях і канструявання вобразаў ВКЛ у нацыянальнай памяці нацыянальных сучасных дзяржаў[21], што добра праілюстравана ў розных падыходах да гісторыі ВКЛ у матэрыялах, прадстаўленых польскім, украінскім, беларускім, літоўскімі і расійскім даследчыкамі.

У сваім артыкуле „Вглядываясь в осколки разбитого стекла: Российский дискурс Великого княжества Литовского" А. Філюшкін прапанаваў разгледзець мадэлі ўспрымання ВКЛ у расійскім НГН[22]. Дыскурсы ВКЛ, прапанаваныя санкт-пецярбургскім даследчыкам, падзяляліся на:

1. „Русь як ахвяра акупацыі Літвы",
2. „ВКЛ як выпадковы буфер паміж Еўропамі",
3. „нашы землі — уся Русь" (г.зв. вотчынны дыскурс),
4. „альтэрнатыўная дэмакратыя".

У дыскурсах, на думку сучаснага расійскага даследчыка, Літва-ВКЛ выступае ў творах сваёй эпохі пасіўным суб'ектам, увага звяртаецца на ахвяру і недарэчнасць палітычных уній з Польскім Каралеўствам, падкрэсліваецца тэрытарыяльна-этнічны прынцып падзелу Усходняй Еўропы на „рускі" і „літоўскі" палітычны элементы.

Аднак „функцыянаванне" дыскурсаў у гістарыяграфіі Расіі адбывалася з рознай запатрабаванасцю „знешняга ворага" ці „блуднага сына" і не заўсёды мела лінейны (як у літоўскай версіі гістарыяграфіі генезісу ВКЛ паводле Д. Велімаса)[23] ці цыклічны (як у беларускай

[21] А. И. Филюшкин, *Одна земля разная память: Великое княжество Литовское в исторической памяти Польши, Литвы, Украины, Белоруссии и России*, „Ab Imperio. Исследование по новой имперской истории и национализму в постсоветском пространстве", 2004, № 4, с. 486-490.

[22] А. И. Филюшкин, *Вглядываясь в осколки разбитого зеркала: Российский дискурс Великого княжества Литовского*, „Ab Imperio: Исследование по новой имперской истории и национализму в постсоветском пространстве", 2004, № 4, с. 561-600.

[23] Д. Вилимас, *Великое княжество Литовское. Стереотипы исторической па-*

— па версіі І. Марзалюка)[24] характар. Аднак калі першы і другі варыянт дыскурсаў ВКЛ апелююць да Сярэднявечча і функцыянуюць актыўна ў расійскай імперскай гістарыяграфіі, з немалымі алюзіямі ў працах савецкага паваеннага даследчыка Уладзіміра Пашуты, то трэці варыянт закранае пераважна канец XV — XVI стагоддзе: эпоху памежных войнаў Вялікага Княства Маскоўскага, эпоху Ягелонаў у ВКЛ. Ён асабліва актыўна развіваецца ў савецкай гістарыяграфіі 1970-1980-х гадоў і вельмі сугучны з масквацэнтрычнай канцэпцыяй „уз'яднання" ўсходнееўрапейскіх народаў у адзінае палітычнае цэлае (выносім па-за межы „абавязковую" класавую барацьбу, дзе прыгнятальнікі і прыгнечаныя мелі дакладную этнаафарбоўку).

Цікавы аналіз дае А. Філюшкін пра паходжанне тытула для маскоўскага манарха — „всея Руси", звязанага з антыягелонскай палітыкай Свяшчэннай Рымскай імперыі ў часы Казіміра Ягелончыка[25]. Не менш цікавым для сучасных НГНаў з'яўляецца і канцэпцыя ўз'яднання „зарубежнай Руси", якая магла быць рэалізавана пад час Лівонскай вайны. На думку расійскага даследчыка яна страціла на сёння актуальнасць у нацыянальных гістарыяграфіях[26].

А вось чацвёрты дыскурс — фактычная „Alter-Russica" — знаходзіць сваё месца ў наратывах пераломных эпох[27]. Найбольшае адлюстраванне ён атрымаў у гістарыяграфіі 1990-х і 2000-х гадоў (С. Думін, М. Кром). Быў своеасаблівай спадчынай ацэнак ВКЛ у позніх працах Мацвея Любаўскага, савецкіх аўтараў у эпоху „перабудовы" (ленінградская школа, як рэпрэзентант — А. Дварнічэнка)[28].

Аднак А. Філюшкін прыходзіць да сумнага вываду пра перыферыйнасць тэматыкі ў сучаснай адукацыйнай і навуковай прасторы Расійскай Федэрацыі, незапатрабаванасць ВКЛ для расійскага НГН. Выключэнне — у форме супрацьпастаўлення гістарычнага шляху і вопыту (страчаных магчымасцей, альтэрнатыў палітычнага і дзяржаўнага развіцця). У адносінах да ВКЛ маюцца тры вымярэнні: дзяржаўны, тэрытарыяльны, этнічны. Аднак яны ніяк не карэлююцца

*мяти в Литве*, „Ab Imperio: Исследование по новой имперской истории и национализму в постсоветском пространстве", 2004, № 4, с. 505-521.

24 И. Марзалюк, *Великое княжество Литовское в исторической памяти белорусов-русинов: от Средневековья к модерну*, „Ab Imperio: Исследование по новой имперской истории и национализму в постсоветском пространстве", 2004, № 4, с. 539-560.

25 А. И. Филюшкин, *Вглядываясь в осколки разбитого зеркала*, с. 580-581.

26 Там жа, с. 585.

27 Там жа, с. 595.

28 Там жа, с. 596-598.

ў гістарыяграфіі з працэсамі ўнутры расійскага НГН, і не могуць служыць трывалай асновай для кампаратывістыкі.

Нумар „Ab Imperio" ў 2004 годзе паказаў наколькі вялікі шлях прайшлі сучасныя нацыянальныя гістарыяграфіі ў канцы XX і пачатку XXI стагоддзя. Рознымі былі інтэрпрэтаваны і зафіксаваны ў тэкстах працэсы стварэння, станаўлення і заняпаду дзяржавы ВКЛ. Аднак менавіта эпоха XVI стагоддзя стыкуе НГН розных дзяржаў рэгіёна, нараджае новую хвалю ў гістарыяграфіі, стварае творчае супрацоўніцтва па-за нацыянальнымі гістарычнымі школамі.

На жаль, магчымасці адноснай інтэграцыі нацыянальных супольнасцей у цэнтры і ініцыятывы ў 2000-я гады дастаткова хутка перапыняюцца. Расійскія навуковыя пляцоўкі страчваюць лідарскі патэнцыял і „жаданне" актыўна прымаць удзел у інтэрнацыяналізацыі спадчыны ВКЛ. На разорах праблемы застаюцца асобныя даследчыкі, якія па старой добрай традыцыі намагаюцца ліквідаваць белыя плямы гісторыі.

Менавіта ў такіх выcновах упэўнівае і выдадзены ў 2014 годзе пад „лэйбай" XIX стагоддзя „Историческій вѣстникъ", спецыяльны сакавіцкі нумар „Литва, Русь и Польша XIII-XVI вв."[29]. Яго аўтарамі па логіцы павінна было стаць новае, „трэцяе" пакаленне даследчыкаў ВКЛ. Інтэрнацыянальны аўтарскі калектыў прадставілі даследчыкі з Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы і Расіі. Праца ўжо не насіла канцэптуальны характар і з'яўлялася мазаікай з прыватных даследчыцкіх наратываў, якія ў слабой ступені адпавядаюць агульнаму характару даследаванняў праблематыкі ў нацыянальных гістарыяграфіях. Расійская гістарычная навука была прадстаўлена вучнем Б. Флора, Сяргеем Палехавым. Яго праблема „спадчыннікаў Вітаўта" добра ўкладаецца ў раннюю Ягелонаўскую эпоху ў ВКЛ, што праілюстравана аўтарам і ў галоўным тэксце „Смоленское восстание 1440 г."[30] і ў рэцэнзіі на літоўскае выданне актаў Гарадзельскай уніі[31]. Маскоўскі гісторык актыўна ўдзельнічае ў інтэрнацыянальных праектах, звязаных з выданнем актаў ВКЛ, спрабуе дыстанцыявацца ад сентыментаў да літоўскай ці якой іншай гістарычных школ рэгіёна і нацыянальных традыцый інтэрпрэтацыі гістарычных працэсаў у гісторыі ВКЛ XV стагоддзя. Аднак адзінкавае прадстаўніцтва відавочна не дае магчымасці гаварыць пра стварэнне новай хвалі ў сучаснай расійскай гістарыяграфіі ВКЛ дадзенага перыяду.

29 „Историческій вѣстникъ", том седьмой [157]: *Литва, Русь и Польша XIII — XVI вв.*, Москва 2014.

30 „Историческій вѣстникъ", с. 160-196.

31 Там жа, с. 242-253.

Вынесем па-за межы цікавыя для гісторыі Усходняй Еўропы праекты, арганізаваныя міжнароднымі калектывамі даследчыкаў і фінансаваныя вонкавымі фондамі, напрыклад „Конфессиональные традиции и протонациональные дискурсы в истории Европы" (Франка-расійскі цэнтр гуманітарных і грамадскіх навук), „Восточные словяне в поисках новых надрегиональных идентичностей в конце XV — середине XVIII ст." (Фонд Герды Хенкель) і іншыя. У межах даследчыцкіх праектаў разглядаліся працэсы, дзе і ВКЛ, і перыяд XV-XVI стагоддзяў адыгралі сваю ролю ў істотным пераходзе грамадстваў, сацыяльных структур, ідэалогіі ў новыя рэчышчы культурных эпох. Аднак даследчыцкі калектыў рэпрэзентуе адзіны відавочны працэс разыходжання па нішах нацыянальнай гісторыі. І расійская сучасная гістарыяграфія не выбіваецца з тых тэндэнцый, якія назіраюцца ў іншых усходнееўрапейскіх гістарыяграфіях — беларускай, літоўскай, украінскай.

*Дысертацыі. Навуковыя школы.*

За апошнія трыццаць год гісторыя ВКЛ XV-XVI стагоддзяў не раз выступала ў якасці аб'екта ці прадмета даследавання ў дысертацыйных праектах расійскіх даследчыкаў. Можна вылучыць тры групы прац:

1. пераасэнсаванне ўкладу гістарыяграфіі XIX — пачатку XX стагоддзя ў вывучэнне гісторыі ВКЛ;
2. кампаратыўная гісторыя асобных частак рэгіёна Усходняй Еўропы ў канцы Сярэднявечча — пачатку ранняга Новага часу;
3. асобныя праблемы ў гісторыі Расіі, якія ў той ці іншай ступені закранаюць гісторыю ВКЛ XV-XVI стагоддзяў.

У XXI стагоддзі асобна можна вылучыць бадай што толькі кандыдацкія дысертацыі выключна па праблематыцы ВКЛ. Гэта дысертацыя Леаніда Собалева ад 2002 года „Князь К.-В. Острожский как лидер „русского народа" Речи Посполитой", прысвечаная апошняму перыяду панавання Жыгімонта Аўгуста, тэрытарыяльнай палітыцы Ягелонаў у ВКЛ і ролі арыстакратыі ў палітычных працэсах ва Усходняй Еўропе ў другой палове XVI стагоддзя[32]. Прыкметная таксама дысертацыя Андрэя Бандарэнкі „Грамоты польской королевы Боны Сфорца православному духовенству Великого княжества Литовского (1523-1556 гг.): источниковедческое исследование", абароненай у 2018 годзе па спецы-

[32] Л. В. Соболев, *Князь К.-В. Острожский как лидер „русского народа" Речи Посполитой:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 2002.

яльнасці крыніцазнаўства таксама ў Маскве ў Расійскім дзяржаўным гуманітарным універсітэце[33].

Крыху па-за межамі „ягелонскага" перыяду, але ў межах працэсаў трансфармацыі ВКЛ у першай палове XV стагоддзя знаходзіцца работа С. Палехава „Внутриполитический кризис в Великом княжестве Литовском в 30-е годы XV века", абароненая ў Маскве ў 2011 годзе з шыфрам спецыяльнасці „айчыннай гісторыі"[34]. Апошняе — неістотна, але можа відавочна паказаць, што гісторыя ВКЛ не заўсёды ў сучаснай гістарыяграфіі Расійскай Федэрацыі выціскаецца па-за межы гісторыі Расіі, нават калі зместава да яе і не адносіцца.

Што тычыцца *першай групы дысертацый*, то работы па расійскай гістарыяграфіі гісторыі ВКЛ XIX і пачатку XX стагоддзя пачалі ствараціца яшчэ ў 1990-я гады. Аналіз навуковай спадчыны вядомага даследчыка гісторыі рэгіёна Усходняй Еўропы Мітрафана Доўнар-Запольскага быў прадстаўлены Сяргеем Міхальчанкам у кандыдацкай дысертацыі „Феодальная Россия и Литва в трудах М. В. Довнар-Запольского" (Масква 1990)[35]. Аднак аўтар традыцыйна разглядае дзейнасць Кіеўскай школы даследаванняў Усходняй Еўропы як своеасаблівы і „самобытный" накірунак гістарыяграфіі Расійскай імперыі ў адносінах зямель ВКЛ.

Ужо ў 2000-я гады актуалізуюцца даследаванні гістарыяграфічнай спадчыны такіх вядомых даследчыкаў ВКЛ як Мікалай Устралаў, Мацвей Любаўскі і іншыя, што было пакладзена ў аснову дысертацыйных прац. Так у 2008 годзе ў Казані была абаронена кандыдацкая дысертацыя Аляксея Сталярова „История Великого княжества Литовского в отечественной историографии XIX — начала XX века"[36]. Аўтар дае аналіз цэлага комплексу работ па гісторыі ВКЛ, створанага ў межах імперскай гістарыяграфіі (першай паловы XIX стагоддзя і канца XIX — пачатку XX стагоддзя), абапіраецца на традыцыю інтэрпрэтацыі гісторыі ВКЛ у савецкай і расійскай гістарыяграфіі 1990-2000-х гадоў як прамежкавага этапу паміж старажытнарускім

[33] А. А. Бондаренко, *Грамоты польской королевы Боны Сфорца православному духовенству Великого княжества Литовского (1523-1556 гг.): источниковедческое исследование*:диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 2018.

[34] С. В. Полехов, *Внутриполитический кризис в Великом княжестве Литовском в 30-е годы XV века:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 2011.

[35] С. И. Михальченко, *Феодальная Россия и Литва в трудах М. В. Довнар-Запольского*: диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Москва 1990.

[36] А. М. Столяров, *История Великого Княжества Литовского в отечественной историографии XIX — начала XX века*: диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Казань 2008.

і польскім панаваннем на тэрыторыях дзяржавы. Вылучае зараджэнне расійскага „нацыянальнага" кампанента ў асэнсаванні гісторыі ВКЛ у Расійскай імперыі. Агудкі ацэначных катэгорый XIX стагоддзя знаходзяць сваё адлюстраванне і ў працах 2000-2010-х гадоў, прынамсі ў выкарыстанні імперскай тэрміналогіі Эльдарам Абдулаевым у працы „Эволюция основ политико-правового строя Великого княжества литовского, русского и жемонтийского в аспекте объединения русских земель в XIII-XVI вв." (Санкт-Пецярбург 2007)[37].

Працы па гістарыяграфіі Вялікага Княства Літоўскага больш ранняга перыяду таксама экстрапаліруюць высновы на перыяд XV-XVI стагоддзяў. Так у дысертацыі М. Мегема „Средневековая история Литвы (до 1385 г.) в дореволюционной российской и советской историографии", абароненай у Акадэміі навук у 2018 годзе калінінградскі даследчык звяртае ўвагу на этапы „засваення" літоўскай праблематыкі ў расійскай імперскай і савецкай гістарыяграфіі XIX-XX стагоддзяў, акцэнтуе ўвагу на хвалях гістарыяграфічнага асэнсавання „расійскага" наратыву па гісторыі ВКЛ (у тым ліку і змена храналогіі — перасоўванне цікавасці з XIV стагоддзя ў XIX-вечных даследаваннях, на стагоддзе XVI — у сучасных)[38].

Адзначым толькі, што вывучэнне гістарыяграфіі ВКЛ за 1990-2010-я гады не прывяло да стварэння своеасаблівай школы гістарыяграфіі ВКЛ пры буйных цэнтрах вывучэння айчыннай расійскай гісторыі ці гісторыі рэгіёна Усходняй Еўропы. Дысертацыі пераважна з'яўляюцца адзінкавымі праектамі і не цягнуць за сабой пераасэнсаванне месца і ролі гісторыі ВКЛ (любых перыядаў) у сучасным расійскім НГН. Таксама адсутнічае аналіз усходнееўрапейскіх гістарыяграфій, часцей з працы ў працу пераходзяць высновы, зробленыя даследчыкамі гісторыі рэгіёна і гістарыёграфамі ў 1990-я гады.

*Другая група.* Дысертацыі па кампаратыўнай гісторыі Вялікага Княства Маскоўскага і Вялікага Княства Літоўскага былі створаны пераважна ў 1990-я гады, абаронены і выйшлі асобнымі манаграфічнымі выданнямі. Па большасці — гэта доктарскія дысертацыі, а за аўтарамі стаяла імкненне рэпрэзентаваць свой вывад па праблеме тытулатуры, інсігній, каранацыйнага цырыманіялу — элементаў палі-

[37] Э. М. Абдуллаев, *Эволюция основ политико-правового строя Великого княжества литовского, русского и жемонтийского в аспекте объединения русских земель в XIII-XVI вв.: историко-правовой аспект:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 2007.

[38] М. Е. Мегем, *Средневековая история Литвы (до 1385 г.) в дореволюционной российской и советской историографии:* диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Калининград 2018, с. 7 etc.

тычнай культуры, якія магчыма параўноўваць не выходзячы за рамкі Усходняй Еўропы, не ілюстраваць дадаткова палітычнае жыццё рэгіёна ў парадыгме „адставання" ад заходнееўрапейскіх мадэляў (як гэта ўжо адбылося з іншымі перыядамі расійскай гісторыі на працягу існавання акадэмічнай гістарыяграфіі).

Дысертацыя Маргарыты Бычковай „Русское государство и Великое княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г.: Опыт сравнительно-исторического изучения политического строя", абароненая ў 1998 годзе, добра ілюструе падыходы расійскіх даследчыкаў да „адкрыцця" для гістарыяграфіі дзяржавы ВКЛ[39]. Цырыманіял ВКЛ вывучаецца М. Бычковай, абапіраючыся на польскія распрацоўкі (перш за ўсё Аляксандра Гейштара) і добра вядомы расійскі наратыў, з чаго і выводзяцца высновы пра элементы палітычнай культуры ВКЛ. У тэксце амаль няма ацэначных катэгорый „добра" ці „блага", якія часам прапісаныя ў работах з папярэдняй групы.

У доктарскай дысертацыі Віталія Пянскога „Развитие вооруженных сил России и военная революция в Западной Европе во 2-й половине XV-XVIII вв.: сравнительно-исторический анализ", абароненай у Маскве ў 2004 годзе, праводзіцца параўнаўчы аналіз такой з'явы ў палітычнай гісторыі, як „ваенная рэвалюцыя" і яе ўплыў на дзяржавабудаўніцтва ў Заходняй Еўропе і Расіі[40]. Главы першая і другая прысвечаны разгляду „ваеннай рэвалюцыі" ранняга Новага часу і яе ўплыву на развіццё расійскай дзяржаўнасці. У трэцяй главе ўвага надаецца, у тым ліку, і пераўтварэнням у ваеннай справе Вялікага Княства Маскоўскага ў перыяд войнаў з ВКЛ у канцы XV — першай трэці XVI стагоддзя.

Падобныя пытанні, аднак ужо на іншых прыкладах параўнання, прапанаваны ў дысертацыі Уладзіміра Волкава „Основные проблемы военной истории Русского государства конца XV — первой половины XVII вв.", абароненай у Маскве годам пазней[41]. У главах аўтар параўноўвае ваенную стратэгію расійскай дзяржавы на працягу канца XV і XVI стагоддзяў у трохкутніку ворагаў: татараў, шведаў і ВКЛ.

[39] М. Е. Бычкова, *Русское государство и Великое княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г.: Опыт сравнительно-исторического изучения политического строя*, Москва 1996.

[40] В. В. Пенской, *Развитие вооруженных сил России и военная революция в Западной Европе во 2-й половине XV — XVIII вв.: сравнительно-исторический анализ:* диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Москва 2004.

[41] В. А. Волков, *Основные проблемы военной истории Русского государства конца XV — первой половины XVII вв.:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 2005.

Асобна разглядаюцца памежныя войны з ВКЛ канца XV — першай трэці XVI стагоддзяў („Хітрая”, „Дзесяцігадовая”, „Старадубская” і іншыя), і асобна Лівонская вайна.

Пры пэўных агаворках магчыма ўключыць у гэтую ж групу доктарскую дысертацыю Мікалая Нікалаева „Книжная культура Великого Княжества Литовского” (Масква 1997), якая хоць і прысвечана кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, аднак разглядае развіццё культурнай з’явы ў шырокім параўнаўчым кантэксце ўсходнееўрапейскай культуры, сапраўднага культурнага памежжа Усходняй Еўропы, дзе кніга з’яўляецца не толькі маркерам цывілізацыйнага выбару, але і культуртрэгерам для пэўных сацыяльных катэгорый насельніцтва дзяржаў[42].

Падобны — параўнаўчы — аспект у даследаваннях гісторыі Расіі ў кантэксце развіцця палітычнай, ваеннай гісторыі, культуры рэгіёна Усходняй Еўропы дазволіў сучаснай расійскай гістарыяграфіі переразагрузіць метадалагічны кампанент даследаванняў. Аднак мы, на жаль, не назіраем росквіту новых даследчыцкіх школ і новых цэнтраў даследавання гісторыі рэгіёна перыяду ранняга Новага часу і ў прыватнасці XVI стагоддзя. Вельмі марудна мяняецца і зместавы кампанент НГН Расійскай Федэрацыі, без відавочнага насычэння зместавым і тэарэтычным матэрыялам праведзеных навуковых даследаванняў. Зробім умоўную агаворку пра магчымую непрэзентабельнасць для НГН вынікаў параўнання развіцця Вялікага Княства Маскоўскага і Вялікага Княства Літоўскага ў XV-XVI стагоддзях, мінімізацыю „зручных” элементаў і катэгорый для НГН.

*Трэцяя група* дысертацый — новая праблематыка па перыядзе XV-XVI стагоддзяў — вырастае з папярэдніх распрацовак і можа быць як непасрэдным працягам у рэчышчы склаўшыхся ў савецкі перыяд навуковых школ (напрыклад, доктарская дысертацыя А. Дварнічэнкі, якая стала лагічным працягам ленінградскай школы „гарадскіх абшчын” Ігара Фраянава), так і вывучэннем белых плям рэгіянальнай гісторыі („таямнічы” рэгіён вярхоўскіх княстваў, падсумаваны Аляксандрам Шэкавым).

Даследаванне А. Дварнічэнкі „Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в.) Основныя черты социального и политического строя” (Санкт-Пецярбург 1993)[43] было прысвечана сацы-

[42] Н. В. Николаев, *Книжная культура Великого Княжества Литовского*: диссерт. на соиск. уч. ст. к. фил. н., Москва 1997.

[43] А. Ю. Дворниченко, *Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в.). Основныя черты социального и политического строя*: диссерт.

яльнай і дзяржаўна-прававой трансфармацыі на славянскіх землях Вялікага Княства Літоўскага на працягу некалькіх стагоддзяў. Аўтар, у ключы „ленінградскай школы”, звяртае асаблівую ўвагу на ўнікальнасці (архаічнасць) прававога становішча рэгіёна Усходняй Еўропы ў складзе ВКЛ, што дазваляе нам праз аналіз падатковай сістэмы і сацыяльныя канфлікты разгледзець раскладанне калектыўных (абшчынных) кампанентаў і ўбачыць запазычванне прыватных (манархічна-арыстакратычных) элементаў у функцыянаванні ўлады ВКЛ на дадзеных тэрыторыях. Праца А. Дварнічэнкі нібыта завяршала праведзеную ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце шматгадовую працу над канструяваннем множнасці феадалізмаў ва Усходняй Еўропе.

Праз 1990-я гады тульскім даследчыкам Аляксандрам Шэкавым былі праведзены даследаванні трансфармацыі княжацка-тэрытарыяльных утварэнняў былога Чарнігаўскага княства. Так званыя Вярхоўскія княствы, якія на працягу некалькіх стагоддзяў фарміраваліся на памежжы Залатой Арды і ВКЛ, прывялі да памежных тэрытарыяльных канфліктаў паміж Вялікім Княствам Маскоўскім і ВКЛ у другой палове XV стагоддзя. Гісторыя памежжа была пакладзена ў аснову кандыдацкай дысертацыі „Верховские княжества XIII — середина XVI вв.”, абароненай у Маскве ў 1998 годзе[44]. Напрацоўкі тульскага аўтара па праблематыцы былі апублікаваны ў шэрагу манаграфічных выданняў на працягу 1993-2018 гадоў[45].

Кандыдацкая дысертацыя М. Крома „Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в.”, абароненая ў 1993 годзе была прысвечана пераразмеркаванню тэрыторый Усходняй Еўропы (так званых „заходнерускіх”) паміж Вялікім Княствам Маскоўскім і Вялікім Княствам Літоўскім у 1480-я — 1530-я гады[46]. Аўтар звярнуў увагу на шэраг катэгорый мясцовага насельніцтва і іх матывацыю да „пераходу пад уладу” адной з дзяржаў: вярхоўскія і северскія князі, праваслаўная палітычная эліта ВКЛ, гарадскія эліты. У працы раскрываецца сітуацыя выбару падчас пер-

на соиск. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 1993; ён жа, *Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в.). Очерки истории общины, сословий, государственности*, Москва 1993.

44 А. В. Шеков, *Верховские княжества XIII — середина XVI вв.:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 1998.

45 А. В. Шеков, *Верховские княжества. Середина XIII — середина XVI в.*, Москва 2012.

46 М. М. Кром, *Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в.:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 1993.

манентнай вайны паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім. Асобна ўвага засяроджваецца на палітыцы маскоўскіх князёў па замацаванні сваёй улады на навадалучаных у 1494-1530 гадах зямель.

І хаця аўтар пазіцыянуецца як спецыяліст па расійскай кампаратывістыцы, мы назіраем класічную працу пра „земли обетованные" расійскага НГН — тыя, што перайшлі ў склад Расійскай дзяржавы да 1530-х гадоў, і тыя, што патэнцыйна маглі б у яе складзе апынуцца. Ужо ў межах перавыдання манаграфіі „Меж Русью и Литвой: Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в." (выданні 2-ое і 3-яе) аўтар задае пытанне яшчэ больш акрэслена: „как относилось к происходящим событиям местное население [Усходняй Еўропы]? Как реагировало оно на присоединение своих земель к России? Без ответа на эти вопросы трудно рассчитывать на получение объективной и всесторонней картины"[47]. Пры гэтым варта адзначыць уважлівыя адносіны М. Крома да гістарыяграфіі і асноўных тэндэнцый у ёй. Відавочным працягам аўтарскіх напрацовак канца 1990-х і 2000-х гадоў і ўкладам у развіццё расійскага НГН XVI стагоддзя з'яўляецца доктарская дысертацыя „Политический кризис в России 30-40-х годов XVI в. (борьба за власть и механизм управления страной)", абароненая ў 2010 годзе ў Санкт-Пецярбургу — „заходнерускія землі" нарэшце ў гісторыі Расіі занялі ўласна сваё месца.

Відавочна, што дысертацыйныя працы першай паловы 1990-х гадоў па рэгіянальнай гісторыі Усходняй Еўропы моцна прыцягваліся („тяготели") да аналізу палітычных адносін на памежжы Вялікага Княства Літоўскага і цэнтралізаванай Расійскай дзяржавы, якая нараджалася. Аўтары дыстанцыянаваліся (наколькі гэта магчыма) ад высноў імперскай і савецкай монацэнтрычнай гістарыяграфічнай традыцыі маркіроўкі рэгіёна. Бачылі лакальны ўзровень са сваімі ўнікальнымі прыкладамі (кандыдацкая дысертацыя Сяргея Кавылава „Новосильское княжество и новосильские князья XIV–XV вв." (1997)[48]. Спрабавалі таксама паказаць пэўную „дэмакратычную альтэрнатыву" ў пазіцыі асобных сацыяльных груп (напрыклад, гарадскога насельніцтва Падзвіння і Падняпроўя). Аднак, ні ў другой палове 1990-х гадоў, ні ў першыя дзесяцігоддзі XXI стагоддзя даследаванні не мелі свайго працягу.

47 Гл.: *Да чытача*, [у:] М. М. Кром, *Меж Русью и Литвой: Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в.*, 3-е изд., испр. и доп., Москва 2019.

48 С. В. Ковылов, *Новосильское княжество и новосильские князья в XIV-XV вв.*: автореф. диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Орел 1997.

Таксама варта адзначыць дысертацыі, створаныя ў XXI стагоддзі, якія закранаюць агульнарэгіянальныя пытанні. Так у кандыдацкай дысертацыі Аркадзія Тарасава „Религиозные аспекты политики московских князей во второй половине XV — первой трети XVI вв." (Москва 2007), у другой главе закрануты аспекты войнаў з ВКЛ гэтага перыяду, аналізуецца „рэлігійны" фактар як прычына і падстава антаганізму паміж дзяржавамі Усходняй Еўропы[49].

У тым самым годзе была абаронена дысертацыя Рамана Налівайкі, прысвечаная праблеме ўспрымання ў аўтарскіх наратывах польскага храніста Яна Длугаша гісторыі Усходняй Еўропы[50]. У пятай главе кандыдацкай дысертацыі даецца аналіз ведаў Длугаша пра ВКЛ XV стагоддзя, сувязь наратыву пра ВКЛ са старажытнарускім гістарычным і палітычным наратывамі.

Нарэшце ў кандыдацкай дысертацыі Данілы Бяссуднава „Балтийская политика Польши и Литвы в середине XVI в.", абароненай у Санкт-Пецярбургу ў 2018 годзе, даецца характарыстыка фарміравання палітычных і эканамічных інтарэсаў дынастыі Ягелонаў у рэгіёне Усходняй Прыбалтыкі і іх рэалізацыя ў прававым інтэграцыйным полі напярэдадні Лівонскай вайны[51]. Што звяртае на сябе ўвагу, прынамсі ў тэрміналагічным плане, — гэта пераход аўтара да заходнееўрапейскага вызначэння адзінай польска-літоўскай дзяржаўнасці дынастыі Ягелонаў ад XV стагоддзя (што не характэрна было для папярэдняй расійскай гістарыяграфічнай традыцыі і з'яўляецца „навацыяй", запазычанай з англамоўнага наратыву XX стагоддзя ў разуменні „longue durée" Новай гісторыі — „the Polish-Lithuanian Commonwealth").

Аднак вывады па дысертацыях не былі перанесены на НГН, тэматыка засталася незапатрабаванай для сучаснай расійскай агульнадзяржаўнай гісторыі і пераасэнсавання яе мінулага. Страціўся нават кампанент знешняй заходняй мяжы, бо праблема „рускіх зямель" (нават дакладна акрэсленых — „заходнерускіх") і іх пераразмеркаванне паміж Масквой і Вільняй заключаецца не ў пытанні-катэгорыі „сваёй" і „не сваёй" гісторыі гэтых тэрыторый, а ў немагчымасці там убачыць сучасную гісторыю Беларусі і Украіны, замест аморфных, але прысутных Польшчы і Літвы ва ўмоўным Кіеве ці Мсціславе.

[49] А. Е. Тарасов, *Религиозные аспекты политики московских князей во второй половине XV – первой трети XVI вв.:* диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Москва 2007.

[50] Р. А. Наливайко, *Древняя Русь и Великое княжество Литовское в „Annales Poloniae" Яна Длугоша:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 2007, 437 с.

[51] Д. А. Бессуднов, *Балтийская политика Польши и Литвы в середине XVI в.:* диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 2018.

Пры гэтым можна пазначыць калектыўны партрэт спецыяліста канца XX і XXI стагоддзя: атрымаў базавую адукацыю і прайшоў аспірантуру ў традыцыйных універсітэцкіх цэнтрах Масквы ці Санкт-Пецярбурга (за рэдкім выняткам); меў сярод навуковых кіраўнікоў выдатных спецыялістаў па гісторыі Расіі дадзенага перыяду, цалкам сфарміраваных асоб яшчэ да 1990-х гадоў, а сярод апанентаў дастаткова акрэсленае кола экспертаў па ранняй навістыцы, якое прыйшло ў гістарычную навуку ў 1990-2000-я гады. Храналагічны прамежак XV — першай паловы XVI стагоддзя для расійскага спецыяліста ў 2000-я гады выкліканы „цікавасцю" да маскоўскіх войнаў і фармавання Расійскай дзяржавы ад Івана III да Івана IV. На рэштках „ваеннай" праблематыкі магла нарадзіцца, але не атрымала свайго развіцця ў навуковай школе „міграцыйная" літоўска-маскоўская праблематыка (выключэннем бадай што з'яўляецца асоба Андрэя Курбскага, якая стала цэнтральнай у доктарскіх дысертацыях А. Філюшкіна і К. Ерусалімскага)[52]. Аднак інстытуалізацыя гісторыі ВКЛ не прайшла, нават ва ўмовах рэфармавання вышэйшай школы Расійскай Федэрацыі і з'яўлення новых кафедр па профілю рэгіёна Усходняй Еўропы. На маргінэсе засталіся і XV з XVI стагоддзі, і тэрыторыі сучасных незалежных дзяржаў — заходніх суседак Расійскай Федэрацыі.

*Праблемныя палі 2000-х гадоў.*

Дысертацыйныя праекты безумоўна паўплывалі на фарміраванне праблемнага кола, якое закранаецца ў даследаваннях расійскіх спецыялістаў па гісторыі больш ранняга ці позняга перыядаў. Яго складаючымі часткамі маглі стаць параўнаўчая гісторыя працэсаў у культуры ў эпоху Позняга Сярэднявечча ці Рэнесансу, даследаванне рэлігійнасці і канфессіянальнай сітуацыі, гісторыя асоб. Аднак сярод удалых і папулярных „цікавостак" 2000-х гадоў становіцца вывучэнне памежных войнаў у розных прыкладаннях да гісторыі Расіі.

Войны ВКЛ з Вялікім Княствам Маскоўскім становяцца своеасаблівай дамінантай ВКЛістыкі ў Расійскай Федэрацыі XXI стагоддзя. „Ваенная праблематыка", якую ў 1990-я і пачатку 2000-х гадоў прапісалі М. Кром, У. Волкаў, В. Пянской была працягнута ў спецыялізава-

[52] К. Ю. Ерусалимский, *Московиты в Польско-Литовском государстве второй половины XVI — начала XVII в.:* диссерт. на соиск. ст. к. ист. н., Москва 2011; А. И. Филюшкин, *Андрей Михайлович Курбский: просопографическое исследование и герменевтический комментарий к посланиям Андрея Курбского Ивану Грозному:* диссерт. на соиск. уч. ст. к. ист. н., Санкт-Петербург 2007.

[53] М. М. Кром, *Стародубская война 1534–1537: из истории русско-литовских отношений*, Москва 2008; В. В. Пенской, *Полоцкая война. Очерки исто-*

ных працах саміх аўтараў[53], а таксама манаграфічных працах Юрыя Аляксеева[54], Аляксея Лобіна[55].

Другім „фронтам” войнаў ВКЛ і Расійскай дзяржавы становіцца Лівонская вайна. Цікавасць да ваеннай гісторыі 1560–1580-х гадоў моцна пераплялася з новай хваляй вывучэння міжнародных адносін у Балтыйскім рэгіёне. Тут нельга не ўлічваць і ўклад А. Філюшкіна і яго персанальнай навуковай школы, якая нараджаецца ў 2010-я гады[56], і навуковыя мерапрыемствы, якія праводзіліся на базе Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў другой палове 2000-х і пачатку 2010-х гадоў з акцэнтам на „балтыйскі свет”[57].

Ва ўмовах пераацэнкі міждзяржаўнай канфрантацыі ў рэгіёне ўсё часцей узнікае патрэба ў новых працах па знешняй палітыцы (крымскі, асманскі, малдаўскі, аўстрыйскі накірункі). Своеасаблівым рэстартам для расійскай сучаснай гістарыяграфіі сталі працы Ганны Харашкевіч[58]. Яе манаграфіі 1990-х і пачатку 2000-х гадоў выклікалі розную рэакцыю сярод калег, але спарадзілі шэраг даследаванняў у сваім накірунку. Аднак пры разглядзе трансеўрапейскіх кааліцый фактычна згубіліся даследаванні па рэгіянальнай дыпламатыі, міждзяржаўных стасунках (напрыклад Крымскага Ханства і ВКЛ). Ардынска-ВКЛаўскія паралелі часам прабіваюцца ў манаграфіях Юрыя Селязнёва па гісторыі руска-залатаардынскіх адносін, хаця дадзены аспект міжнародных адносін з гісторыі Усходняй Еўропы палягае ў больш раннім перыядзе ў працах аўтара.

*рии русско-литовского противостояния времен Ивана Грозного. 1562-1570*, Москва 2019.

54 Ю. Г. Алексеев, *Походы русских войск при Иване III*, Санкт-Петербург 2007.

55 А. Н. Лобин, *Битва под Оршей 8 сентября 1514 г.*, Санкт-Петербург 2011; А. Н. Лобин, М. М. Бенцианов, *К вопросу о структуре русской армии в битве при Орше*, „Studia Slavica et Balcanica Petropolitana”, 2013, № 2, с. 155-177.

56 А. И. Филюшкин, *Изобретая первую войну России и Европы: Балтийские войны второй половины XVI века глазами современников и потомков*, Санкт-Петербург 2013; А. И. Филюшкин, А. В. Кузьмин, *Когда Полоцк был российским: Полоцкая кампания Ивана Грозного 1563-1577 гг.*, Москва 2017; А. И. Филюшкин, *Первое противостояние России и Европы*, Москва 2018.

57 *Балтийский вопрос в конце XV — XVI вв. Сборник научных статей*, Москва 2010; *Судьбы славянства и эхо Грюнвальда: выбор пути русскими землями и народами Восточной Европы в Средние века и раннее Новое время: (к 600-летию битвы при Грюнвальде / Танненберге): материалы международной научной конференции, 22-24 октября 2010 г.*, Санкт-Петербург 2010.

58 А. Л. Хорошкевич, *Русское государство в системе международных отношений конца XV — начала XVI в.*, Москва 1993: яна ж, *Русь и Крым: от союза к противостоянию. Конец XV — начало XVI вв.*, Москва 2001.

„Ваенная” праблема засціць іншыя пытанні з другой паловы XV-XVI стагоддзяў ва ўзаемаадносінах ВКЛ і ўсходняга суседа, такія як міграцыя палітычнай эліты (дзе відавочна вылучаецца „курбскіана”)[59], генеалогія[60], гісторыя Праваслаўнай царквы[61], кнігадрукаванне і перанясенне іншых дасягненняў заходнееўрапейскай культуры ў межы Расійскай дзяржавы пры пасрэдніцтве палітычнай і інтэлектуальнай эліт ВКЛ.

Што не было напісана расійскімі аўтарамі добра кампенсуецца за кошт выдання па-руску ці ў перакладзе прац беларускіх даследчыкаў, такіх як Віктар Цемушаў (памежныя войны ВКЛ і Вялікага Княства Маскоўскага ў канцы XV стагоддзя)[62] ці Андрэй Янушкевіч (Першая Лівонская вайна 1558-1570 гадоў)[63]. А таксама стварэннем калектыўных праектаў, мэтай якіх з'яўляецца вяртанне наратыву Усходняй Еўропы, напісанага нерасійскімі даследчыкамі, у агульнарэгіянальную гісторыю[64].

*На маргінэсе.*

Па-за межы агляду хацелася б вынесці дзве праблемы, якія не вырашыліся нават часткова ў навуковым і калянавуковым наратыве ні Расійскай Федэрацыі, ні нават сучаснай Беларусі.

Першая з іх — гэта дынастычнае вымярэнне гісторыі ВКЛ. Спробы правядзення паралеляў паміж дынастыяй Ягелонаў і расійскімі Рурыкавічамі прысутнічаюць у літаратуры. Аднак нараджэнне гэтага фармату не мела пад сабой трывалай базы даследаванняў: у XIX стагоддзі немагчыма было параўноўваць манаршы патэнцыял Расіі

[59] А. И. Филюшкин, *Андрей Михайлович Курбский: Просопографическое исследование и герменевтический комментарий к посланиям Андрея Курбского Ивану Грозному*, Санкт-Петербург 2007; К. Ю. Ерусалимский, *На службе короля и Речи Посполитой*, Москва — Санкт-Петербург 2018; К. Ю. Ерусалимский, *Natione Moschus: идентичность выходцев из Российского государства в Речи Посполитой XVI — начала XVII в.*, „Вестник РГГУ. Исторические науки”, 2011, № 14, с. 326-352.

[60] М. Е. Бычкова, *Русско-литовская знать XV-XVII вв.: Источниковедение. Генеалогия. Геральдика*, сост.: О. И. Хоруженко, Р. Б. Казаков, Москва 2012.

[61] Б. Н. Флоря, *Исследования по истории церкви: древнерусское и славянское Средневековье*, Москва 2007.

[62] В. Н. Темушев, *Гомельская земля в конце XV — первой половине XVI в.: территориальные трансформации в пограничном регионе*, Москва 2009; В. Н. ён жв, *Первая московско-литовская пограничная война 1486-1494*, Москва 2013.

[63] А. Н. Янушкевич, *Ливонская война. Вильно против Москвы: 1558-1570*, Москва 2013.

[64] *Alba Ruscia: Белорусские земли на перекрестке культур и цивилизаций (X–XVI вв.)*, отв. ред. А. В. Мартынюк, Москва 2015.

і ВКЛ (ні Гедымінавічаў, ні Ягелонаў), у ХХ стагоддзі ў марксісцкай сацыяльна-эканамічнай парадыгме гісторыі манархам месца не знайшлося. У канцы ХХ стагоддзя паралелі паміж гісторыямі Расіі і ВКЛ у дынастычным вымярэнні праводзіліся паміж Раманавымі і Ягелонамі. Аўтарамі ідэі адзначаўся патэнцыял юбілейных навуковых мерапрыемстваў, якія б маглі звярнуць увагу на дасягненні культуры і элементаў дзяржаўнага будаўніцтва на пэўным этапе станаўлення манархіі ва Усходняй Еўропе[65]. Але калі для Расіі і сучаснай расійскай культуры гэта азначала алюзіі на адраджэнне імперскіх традыцый таксама і ў гістарыяграфіі, то для Беларусі, як і іншых сучасных краін рэгіёна (Літвы, Украіны) гісторыя манаршай дынастыі XV-XVI стагоддзяў аказалася бадай што незапатрабаванай.

Другая праблема — гэта папулярызацыя гісторыі ВКЛ у сучаснай расійскай інфармацыйнай прасторы. З аднаго боку адбываецца стварэнне папулярнага дыдактычнага прадукту. Напрыклад, медыйны прадукт інтэрнэт-акадэміі „Arzamas”, у тым ліку і па гісторыі ВКЛ (https://arzamas.academy), дзе знаходзяць прымяненне матэрыялы з даследаванняў (напрыклад матэрыял С. Палехава „Великое княжество Литовское и русские земли”). Фактычна такі папулярызатарскі жанр з’явіўся заменай акадэмічных курсаў, якія павінны былі б чытацца ва ўніверсітэтах.

Поруч з падобным дыдактычным праектам з’яўляецца гісторыка-папулярная літаратура па гісторыі ВКЛ, мэтай якой становіцца „адкрыццё” невядомай гісторыі рэгіёна для чытача-неспецыяліста[66]. Працы не пазбаўлены моцнай „патрыятычнай” складаючай і часцей актуалізуюць жанр „плачей” па страчаных рускіх землях.

*Высновы.*

Перыяд Ягелонаў у ВКЛ адлюстраваны ў сучасным НГН Расійскай Федэрацыі дастаткова слаба. Гэта звязана з дамінаваннем у гісторыі

[65] Н. Г. Лобач, Г. Ч. Ляньkевич, И. В. Суховецкий, *К проблеме юбилеев династий Ягеллонов и Романовых*, [у:] *Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына. Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Гальшаны — Навагрудак, 8-10 верасня 2006 г.)*, Мінск 2007, с. 21-27.

[66] Н. М. Иванов, *История Литовско-Русского государства в именах и датах (Держава Гедиминовичей): историко-генеалогическое исследование-обобщение*, кн. 1-2, Санкт-Петербург 2002; Г. Н. Кудий, *Русская Атлантида. Великое княжество Литовское, Русское и Жемойтское в истории и русской государственности. Факты, мифы и размышления*, Москва 2012; А. Б. Широкорад, *Русь и Литва. Рюриковичи против Гедеминовичей*, Москва 2004.

Расіі другой паловы XV — XVI стагоддзя дыскурсу цэнтралізацыі расійскай дзяржавы вакол маскоўскага цэнтра. Змены ў метадалогіі ў канцы XX і пачатку XXI стагоддзя дазволілі расійскім даследчыкам дыстанцыявацца ад сацыяльна-эканамічнай праблематыкі, але не згубіць напрацоўкі розных інстытуцыйных школ сацыяльнай гісторыі (гісторыі феадалізму) у разглядзе пытанняў сацыяльна-палітычных груп рэгіёна. На аснове аналізу іх паводзін ва ўмовах дзяржаўна-тэрытарыяльных трансфармацый і міждзяржаўных канфліктаў былі знойдзены і сканструяваны нанова магістральныя праблемныя палі — гісторыя ваеннага супрацьстаяння і міграцыя палітычных эліт ВКЛ і Вялікага Княства Маскоўскага ў канцы XV і XVI стагоддзя. Пры гэтым на перыферыі засталася гісторыя Царквы (Праваслаўнай, Каталіцкай, спробы ўвядзення царкоўных уній ва Усходняй Еўропе ў XV стагоддзі) і развіцця іерархіі на тэрыторыі ВКЛ. Хаця праблема канфесій у папярэднія і наступныя эпохі атрымала свой імпульс ужо з канца 1980-х гадоў.

У расійскай гістарыяграфіі ў пачатку 1990-х і ў 2000-х гадах адбылася перазагрузка гісторыі ВКЛ другой паловы XV — XVI стагоддзяў і пераацэнка дасягненняў гістарыяграфіі XIX стагоддзя. Аднак ва ўмовах кадравага голаду не адбылося стварэння інстытуцыйных і персанальных навуковых школ, у 2010-я гады назіраецца павольная стагнацыя ВКЛістыкі. Аналіз навуковай спадчыны XIX і XX стагоддзяў прыводзіць да пераасэнсавання ролі дзяржаўнасці ВКЛ у НГН Расійскай Федэрацыі. З іншага боку, расійская гістарыяграфія XXI стагоддзя прыводзіць да кананізацыі падыходаў XIX — пачатку XX стагоддзяў да гісторыі ВКЛ як XV-XVI стагоддзяў, так і XIII-XIV ды XVII стагоддзяў: да захавання тэрміналогіі XIX стагоддзя, інтэрпрэтацыі палітычнай гісторыі рэгіёна, канфесійна-этнічнага вымярэння.

Аднак падобныя высновы практычна не былі ўвасоблены ў акадэмічных дыдактычных праектах. Патэнцыял жа гістарычна-папулярызатарскіх прац падаецца сумніўны з вышыні XXI стагоддзя — у сучасных умовах і генеральных тэндэнцыях развіцця гістарычнай навукі ва Усходняй Еўропе, белетрыстыка гістарычнага мінулага штурхае да пошуку „існасці”, што ў лепшым выпадку стварае эфект фольк-гістары (*folk-history*).

Таму насамрэч НГН аб ВКЛ у Расійскай Федэрацыі лёгка ўспрымае версіі гісторыі пазарасійскай часткі Усходняй Еўропы (на сёння — гістарычную парадыгму рускамоўнай „Гісторыі Літвы” Э. Гудавічуса), што дазваляе застацца ў гістарыяграфічнай традыцыі XIX — пачатку XX стагоддзя, разуменні „руска-літоўскай” спадчыны дзяржаўнасці ВКЛ.

**Summary**

**Russian Historiography in the Grand Duchy of Lithuania in the Fifteenth and Sixteenth Century**

New works by Russian historian on the Grand Duchy of Lithuania show the growth of interest in this topic in the contemporary Russia. During the Soviet period the research was concentrated around the issues of the duchy's beginnings and around ethnic and social issues. The goal was to show that the class leeched off by Lithuanian feudal lord was mostly Ruthenian population. The issues of religion were also ignored. At the beginning of the 1990s Russian historians also did not write about territorial issues of the Grand Duchy of Lithuania. At the turn of the centuries most of the papers published in scientific journal and monographies were treated in an integral way. The research now centres around the political system of the state, its territorial changes and ethnic issues. The context of the relations with the Grand Duchy of Muscovy.

**Keywords:** Russian historiography, the Grand Duchy of Lithuania, the Grand Duchy of Muscovy.

**Streszczenie**

**Rosyjska historiografia Wielkiego Księstwa Litewskiego XV-XVI wieku**

Nowe prace historyków rosyjskich na temat Wielkiego Księstwa Litewskiego są przejawem wzrostu zainteresowania tematem we współczesnej Rosji. W czasach radzieckich badania koncentrowały się wokół genezy państwa oraz problemów etnicznych i socjalnych. Chodziło o pokazanie, że klasą wyzyskiwaną przez feudałów litewskich była głównie ludność ruska. Ignorowane były także sprawy dotyczące religii. Na początku lat dziewięćdziesiątych historiografia rosyjska pomijała kwestie terytorialne WKL. Na przełomie XX i XXI większość opracowań publikowanych w czasopismach naukowych i monografiach historię WKL traktuje w sposób integralny. Przedmiotem badań jest system polityczny państwa, zmiany terytorialne, kwestie etniczne. Dominujący jest również kontekst stosunków WKL z Wielkim Księstwem Moskiewskim.

**Słowa kluczowe:** historiografia rosyjska, Wielkie Księstwo Litewskie, Wielkie Księstwo Moskiewskie.

**Andrei Liuby** — doktor, docent na Wydziale Historii Katedry Historii Białorusi Czasów Dawnych i Wieków Średnich Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku. Zainteresowania badawcze: historiografia historii Wielkiego Księstwa Litewskiego; współczesna historiografia dynastii Jagiellonów; kultura polityczna Europy Środkowo-Wschodniej. Autor ponad stu publikacji.

**Андрэй Прохараў**
(Мінск)

## Падзеі 1917-1921 гадоў і міжваеннага перыяду на старонках беларускіх і польскіх падручнікаў

Перыяд 1917-1921 гадоў шмат у чым з'яўляецца лёсавызначальным як для беларускага, так і польскага народаў: былі створаны новыя нацыянальныя дзяржаўныя ўтварэнні, адбылася этнічная кансалідацыя, пасля ваенных канфліктаў была ўсталявана новая мяжа. Падаецца, што гісторыя суседніх народаў павінна быць адлюстравана ўзаемна на старонках падручнікаў абедзвюх краін. А што на самой справе?

Для параўнання былі ўзяты беларускія і польскія падручнікі. Беларускія падручнікі па гісторыі прадстаўлены сучаснымі варыянтамі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі і выдадзенымі ў 2012 годзе[1]. Гэта падручнік па гісторыі Беларусі аўтарства Яўгена Новіка *„Гісторыя Беларусі. 1917-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі"*[2] і падручнік па сусветнай гісторыі Генадзя Космача, Уладзіміра Кошалева і Марыны Красновай *„Сусветная гісторыя навейшага часу. 1918-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі"*[3]. Сюжэты па гісторыі Польшчы адпаведнага часу разглядаюцца пры вывучэнні як гісторыі Беларусі, так і сусветнай гісторыі. Прычым матэрыял не паўтараецца, а дапаўняе факты гістарычнага працэсу.

Польскія падручнікі шмат у чым абраны адпаведна магчымасцям. Гэта падручнік для сярэдняй школы Станіслава Рошака, Анны Лашкевіч і Яраслава Клачкова *„Wczoraj i dziś. Klasa 7. Podręcznik do historii szkoły podstawowej"*[4], і падручнікі для гімназій Іаланты Бэднаж, Магдалены Літвіненкі і Катажыны Запалы *„Historia. Podręcznik dla gimnazjum"*[5] і Казімежа Пшыбыша, Войцеха Ежы Якубоўскага

[1] У 2020 г. у Рэспубліцы Беларусь завершыцца выданне новага пакалення падручнікаў.

[2] Я. К. Новік, *Гісторыя Беларусі. 1917-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі*, Мінск 2012.

[3] Г. А. Космач, У. С. Кошалеў, М. А. Краснова, *Сусветная гісторыя навейшага часу. 1918-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі*, Мінск 2012.

[4] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7. Podręcznik do historii szkoły podstawowej*, Warszawa 2017.

[5] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, Gdynia 2007.

і Мар'юша Владарчыка *„Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III”*[6].

Вывучэнне гісторыі ў беларускіх школах базуецца на асобным вывучэнні айчыннай і сусветнай гісторыі. Гэта дае магчымасць больш уважліва разгледзець гістарычныя працэсы па-за межамі Беларусі. Таму звесткі пра польскую гісторыю ў ***беларускіх падручніках*** адносна шырокія, асабліва ў параўнанні з іншымі краінамі рэгіёна.

Унутранапалітычны стан Польшчы разглядаецца ў падручніку па сусветнай гісторыі ў параграфе 8: „Краіны Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы”. У параграфе апісваюцца падзеі пасля Першай сусветнай вайны і даецца параўнальная характарыстыка ўсталяваўшыхся дзяржаўных сістэм у рэгіёне.

У дачыненні да Польшчы апісваецца ў самых агульных рысах працэс аднаўлення дзяржаўнасці, правядзення дэмакратычных рэформ, прыняцце Канстытуцыі[7]. Далей у пункце „Аўтарытарныя дыктатуры” апавядаецца аб усталяванні ваенных рэжымаў у розных краінах рэгіёна, у тым ліку і ў Польшчы. Усталяванне аўтарытарных рэжымаў разглядаецца як асноўная палітычная парадыгма ў жыцці рэгіёна ў міжваенны перыяд. Акцэнты па гісторыі гэтага перыяду носяць у пераважнай большасці негатыўную афарбоўку, што вельмі добра бачна па пераліку агульных асноўных рыс: „абмежаванне палітычных правоў і свабод грамадзян, падаўленне рэвалюцыйнага і дэмакратычнага руху, засілле нацыяналістычных, фашысцкіх і прафашысцкіх арганізацый і партый, культ правадыра-дыктатара, фармальнае захаванне парламенцкай і шматпартыйнай сістэмы”[8].

Гісторыя Польшчы выступае як адзін з асноўных прыкладаў усталявання аўтарытарнага рэжыму, прычым менавіта ў форме вайсковага перавароту. Выкарыстоўваецца вайсковая лексіка: „Армейскія часці, верныя Ю. Пілсудскаму, занялі Варшаву і скінулі ўрад”. Павялічвае ўражанне надрукаваны фотаздымак артылерыі, размешчаной на Замкавай плошчы ў Варшаве ў час дзяржаўнага перавароту[9]. Менавіта ў гэтым параграфе падаецца кароткі нарыс жыцця Юзэфа Пілсудскага[10].

[6] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, Warszawa 2002.

[7] Г. А. Космач, У. С. Кошалеў, М. А. Краснова, *Сусветная гісторыя навейшага часу. 1918-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа*, с. 53-54.

[8] Там жа, с. 54.

[9] Там жа, с. 54.

[10] Там жа, с. 57.

Знешняя палітыка Польшчы ў 1930-я гады апісана як спроба „балансавання і «роўнага аддалення» ад Германіі і СССР", у рамках якой былі заключаны дамовы аб ненападзенні. Дыпламатычная барацьба з Германіяй скончылася тым, што „польскія кіруючыя колы праявілі палітычную недальнабачнасць падчас англа-франка-савецкіх перагавораў вясной — летам 1939 года, не пагадзіўшыся прапусціць часці Чырвонай Арміі праз сваю тэрыторыю ў выпадку нямецкай агрэсіі"[11].

Падручнік па гісторыі Беларусі для 10-га класа больш падрабязна апісвае адносіны паміж беларускім і польскім насельніцтвам, дае вызначэнні палітыкі Польшчы ў адносінах да беларусаў і беларускіх зямель.

Пры апісанні класавага і этнічнага складу насельніцтва на пачатку XX стагоддзя на беларускіх землях (у межах сучаснай Рэспублікі Беларусь) аўтары падкрэсліваюць, што „сярод памешчыкаў пераважалі прадстаўнікі рускай і польскай нацыянальнасцей"[12]. Гэта паўтарае традыцыйныя для савецкіх часоў класавыя стэрэатыпы.

Асобны параграф прысвечаны Беларусі ў польска-савецкай вайне (§ 6: „Беларусь у польска-савецкай вайне 1919-1920 гг."), які тэматычна працягвае і наступны параграф пра другое абвяшчэнне ССРБ. Аднаўленне польскай дзяржавы ў лістападзе 1918 года тлумачыцца „паражэннем у Першай сусветнай вайне Германіі і Аўстра-Венгрыі, а таксама абвяшчэннем савецкай уладай несапраўднымі ўсіх дагавораў царскага ўрада наконт лёсу трэціх краін"[13]. Палітыка ўлад адноўленай Польшчы ў дачыненні беларускіх зямель паказана як фармальная згода на наданне правоў на федэралізацыю, аднак у сапраўднасці курс на інкарпарацыю ў склад Другой Рэчы Паспалітай[14]. „Пагроза інтэрвенцыі з боку Польшчы прымусіла" да стварэння ЛітБел[15]. Гэта ж пагроза абумовіла ўключэнне Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў у склад Расійскай Федэрацыі[16]. Ужо ў жніўні 1919 года тэрыторыя ЛітБел была захоплена Польшчай[17].

Далей ідзе дастаткова падрабязнае апавяданне пра ваенныя дзеянні на розных этапах вайны. Удзяляецца ўвага звароту Ю. Пілсудскага

[11] Там жа, с. 56.
[12] Я. К. Новік, *Гісторыя Беларусі. 1917-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа* с. 5.
[13] Там жа, с. 32.
[14] Там жа, с. 22.
[15] Там жа, с. 27.
[16] Там жа, с. 29.
[17] Там жа, с. 30.

«Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага» 22 красавіка 1919 года, у якім была спроба растлумачыць канцэпцыю федэралізацыі[18]. Але насамрэч быў усталяваны „акупацыйны рэжым”. У падручніку дэталёва апісана жорсткая і рабаўнічая палітыка польскіх улад на тэрыторыі Беларусі, забарона на беларускую культуру. Апісана і пазіцыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў дачыненні да дзейнасці Пілсудскага, спробы дамовіцца і іх правал[19]. Натуральна, што ўзнёсла апісваецца барацьба беларускага народа з „польскімі інтэрвентамі”, падкрэсліваецца роля пагаднення камуністаў і эсэраў у гэтай барацьбе[20].

Пры разглядзе пытання „лініі Керзана” даецца ацэнка пазіцыі савецкага кіраўніцтва: „савецкае кіраўніцтва, якім валодала ідэя сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, прыняло рашэнне аб перанясенні баявых дзеянняў на захад ад «лініі Керзана». Гэта была сур’ёзная палітычная памылка”[21]. Адзначаецца, што „магутны нацыянальна-патрыятычны ўздым польскага народа ў абарону сваёй радзімы не спраўдзіў разлікаў Савецкага ўрада на падтрымку Чырвонай Арміі польскім пралетарыятам”[22]. Асобны пункт прысвечаны сітуацыі пад час падпісання Рыжскай мірнай дамовы 1921 года. Адзначаецца раўнапраўе польскай і беларускай мовы ў Савецкай Беларусі[23]. Вынікам грамадзянскай вайны ў Расіі і польска-савецкага канфлікту для Беларусі стала тое, што „яе заходняя частка знаходзілася ў складзе Польшчы, усходняя — у складзе РСФСР, і толькі шэсць паветаў Цэнтральнай Беларусі складалі тэрыторыю ССРБ”[24].

Наступны вялікі раздзел падручніка мае назву „Беларусь ва ўмовах станаўлення савецкага сацыялістычнага грамадства. Заходняя Беларусь пад уладай Польшчы”. Асобны параграф (§ 18) прысвечаны менавіта землям Заходняй Беларусі. Асноўнымі разгляданымі праблемамі з’яўляюцца: непрызнанне Польшчай Заходняй Беларусі беларускімі землямі, гэта тэрыторыя асэнсоўваецца як аграрны прыдатак з пануючым іншаземным капіталам, распаўсюджанне ўплываў Каталіцкай царквы і асаднікаў, масавая эміграцыя беларусаў, уздым нацыянальна-вызваленчай і партызанскай барацьбы, дзейнасць каму-

[18] Там жа, с. 33.
[19] Там жа, с. 34.
[20] Там жа, с. 35.
[21] Там жа, с. 38.
[22] Там жа, с. 39.
[23] Там жа, с. 42.
[24] Там жа, с. 40.

ністаў і Беларускай сялянска-работніцкай грамады і рэпрэсіі супраць іх, забарона беларускіх школ і беларускай адукацыі. Менавіта нацыянальна-вызваленчы рух з'яўляецца цэнтрам асэнсавання падзей міжваеннага перыяду. Увага надаецца палітыцы санацыі Ю. Пілсудскага пасля 1926 года, якая звязваецца і з „паліцэйскім тэрорам" як часткай пацыфікацыі. Безумоўна, узгадваецца і лагер у Бярозе-Картузскай як сімвал нязломнасці беларускага народа. Асобны параграф прысвечаны развіццю беларускай культуры ў Заходняй Беларусі[25].

Такім чынам, мы бачым дастаткова шмат матэрыялу ў абодвух беларускіх падручніках. Трэба адразу адзначыць, што гэта поўнасцю традыцыйны тэкст для беларускага вучэбнага наратыву па ўзаемаадносінах Беларусі з Польшчай паміж Сусветнымі войнамі. Захоўваюцца старыя падыходы, пры якіх беларускі падручнік па гісторыі Беларусі падае адносіны с польскай дзяржавай у перыяд з 1918 па 1939 гады як гісторыю супрацьстаяння. Толькі адзначым, што зменшылася доля класавага падыходу ў сістэме гэтага супрацьстаяння, але павялічылася значэнне этнічнага фактару. Былую схему замяніла спроба простага аповеду пра ваенныя дзеянні, што значна спрашчае палітычную сітуацыю вакол фарміравання беларускай дзяржаўнасці. Такім чынам, старая схема змагання савецкай улады з яе ворагамі саступіла месца змаганню беларускага народа з яго ворагамі, але гэтыя ворагі ўсё адны і тыя ж.

Традыцыйна няма звестак пра лёс мясцовага польскага насельніцтва на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Беларусі, стварэнне палякамі вайсковых фарміраванняў на тэрыторыі Беларусі, рэпрэсіі супраць палякаў на савецкай тэрыторыі. Няма ўзгадак пра розніцу палітыкі польскай дзяржавы ў дачыненні да беларускага насельніцтва і да органаў савецкай улады. Гэта падкрэслівае як бы агульную пазіцыю насельніцтва і савецкай улады. Пры гэтым дзеючы падручнік па гісторыі Беларусі неаднаразова падае дзейнасць і палітыку Рады БНР як часткі беларускага нацыянальнага руху.

Як асноўная дата пачатку аднаўлення польскай дзяржавы ўзята 7 лістапада 1918 года, калі ў Любліне быў створаны Часовы Народны ўрад, і адзначаецца, што ў хуткім часе ўлада апынулася ў руках камандуючага Польскім Легіёнам Ю. Пілсудскага[26]. Такім чынам, прымеркаванне Нацыянальнага свята незалежнасці Польшчы да 11 лістапада 1918 года не ўзгадваецца ўвогуле.

[25] Там жа, с. 96-107.

[26] Г. А. Космач, У. С. Кошалеў, М. А. Краснова, *Сусветная гісторыя навейшага часу. 1918-1945. Вучэбны дапаможнік для 10 класа*, с. 53.

***Польскія падручнікі*** значна менш інфарматыўныя адносна гісторыі беларускага народа і яго дзяржаўнасці, што адпавядае традыцыйнаму наратыву польскай гісторыі. Гістарычныя падзеі на беларускіх землях увесь час „пад коўдрай" гісторыі Савецкай краіны і самастойна не ацэньваюцца аўтарамі польскіх падручнікаў. Любыя звесткі магчыма разглядаць толькі як ускосныя.

Беларусь звычайна нават немагчыма знайсці на мапах у падручніках. Напрыклад, калі пазначана Палессе, няма надпісу Беларусь ні на мапе Расійскай імперыі, ні на мапе Савецкага Саюза[27].

Дарэчы толькі адзін падручнік для школ 2017 года — „Wczoraj i dziś. Klasa 7. Podręcznik do historii szkoły podstawowej" — увогуле выкарыстоўвае назву „Białoruś" як краіны[28] і прапануе найбольш поўную інфармацыю. У ім ужо бачым на мапе надпіс „Białoruś"[29]. Аднойчы надпіс „Białoruska SRR" на мапе з'яўляецца яшчэ ў адным падручніку[30].

Безумоўна, калі абмяркоўваем наяўнасць ці адсутнасць тэрміна „Białoruś", ці прэзентацыю „беларускага пытання", ніколі не ставім пад сумніў высокі прафесіяналізм падрыхтоўкі ўсіх разгляданых падручнікаў. Але застаецца фактам, што астатнія выданні ўвогуле толькі некалькі разоў узгадваюць нават не Беларусь як краіну, а беларусаў. Падручнік „Historia. Podręcznik dla gimnazium" 2007 года не звяртае ўвагу на „беларускае пытанне" увогуле і нават не дае пабудову Савецкага Саюза з нацыянальных рэспублік. Немагчыма „саюзныя рэспублікі" ўбачыць нават на мапе[31]. Толькі ў падручніку „Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III" даецца згадка пра стварэнне Савецкага Саюза ў 1922 годзе з шэрагу нацыянальных рэспублік, сярод якіх была і „Białoruska SRR"[32], а на наступнай старонцы на мапе падаецца і год яе заснавання — 1919 год[33]. Але гэта аформлена хутчэй як справачны матэрыял. Такім чынам, няма аніякіх згадак пра стварэнне Беларускай і Украінскай савецкіх рэспублік, якія з'явіліся формай дзяржаўных утварэнняў беларускага і ўкраінскага народаў на той момант.

[27] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, s. 35, 39, 54-55, 94.

[28] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7,* s. 222, 224.

[29] Там жа, с. 224.

[30] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, Warszawa 2002, s. 76.

[31] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, Gdynia 2007, s. 83.

[32] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, Warszawa 2002, s. 75.

[33] Там жа, с. 76.

Добра бачна, што ёсць устойлівая канцэпцыя гісторыі перыяду 1917-1939 гадоў для польскіх навучэнцаў. І ў ёй ёсць некалькі важных інфармацыйных адзінак, звязаных з беларусамі, якія адлюстраваны ва ўсіх падручніках.

Пры стварэнні польскай дзяржаўнасці набывае актуальнасць толькі адна тэма, наўпрост звязаная з нацыянальнымі пытаннямі пры пабудове польскай дзяржавы. Абавязкова разглядаюцца дзве канцэпцыі, якія датычыліся вырашэння нацыянальнага пытання ў адноўленай польскай дзяржаве: „інтэграцыйная канцэпцыя" Рамана Дмоўскага і „федэрацыйная канцэпцыя" Юзэфа Пілсудскага[34]. Адзначаецца, што „ludność litewska, białoruska i ukraińska, która znalazłaby się na terenie Polski, miała zostać poddana przymusowej polonizacji" пры рэалізацыі „інтэграцыйнай канцэпцыі" Дмоўскага[35]. Дастаткова выразна вызначана і немагчымасць утварэння федэрацыі па ўзоры Ю. Пілсудскага[36], але не сказана пра тое, што „кіраўнік дзяржавы" не зрабіў ніякіх практычных крокаў па яе ўвасабленні ў жыццё, акрамя прапагандысцкіх захадаў.

Усе польскія падручнікі маюць параграф пра змаганне за ўсталяванне граніц, ці асобна ўсходняй мяжы. Дастаткова падрабязна ідзе апавяданне пра „польска-бальшавіцкую вайну". Аб'ектыўна пададзена пазіцыя насельніцтва Літвы, Украіны. Указваецца на супраціўленне польскім планам, нават плану федэралізацыі, і на змаганне за самастойную дзяржаўнасць[37]. Пры гэтым, калі гаворка ідзе пра змаганне з польскімі войскамі, як прыклад падаецца Украіна, а пасля Літва[38], бо гэта было звязана з дзейнасцю нацыянальных урадаў. Пра падзеі на Беларусі, якія былі не настолькі маштабныя і адбываліся ў рэчышчы „польска-бальшавіцкай" вайны, увогуле няма згадак. Няма ні слова ні пра шырокую партызанскую барацьбу беларускага народа, ні пра беларускі ўрад БНР. У сучаснага паляка ствараецца ўражанне ўжо са школы, што беларускае насельніцтва з пачатку XX стагоддзя не змагалася за самастойнасць. І ў гэтым пункце апавяданне польскіх

[34] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 50; K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, s. 91; S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 222.

[35] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 222.

[36] Там жа, с. 222-223.

[37] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 52, 56; J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 223.

[38] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 52; S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 223.

падручнікаў поўнасцю разыходзіцца з беларускай гістарычнай традыцыяй, у якой барацьба з „панскай Польшчай” мела і захоўвае амаль эпічныя рысы для існавання беларускага народа.

Як вырашальная падзея для лёсаў Польшчы і ўсяго рэгіёна разглядаецца Рыжская дамова 1921 года. Галоўнай тэмай, безумоўна, з’яўляецца правядзенне новай мяжы. Беларусь для польскіх аўтараў не надта цікавая ў гэтым працэсе, але некаторыя тэндэнцыі, прычым поўнасцю супрацьлеглыя на сучасны момант, убачыць магчыма. Напрыклад, аўтары аднаго падручніка ўзгадваюць пра тое, што мяжа па Рыжскай дамове прайшла „na linii od Dźwiny przez Białoruś do Zbrucza i Dniestru”, ужо карыстаючыся сучаснай тэрміналогіяй[39]. Але ёсць і цікавае тлумачэнне, калі адбываецца падмена паняццяў: „granica między Polską a Rosją i Ukrainą”[40] і як бы не было мяжы з Беларуссю. Зразумела, што на перамовах у Рызе былі прадстаўлены Расія і Украіна, але „адсутнасць мяжы” з Беларуссю нават на той час можна разглядаць як фактычную памылку.

Падручнік 2017 года ўжо ўказвае на наяўнасць складанай палітычнай дамовы, якая значна паўплывала на ўнутрыпалітычнае жыццё Польшчы. Польская дэлегацыя на перамовах не толькі прызнала ўладу бальшавікоў у Беларусі і Украіне, але і адмовілася ад Мінска, які бальшавікі былі гатовыя перадаць Польшчы[41].

Абавязковая ўзгадка амаль ва ўсіх падручніках пра „litewsko-białoruską dywizję” генерала Люцыяна Жалігоўскага[42]. Зразумела, што падкрэсліванне этнічнага складу дывізіі мела добра абгрунтаваныя падставы яшчэ ў той час, як і зараз.

Істотная інфармацыя ва ўсіх падручніках падаецца пра этнічны склад насельніцтва Другой Рэчы Паспалітай. Менавіта тут мы бачым важныя ацэнкі беларускага насельніцтва. Найбольш агульная версія падачы матэрыялу такая: ва ўсходніх рэгіёнах па-за межамі гарадоў пераважала беларускае і ўкраінскае насельніцтва, а агульная колькасць беларускага насельніцтва на 1921 год пазначана як 5 працэнтаў[43] ці

[39] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 226.

[40] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, s. 93.

[41] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 226.

[42] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 56; S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 226.

[43] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 61.

6 працэнтаў[44]. Адзін з падручнікаў больш увагі звяртае на палажэнне нацыянальных меншасцей і на канфесійную сітуацыю ў Другой Рэчы Паспалітай[45]. Узгадваецца нават беларуская палітычная партыя Грамада, да якой належала каля 110 тыс. членаў і якая аказвала значны ўплыў на сацыяльныя і культурныя структуры[46]. Прызнаецца, што нягледзячы на палажэнні Канстытуцыі 1921 года „w rzeczywistości jednak, ze względu na brak szczegółowych rozporządzeń, mniejszości nie mogły korzystać z pełni praw" да 1931 года[47]. У 1931 годзе адсоткавая колькасць беларусаў ужо вызначаецца як 3,1%, а не 6% як дзесяць гадоў таму[48].

Ёсць адзінкавыя ўзгадкі пра беларускія землі, якія носяць адмысловы, але цікавы характар, звяртаюць увагу на значна больш шырокія пласты інфармацыі. Так ёсць згадка пра ўтварэнне летам 1917 года 1-га Польскага корпуса генерала Юзэфа Доўбар-Мусніцкага ў Мінску[49]. Адзначана паражэнне польскіх атрадаў самаахові ад Чырвонай Арміі напрыканцы 1918 года ў Мінску і Вільні[50]. Мінск узгадваецца як месца правядзення польска-бальшавіцкіх перамоў[51]. Цікава, што амаль увесь час гаворка ідзе менавіта пра Мінск.

У выніку можна канстатаваць, што набор звестак пра Беларусь мае дастаткова ўстаяўшыся выгляд. Пералічваецца некалькі фактаў, якія прадстаўлены ў большай ці ў меншай прапорцыі. Аднак цэласнага вобраза Беларусі ў перыяд 1917-1939 гадоў у польскіх падручніках увогуле няма. Нават няма згадкі пра стварэнне дзяржавы, без чаго саму краіну немагчыма ідэнтыфікаваць. І якім чынам пазней тлумачыць узнікненне шматлікіх краін пасля распаду Савецкага Саюза? Адсюль натуральнай для сучаснага паляка з'яўляецца думка, што Беларусь як краіна існуе толькі крыху больш за дваццаць гадоў.

Няма згадак пра барацьбу беларускага народа не толькі падчас польска-савецкай вайны, але і ў міжваенны перыяд ужо ў межах самой Другой Рэчы Паспалітай. І ні слова пра такое кранальнае для беларусаў пытанне: пра забарону карыстання мовай і палітычныя рэпрэсіі супраць беларускага насельніцтва ў межах Другой Рэчы Паспалітай.

[44] K. Przybysz, W. J. Jakubowski, M. Włodarczyk, *Historia dla gimnazjalistów. Dzieje najnowsze. Podręcznik. Klasa III*, s. 93.
[45] Там жа, с. 112-115.
[46] Там жа, с. 114.
[47] Там жа, с. 112.
[48] Там жа, с. 112.
[49] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 224.
[50] J. Bednarz, M. Litwinienko, K. Zapała, *Historia. Podręcznik dla gimnazjum*, s. 53.
[51] S. Roszak, A. Łaszkiewicz, J. Kłaczkow, *Wczoraj i dziś. Klasa 7*, s. 225.

У польскіх падручніках па гісторыі працягваецца старая, яшчэ з пачатку XX стагоддзя лінія польскай палітыкі, якую так трапна ахарактарызаваў прафесар Войцех Сляшыньскі: „W Rzeczypospolitej Polskiej za najlepsze rozwiązanie uznano szybką asymilację mniejszości, zwłaszcza tych słowiańskich. W przypadku Białorusinów w środowiskach polskich dominowało przeświadczenie, że, nie mając silnego poczucia tożsamości narodowej, nie będą oni stwarzać zbytniego oporu w tym procesie”[52].

Тым не менш, хочацца верыць, што зрухі адбываюцца і ў самым апошнім польскім падручніку для школ ужо выкарыстоўваецца назва Беларусь, назва сучаснай, суседняй дзяржавы. У падручніку ўжо бачна спроба правесці хаця б і новы, а не з пачатку XX стагоддзя, аналіз этнічных і дзяржаваўтваральных працэсаў, якія суадносяцца з сучаснай палітычнай мапай рэгіёна. У найбольшай ступені гэта тычыцца Украіны, але, хочацца верыць, што бачны зрухі і ў „беларускім пытанні”.

Можам казаць, што ***як у беларускіх, так і ў польскіх падручніках*** захоўваюцца старыя стэрэатыпы адносін да свайго суседняга народа. Гэта пабудавана на старых традыцыях выкладання гісторыі, якія фармаваліся яшчэ ў 20-30-я гады XX стагоддзя.

Беларускія падручнікі робяць акцэнт на ідэях паланізацыі, класавага прыгнёту і ваеннага сутыкнення з польскай ваеннай дыктатурай. Польскія ж падручнікі малююць Беларусь як нецікавую для вывучэння частку Савецкага Саюза. Як і раней у параўнанні з Украінай і Літвой, беларусы разглядаюцца як нацыя з найменшым узроўнем самасвядомасці. Але немагчыма забываць, што менавіта ў той час беларусы стварылі сваю дзяржаву, прычым у надта неспрыяльных умовах. Безумоўна, „пры дапамозе” і тым не менш мы карыстаемся вынікам і зараз[53].

Добра бачна, што старыя канцэпцыі гісторыі як з аднаго, так і з іншага боку сфарміраваліся выключна на падмурку супрацьстаяння. Гэтыя канцэпцыі фарміраваліся яшчэ сто гадоў таму і ў такім разе пе-

[52] W. Śleszyński, *Historia w służbie polityki. Zmiany polityczne a konstruowanie przekazu historycznego na ziemiach białoruskich w XX i XXI wieku*, Białystok 2018, s. 388.

[53] Можа быць менавіта адмаўленне беларусам у нацыянальнай самасвядомасці адна з прычын зацятага змагання паміж народамі. Беларусы атрымалі сваю дзяржаўнасць у федэрацыі з Расіяй (як бы не адносіцца да гэтага з пазіцый сучаснасці), а не ў федэрацыі з Польшчай, якую яна фактычна ім і не прапаноўвала.

рад намі працяг барацьбы ідэалогій таго часу[54]. Напрыклад, ніводны бок не хоча выносіць звесткі пра жорсткую, рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцей у сваіх краінах у разглядаиы перыяд. Але ідэалогіі таго часу прывялі да добра вядомага выніку, адзначанага прафесарам Яўгенам Міраночічам: „nie było możliwości porozumienia polsko-białoruskiego"[55].

Поўнасцю адмовіцца ад ідэй гэтых старых канцэпцый ніколі не будзе магчымасці. Напачатку XX стагоддзя нацыянальная самасвядомасць беларускага народа фармавалася ў барацьбе менавіта з уплывам польскага нацыяналізму. Дастаткова паглядзець на шэраг літаратурных твораў, якія сталі класікай беларускай літаратуры і поўнасцю, ці часткова прысвечаны менавіта нацыянальна-вызваленчай барацьбе беларускага народа супраць польскай улады, за самастойнасць беларускай культуры. Можна ўзгадаць верш Якуба Коласа „Беларускаму люду" на выніку Рыжскай дамовы і яго аповесць „Дрыгва", зборнік вершаў Максіма Танка «На этапах», п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя» і шмат іншых. Другая Рэч Паспалітая „dla większości Białorusinów (...) była kulturowo obca"[56].

Польскае грамадства таксама не зможа адмовіцца ад гераічнай гісторыі перыяду аднаўлення дзяржаўнасці ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Прафесар Здзіслаў Вінніцкі добра заўважыў тое месца, якое займаюць беларусы ў гэтай „гераічнай" канцэпцыі польскай гісторыі: „Białorusini pojawiają się natomiast w każdym podręczniku historii Polski w szkołach średnich dopiero jako mniejszość narodowa w II RP, w kontekście ich liczebności jako mniejszości narodowej, oraz kontekście krytycznej oceny polityki narodowościowej ówczesnego państwa polskiego z uwzględnieniem zapóźnienia gospodarczego, cywilizacyjnego"[57].

[54] Гэта небяспечная ідэалогія, якая аднойчы ўжо паказала магчымыя вынікі: „Прэтэнзіі Савецкай Расіі і Польшчы на землі, якія былі размешчаныя паміж рускай і польскай этнічнымі тэрыторыямі, у тым ліку і беларускія, рабілі польска-савецкую вайну практычна непазбежнай". М. Мязга, *Узнікненне польска-савецкай вайны 1919-1920 гг. і Беларусь*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2019, z. 51, s. 57.

[55] E. Mironowicz, *Białorusini wobec państwa polskiego w latach 1918-1925*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1994, z. 1, s. 28.

[56] Там жа, с. 26.

[57] Z. J. Winnicki, *Białoruś i Białorusini w polskich podręcznikach szkolnych poziomu gimnazjalnego i licealnego w kontekście uwag o tematyce polskiej we współczesnych podręcznikach białoruskich*, [у:] *Беларуска-польскія адносіны: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнароднага круглага стала, Мінск, 30 кастрычніка 2014 г.*, Мінск 2015, с. 13.

Але з іншага боку трэба прызнаць, што старыя „гераізуючыя" канцэпцыі толькі для свайго народа не ў поўнай меры адпавядаюць сучаснаму палітычнаму стану. Зараз ні беларускаму, ні польскаму навучэнцу немагчыма скласці аб'ектыўную карціну гісторыі суседніх народаў перыяду 1917-1939 гадоў. Старыя канцэпцыі не даюць магчымасці выхоўваць узаемапавагу ў адносінах да суседзяў.

Сучасны стан палітычнага жыцця ў цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне патрабуе змяніць старыя падыходы ў адносінах двух народаў. І найбольш масавым інструментам з'яўляюцца школьныя падручнікі па гісторыі. Менавіта яны здольны наколькі магчыма масава змяніць грамадскую думку ў гістарычнай сферы ад ідэй напалову варожых да добрасуседскіх. Змена канцэпцый у школьнай адукацыі можа стаць найбольш выразным маркерам добрасуседскага збліжэння дзвюх краін.

**Summary**

**The Events of 1917-1921 and the Interwar Period in the Belarusian and Polish School handbooks**

The paper focuses on the content of Belarusian and Polish school handbooks on the period from 1917 until 1939; important for both nations as the foundations for the new national states of Poles and Belarussians were laid. The comparison proves the durability of the old ideological concepts, which looks at the neighbouring nation and its history from the negative, confrontational perspective. The author ascertains that the Polish handbooks contain no information about the formation of the Belarusian state in the form of the Soviet Belarusian Republic. While, on the other hand, the Belarusian handbooks do not inform about the Polish Independence Day on 11 November. As a result, neither Belarusian or Polish schoolchildren get important information about the beginnings of the neighbour's state. Old concepts make it impossible to raise the new generations in the spirit of mutual respect between these two nations.

**Keywords:** history of Belarus, history of Poland, „integrational strategy", „federative strategy", Belarusian national liberation movement, Riga treaty, Western Belarus.

**Streszczenie**

**Wydarzenia z lat 1917-1921 i okresu międzywojennego na kartach białoruskich i polskich podręczników**

W artykule autor porównuje treść białoruskich i polskich podręczników do historii obu narodów w ważnym dla nich okresie od 1917 do 1939 roku, gdy kładziono fundamenty pod nowe państwa narodowe Polaków i Białorusinów. Porównanie świadczy o żywotności starych koncepcji ideologicznych, które postrzegają sąsiedni naród i jego historię z nieprzychylnego, konfrontacyjnego punktu widzenia. Autor konstatuje, że polskie podręczniki wcale nie zawierają informacji o utworzeniu państwa białoruskiego w formie republiki radzieckiej. Natomiast podręczniki białoruskie nie zwracają uwagi na Narodowe Święto Niepodległości Polski w dniu 11 listopada. W rezultacie ani białoruscy, ani polscy uczniowie nie mają istotnych informacji o początkach współczesnego państwa sąsiedniego narodu. Stare koncepcje nie dają możliwości wychowywania w duchu wzajemnego szacunku wobec sąsiadów.

**Słowa kluczowe:** historia Białorusi, historia Polski, „koncepcja integracyjna", „koncepcja federacyjna", ruch narodowo-wyzwoleńczy narodu białoruskiego, traktat ryski, Zachodnia Białoruś.

**Andrej Procharau** - kierownik Katedry Historii Świata Starożytnego i Wieków Średnich Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku. Kandydat nauk historycznych. Specjalista w dziedzinie historii religii i mitologii porównawczej. Redaktor naukowy i członek zespołów autorskich przygotowujących podręczniki dla uniwersytetów i szkół średnich.

# О. Н. Левко, *Витебск*, Минск: Беларуская навука, 2010, 335 с.: ил. — (Серия: Древнейшие города Беларуси). Наклад 400 асобнікаў.

У напісанні рэцэнзіі альбо гістарыяграфічнага аналізу на навуковыя гістарычныя кнігі, на нашу думку, няма часовых абмежаванняў. Асабліва, калі кніга была надрукавана, на яе час ад часу робяць спасылкі спецыялісты, але навуковай з'явай яна не зрабілася, абмеркаванняў і дыскусій не выклікала. Вось адна з галоўных прычын, чаму мэтазгодна вяртацца да падобных кніг, бо яны нават з часам не пакідаюць чытача абыякавым — з пазітыўнага ці негатыўнага боку. У гэтай сітуацыі наладжваецца своеасаблівае абмеркаванне, каб зразумець сутнасць напісанага, прыняць яе альбо адкінуць.

У 2010 годзе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі была заснавана серыя „Древнейшие города Беларуси". Гэта вельмі добрая ініцыятыва, бо айчынная археалогія сярэднявечнага горада мае амаль стагадовую традыцыю[1], а яе дасягненні вядомы і выкарыстоўваюцца далёка па-за межамі краіны. Рэдакцыйная калегія новай серыі ў той час складалася з васьмі асоб: галоўны навуковы рэдактар Аляксандр Каваленя і сямі вядомых беларускіх археолагаў — Вольгі Ляўко (намесніка галоўнага рэдактара), Эдуарда Загарульскага, Пятра Лысенкі, Алега Макушнікава, Ігара Марзалюка, Аляксандра Мядзведзева і памерлага ў сакавіку 2018 года Георгія Штыхава. На сённяшні дзень надрукаваны тры кнігі новай серыі, прысвечаныя Віцебску (2010), Полацку (2012) і Друцку (2014). А далей, як гаворыцца — цішыня...

Адразу паўстае пытанне тэрміналагічнага характару. Усе этымалагічныя слоўнікі рускай мовы падаюць сэнс слова „древнейший" як «доисторический, сверхдревний, очень старый, имевший место очень давно», а па-беларуску яно гучыць „найстаражытнейшы, найстаражытны, самы старажытны". Магчыма распрацоўшчыкі серыі абралі існуючую назву натхніўшыся сумеснай навукова-папулярнай брашурай Георгія Штыхава і Пятра Лысенкі „Древнейшие города Белоруссии", выдадзенай у 1966 годзе і прысвечанай ранняй гісторыі Полацка, Віцебска, Мінска, Турава, Пінска, Гродна ў IX-XIII стст. А ў выдадзеных трох кнігах аднайменнай серыі, арганізаванай і прапанаванай Інстытутам гісторыі НАН Беларусі храналогія ахоплівае перыяд ад

[1] Гл.: Г. Семянчук, *Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX-XIII стст.)*, [у:] *Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зборнік навуковых артыкулаў*, Гродна 2009, с. 14-15.

VI да XVIII стст. Як мы бачым, акадэмічныя і ўніверсітэцкія навукоўцы (рэдкалегія серыі) прапануе нам новую храналогію гісторыі Беларусі — старажытнасць у нас цяпер ад племянной эпохі да канца падзелаў Рэчы Паспалітай, а гэта ў сваю чаргу вядзе да змены этымалогіі і семантыкі слова „старажытны”. Вось так адразу паправілі і сучасную гісторыю, і сучасную лінгвістыку. Падаецца больш правільна было б ужыць у назве серыі слова „древний, древние”, а па-беларуску — „старажытны, старадаўні, старажытныя, старадаўнія”. Нават калі заплюшчыць вочы на адно няправільна выкарыстанае слова ў назве серыі „Древнейшие города Беларуси”, галоўнай ідэяй павінна было быць прадстаўленне раннесярэднявечных і сярэднявечных перыядаў беларускіх гарадоў, прынамсі да мяжы XV-XVI стст., калі інфармацыя пісьмовых крыніц для большасці з іх вельмі абмежаваная, а значную ролю набываюць археалагічныя крыніцы.

Агульна прынята, што археалагічныя крыніцы пры выкарыстоўванні адпаведных метадалогій перастаюць быць дапаможнымі для гістарычных канструкцый, больш таго яны становяцца дамінуючымі для пэўных храналагічных перыядаў. Па прычыне малалікасці пісьмовых крыніц і фрагментарнасці іх інфармацыі праблема пачаткаў і першых перыядаў існавання большасці раннесярэднявечных гарадоў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы аддадзена на водкуп пераважна археолагам. Гэта справядліва. Райнгард Венскус у свой час вызначыў некалькі пунктаў, у якіх археалогія здольная прыносіць значную карысць гісторыку (у першую чаргу медыевісту)[2]:

1. Археалогія можа спрычыніцца да канкрэтызацыі пэўных агульных („абстрактных”) паняццяў, якімі карыстаецца гісторык, напрыклад, „горад”, „арыстакратыя”, і даць уяўленне аб велічыні дадзенай з’явы.

2. Можа пацвердзіць альбо адмовіць некаторыя даныя пісьмовых крыніц, а таксама выклікаць неабходнасць розных іх інтэрпрэтацый.

3. Можа спрыяць вырашэнню некаторых спрэчных пытанняў, якія, напрыклад, датычацца лакалізацыі здарэнняў і населеных пунктаў.

4. Нарэшце, можа здабываць інфармацыю аб справах абсалютна невядомых пісьмовым крыніцам.

[2] R.Wenskus, *Randbemerkungen zum Verhaltnis von Historie und Archaologie, insbesondere mittelalterlicher Geschichte und Mittelalterarcaologie,* [у:] *Geschichtswissenschaft und Archaologie. Untersuchungen zur Siedlungs-, Wirtschafts- und Kirchengeschichte,* „Vorträge und Forschungen”, Sigmaringen 1979, Bd. 22, s. 637-657.

Праўда, спадзяванні на магчымасці археалагічнай навукі павінны быць стрыманымі. Залежыць гэта ад спецыфічнасці археалагічных крыніц і метадаў, а таксама вялікай інтэрпрэтацыйнай суб'ектыўнасці выяўленага матэрыялу. Археалагічная аргументацыя не адказвае на фундаментальныя пытанні ўрбаністыкі — прычыны ўзнікнення гарадоў, этапы жыццядзейнасці і іх функцыянальнае прызначэнне.

Археалагічнае вывучэнне сярэднявечных гарадоў Беларусі прынесла значную колькасць навуковай інфармацыі, на падставе якой былі пастаўлены і вырашаліся шматлікія праблемы гарадской гісторыі. У першую чаргу, гэта пытанні археалагічнага пацвярджэння канкрэтнага размяшчэння гарадскіх паселішчаў, вядомых з летапісаў, і пошук шляхоў іх узнікнення. Вызначалася тапаграфічная структура і характарызаваліся асобныя тапаграфічныя часткі гарадскога пункта, асобныя элементы абарончай сістэмы, культавай і свецкай архітэктуры, жылыя і гаспадарчыя будынкі. Праводзіліся рэканструкцыі сацыяльнага складу і галоўных заняткаў насельніцтва, узроўню яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, рэлігійных вераванняў, рэгіянальных і міжнародных кантактаў. Менавіта археалагічныя даследаванні дазволілі ў свой час адшукаць сляды раннесярэднявечных гарадоў у Дрысвятах (Браслаўскі раён)[3] і Давыд-Гарадку (Столінскі раён)[4], пра якія маўчаць летапісы і хронікі. Праўда, пры сапраўды вялікім даробку беларускіх археолагаў у вывучэнні сярэднявечных гарадоў застаецца пачуццё незавершанасці праекта: пытанняў застаецца больш чым адказаў, увогуле гэтая багатая мазаіка адасобленых кавалачкаў не складваецца ў прыгожы абраз. Галоўныя прычыны бачацца нам у падпарадкаванні беларускіх навукоўцаў толькі адной марксісцка-пазітывісцкай метадалогіі ў пытаннях сярэднявечнай гісторыі, выкарыстоўванні ў сваіх палявых і інтэрпрэтацыйных даследаваннях мадэляў савецкай гістарыяграфіі і археалогіі, распрацаваных у свой час у Маскве, Ленінградзе і Кіеве. Гэта прывяло да адсутнасці самастойнага беларускага дыскурсу гарадской праблематыкі сярэднявечнага перыяду. У падобным дыскурсе павінны быць улічаны фізіка-геаграфічны кантэкст, геапалітычныя працэсы, этнакультурная сітуацыя, вонкавыя ўплывы.

Першай кнігай у новай серыі з'явілася манаграфія доктара гістарычных навук, прафесара Вольгі Ляўко „Витебск". Праўда, лагічна было

[3] Г. Н. Семенчук, *Раннесредневековой археологический комплекс Дрисвяты*, „Lietuvos Archeologija", Vilnius 2001, t. 21, s. 299-310.
[4] R. Jakimowicz, *Dawidgródek*, Pińsk 1939.

б распачаць серыю з манаграфіі пра найстаражытнейшы беларускі горад — Полацк. Але гэта не прынцыпова. У дадзеным выпадку заўсёды з'яўляецца надзея на новы падыход да выдання археалагічнага матэрыялу, адпаведны сучаснаму ўзроўню ведаў і тэхнічным магчымасцям. Сёння таксама вельмі важна па-новаму чытаць і аналізаваць інфармацыю гістарычных крыніц. Натуральна, што першы твор кожнай навуковай серыі з'яўляецца ўзорам і арыенцірам для наступных. Звычайна ў іх прамалёўваецца структура, мэты, задачы, метадалагічныя і метадычныя патрабаванні. Паглядзім ці адпавядае кніга В. Ляўко адпаведнаму ўзроўню, узору і патрабаванням падобных выданняў і серый.

Рэцэнзаваная кніга складаецца з наступных частак: „История изучения средневекового Витебска"; раздзел 1: „Летопись древних слоев"; раздзел 2: „Территориально-административные функции, социально-топографическая и архитектурно-планировочная структура Витебска (IX-XVIII вв.)"; раздзел 3: „Ремесленная и торговая деятельность горожан"; а таксама двух дадаткаў. Першы — гэта складзены Вольгай Мядзьведзевай пералік археалагічных справаздач за 1963-2007 гг. па выніках даследавання Віцебска, якія захоўваюцца ў архіве археалагічных навуковых даследаванняў Інстытута гісторыі НАН Беларусі, другі — „Археалагічныя матэрыялы Віцебскага абласнога краязнаўчага музея", складзеная вядучым навуковым супрацоўнікам дадзенага музея Н. Ю. Шаркоўскай. Кніга В. Ляўко багата ілюстравана планамі, малюнкамі стратыграфіі культурных напластаванняў і археалагічных знаходак, а таксама каляровымі фотаздымкамі адзінкавых аб'ектаў архітэктуры і найбольш эсклюзіўных знаходак.

Ужо ў „Предисловии" да кнігі ананімны аўтар агучвае некалькі канцэптуальных тэзаў, з якімі цяжка пагадзіцца, бо яны гучаць як лозунг альбо догма: „Древнейшие города Восточной Европы во многом схожи между собой. Большинство из них выросло **на племенной основе** [вылучана мною — Г. С.]. (...) Восточнославянские традиции лежали в основе развития всех сфер жизни древних городов, несмотря на полиэтничный состав населения" (с. 8). Вось было б добра даведацца пра гэтыя „ўсходнеславянскія традыцыі"; „Благодаря тому, что в Витебске были выделены основные признаки городской материальной культуры XIV-XVIII вв., стала возможной постановка вопроса **о культурной преемственности данной эпохи с эпохой Киевской Руси, а также о ее связи с материальной культурой белорусов, известной по этнографическим данным XIX в**. [вылучана мною — Г. С.]" (с. 9)[5] — вось па пераемнасці і ўзнікаюць пытанні: калі скончы-

[5] Намі свядома цытаты з кнігі пакінуты ў арыгінальнай аўтарскай версіі мовы

лася Кіеўская Русь у XII ці XIII ст.; якую „матэрыяльную культуру беларусаў XIX ст." — гарадскую ці вясковую — меў на ўвазе той жа аўтар? Адзначым, нам будзе цікава прасачыць як аўтар кнігі Вольга Ляўко рэалізавала дадзеныя вельмі сур'ёзныя пастулаты.

Першая структурная частка кнігі В. Ляўко, прысвечаная гісторыі вывучэння сярэднявечнага Віцебска, не поўнасцю адпавядае сваёй назве. Па невядомых прычынах аўтар абмінула архітэктурна-археалагічныя даследаванні ў горадзе, якія праводзілі Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі, Ігар Цішкін, пры гэтым інфармацыя пра іхныя справаздачы змешчана ў Дадатку 1. Не знойдзе чытач таксама згадкі аб апошняй фундаментальнай працы Леаніда Васільевіча Аляксеева «Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры», выдадзенай у двух кнігах у 2006 г. Вядомы маскоўскі даследчык Полацкай і Смаленскай зямель у дадзенай кнізе Віцебску прысвяціў не адну старонку і выказаў шэраг вартых увагі думак па пытаннях тапаграфіі, архітэктуры і палітычнай гісторыі горада ад пачаткаў да канца XIII ст. Магчыма, ігнараванне даволі важнага даследавання для археалогіі і гісторыі Беларусі (і Віцебска ў прыватнасці) выклікана наступнымі словамі Л. Аляксеева: „Нельзя не пожалеть, что, по-видимому, по неосведомленности в вопросах научной этики, автор новых раскопок Друцка О.Н. Левко сочла допустимым не только приступить к раскопкам памятника (где исследования проводились мной по строгой, особой системе в течение девяти лет, и он находится в стадии публикации), не только не согласовав свои предполагаемые работы с моими, но даже просто меня об этом не известив. Подобные „партизанские наскоки", когда работы начинаются вновь вслепую, вводится двойная нумерация раскопов, слоев, находок, чертежи заранее не согласуются и вряд ли сводимы потом (не говорю о выводах), безмерно вредны для любого археологического объекта, тем более для такого выдающегося памятника, каким является древний белорусский Друцк!"[6].

Не палічыла патрэбным В. Ляўко ў гістарыяграфіі паведаміць чытачам пра існаванне манаграфіі Тацяны Бубенькі „Средневековой Витебск. Посад Нижний замок (X — первая половина XIV века)", выдадзенай у Віцебску ў 2004 г. (праўда, згадваецца яна ў „Заключэнні"). Таксама абмінула шэраг значных для археалогіі і гісторыі Віцебска

— рускай, каб часам паказваць стылістыку нарацыі, а таксама каб пазбегнуць абвінавачванняў у свой бок па прычыне недакладнасці цытавання.

[6] Л. В. Алексеев, *Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры*, в 2-х книгах, Москва 2006, кн. 1, с. 142, сноска 22.

артыкулаў Лявона Калядзінскага: „Летописный Витбеск: истоки и генезис”[7], „Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации Верхнего замка в Витебске”[8], „Віцебскі храм св. Міхаіла”[9]. Спіс замоўчаных навуковых прац, якія датычацца археалогіі і гісторыі Віцебска, можна працягваць. Такім чынам, акадэмічны навуковец паказвае нам прыклад (альбо новы прынцып) напісання гістарыяграфічных аналізаў. Падаецца толькі тое, што падабаецца, ігнаруецца дыскусійнае, за тое вылучаецца ўласнае. Колькасць пазіцый аўтарства В. Ляўко ў бібліяграфіі складае 42 назвы.

Абсалютна некарэктна і, нават неэтычна гучыць сказ на с. 18: „К новейшим публикациям документов по Витебску относится «Судебная книга витебского воеводы» за 1533-1540 гг., подготовленная (с научным комментарием) и изданная А. И. Грушей в серии документов Метрики ВКЛ”. Аднак кожны даследчык, які знаёмы з дадзенным выданнем 228 кнігі судовых спраў Літоўскай Метрыкі, ведае, што гэта супольны беларуска-расійскі праект у рэалізацыі якога ўдзельнічалі Георгі Галенчанка, Аляксандр Груша, Васіль Варонін з беларускага боку, і Гана Харашкевіч з Інай Старасцінай з расійскага. І выдадзена яна не ў Мінску, як падае ў спісе літаратуры В. Ляўко, а ў Маскве. Складаецца ўражанне, што праф. Вольга Ляўко не чытала гэтай кнігі, але палічыла неабходным згадаць у гістарыяграфічным раздзеле і занесці ў бібліяграфію. Пацвярджэннем нашай канстатацыі з'яўляецца факт, што ніводнага разу на яе не была зроблена спасылка ў тэксце кнігі.

Рэцэнзаваная кніга В. Ляўко мае тры „ўнікальныя рысы”. Разгледзім іх падрабязней. Першая рыса — гэта дакладная справаздача праведзеных археалагічных раскопак і назіранняў аўтара рэцэнзаванай кнігі ў розных месцах Віцебска за перыяд з 1976 па 2008 гг. Яе заслуга ў палявых даследаваннях старажытнага беларускага горада бясспрэчна і выклікае павагу. Аднак паўстае пытанне інтэрпрэтацыі выяўленых матэрыялаў і ўвядзенне іх у шырокае навуковае выкарыстоўванне. Атрымалася, што аўтар старанна пералічыла ўсе ўласныя раскопкі і назіранні за стратыграфіяй і магутнасцю культурных напластаванняў больш як за 30 гадоў (паўтаруся, традыцыйна праігна-

[7] Л. В. Колединский, *Летописный Витбеск: истоки и генезис*, [у:] *Города Верхней Руси. Истоки и становление*, Торопец 1990, с. 51-56.

[8] Л. В. Колединский, *Аксиомы, теоремы и софизмы в интерпретации Верхнего замка в Витебске*, [у:] *Castrum, urbis et bellum*, Барановичи 2002, с. 219-231.

[9] Л. У. Калядзінскі, *Віцебскі храм св. Міхаіла*, „Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук”, 1995, № 1, с. 59-66.

раваўшы інфармацыю пра археалагічную дзейнасць калег, нават калі яны даследавалі тыя ж самыя тапаграфічныя часткі горада), але пытанні храналогіі напластаванняў і іх распаўсюджанасці прадстаўлены на час напісання першай сваёй манаграфіі „Витебск XIV-XIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)" (Минск 1984). Такім чынам нагрувашчанне штораз большай колькасці археалагічнага матэрыялу зусім не перакладаецца на паляпшэнне ведаў аб мінулым Віцебска. Як прыклад, раздзел 1.3. „Микрохронология культурнага слоя XIV-XVIII вв". У ім разглядаюцца магчымасці датавання культурных напластаванняў на падставе адносных датыровак знойдзенай кафлі і іншых керамічных вырабаў. Пры гэтым існуе датаванне культурных напластаванняў (прынамсі Верхняга замка) на падставе дэндрахраналагічных даных зробленых у свой час Наталляй Барысаўнай Чарных з Інстытута археалогіі РАН па ініцыятыве Леаніда Калядзінскага[10]. Дарэчы, пра гэта В. Ляўко згадвае, але не выкарыстоўвае (с. 16).

Абсалютна незразумелыя матывы аўтара адносна передрукавання ў кнізе 2010 г. дзвюх табліц з манаграфіі 1984 года — № 1: „Сводная характеристика протяженности и глубины археологических и геологических разрезов в исторической зоне Витебска (по данным 1964-1982 гг.)" і № 2: „Сводная характеристика стратиграфии культурных напластований Витебска XIV–XVIII вв.". Пры гэтым даследчыкамі пазначаны толькі Георгі Штыхаў і Вольга Ляўко, а вынікі раскопак Міхаіла Ткачова і Леаніда Калядзінскага на Верхнім замку, а таксама Тацяны Бубенькі на Ніжнім замку Віцебска не выкарыстаны. А гэта значыць, што вынікі археалагічных даследаванняў з 1983 па 2009 гг. у Віцебску надалей застаюцца пакуль у справаздачах і захоўваюцца ў архівах, а аўтар рэцэнзаванай манаграфіі Вольга Ляўко не знайшла час (альбо не палічыла патрэбным) прааналізаваць іх і прадставіць чытачам.

Таму сёння спецыялістам складана даведацца пра актуальную схему стратыграфіі і храналогіі культурных напластаванняў горада. Тым больш, што малюнкі звязаныя са стратыграфіяй і тапаграфія бессаромна і без удакладненняў перанесены ў кнігу 2010 года з усё той жа манаграфіі В. Ляўко з 1984 года. Без усялякіх дапаўненняў і змянен-

[10] Інфармацый пра дэндрахраналагічныя даты са спілаў драўляных канструкцый Верхняга замка Віцебска з намі падзяліўся паважаны спадар Леанід Калядзінскі, за што яму шчырае дзякуй. У хуткім часе вынікі дэндрадаследаванняў будуць даступны спецыялістам і чытачам ў новай манаграфіі Л. Калядзінскага *Верхний замок Витебска в IX-XVIII вв.*

няў, якія б улічвалі вынікі археалагічных даследаванняў Віцебска за час пасля манаграфіі Вольгі Ляўко з 80-х гадоў мінулага стагоддзя, перадрукаваны ў рэцэнзаванай манаграфіі 2010 года малюнак 4 на стар. 119 „Распределение мощности культурного слоя в исторической зоне Витебска". Таксама відавочным падманам з'яўляюцца подпісы пад некаторымі малюнкамі ў рэцэнзаванай кнізе. Напрыклад, мал. 1 на старонцы 117 кнігі 2010 г. падпісаны „Укрепленные части Витебска XVII в. и зоны археологических исследований 1964-2004 гг.", а на самой справе гэта дакладны малюнак 19.2 на старонцы 31 кнігі 1984 г., у якой ён падпісаны „Зоны археологических раскопок и наблюдений".

Нарэшце яшчэ адно важнае пытанне: а якая агульная плошча вывучаная стацыянарнымі даследаваннямі (раскопы і шурфы) і археалагічнымі назіраннямі за культурнымі напластаваннямі ў Віцебску за час ад 1963 да 2008 г.? Бо са слоў напісаных Вольгай Ляўко нешта зразумець даволі складана: „Общая площадь стационарных раскопок, проведенных на территории Витебска с 1963 по 2008 г., составляет более 15 000 м$^2$. И только за последние 10 лет археологическими наблюдениями и шурфовкой охвачена примерно такая же площадь" (с. 17).

Другая рыса, найбольш шакуючая. Часткова першы і поўнасцю другі і трэці раздзелы кнігі 2010 года „Віцебск" гэта дакладны перанос папярэдніх тэкстаў Вольгі Ляўко з манаграфій „Витебск XIV-XIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)" (Минск, 1984), „Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии" (Минск, 1992), „Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие" (Минск, 2004) і навуковых брашур „Витебские изразцы XIV-XVIII вв." (Минск 1981), „Торговые связи Витебска в X-XVIII вв." (Минск 1989). Пры гэтым навацыяй аўтара Вольгі Ляўко з'яўляецца „шулерскае" перамешванне папярэдніх тэкстаў паміж сабою і адпаведна прапанаванаму зместу рэцэнзаванай манаграфіі. Дзеля ашчаднасці тэксту рэцэнзіі на іншыя важныя заўвагі праілюструем нашы назіранні дзвюма табліцамі.

**Табліца 1.**

**Параўнанне тэксту манаграфіі Вольгі Ляўко „Віцебск” (Мінск, 2010) з яе манаграфіяй „Витебск XIV-XIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)” (Минск, 1984)**

| Ляўко, 2010 | Ляўко, 1984 |
|---|---|
| С. 21-32. Уступны абзац да раздзела 1: „Общие стратиграфические данные (археологические исследования 1964-1982 гг.)”; падраздзел 1.1: „Характеристика культурного слоя и древний рельеф”. | С. 30-42. Толькі ў арыгінале падраздзел называецца: „Стратиграфические данные” |
| С. 32-41. Падраздзел 1.2: „Выделение вещественных комплексов XIV-XVIII вв.” | С. 42-56, 63-67. Толькі ў арыгінале падраздзел называецца: „Характеристика вещественных комплексов” |
| С. 41-47. Падраздзел 1.3: „Микрохронология культурного слоя XIV-XVIII вв.” | С. 67-72. |
| С. 177-181. Падраздзел 7.1: „Средневековые планы и „Сметные книги” как исторические источники”. | С. 73-74, 76-77. |
| С. 195-202. Падраздзел 7.6: „Материалы городской застройки”. | С. 20, 23-30. |
| С. 223-224. Падраздзел 9: „Виды и организация ремесла”. | С. 90-91. |
| С. 234-235. Падраздзел 10.1: „Железообработка”. | С. 92-94. |
| С. 236-240. Падраздзел 10.2: „Кожевенно-обувное ремесло”. | С. 97-101. |
| С. 237. Таблица 4. | С. 106. Таблица 8. |
| С. 241-243. Уступны абзац да раздзела 11: „Технология гончарного ремесла и разновидности бытовой керамики”, падраздзел 11.1: „Глиняная посуда и бытовые предметы”. | С. 94-95. |

**Табліца 2.**

**Параўнанне тэксту манаграфіі Вольгі Ляўко „Витебск” (Мінск, 2010) з яе манаграфіяй „Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие” (Минск, 2004)**

| Ляўко, 2010 | Ляўко, 2004 |
|---|---|
| С. 171. Другі абзац знізу. | С. 40. |
| С. 172. Другі абзац зверху. | С. 41. |
| С. 172-174. Падраздзел 6.2: „Витебск — волостной центр”. | С. 47-48; 50-51. |
| С. 174-176. Падраздзел 6.3 „Витебск — центр удельного княжества”. | С. 66-68; 83-84. |
| С. 181-183. Падраздзел 7.2: „Социально-топографическое и планировочное развитие замковой части города в XIV-XVII вв.” | С. 99; 102. |
| С. 183-186. Падраздзел 7.3: „Социально-топографическая и планировочная структура витебских слобод (посадов) в XIV-XVII вв.” | С. 100-102. |
| С. 203-207. Падраздзел 8.1: „Церковное землевладение”. | С. 146-149. |
| С. 208-209. Падраздзел 8.2: „Из истории Успенского кафедрального сабора”. | С. 154-156. |
| С. 209-210. Падраздзел 8.3: „Изучение Воскресенской церкви”. | С. 156. |
| С. 210-213. Падраздзел 8.4: „Святодуховский базилианский монастырь”. | С. 156-159. |
| С. 218-222. Падраздзел 8.6: „Археологические следы средневековых храмов и кладбищ”. | С. 172, 174-177, 178-179. |
| С. 224-226. Падраздзел „Ремесло в XII-XVI вв.” | С. 120-122. |

| | |
|---|---|
| С. 226-233. Падраздзел „Структура и организация ремесленной деятельности во второй половине XVI-XVIII вв.” | С. 123-131. |

Да вышэй прадстаўленага ў табліцах дададзім, што раздзел 11 „Технология гончарного ремесла и разновидности бытовой керамики” (с. 241-251) гэта часткова перанесены тэкст з манаграфіі Вольгі Ляўко „Витебск XIV-XIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)” (Минск, 1984)” і дапоўнены з яе манаграфіі „Средневековое гончарство северо-восточной Белоруссии” (Минск, 1992). А раздзел 12 „Изразцы XIV — начала XIX вв.” (с. 252-266) гэта дакладна перапісаны тэкст, натуральна з нязначнымі скарачэннямі, невялічкай кнігі Вольгі Ляўко „Витебские изразцы XIV-XVIII вв.” (Минск, 1981). Нашы назіранні яскрава пацвярджаюць спасылкі на працы спецыялістаў. У тэксце кнігі з 2010 года „Витебск” вы не сустрэнеце ніводнай бібліяграфічнай пазіцыі пазней за 60-70-я гады мінулага стагоддзя, часу, калі збіраўся матэрыял і пісалася кніга В. Ляўко пра віцебскую кафлю. Раздзел 13 „Витебск — центр торговли в Подвинском регионе” (с. 267-280) уяўляе сабою дакладны тэкст у скарочаным выглядзе чарговай ранейшай невялічкай кнігі Вольгі Ляўко „Торговые связи Витебска в X-XVIII вв.” (Минск, 1989).

Будзем справядлівымі і адзначым, што зрэдку В. Ляўко ўносіла змены ў папярэднія тэксты. Але часцей за ўсё атрымлівалася яшчэ большая блытаніна. На стар. 172 абзац „Анализируя деятельность киевской княгини Ольги, направленную на дальнейшее упрочнение государственной власти...” паўтарае тэкст з манаграфіі 2004 г. (с. 47). Толькі розніца ў тым, што ў 2004 г. дадзеная думка скончваецца спасылкай на расейскага навукоўца Уладзіміра Канецкага[11], а ў 2010 г. спасылка адсутнічае. Падобны прыём В. Ляўко паўтараецца неаднойчы ў манаграфіі 2010 г. На стар. 185-186, як мы паказалі ў табліцы 2, перадрукаваны тэкст з манаграфіі 2004 г. з невялічкімі стылістычнымі зменамі, якія не паўплывалі на сутнасць. Аднак Ляўко ў дадзеным выпадку дазволіла сабе і радыкальныя змены адносна тэксту 2004 г. У рэцэнзаванай кнізе раптам знікае інфармацыя аб выяўленні

[11] В. Я. Конецкий, *Социальная организация населения Приильменья и формирование коренной территории Новгородской земли в конце I тыс. н.э.*, [у:] *Новгород и Новгородская земля. История и археология*, Новгород 1995, вып. 9, с. 39.

ў 1999 г. віцебскім археолагам Ігарам Цішкіным рэшткаў Срэценскай царквы, пабудаванай на мяжы XVI-XVII стст. на тэрыторыі Задзвінскай слабады[12] (Левко, 2004, с. 101-102). Чым выклікана падобная змена ў тэксце навукова не абгрунтоўваецца.

На стар. 203-204 паўтараецца тэкст з манаграфіі 2004 г., з невялікай зменай, але з-за яе атрымліваецца зусім іншы тэкст. „По данным хозяйственных ревизий, в Витебске в середине XVI в. было семь православных церквей, а всего с конца XIII в. до середины XVI в. в Витебском повете основано четыре православных монастыря, **принадлежавших мелким землевладельцам** (вылучана — Г. С.)" (Левко, 2010, с. 203). „По данным хозяйственных ревизий, в Витебске в середине XVI в. было семь православных церквей, а всего с конца XIII в. до середины XVI в. в Витебском повете основано четыре православных монастыря, **относящихся к разряду мелких землевладельцов** (вылучана — Г. С.)" (Левко, 2004. с. 146). Пры гэтым у абодвух кнігах спасылка на тую самую крыніцу — „Нарысы па гісторыі Беларусі. У 2-х частках" (Мінск 1994, ч. 1, с. 167). І зноў звычайны чытач не зразумее, якая версія больш адпавядае праўдзе.

Трэцяя рыса рэцэнзаванай манаграфіі Вольгі Ляўко — гэта мова і афармленне. Мова нарацыі Вольгі Ляўко нейкая неахайная і сумбурная, часта нелагічная, думкі не даведзены да канца, што ўскладняе чытачу зразумець напісанае. Стар. 206 — „В Историко-юридических материалах содержатся сведения о широком предоставлении монахами-базилианами ссуд под залог имущества жителям Витебского воеводства и других территорий ВКЛ". Я напрыклад ведаю, што ИЮМ гэта шматтомнае выданне каштоўнейшых дакументаў XVI-XVIII стст. па гісторыі Усходняй Беларусі, а не дасведчаны даследчык? Здаецца па правілах расійскай і беларускай мовы назвы выданняў павінны брацца ў двукоссе.

У мове кнігі В. Ляўко вялікая колькасць ідэалагічных штампаў і рыторыкі даўняй савецкай эпохі. Напрыклад: „Подчиняясь папе римскому, но сохраняя внешне обрядность восточной греческой церкви, униатские проповедники стремились привлечь в новое церковное русло как можно больше верующих, главным образом, из низших слоев населения. Им противостояли православные братства, организации, включавшие разные социальные слои, объедененные идеей общего духовного и культурного наследия с выраженной националь-

[12] І. Цішкін, *Невядомы помнік беларускага ренесансу*, [у:] *Castrum, urbis et bellum*, Барановичи 2002, с. 391-396.

ной окраской" (с. 207). Чытач, не губляй час, пра Віцебскае праваслаўнае брацтва на старонках кнігі В. Ляўко няма ніводнага слова. З ідэяй „общего духовного и культурного наследия" ўсё зразумела — гэта праваслаўе, а вось з „выраженной национальной окраской" — гэта ўжо „вышэйшая матэматыка".

Таксама высвятляецца, што ў паўставанні і арганізацыі рэфарматарскай суполкі ў Віцебску ў 1560-я гады, на думку В. Ляўко, галоўную ролю адыграла дзейнасць маскоўскіх уцекачоў — манахаў Феадосія Касога, Арцемія і Фамы (с. 204). Для саліднасці яна спасылаецца на манаграфію Георгія Галенчанкі „Идейные и культурные связи восточно-славянских народов в XVI — середине XVII в." (Минск, 1989), але змяняе сэнс аўтарскага тэксту. Праўда вышэй і ніжэй дадзенага фрагмента, аўтарка піша пра „феадальную знать", „феодалов-реформаторов" як „праваднікоў" кальвінізму і ідэй рэфармацыі. А сярод фундатараў кальвінскага храма і школы ў Віцебску называе прадстаўнікоў роду Друцкіх-Сакалінскіх, Яна Храпавіцкага і, нават, безыменных „віцебскіх мяшчан".

Асобна ёсць жаданне сказаць пра бібліяграфію, змешчаную ў канцы кнігі і названую аўтарам „Литература". Калі тэксты беларускіх даследчыкаў, якія займаліся вывучэннем Віцебска (Леаніда Калядзінскага, Тацяны Бубенькі і ўласна аўтара рэцэнзаванай кнігі) улічаны амаль поўнасцю, а для параўнальнага аналізу археалагічнага матэрыялу зрэдку выкарыстоўваюцца адзінкавыя працы беларускіх даследчыкаў канца XX — пачатку XXI стст., дык з тэкстамі расійскіх, польскіх, літоўскіх альбо заходнееўрапейскіх навукоўцаў атрымліваецца незразумелая і дзіўная сітуацыя. Яны храналагічна абмежаваны канцом 70-х — пачаткам 80-х гадоў XX ст., карацей кажучы, часам выдання Вольгай Ляўко ў 1984 г. сваёй першай манаграфіі „Витебск XIV-XVIII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства)". У бібліяграфіі таксама не атрымалася без прыкрых памылак. Напрыклад, зборнік дакументаў „Акты Литовско-Русского государства (1390-1529)", якія былі сабраныя, апрацаваныя і падрыхтаваныя да друку Мітрафанам Доўнар-Запольскім, у спісе літаратуры Ляўко яго імя стаіць на першым месцы нібы аўтар навуковай працы. Вельмі таямнічай выглядае ў спісе літаратуры пазіцыя „НАРБ. — ф. 2617, оп. 1, д. 6, л. 1; ф. 3258, оп. 1, д. 2, л. 1-6; д. 14, л. 1-3". Са спіса скарачэнняў мы даведваемся, што гаворка вядзецца пра Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь. Толькі справа ў тым, што даведнік „Фонды Национального архива Республики Беларусь. Краткий справочник" (Минск, 2012) пералічвае і апісвае толькі 1488 фондаў. Калі думаць, што атрымалася тэхнічная памыл-

ка і гаворка вядзецца пра Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, тады высвятляецца, што фонд 2617 называецца „Тадулінскі Успенскі жаночы манастыр у мястэчку Янавічы Віцебскага ўезда", а фонд 3258 называецца „Любамірскія", якія былі князямі і ўладальнікамі Дубровенскага і Любашэўскага графстваў на тэрыторыі Магілёўскай губерні[13].

Кніга Вольгі Ляўко не вычытаная ні карэктарамі, ні рэцэнзентамі і, магчыма, уласна аўтарам. На яе старонках сустракаюцца шматлікія стылістычныя, арфаграфічныя і факталагічныя памылкі. Некалькі прыкладаў: стар. 12: „В публикации «Гончарные терракоты Витебска» (тэкст Н. Я. Нікіфароўскага з 1899 г. — Г. С.) ученный приводит сравнительный анализ витебской керамики, полученной при раскопках Замковой горы в 1895-1986 гг., с керамикой из раскопок Киева"; стар. 15: „В архиве Ленинградского отделения Института археологии АН СССР Л. В. Алексеев обнаружил «Дело о срытии Замковой горы в Витебске»..." — заўважым, што дадзенае аддзяленне ўжо больш за 20 год называецца Інстытут гісторыі матэрыяльнай культуры РАН.

Наколькі мне вядома эксперты ВАКа даволі часта звяртаюць увагу на падобныя „грахі" (афармленне навуковага тэксту адпаведна „патрабаванням ВАК") суіскальнікаў на навуковыя ступені і зніжаюць вартасць дысертацый. Як раз пад час напісання і друкавання рэцэнзаванай манаграфіі В. Ляўко з'яўлялася экспертам ВАКа. Таксама заўсёды зніжаецца адзнака студэнтам за неахайна аформленыя дыпломныя працы. А як вядома В. Ляўко ў час напісання дадзенай манаграфіі з'яўлялася прафесарам кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова (кіраўніком кафедры быў тады доктар гістарычных навук Ігар Марзалюк, дарэчы адзін з рэцэнзентаў дадзенай манаграфіі). Вось такі ўзор навуковай этыкі.

Такім чынам, Інстытут гісторыі НАН Беларусі прапанаваў нам чарговы прадукт вельмі нізкай якасці і сумніўнай вартасці, даруйце, „новы тып і від навуковага даследавання". Калі бяруцца папярэднія тэксты, трошачкі падпраўляюцца стылістычна, перамешваюцца, каб не кідалася ў вочы, і калі ласка — кніга гатовая. Вось такая яна сучасная акадэмічная гістарычная навука, а дзяржава наіўна верыць у рапарты і лозунгі ды шчодра фінансуе нізкаякасны прадукт. Няхай і надалей Вольга Ляўко займае самыя ганаровыя месцы ў самых га-

[13] *Фонды Национального исторического архива Беларуси: справочник*, Минск 2006, с. 193, 204.

наровых прэзідыумах розных канферэнцый, уваходзіць у розныя камітэты і камісіі, толькі сутнасці гэта не зменіць — кнігі, падобныя на „Витебск”, гэта ганьба беларускай навуцы.

Віцебск сапраўды з’яўляецца адным са старажытнейшых гарадоў Беларусі, які мае багацейшую гісторыю. З другога боку — гэта адзіны горад, дзе так маштабна праведзены археалагічныя даследаванні і атрыманы велізарны факталагічны матэрыял. Да гэтага трэба дадаць нядрэнную, у параўнанні з іншымі гарадамі Беларусі, нараты ўную і актавую крыніцазнаўчаю базу (друкаваную і архіўную) і значную колькасць навуковых манаграфій і артыкулаў. Усё гэта дазваляе адзначыць даследаваныя і вызначыць нявывучаныя старонкі гісторыі гэтага горада.

Дык чаго няма ў кнізе В. Ляўко „Витебск”?

1. Грунтоўнага гістарыяграфічнага і крыніцазнаўчага аналізу з улікам кантэкстаў паўставання як крыніц, так і навуковых прац. Не прапанаваны тэарэтычна-метадалагічныя падставы і накірункі даследавання.
2. Не высветлены генезіс і пачатковая гісторыя горада. Дзеля гэтага патрэбны грунтоўныя дэндрахраналагічныя даследаванні. Па-за ўласна археалагічнымі пытаннямі, нявывучанымі застаюцца кантэкст і працэсы, якія спрыялі паўставанню горада.
3. Пры зразумелай тапаграфіі першапачатковага, сярэднявечнага і сучаснага Віцебска, адсутнічае ясная стратыграфія культурных напластаванняў. Выглядае на тое, што раскапана сапраўды шмат, а выразнай стратыграфіі і храналогіі няма.
4. Пасля грунтоўнай манаграфіі Максіма Макарава грунтоўна асвятліліся старонкі набыцця і прававога функцыянавання гарадскога самакіравання Віцебска. Аднак як змянілася сацыятапаграфія горада ў гэтым кантэксце — пытанне. Надалей чакаюць свайго даследчыка гісторыя магдэбургскіх інстытуцый Віцебска і іх узаемадзеянні з дзяржаўнай/княжацкая/каралеўскай уладай.
5. Ёсць багацейшыя калекцыі археалагічных матэрыялаў, атрыманых за больш чым сто гадоў раскопак, але няма яго асэнсавання і канчатковых тыпалогій і храналогій на сучасным метадалагічным і тэхнічным узроўні. Гэта ўскладняе напісанне тэкстаў па гісторыі матэрыяльнай, духоўнай, мастацкай, сацыяльнай, вайсковай культур і штодзённага жыцця насельніцтва Віцебска.
6. Далейшага вывучэння патрабуюць фартыфікацыйныя сістэмы горада, грамадзянскае і культавае будаўніцтва, традыцыі і навацыі ў гэтай галіне.

7. Далёка да вырашэння праблем рамесніцкай і гандлёвай дзейнасці віцяблян ад пачатковых этапаў горада да ўваходу яго ў склад Расейскай імперыі.
8. Маючы багаты крыніцазнаўчы матэрыял па рэлігійных, этнічных і сацыяльных характарыстыках насельніцтва Віцебска, а пры гэтым не раскрыты механізмы функцыянавання шматнацыянальнага і шматканфесійнага гарадскога соцыуму.

Такім чынам кніга Вольгі Ляўко „Витебск”, першая ў серыі „Древнейшие города Беларуси” не ўнесла нічога новага ў айчынную навуку. Можна толькі пашкадаваць пра змарнаваныя магчымасці як навуковыя, так і фінансавыя. Адзін з прыгажэйшых гарадоў Беларусі з найбагацейшай гісторыяй і культурай надалей застаецца на ўзбочыне сучасных навуковых канструкцый і інтэрпрэтацый. У свой час вядомы расійскі медыявіст еўрапейскага маштабу Арон Гурэвіч напісаў: „Наступает момент, когда ученый останавливается в своем духовном росте, в своем научном развитии, уже не сможет создавать новые вещи, но не всегда ясно осознает, что сказанное, написанное им несколько десятилетий тому назад уже устарело и к нему необходимо относиться критически...”[14].

І апошняя заўвага — ці варта пісаць аб кнігах дрэнных, бессаромна графаманскіх і квазінавуковых? Пасля прачытання кнігі Вольгі Ляўко „Витебск” пераконваешся, што варта. Рэагуючы на падобныя вырабы сучаснай беларускай акадэмічнай гістарыяграфіі можна высветліць бязвартаснасць часткі „навуковай флоры” Інстытута гісторыі НАН Беларусі, якую шчодра матэрыяльна і ідэалагічна падкормлівае дзяржаўная ўлада. З другога боку, нагадваючы сталым і маладым даследчыкам пра падобныя манаграфіі, магчыма атрымаецца кагосьці аберагчы ад псеўданавуковасці.

**Генадзь Семянчук**
**(вёска Прывалкі,**
**Гродзенскі раён)**

[14] А. Гуревич, *История историка*, Москва 2004, с. 30.

# Николай Мезга, *Советско-польские отношения 1921-1926 годов: новый этап противостояния*, Гомель 2019, 229 с.

У 2019 годзе выйшла манаграфія прафесара Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны Мікалая Мікалаевіча Мязгі. У адрозненне ад яго папярэдняй працы[1] яна прысвечана разгляду савецка-польскіх адносін у 1921-1926 гадах у больш шырокім гістарычным кантэксце. Ва ўводзінах аўтар адзначае, што гісторыя двухбаковых узаемадачыненняў у міжваенны перыяд актыўна выкарыстоўваецца кіруючымі коламі як Польшчы, так і постсавецкіх краін у сваёй дзяржаўнай гістарычнай палітыцы з мэтай падвядзення гістарычнага фундамента пад знешнюю палітыку, якую яны праводзяць на сучасным этапе (с. 4). У гэтай сувязі сваю задачу ён бачыць у аб'ектыўным адлюстраванні двухбаковых адносін. Што не менш важна, у даследаванні робіцца спроба даць ацэнку зместу савецка-польскіх адносін з пункту гледжання беларускіх нацыянальных інтарэсаў і выявіць ролю беларускага фактару ў гэтых адносінах (с. 4).

Храналагічныя межы даследавання ахопліваюць перыяд ад заключэння Рыжскай мірнай дамовы і да вясны 1926 года, калі пасля дзяржаўнага перавароту адбыліся змены ў знешняй палітыцы Польскай Рэспублікі.

Пры напісанні манаграфіі М. М. Мязга выбраў праблемна-храналагічны падыход і прадставіў савецка-польскія адносіны ў 1921-1926 гадах у шасці главах: „Савецка-польскія адносіны ад Рыгі да Генуі", „Савецка-германскія ціскі і Польшча (1922)", „Ваганні ў адносінах паміж Масквой і Варшавай ва ўмовах Рурскага крызісу", „1924 год: змены ў міжнароднай сітуацыі і новыя тэндэнцыі ў савецка-польскіх адносінах", „Еўропа напярэдадні Лакарна і нерэалізаваныя магчымасці нармалізацыі савецка-польскіх адносін", „Лакарна і аднаўленне савецка-польскіх перамоў".

Даследчык комплексна падыходзіць да разгляду савецка-польскіх адносін. Гэта праяўляецца ў спробах паглядзець на іх праз прызму савецка-германскіх адносін і стаўлення СССР і Германіі да Версальскай сістэмы (на думку М. М. Мязгі, больш правільна для Цэнтральнай Еўропы называць яе Версальска-Рыжская сістэма), уплыву ўнутраных фактараў, перш за ўсё палітычнай барацьбы.

[1] Н. Н. Мезга, *В тисках Рапалло: германский фактор в польско-советских отношениях 1921-1926 годов: монография*, Гомель 2010, 195 с.

Аўтар звяртае ўвагу на тое, што пасля заключэння Рыжскай мірнай дамовы для Польшчы і Савецкай Расіі склаліся новыя геапалітычныя ўмовы. Тым не менш у кожнай краіне не выключалі новых ваенных сутыкненняў, што ўплывала на іх узаемаўспрыманне. Акрамя гэтага, дамова 1921 года стварыла перадумовы для збліжэння Савецкай Расіі з Германіяй. Прычым яго асновай было не столькі адмоўнае стаўленне да Польшчы, колькі непрыняцце Версальскай сістэмы ўрадамі абедзвюх краін. Аўтар упэўнены, што прыярытэт германскага напрамку ў знешняй палітыцы Савецкай Расіі, а потым СССР, аказваў істотны ўплыў на стаўленне да Польшчы[2].

У працы адзначаецца, што польскія палітыкі ўсведамлялі небяспеку з захаду і ўсходу, а таму жадалі ўмацаваць свае пазіцыі ў цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне і адыгрываць у ім ролю лідара. Аднак тэрытарыяльныя супярэчнасці з суседзямі, перш за ўсё з Літвой, не дазвалялі дасягнуць мэты і адначасова давалі „козыры" ў рукі Масквы. На думку Мязгі менавіта гэтымі амбіцыямі Варшавы можна патлумачыць імкненне дабіцца міжнароднага прызнання ўсходняй мяжы, пашырыць уплыў на Віленшчыну і далей на прыбалтыйскія краіны, па магчымасці змяніць на сваю карысць межы на захадзе. Па гэтай жа прычыне Польшча была максімальна зацікаўлена ў існаванні Версальскай сістэмы і падтрымлівала жаданне Францыі аслабіць Германію. Аднак такая пазіцыя Варшавы супярэчыла планам Масквы і Берліна і давала ім падмурак для арганізацыі супрацоўніцтва.

Аўтар адзначае, што на працягу разгляданага перыяду савецка-польскія адносіны былі няроўнымі. У іх пераважалі негатыўныя моманты. Толькі пасля 1924 года ўзаемадачыненні дзвюх дзяржаў пачалі мяняцца ў лепшы бок. Мязга лічыць, што ўскоснай прычынай гэтага стала пагаршэнне савецка-германскіх адносін. Ужо ў канцы 1925 года савецкі і польскі бакі пачалі перамовы аб заключэнні дамовы аб ненападзе, якая так і не была падпісана. Аўтар прыходзіць да высновы, што савецкая палітыка ў дачыненні Польшчы ў значнай ступені будавалася на імкненні да рэваншу і перагляду Рыжскай мірнай дамовы. Больш таго, розныя падыходы да выканання яе ўмоў прыводзілі да захавання напружанасці ў савецка-польскіх адносінах (с. 216). Нават калі кіраўніцтва краін і заяўляла аб неабходнасці паляпшэння двухбаковых кантактаў, за гэтым у першую чаргу хавалася жаданне дасягнуць

[2] Уяўляецца, што для аўтара была б цікава публікацыя Ю. Кантар і М. Воласа, *Треугольник Москва — Варшава — Берлин. Очерки истории советско-польско-германских отношений в 1918-1939 гг.*, Санкт-Петербург 2011, дзе сярод іншага прысутнічаюць даныя нямецкіх архіваў.

поспехаў на іншых „франтах” знешняй палітыкі. Такім чынам СССР аказваў ціск на пазіцыю Германіі, а Польшча — заходніх краін.

Шмат увагі ў манаграфіі надаецца адлюстраванню барацьбы за рэалізацыю ўмоў Рыжскай мірнай дамовы. Аўтар імкнецца ўлічыць розныя фактары, якія прама ці ўскосна ўплывалі на двухбаковыя адносіны ў гэтым пытанні. Ён падрабязна спыняецца на разглядзе праблемы выканання матэрыяльных абавязацельстваў, пытанні абмену дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі, высвятленні ўплыву ўнутранай барацьбы ў Расіі/СССР і Польшчы, дзейнасці антысавецкіх і антыпольскіх фарміраванняў, працы Змешанай пагранічнай камісіі, статусе нацыянальных меншасцей і адпаведна нацыянальнай палітыцы абедзвюх дзяржаў, дзейнасці ўрада і Рады БНР і інш.

Сярод сродкаў савецкага ўплыву на польскі бок даследчык называе дзейнасць партызанскага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, які фактычна быў арганізаваны і падтрымліваўся СССР, а таксама выкарыстанне нацыянальных меншасцей. Апошнія разглядаліся кіраўніцтвам СССР як „інструмент аслаблення пазіцый Польшчы (...) і стварэнне перадумоў для іх [Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны] уключэння ў склад савецкіх рэспублік” (с. 74). Пры гэтым у працы адзначаецца дрэннае стаўленне польскіх улад да беларусаў, на што, дарэчы, звяртаюць увагу і сучасныя польскія даследчыкі. Аўтар часткова пагаджаецца з існаваўшым у міжваенны перыяд у палітычных колах Польшчы меркаваннем, што беларускае пытанне было вынікам знешняга камуністычнага ўплыву, а не самастойнай нацыянальнай праблемай. Аднак справядліва зазначае, што польскія ўлады сваёй палітыкай стварылі ўмовы для росту незадаволенасці мясцовага насельніцтва і развіцця беларускага нацыянальнага руху (с. 107).

Як вядома, у міжваенны перыяд адным з напружаных момантаў у двухбаковых адносінах было пытанне аб становішчы палякаў у БССР і УССР ды беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы. Мязга лічыць, што праблема нацыянальных меншасцей была звязана з барацьбой паміж СССР і Польшчай за Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Прааналізаваўшы дакументы і матэрыялы, ён прыходзіць да высновы, што ў разгляданы перыяд для савецкага кіраўніцтва яно не мела самастойнага значэння і трактавалася хутчэй як інструмент аслаблення пазіцый Польшчы ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе і сродак ціску на яе (с. 154). У сваю чаргу для польскага істэблішменту фактар тэрытарыяльнага і нацыянальнага адзінства краіны быў ключавым у прэтэнзіях на ролю рэгіянальнага лідара, а існаванне „крэсаў усходніх” разглядалася ў якасці паласы бяспекі на ўсходзе. З гэтай прычыны была выбрана палітыка нацыянальнай асіміляцыі меншасцей.

У кантэксце савецка-польскіх адносін М. М. Мязга закранае і пытанне аб вяртанні ў склад БССР усходніх беларускіх тэрыторый, якія ў 1919 годзе былі далучаны да РСФСР. Ён зазначае, што савецкае кіраўніцтва імкнулася прыдаць гэтай акцыі міжнародны рэзананс, асабліва ў Польшчы, і прызнае, што сапраўды ўзбуйненнем БССР змагло заваяваць сімпатыі насельніцтва Заходняй Беларусі і заходнебеларускага нацыянальнага руху (с. 139).

Варта зазначыць, што праз манаграфію пастаянна праходзяць беларускія сюжэты, звязаныя з праблемай вяртання беларускіх бежанцаў, пытаннем абмену ваеннапалоннымі, уплывам дзейнасці ўрада БНР на польскую знешнюю палітыку і інш. Акрамя таго, навуковы інтарэс прадстаўляюць назіранні аўтара за тым, як польская і савецкая прапаганда выкарыстоўвалі супярэчнасці ў двухбаковых адносінах і фарміравалі вобраз суседа.

Напрыканцы заўважым, што манаграфія М. М. Мязгі напісана на шырокім коле расійскіх і польскіх архіўных крыніц. Аўтар паказвае добрае веданне сучаснай польскай, расійскай і беларускай гістарыяграфіі, выказвае ўласнае меркаванне па шэрагу праблем. Той факт, што ў кнізе прысутнічаюць беларускія сюжэты, дадае ёй навуковай вартасці і дапамагае акрэсліць новыя напрамкі для даследавання.

**Любоў Козік**

# Księgarnie prowadzące ciągłą sprzedaż publikacji BTH

*Białystok*
AKCENT, ul. Rynek Kościuszki 17

*Warszawa*
Główna Księgarnia Naukowa im. B. Prusa, ul. Krakowskie Przedmieście 7
LIBER, ul. Krakowskie Przedmieście 24
LIBER, ul. Dobra 56/66 (gmach Biblioteki Uniwersyteckiej)

*Poznań*
Poznańska Księgarnia Naukowa „Kapitałka”, ul. Mielżyńskiego 27/29

*Mińsk (Białoruś)*
www.knihi.net; tel. 643 57 33; Кнігі поштай, 220 050 Мінск, п/с 333

# Publikacje Białoruskiego Towarzystwa Historycznego

„Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі Гістарычны Зборнік”, nr 1-50, Białystok 1994-2016 — red. J. Kalina (nr 1-4), E. Mironowicz (nr 5-50); **nr 1, 2, 3, 13 — sprzedane**; **nr 4-12, 14-52 cena 20 zł + koszt wysyłki**

Wiesław Choruży, *Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990*, red. E. Mironowicz, Białystok 1994, ss. 148, il. **sprzedana**

Irena Matus, *Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej*, red. O. Łatyszonek, Białystok 1994, ss. 234, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*, red. A. Mironowicz, Białystok 1995, ss. 193, il. **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białystok 1995, ss.273, il. **cena 30 zł + koszt wysyłki**

*Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie 1944-1956,* tom I: sierpień 1944 — grudzień 1946, część 1: sierpień 1944 — grudzień 1945, opr. S. Iwaniuk, Białystok 1996, ss. 256, **cena 15 zł + koszt wysyłki**; część 2: styczeń — grudzień 1946, Białystok 1998, ss. 233, **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Helena Głogowska, *Białoruś 1914-1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996, ss. 238, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1997, ss. 194, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski*, Białystok 1997, ss. 71 **sprzedana**

*Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych*, oprac. A. Mironowicz, Białystok 1997, ss. 201 **sprzedana**

*Pieršy zjezd biełarusaŭ svietu (8-10 lipienia 1993 h., h. Minsk). Materyjały i dakumienty,* układalnik H. Surmač, Minsk, 1997, ss. 335, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Życie monastyczne na Podlasiu*, Białystok 1998, ss. 118 **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski*, Białystok 1998, ss. 127 **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Parafia Ryboły*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1999, ss. 210, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Aniela Katkovič, Vieranika Katkovič-Klentak, *Uspaminy*, red. Ł. Hłahoŭskaja, V. Charužy, Biełastok 1999, ss. 142, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Kossow, biskup białoruski, metropolita kijowski*, Białystok 1999, ss. 144 **sprzedana**

„Naš Radavod. Kniha 8. Biełarusy i palaki: dyjałoh narodaŭ i kultur. X-XX st.", redaktary: D. Karaŭ, A. Łatyšonak, Hrodna — Biełastok 1999 (2000), ss. 628 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Polityka narodowościowa PRL*, red. O. Łatyszonek, Białystok 2000, ss. 285 **sprzedana**

Irena Matus, *W Puchłach, Stawku, Trześciance. Z dziejów oświaty ludu białoruskiego na Podlasiu*, red. D. Wysocka, Białystok 2000, ss. 176, il. **sprzedana**

Małgorzata Moroz, *"Krynica". Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, red. E. Mironowicz, Białystok 2001, ss. 230 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Pasynki i okolice*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2001, ss. 282, il. **sprzedana**

Marjan Pieciukievič, *Kara za službu narodu. Abrazki ssylnaha žyćcia,* Biełastok 2001, ss. 200, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

*Piotr Sierhijewicz 1900-1984. Ze zbiorów prywatnych*, Gdańsk — Sopot — Gdynia 2002, ss. 24, katalog wystawy. **sprzedana**

Jan Tarasiewicz/Jan Tarasievič, *Pieśń miłości. Utwory na fortepian pod redakcją Ihara Ałoŭnikava / Piesnia kachannia. Tvory dla fartepijana pad redakcyjaj Ihara Ałoŭnikava,* Minsk — Biełastok 2002, ss. 132 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Józef Bobrykowicz, biskup białoruski*, Białystok 2003, ss. 214 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Mikoła Škialonak, *Biełaruś i susiedzi*, Biełastok 2003, ss. 300 **sprzedana**

Aniela Kotkowicz, Weronika Kotkowicz-Klentak, *Od Budsławia do GU-Łagu*, red. H. Głogowska, W. Choruży, Białystok 2003, ss. 140 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Czetwertyński, biskup białoruski*, Białys-tok 2004, ss. 158 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Cina Kłykoŭskaja, *Sajuz Biełaruskaj Moładzi. Viartańnie z zabyćcia*, Biełastok 2004, ss. 228 **sprzedana**

Marjan Pieciukievič (Marian Pieciukiewicz), *Listy. Listy (1956-1982),* Biełastok 2005, ss. 156, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Szczyty. Dzieje wsi i parafii*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2005, ss. 434, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, ss. 918 **sprzedana**

Viktor Stachwiuk, *Siva zozula*, Biłostuok 2006, ss. 196, il.
**cena 15 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Serafion Połchowski, władyka białoruski*, Białystok 2007, ss. 166 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Piotr Chomik, *Kupiatycka Ikona Matki Boskiej. Historia i literatura*, Białystok 2008, ss. 128 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Anton Miranovič, *Pravasłaŭnaja Biełaruś*, Biełastok 2009, ss. 352 **sprzedana**

*Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej,* opr. P. Borowik i G. Ryżewski, Białystok 2009, ss. 184 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Jazep Najdziuk, *Paznavajma historyju biełaruskaha narodu*, Biełastok — Inaurocłaŭ 2010, ss. 316 **cena 25 zł + koszt wysyłki**.

Siarhiej Dubinski, *Bibliohrafija pa archieolohii Biełarusi i sumiežnych krain (spadčyna archieołaha)*, Biełastok 2010, ss. 338 **sprzedana**

*Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny,* opr. M. Kondratiuk, Białystok 2011, ss. 372 **cena 40 zł + koszt wysyłki**

Łarysa Geniusz, *Ptaki bez* gniazd, Białystok 2012, ss. 331 + audiobook: Łarysa Hienijuš, *Ptuški biaz hniozdaŭ* (w języku białoruskim), **cały nakład został rozdany**

Danuta Kuczyńska, *Łuka nad Narwią. Pamięć jest skarbem bezcennym,* Białystok 2013, ss. 72, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Barbara Tomczuk, *Białoruskie Towarzystwo Historyczne. XX,* Białystok 2013, ss. 200; książkę można bezpłatnie otrzymać w siedzibie Białoruskiego Towarzystwa Historycznego w Białymstoku (ul. Proletariacka 11)

*Historia Białorusinów Podlasia,* red. S. Iwaniuk, O. Łatyszonek, Białystok 2016, **cena 50 zł + koszt wysyłki**

Michał Sierba*, Radziwiłłowskie dobra Orla (1585-1695),* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej,* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, Iryna Matiash, Dorota Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955). W służbie Białorusi i Ukrainy,* Białystok 2019, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

**Publikacje, których Białoruskie Towarzystwo Historyczne było współwydawcą**

Krystyna Mazur, Doroteusz Fionik, *Bielsk Podlaski — miasto pogranicza*, Białystok 2003, ss. 144 **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Od Rusinów Białych do Białorusinów*, Białystok 2006, ss. 388 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, ss. 296 **sprzedana**

**Publikacje BTH można zamawiać drogą elektroniczną**
kamunikat@kamunikat.org **albo** bzh@neostrada.pl
**lub faksem:** + 48 (85) 744 61 11

## Падпіска на „Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі Гістарычны Зборнік”

кошт №№ 3 — 16 / 12 зл./ асобнік
№№ 17 —34 / 15 зл. асобнік
№ 35 і наступныя / 20 зл. — паўгадавая падпіска (1 нумар)
40 зл. — гадавая падпіска (2 нумары)

Вышэйпададзеную суму, у якую ўлічаны ўжо кошт пасылкі, трэба пералічыць на рахунак Беларускага Гістарычнага Таварыства: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Bank Pekao S.A. Oddział w Białymstoku, ul. Rynek Kościuszki 7, 15-950 Białystok
70 1240 5211 1111 0000 4930 2882

## Адрас Беларускага Гістарычнага Таварыства

15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, Polska tel.: (+48) 85 744 61 11; e-mail: bzh@neostrada.pl

**У Інтэрнэце пра выданьні Беларускага Гістарычнага Таварыства**
http://kamunikat.org/bzh.html
http://bzh.kamunikat.org